Шапацелі чырвоным сваім лістападам асілкі-дубы, снавалі навокал урачыстую ціхасьць. У лісьці іх грэлася халоднае вячэрняе сонца, і лісьце палала ў радаснай ветласьці, і здавалася, што гэта ня золата сьмерці, а кроў жыцьця, што асілкі-дубы жывуць новай чырвонай вясной.

Лясьніцкі сеў над высокаю кручай. Дняпро перад ім разаслаў бліскуча-барвістую гладзь, якая пышна гарэла вясёлкавым рознацьветам. Там, дзе танула ў Дняпры вячэрняе сонца, там яскрава гарэла гарачая кроў, а чым далей ад сонца, тым больш было хваравітае бледасьці і сіні, пакуль зусім не чарнеў Дняпро глухой вароненай стальлю. А за Дняпром на голым і чыстым лузе хадзілі коні—бліскучыя цацкі—і з тлумным гоманам пералятали гракі. Там было многа прастору і многа прывабнай далёкасьці.

Дзіўны настрой апаў на Лясьніцкага. На душы і ў сэрцы стала цудоўная яснасьць, як і ў гэтым чыстым восенскім вечары. І ў яснасьці тэй выразна адзначыўся кожны рух, кожны момант былога і сучаснага—стала так, быццам ён глядзеў у нейкую дзіўна-празрыстую глыбіню і бачыў у ёй сваё ўласнае жыцьцё—яго буйныя ўсплёскі і дробныя, ледзь прыметныя пералівы. Тады Лясьніцкі цалкам углыбіўся ў сябе, сабраў усю ўвагу і азірнуў стракатую чараду сваіх мінулых гадоў. І ўбачыў ён, як пасьлаліся там пераблытанай сеткай глухія сьцежкі-дарожкі, перапляліся пераплётам заклятым—няма ў іх, здаецца, ні канца ні пачатку, і невядома, як разблытаць мудроны іх вузел, як раскрыць іх зачараваны круг. Па гэтых сьцежках блукаў ён і з гэтых сьцежак вышаў на роўны, шырокі шлях. На гэтым шляху многа злавеснае, чорнае небясьпекі, але ісьці па ім радасна, бо не сваёй ідзеш недалужнай сілай, а сілай дружнае грамады, вялікага колектыву.

Лясьніцкі сядзеў, углыблёны ў сябе, і думаў—перабіраў драбніцы жыцьця свайго, правяраў яго няпэўны блытаны поступ. Калі-ж апаў на зямлю ліпучы вячэрні змрок і Дняпро хмура прытоіўся ў чорнай бяздоннай процьме, калі з вёскі нейкім выпадкам даляцеў сюды абрывак задорнага дзявочага сьмеху,—тады ў нутро к Лясьніцкаму аднекуль уліўся ціхі шчымлівы смутак, абудзіў чараду нявыразна-прыгожых вобразаў. Тады мякка запаліўся ў сэрцы агоньчык ружовае ласкі і замігцеў палахлівым сьвятлом салодкіх імкненьняў.

Гэты незразумелы смутак не пакідаў Лясьніцкага праз увесь той вечар. Мабыць ён і зьявіўся прычынай таго, што Лясьніцкі да поўначы сядзеў за сталом і пісаў нешта пры цьмяным сьвятле маленькай газовачкі. Напісаўшы, ён уважна перачытваў, задумляўся на момант, моршчыўся, ірваў сьпісаную паперку і браўся пісаць нанова. Толькі тады, як ужо больш не асталося паперы, ён спыніў гэтую працу і стаў залепліваць у конвэрт апошнюю сьпісаную паперку.

Вось што было ў ёй напісана:

*„Дарагі таварыш Ніна!*

Неяк дужа нядобра, што мне прыходзіцца пісаць Вам пра гэта, а не гаварыць. Вінават тут выключна сёнешні дзень, які я правёў у сваёй роднай вёсцы. Гэты дзень даў мне нямала радасьці. Мяне сяляне дужа добра сустрэлі і верылі мне. Я гаварыў з імі гадзіны тры. Мне гэтыя адносіны асабліва прыемны таму, што (помніце, я апавядаў Вам?) паміж мной і вёскай была такая дзіка-глухая сьцяна варожасьці. А цяпер я ўжо свой тут, зусім свой... Адылі гэта ня мае непасрэднага дачыненьня да таго, аб чым я пішу Вам. Сёньня надвячоркам я хадзіў на Дняпро. У мяне быў нейкі дзіўны настрой—мне выразна ўяўлялася ўсё жыцьцё маё, я разглядаў яго так, быццам стаяла яно ў мяне на далоні. Я азіраўся назад і бачыў там многа блытанага, цёмнага. А наперадзе мне ўяўляўся роўны, шырокі шлях, па якому так лёгка і радасна ісьці. Я ўяўляў сабе гэта і мне было добра так, лёгка, здавалася, што ў жыцьці маім усё цяпер як мае быць. А потым нейкі раптоўны смутак напамянуў мне, што яшчэ чагось не стае. Я ня ведаю, можа гэта ад вёскі, ад прыгожага ціхага вечару... Тады я ўспомніў, што калі Вы праводзілі мяне на вакзал, дык у Вашых шэрых любых вачох („любых“ старанна замазана) гарэла напамінаньне аб нечым недаказаным і патрэбным. Можа я памыліўся?.. Яшчэ вось што, Ніна. Часамі трэба ў жыцьці блізкі таварыш—бліжэйшы за другіх, зусім блізкі, родны, любімы... Вось гэта мусіць па ім і смутак быў у мяне... Вы прымецілі, Ніна, што паступова ў нас з Вамі завязалася шчырая таварыская блізкасьць? Гэтая блізкасьць і дае мне права гаварыць Вам аб гэтым усім. Можна было-б і маўчаць пакуль што, пагаварыць пры сустрэчы, але вінават у гэтым сёнешні дзень... ды яшчэ Вашы шэрыя вочы... там, на вакзале... Таму я і пішу Вам адсюль і прапаную дагаварыцца аб тым, каб нашай дружбе і блізкасьці надаць больш пэўныя і сталыя формы... У нас наперадзе дужа многа барацьбы і працы—мо‘ прыдзецца і абшаснуцца часамі.. . Сапраўды, Ніна, будзе нам куды лепш, калі мы пойдзем разам удвух і будзем адзін аднаго падтрымліваць... Як вы думаеце?..

Напішэце мне на адрас батальёну.

Ваш *В. Лясьніцкі*“.

Заляпіўшы конвэрт, Лясьніцкі яшчэ сядзеў колькі хвілін у глыбокай задуме. Потым устаў і, ідучы спаць, заспакоена прашаптаў:

— Так будзе лягчэй і мне і ёй...

*(Канец)*

# НА ЗАГОНАХ

*(Апавяданьне)*

**Васіль Каваль**

Тры дарогі расьцягнуліся за сялом, як у казцы тэй.

Гэтыя дарогі, што бягуць удаль, навяваюць на людзей журботу і думы, бо часта чалавек шукае на іх шчасьця і не знаходзіць...

Бо зямля прыкавала да сябе з сілаю волата, прыцягнула к чорным грудзям сваім, аберуч ахапіла чалавека—і ня можа ён разлучыцца з ёю: куды-б ні пайшоў, што-б ні зрабіў супраціўнае сабе і сваім жаданьням, ўсюды ў думках мужыка зямля-карміцелька. Часта ганьбіць яе, зьневажае, што не пракорміць сям'ю да новага хлеба, а часам кладзецца пад бляск вясновага сонца, калі зарунее жыта, калі пчолы ў траве загудуць, ды глядзіць на сінь і недасяжнасьць нябёс і шырыню зямлі. Плача тады і сьмяецца чалавек, убірае ў істоту жыватворчыя сокі—горкія і салодкія...

Сяло Лугіны разраслося ўздоўж і ўпоперак. Хаты йшлі з сялібы аж да самай невялічкай рэчкі Проні, паабапал якой раскідаліся лазьні ды гумнішчы, а далей—няшырокае поле з межамі, узгоркамі, раўчакамі. Дзяліліся сыны з бацькамі, браты з братамі; так стала больш за дзьве сотні двароў... Помняць лугінаўцы, што мо' дзесятак год якіх назад, зусім блізка, за Проняй, быў лес, хоць ня свой—казённы, але можна было ўначы ўкрасьці бервяно для хаты ці палена дроў. Абсекла казна дзялянкі лесу, на цэлую вярсту адышоў той паласою, чуць не да чыгункі, за пяць вёрст, а чыгунка гэтая вядзе ў горад... Засталося на тых дзялянках толькі пянеўе, дый тое дагнівае. Мужыкі, сабраўшыся ў сьвяты дзень на прызбах, курачы махорку, гамоняць пра жыцьцё свае...

— Чыгунка лес паела,—гавораць дзяды, успамінаючы мінулыя гады.—Пройдзе во яшчэ год-два—трэскі не застанецца.

— От ты і жыві ды мяркуй!

— У Амэрыку прыдзецца ехаць, а то ў Сібір,—радзяцца некаторыя...

— Там, кажуць, лесу і зямлі шмат...

І кожны з іх ведае, што нікуды ніхто не паедзе—за трыдзевяць зямель—ні ў Сібір, ні ў Амэрыку, нават з Лугінаў ня выедзе; адзін ці два сьмелых знойдуцца, што пакладуцца на свой лёс, а то будуць жыць ды думаць аб шчасьці на загонах. А падумаць таксама добра—пакорпацца ў галаве, як плугам па аблозе; і, падумаўшы, усе прыстануць да думкі:

— Так то яно так... Дзе нас няма—там усюды хораша...

— Эх, праваліся ты ўсё к ліху!..

— Цяжка, браткі: зямлі мала, гоні вузкія... Дай ты раду якую.

— А я адкуль ведаю?..

— То-то-ж і яно...

— А сілушка дзе твая, га? А дзе твая галава? А рукі навошта?

— А гарбом ня хочаш узяць?—накідаўся некаторы з мужыкоў на другіх...

— Вось у гэтым і ўся закавыка, што ня гэтае...

Прывык і зросься лугінаўскі мужык з зямлёю—сваёй карміцелькай адзінаю—ды часта давіць жыцьцёвы прыгнёт.

Тады хоча йсьці ён далёка—шукаць шырокіх гоняў, рэк з кісельнымі берагамі, марыць аб вольным жыцьці, быццам у песьнях тых, што часьцей за ўсё пяюць,—пра Хаму ды Ярэму, двох братоў. І непакояцца ў сіле сваёй:—Дзе там? Адкуль у мужыка здольнасьць тая возьмецца? Кладзе ён сілу і розум проста ў зямлю. Таму і цяжка: трэба душу адвесьці.

А душа ў мужыка шырокая, разгульная ва ўсім і ў працы непамернай; з даўных часоў прапахла яна аржаным хлебам з мякінаю ды смалістымі хвоямі, бо ад самай зямлі ўзята...

І гулялі здорава лугінаўцы ў карчме...

Усё роўна калі—у сьцюжы, вясною—абы сум гэты адвесьці, што як прыхамець ваўкалацкая спавіваў суздром. Некаторыя забывалі межы, гоні, прапівалі, неразумныя, апошняе насеньне, што вясною павінен быў поле засеяць... Ну, што-ж тады? У мацюгох, у гарэлачным паху, схілялася на брудны стол карчомны валасатая галава,—і пеў тады мужык песьню—сумную, нудную—пра сваю галовушку забубённую...

Эх, песьня!..

Песьня пра тое, што нелады ў сям'і ад гарэлкі, няўрод на полі, пошасьць пайшла на скаціну. Салёныя сьлёзы капаюць, а ён пяе-расьпявае разудалую песьню, а сэнс яе такі, складзены проста:

— „Сягоньня каня прапіў, заўтра піць на карову буду, пасьлязаўтра—прап'ю хамуты. Пойдзе тады гуляць нядолюшка па вясковым завульлі, няворанае поле бур'ян ды палын узросьціць, у засеках хлеба ня будзе, жонка заплача і дзеці, жалобна зарыкае карова. Доўга будзе хадзіць нядолюшка ў зіму сьцюдзёную; торбу латаную на плечы надзець, ці што? Ды дзе-ж твой сорам мужычы, пагарда дзе твая? А сьлязамі жыцьця не разжалабіш—не спачуе табе ні ўраднік, ні земскі, ні стараста—прададуць за падатак двор і скаціну астатнюю...

Эх, жыві ты, мужык!..

Думай—ня думай—жыві!..

Калі сіла ёсьць ды мазалістыя рукі,—што табе дарогі тыя крыжаваныя, што табе гора ліхое?“

Назаўтра мужык уставаў разьбітым, бяз дум у галаве, з цяжкім пахмельлем—і працаваў да вялікай стомы, да болю ў грудзях...

Уперад некаторыя з лугінаўцаў займаліся промысламі: рабілі цэбры, кадушкі, колы, выраблялі рагожы ды вазілі за дваццаць вёрст у горад на продаж. Як прышла нястача ў лесе, перасталі займацца гэтым, яшчэ больш наляглі на ручкі іржавых плугоў і барон. А хлеба ўсё-ж ткі не хапала; узімку наймаліся ў казну рэзаць дровы, вазілі караўкі, наймаліся ў гарадох...

Гэта было позьняй ці раньняй вясною, калі добра прасыхала зямля. Мужыкі, склікаўшы напярэдадні сход, радзіліся—як і што рабіць; на другі дзень ехалі кожны на сваю паласу—на балоцістае, суглінкавае поле ўзворваць пахань. Сухарлявы конь з аблезлай ад мулкага хамута шыяй ледзь мог цягнуць плуг. Тады мужык упіраўся босымі нагамі ў цьвёрдую глыбу баразны і, адсоўваючы рукі далёка ўперад, папіхаў плуг, каб вальгатней было каню хадзіць. Конь ішоў кульгаючы, вылазіў зусім са скуры, наганяў сабе дыхавіцу. А тут яшчэ сонца пякло, растапляла пот. Гоні былі на тры-чатыры крокі; зрэдку ў каго—цяглы. Тут і людзі былі галарысьцей, конь быў сыты, як печ, і чалавек сьмяяўся за працай. У вачох стаялі балоты ды межы. А неба—ясным, сінім, цешыла чалавека, сьмяялася над ім. У такія часы, адпрогшы каня, спрацаваны мужык лажыўся ад натугі на сівы аборак; ляжаў ды думаў са злосьцю і пакорай; думаў аб жыцьці, зьбіраў усе праявы, нізаў іх вузлом—моцным, неразьвязным.

„Эх,—думаў ён,—колькі ты ні шукай дарог, колькі ты ні тапчы лапцей, ня скажа зямля праўды, а хоць і скажа—не зразумееш ты...“

Расла злосьць, пакорлівасьць нейкая і павольнасьць. І было яшчэ такое, што лугінаўскі мужык сам ня мог разгадаць—ці то вялікая крыўда з бясьсільлем супроць зьнявагі, ці мо', урэшце, адчуваў сілу, каб стаць вольным чалавекам...

Часта ўвечары хлопцы з дзяўчатамі пасьля працы зьбіраліся на пагулянкі да крайняй хаты бабыля Сідара. Вуліца на сяле—крывая, няроўная, забруджаная. Доўга гулялі так тады, калі лажыўся на зямлю вечар і засьцілаў цеменьню ўсё ваколье. Драмала зямля... І людзям пасьля працы драмаць хацелася, а яны пацішу весяліліся, сьпявалі „калінушку“, „чубарыкі-чупчыкі“, а дзяўчаты—адну вельмі заўныўную песьню пра дзявочую долю. Скрыпач на самаробленай скрыпцы граў ды ў лад махаў убокі галавою, прытоптваючы нагамі.

Хлопцы з дзяўчатамі пасярод вуліцы кружыліся ў скоках, браліся за рукі, схадзіліся, разыходзіліся і зноў схадзіліся.

Адна з дзяўчат, найбольш вясёлая, станавілася пасярод кругу і пачынала заводзіць песьню голасам звонкім, раскацістым:

Я нядаўна жыць на сьвеце ста-ала-а,
Многа гора-горачка спазнала-а.

У гаі пагалоска няслася, будзіла загуменьне, адгукалася даль.

Весялілася і сумавала скрыпка. З другога канца—карчмы—даносіўся п'яны гоман: там біліся, лаяліся мацюгамі, злосна.

Невядома адкуль выходзіў ураднік з заспанымі вачыма, абрузлы, станавіўся пасярод вуліцы і зычна, хрыпла крычаў, размахваючы шапкаю:

— Народ! Загадваю вам ня крычаць, не парушаць начнога спакою. Разыходзься па хатах, а то дрэнна будзе...

Ад такіх зыкаў траслася вуліца...

Праходзіла касавіца, жніво, радасьць, сум; на месца іх зьяўлялася новае, і тое праходзіла, як дым.

---

Больш сарака гадоў жыве Максім Холад на сваёй зямлі, у сваёй старэнькай аб'імшэлай хаце. Зямлі ў яго мала, дый тая з кожным годам перастае радзіць...

Многа сілы паклаў на зямлю, бо любіць яе лепш, чым жыцьцё...

І калі ўжо вельмі цяжка было, Максім Холад, як і іншыя, ішоў у карчму ў невясёлыя часы, напіваўся там да поўсьмерці, а на другі дзень працаваў ледзь не да сьмерці, каб забыць мужычае гора, прымірыцца з тым, што ёсьць, але сэрца не хацела мірыцца, бо ведала сваю дарогу.

Прыходзячы з карчмы, браў Максім на рукі васьмігадовага сына Андрэйку і, сеўшы за стол, са сьлязамі на вачох казаў:

— Э-эх ты, Андрэйка, саколік мой! Цяжка нам жыць, га-а?

Гладзіў русую галаву сына, апавядаў яму пра сваё жыцьцё, аб пакутах мінулых, пра нязДатнасьць і векавечную барацьбу на зямлі.

Гаварыў ён сыну, як вялікаму, роўнаму сабе.

— Навучу я цябе жыць, сынок, бо сам, значыцца, шмат чаго пражыў... Усе сілы пакладу, але выведу на дарогу... выведу... Вырасьцеш, Андрэйка!.. Вазьму я цябе за руку, прывяду за нашу аколіцу ды пакажу той шлях, якім ты пойдзеш...

Андрэйка бачыў, які маршчыністы твар у бацькі, вочы мутныя, і сьлёзы цякуць з вачэй, і пытаўся:

— Які той шлях, татка,—шырокі ён ці вузкі?

— Шлях той, дзіцятка, надта-ж вузкі ды балоцісты...

— І можна заблудзіць на ім?

— Можна... Ня ўсякі пройдзе...

Бацькава галава ўсё ніжэй апускалася на стол, на жылістыя рукі якія трэсьліся...

І Максім плакаў моцна, наўзрыд.

Кашаль у яго быў сухі, бо некалькі гадоў назад ён у лесе сукаватай калодай адціснуў сабе грудзі.

Жыві ды расьці, сынок, вялікім... Расьці сабе на здароўе...

Плакаў Максім. А думы душылі яго.

— Толькі не кляні ты ніколі мужыка... знацца, такога п'яніцу, як я, бо не з дабра п'ю... не з дабра!..

Два гады як падзяліўся Максім з братам Андронам. Разышліся яны ціхамірна, дрэннага слова адзін другому не сказалі.

Андрон—жылісты мужык, сярэдняга росту, з шырокімі плячыма, ступаў па зямлі цьвёрда. Ён часта прыходзіў к Максіму ў хату, дзе зьбіралася некалькі мужчын. Андрон быў пісьменны, браў аднекуль газэты, кніжкі ды цішком чытаў мужыкам.

Андрон стукаў кулаком па сталу.

— Во-ось,—гаварыў ён.—Мучайся... пакутуй на зямлі... А ёсьць людзі, што жывуць іначай, падругому.

— А як падругому?—цікавіліся мужыкі.

Тады Андрон гаварыў аб жыцьці, дзяржаве, цары, аб іншых краінах на зямлі.

— На сьвеце такое ёсьць: адзін чалавек душыць другога, слабейшага за сябе. Гэта закон такі... і барацьба... А быць гэтага—не павінна. Адны цэлы век працуюць, трымаюць на сваёй шыі міраедаў і гінуць ні завошта; другія—жывуць у залочаных палацах...

На сяле пра Андрона гаварыў староста Макей,—што той вельмі ненадзейны чалавек, небясьпечны; суседзі гаварылі, што чалавек—разумны і сьмелы, толькі разгульны, таму—скора ў пятлю можа папасьці.

Аднойчы ўраднік падышоў да Андрона, сеў з ім побач на прызьбе (да гэтага часу Андрон не гаварыў з ураднікам).

Ураднік—друзлы, з абвіслымі шчакамі, з сьлязьлівымі вачыма ды з нейкай павольнасьцю ў рухах. Ён з асьцярогаю спытаў:

— Ты чуў?

— Што?—не зьвяртаючы на яго ўвагі, сядзеў Андрон і курыў.

— А гавораць пра цябе нядобрае: быццам, ненадзейны ты чалавек. Глядзі, каб што якое па даўгу службы...

Ураднік з хрыпам выдаўліваў словы. Андрон павярнуўся ды паглядзеў у вочы.

— Ха-ха!.. Не магу-ж я людзям забараніць, каб не гаварылі пра мяне...

— А ты знаеш, хто я?—даволі грозна спытаў ураднік.

Андрон не адказаў.

— Я—уласьць у вас... І за кожнага павінен адказваць... Гм-м... Формальна перад начальствам адказваць... перад прыставам... земскім...

— Кожны за сябе будзе адказваць,—прагаварыў Андрон.

— А парадак навошта?

— Ды што ты з парадкам!?

Андрону зусім не хацелася гаварыць. А словы ў урадніка былі сьлізкія, халодныя, нацягнутыя, ад іх пуста было ў сэрцы.

— Казалі, што ты ў 905 быў соцыялістым, бунты паднімаў...

— Што за справа тут начальству?

— Гэта для парадку.

— Ну, і глядзі свой парадак, а да мяне ня лезь...

— А ты сьцеражыся!—папярэдзіў ураднік.—Д-д-да, асьцерагайся, а то калі што... дык адказ...

Ураднік, выканаўшы свой абавязак, шарпаючы нагамі, пайшоў па вуліцы дробнымі крокамі. Андрон—шырокай, размашыстай паходкаю, грудзі ўперад, размахваючы рукамі, з чорным мохам на барадзе і ў сярмязе напашкі...

Андрон добра ведаў, што за ім сачыць староста Макей—хітры багаты мужык, і даносіць гэта ўрадніку.

Некалькі гадоў назад, калі яшчэ жылі разам з братам, ён працаваў у бліжнім горадзе на гарбарні, бо мала было зямлі, спраўляўся па гаспадарцы адзін Максім...

Добра помніць, што ў хмурны асеньні дзень хадзілі са сьцягам па вуліцы шумным натоўпам рабочыя, гаварылі прыгожыя прамовы, дзе самымі выразнымі былі: „рэволюцыя“, „соцыял-дэмократы“, „далоў цара!“ Людзі былі злучаны адзінай сілай невядомай. Высокі, стрыжаны і малады мужчына, размахваючы студэнцкай шапкаю, моцна крычаў аб тым, што людзі выходзяць на новы жыцьцёвы шлях, што патрэбна вялікая, нязвычайная і ўпартая барацьба... Крамянём урэзваліся словы ў галаву Андрону. Потым—прыносіў у Лугіны адозвы на паўстаньне. А далей—лавіла людзей паліцыя, садзіла ў турмы. І словы—ясныя і прыгожыя—сталі тухлымі, чорнымі ды страшнымі для людзей. А той стрыжаны студэнт, як даведаўся Андрон, сасланы далёка на поўнач.

І вось—буйнаму мужыку, з сілай мядзьведзя—хацелася размаху і шырыні.

---

Пасьля касавіцы, у гарачыя дні, у Лугінах праляцела чутка пра вайну—страшэнная, нядобрая.

У цёплы вечар, што бываюць звычайна ўлетку, сабралася ледзь ня цэлае сяло,—старыя і маладыя таўпіліся па вуліцы, паказвалі пальцамі ўгору, на неба, засеянае бліскучымі агнямі.

Старая, згорбленая бабуля Макрына, перажыўшая сваіх двох сыноў, дажыўшая праўнукаў, абапёршыся на кій, ківала галавой ды гаманіла праз бяззубы рот.

— Вось, дзіва, людзечкі!..

Усе глядзелі ды дзівіліся: вельмі бліскучая зорка з даўжэзным хвастом плыла асьцярожна сярод іншых зорак.

— Будзе, дзеткі мае,—гаварыла бабка Макрына,—памяніцё маё слова, голад, мор ці вайна... будзе... гэта сіла нябесная.

І ўсе верылі. Чакалі, што будзе нешта страшное...

У адзін дзень падняліся на ногі ўсе Лугіны.

Бо спалохала гэтае слова...

Загаманілі людзі, заспрачаліся, падняліся на ногі, узбудзіліся невядомай сілай, віхрам паляцелі мужычыя сказы.

— Навошта вайна гэтая?

— Паднялася, кажуць, сіла нязьлічоная супроць матушкі-Расіі.

— Мусіць, цар хоча так,—знацца—патрэбна...

Як думалі, так і гаварылі мужыкі.

Староста Макей—маленькі, юркі чалавечак—пагладжваў рыжаватую казьлінўю бародку, паціраў рукі, гаварыў тоненькім голасам:

— Супроць цара-бацюшкі нашага пайшлі гарманцы...

А старэнькі поп, паднімаючы ўгару рукі, расьцягнута, з дрыжыкамі ў голасе:

— Веру праваслаўную, парафіяне і браты, абаронім!

Некалькі галасоў крыкнула з натоўпу:

— За якую такую веру?

— Хто хоча, той няхай і абараняе... А нам што?

Усе яны гаварылі так. Кожнаму было страшна і йсьці не хацелася,— але дзе ты супроць ражна папрэш?

— Што гэта гарманец задумаў такое?

Андрон абурана кінуў нізкі слоў у грамаду:

— Не гарманец адзін, а ўсе цары задумалі, бо што ім больш рабіць?.. Людзей многа разьвялося з мазалістымі рукамі... Трэба зьнішчыць палову іх... А ці людзей шкода?

— Ты язык за зубамі прытрымлівай!—ашчэрыўся староста...

— З вераю і паслушаніем, брація,—прызываў да парадку бацюшка...

І сяло плакала.

Плакала і галасіла аб сынох сваіх, самых лепшых, маладых і здаровых.

Чалавек пяцьдзесят рэкрутаў—маладых хлапцоў ля старэнькай царквы, старэнькі поп паставіў у веры, у любові да айчыны і пакорнасьці цару... Ідучы ў горад з гармонікам, хлопцы расьпявалі:

Па-асьледні но-о-нішні дзя-анёчык
Гу-уляю з вамі я, друзья-а...

Песьня ямчэй, заборысьцей разьлівалася па шляху.

Ця-апер памчусь я ў жызьні новай
Цару й ацечаству служы-ыць...

— А брахнейка ты мой родны!

— Сыночак ты мой!..

Ліліся ручаямі сьлёзы ў маладых жонак, сясьцёр, матак, бо не на вясельле йшлі хлопцы, а на сьмерць, мусіць...

Лета з ясным сонцам праходзіла.

Збожжа звозілі ў гумны, цэлымі днямі сушылі ў ёўнях і асецях; з-за стрэх слаўся сіні дымок ды распаўзаўся па зямлі. Пад раньне стукалі

на таку цапы—ярасна, моцна,—абмалачвалі з кожнага снапа да апошняга зерня, як нешта дарагое і патрэбнае.

Лугіны былі захоплены працай, бо ўсе ведалі, што скора надыдзе восень, што няўрод і неўмалот у гэтым годзе, а стараста з ураднікам—будуць зьбіраць падатак.

Ї гойсае ўраднік на вуліцы ад двара к двару.

У некаторых хатах—шум і лаянкі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

---

... Ноч і цемень.

Чорная ноч вісьне над шырокай зямлёй; ня відно ў цемені ні прытулку, ні супакою, душыць яна чалавека, разьбівае на часткі глыбіню сумных перажываньняў.

На небе ні зоркі—хмарнае без канца, бяз дум.

Чуць віднеецца хлябістая дарога-шлях. Лужыны пасерабрылі зямлю. На шляху, быццам здані, стаяць бярозкі—цёмныя, маўчаць, тоячы ў сабе невядомую сілу, якую зараз няможна выказаць, а толькі ўдзень паказаць.

Па шляху йдзе трое людзей.

Дзьве цёмныя цені—ўрадніка і старасты—рушаць наперадзе, роўна цялёпкаючыся ў гразі, а ззаду йдзе сагнутая, пахілая цень Максімава,—яшчэ тры вярсты да валасьці. Холадна ім, таму сярдзітыя на Максіма: ён прычына гэтага, каб ісьці цёмнай ноччу ў такую далеч, а ісьці скрозь ноч ня хочацца.

Цёмным засталося ззаду сяло...

Абапал дарогі павольна калышацца лазовыя кусты, пад нагамі мокрае лісьце з дрэў. Пад адкосам гарыць вогнішча—толькі яно сьвеціць сярод агульнай цемнаты агнявой плямай; хоча і ня хоча гарэць, патухне і зноў уздымiцца кверху. Сядзяць людзі-падарожнікі ды грэюцца. Стары белабароды дзед гамоніць нешта. Адпрэжаныя коні хрумсаюць мокрую траву. Падарожнікам усё роўна; сонна паглядзелі яны на траіх людзей і падумалі, можа:

„Куды гэта яны йдуць у такую цемень?

А ў Максіма крыўда, моцная крыўда, якая не паддаецца развагам.

„Навошта вініць усіх людзей?—урэшце вынікае вострая думка,—можа яны і невінаваты? А хто іх ведае? Толькі чаго яны, як зьверы?“

Боль крышыць сэрца і злосьць на гэтых двух людзей, здаволеных сабою: яны зараз ціхамірна гавораць. Вядуць яго за правінку—не паслухаўся начальства, не заплаціў да тэрміну падатку, а галоўнае за тое, што неспакойныя людзі з братам.

Трусіць дробны-дробны дождж, шушукае па зямлі, прабірае праз сьвітку да зморанага цела. Хочацца Максіму драмаць, потым легчы ды соладка так заснуць, хоць-бы тут, на дажджы, пад ветрана-хмарным не-

бам, на халодна абсіверанай зямлі, едка пахнучай на межах дзікім зельлем.

Ісьці разам не пасьпявае Максім—зморагы, спрацаваны.

— Не адставаць!—павольна і холадна гаворыць ураднік.

А стараста дадае са скрыпучай воўчай злосьцю:

— Умеў гаварыць, умей і адказваць...

Максім бачыць, што ў старасты Макея, як у савы, гараць вочы і блішчаць... Нічога казаць ня хочацца: от ісьці-б цяпер аднаму, разагнаць гэтыя думкі няпрошаныя; а то-б пайсьці да вогнішча начлежнікаў, раcказаць там чужым людзём крыўду, каб спачулі тыя, каб самі спазналі, што вялікая няпраўда на сьвеце ёсьць...

І Максім гаворыць млява:

— Ат, гаворка мая—мой і адказ, справа ня ваша...

— Як гэта—ня наша? Чыя-ж?

— Абчэсьцьвеннае... народнае дзела,—кажа стараста.

Спыняецца Макей, тупае ботамі, тады і Максіма бярэ злосьць.

— Ведаю, як вы для вобчаства! Ці-ж хто з вас думае аб гэтым? Ці-ж вы беднага чалавека можаце зразумець? Рады вы з чалавека скуру апошнюю садраць, у блін раздавіць яго...

— Ты змоўкні...—вяла просіць ураднік.—Дзела гэта мы як сьлед разьбярэм—па праўдзе па чыстай, па сумленьню... законна разьбярэм... д-да-а...

— Праўда тут, каб яна спарахнела!

Шкода і крыўдна Максіму, што йдзе ён супроць начы, а можа там насьмяюцца, пакрыўдзяць яшчэ больш...

„Што-ж я зрабіў такое?—нехаця разважае.—Ну, ён заможны, яго паважаюць, дык ніхто-ж ад яго не бярэ?“

Помніць, як з туману выплывае: на сходзе раз выказаўся супроць парадкаў і старасты, з таго часу і нясе помсту злы чалавек.

Стараста Макей гаворыць да ўрадніка.

— Па-арадкі, Ільля Хвёдаравіч! Часы такія цяпер... Нават свае людзі, сяльчане, якім дабра жадаеш, проці цябе йдуць...

Ураднік, каб падтрымаць гаворку, сонна кажа:

— Гм-м... Тт-ак. Распушчаны народ, скажу табе. Бунтаваць любіць. Няхай-бы хто, а мужык ідзе супроць улады... Цар мужыка зямлёй надзяліў, а ён, сукін сын, бунтуе на гэтай-жа зямлі... Цьвёрдай рукі не адчувае на сабе...

Морась па дарозе. Хлюпаюць патрэпаныя лапці Максімавы; халодныя пыркі ляцяць у твар.

Вяла цягне ўраднік нейкія чорныя думы, вяжа іх слова к слову.

— Гэта-ж раз так было. З прыставам паехалі ў горад соцыялістага лавіць аднаго. Прышлі гэта мы на самы канец гораду, дзе знаходзілася яго кватэра і, канечне, сцапалі... Страляў ён у губарнатара нашага, ды

няўдала. Гляджу я, значыцца, на гэтага праступніка, думаю: што там за чалавек такі, што асьмеліўся страляць (а прыстаў у нас грозны—топне нагою, гатоў скрозь зямлю праваліцца)... Гляджу: так сабе, нікудышны чалавек, шчупленькі, шчаўчком забіць можна; з мужыкоў, між намі кажучы. Стане прыстаў крычаць на яго, а той пярэчыць—цьвёрды, так яго... чалавек! Ну, і ўпяклі яго куды сьлед... Гм-м... Дд-а-а... Народ любіць бунтаваць!..

Ня першы раз водзіць такіх людзейураднік. Усе яны зьмяшаліся ў адзін колер, пацямнелі, сталі аднолькавымі: злодзей які, вялікі злачынца, політычны—усё роўна...

Чарнеецца будынак валасьці. Гарыць у пакоях агонь. Закашляўся Максім, кракнуў, бы гусь, стараста, а ўраднік паправіў ля боку шашку ды разгладзіў далоняй вусы. Гаманіць перасталі, а ўраднік, пазяхнуўшы, успомніў пра цёплы пакой.

Ляжалі на зямлі—ноч і цемень...

---

У валасным пакоі, абапёршыся локцямі ў крэсла, з чорнай бародкай і ў аксамітнай сарочцы, сядзіць земскі за пісьмовым сталом; супроць яго—малады пісар з бліскучымі гузікамі, з разабраным пасярэдзіне галавы радам валасоў.

Земскі па канцы стала белымі пальцамі, з пярсьцёнкам на правай руцэ, выстуквае, насьвістваючы музыку-арыю: „Гром пабеды, раздавайся!“ і адначасна расказвае пісару пра баль у губарнатара—у раскошным доме, самым лепшым доме ў горадзе. Гаворыць земскі мяккім голасам, падні-мае вышэй галавы руку і праводзіць ёю шырокі круг у паветры. На твары земскага то нейкі зацяты спакой, то высокая ўхмылка. Калі сьмяецца земскі, тады сьмешна робіцца ад усёй душы і пісару.

— Яго правасхадзіцельства—вялікі дзівак! ха-ха!—гаворыць земскі, а разам з ім надрывіста сьмяецца і пісар:

— Ха-ха-ха? Што вы гаворыце?

— ... І ў той-жа час—гэніяльнейшы чалавек, разумееце?..

Ён апавядае аб тым, як гэта лоўка мог губарнатар прыдумаць... Гарэлі тысячы сьвечак. У сьценах залі—люстры. Прыгожыя, адзетыя па апошняй модзе—кветкі вышэйшага кругу—жанчыны кружыліся ў вальцы. Грала ўласная губарнатарская капэля (яго правасхадзіцельства вельмі любіць музыку). Нічога тут дзіўнага ня было, але малады пісар гарэў жаданьнем пабыць там, ён толькі нядаўна прыехаў сюды і ня мог бачыць усяго бляску...

Апавядаючы так, земскі ходзіць па пакоі, аглядае вісячую лямпу, якая кідае нейкі жоўты сьвет на цемень за вокнамі. Успомніў жонку, дзьвёх дачок-гімназыстак, у белых суконках, пухленькіх, з ружовымі шчочкамі; і раптам вынікаюць думкі—хутчэй вырвацца з гэтага віру,

прыехаць у горад... заліты агнямі горад і бляскам. А тут—цемень... глуш... ня людзі, а...

Тады ён пачынае хадзіць шпарчэй і нэрвуецца, прыходзіць дрэнны настрой, а з ім—смутак і няяснасьць.

Пісар узьвёў гаворку аб неспакоі на сяле: мужыкі з вайной ня хочуць плаціць падатку...

— Што магло стацца?—дапытваўся земскі.—Чаго ім можа не хапаць?

— Ведаеце, такі звычай ужо,—гаварыў пісар,—п'юць гарэлку, прапіваюць усё дарэшты, лянуюцца, а спраў дзяржаўнай важнасьці не разумеюць. Да гэтых пор, як прыехаў я сюды, толькі аднаго ідэёвага, так сказаць, бачыў мужыка—старасту Макея...

— Гм-м... Як ён з сябе?

— З аблічча падобен на сьвятога Мікалая, хітраваты, відна, але спраўны, разумны мужык...

К земскаму прышоў вялікадушны настрой.

— Не, што ні гаварэце, гаспадзін пісар, а я мужыка паважаю. Вы яшчэ малады чалавек—дда-а... А я знаём з усімі слаямі грамады; стыкацца прыходзілася—з мяшчанствам, рабочым, мужыком і гэтак далей. Мешчанін—хіцер, рабочы—грубы, разгульны народ. А мужык мне больш каго-б то ні было падабаецца; і галоўнае таму, што ён—ціхі, уласнымі мазалістымі рукамі дабывае хлеб... П'янства, грубасьць,—але нічога, паступова да нас прыходзіць культура—дд-а-а... Хоць і грубае ў мужыку нешта відно, жывёльнае, але яго прастата і працаздольнасьць выкупляе ўсё... Нешта такое сказаў Некрасаў:

Назови мне такую обитель,
Я такого угла не видал...

Д-да-а... Яшчэ быўшы студэнтам, я страшэнна любіў народ; у мяне з народам нэшта крэўнае; гавораць, што мой прадзед быў мужыком...

— Ваша благародзьдзе, вы ідэалізуеце мужыка!—асьцярожна заўважае пісар.

— Гэта, малады чалавек, так і ёсьць! Мужык—сіла... зямля... а на гэтым будуецца ўсё... дд-а-а....

У вокны барабаніць дождж; вецер за вокнамі калыша голае вецьце ліпы. У земскага зусім спала вастрата настрою.

— Позна ўжо!—гаворыць пісар.

— Гм-м... т-так...—нэрвуецца земскі.

У калідоры затупалі нечыя ногі, загаварыў нехта.

Пісар спытаў:

— Хто там?

— Зараз, ваша благародзія!—пачуўся воклік старасты.

— Так точна!—адказаўураднік.

Пісар вышаў, вярнуўся назад і загадаў:

— Вядзеце яго сюды!

А да земскага зьвярнуўся і паказаў пальцам на Максіма.

— Вось ён... Бунтуюць сяло з братам. Брат—соцыялістым быў. Падатку прынцыпова ня плоцяць...

---

Урадніќ са старастам сталі каля сьцяны, Максім—пасярод пакою. Земскі, ціха гушкаючыся на крэсьле, аглядаў сагнутую постаць Максіма ў мокрай сярмязе, гразных лапцёх, з пераблытанай кучмою валасоў.

Стала лёгкая цішыня.

У земскага захадзілі скіўіцы, і ён адчуваў, як б'еца жыла на левай руцэ.

Земскі расчыняе справу за 1914 год. „Супакою не даюць",—думае ён, а, зьвярнуўшыся да Максіма, ласкава гаворыць:

— Ну, Максім Холад, раскажы сваю справу...

Як яе пачаць? Што гаварыць? Няма слоў у Максіма. Глядзіць на ўсіх мутнымі вачмі, бачыць акуляры земскага, прыжмураныя ў ухмылку вочы пісара, насьмешлівасьць старасты і павольны да ўсяго твар ўрадніка... Цяпер-бы легчы ды салодка так заснуць!

Плыве прыбраны пакой, варушыцца; у залатой аправе портрэт барадатага чалавека з мэдалямі і крыжыкамі глядзіць сонна.

„Гэта цар!—думае Максім.—А чаго так злосна сьмяецца стараста? Чаму так блішчыць пярсьцёнак на пальцы земскага?"

Ён маўчыць. Потым ціха ў галаве заплятаецца ня зусім яскравая думка пра сваё жыцьцё...

— Пан земскі!.. Няўрод быў у гэтым годзе. Мала зямлі ў мяне. Пошасьць на скаціну... Знацца, здохла ў мяне карова...

Земскі паварачваецца і глядзіць у твар Максіму: худы, з рэдкай барадою твар, маршчыністы лоб, шрам ля вуха і, успомніўшы пра горад і сям'ю, міжвольна думае:

„Адкуль у яго шрам гэты? Як ён можа бунтаваць?" і разам слухае нязьвязную, ціхую гаворку Максіма:

— ...Сам я хворы чалавек; у лесе калода грудзі мне аддавіла. Сілы няма. Спраўлюся—да капейкі заплачу.

Сіняя жыла на руцэ земскага пачынае больш біцца, нэрвовасьць узрастае, а разам з ёю—злосьць на некага.

— А вось скажы ты мне, мілы чалавек, чаго ты бунтуеш?

— Гаспадзін земскі!—умешваецца стараста,—гэта так і ёсьць у точнасьці, усе могуць пацьвердзіць. З братам Андронам яны муцяць мужыкоў.

Земскі гаворыць зусім раззлавана, забыўшы пра горад і баль губарнатарскі:

— А ведаеш што за гэта? За гэта, мілы чалавек, Сібіры мала. Усё жыцьцё можаш у турме прагніць... так...

— Ня йшоў я супроць уласьці. Невінаваты я—людзі ўсё нагаварылі...

Тады земскі, забыўшыся пра ўсё, стукае кулаком па сталу, ажно задрыжэлі акуляры. Вобраз Максіма ўстае перад ім, як аграмадны вобраз нянавісьці, злачынства і нечага цёмнага.

„Зьвер!"—ціха шаволіць губамі злачынца.

— Вінават? гавары!—дапытваецца земскі, шпарка ходзячы па пакоі. Ён відавочна бачыць, як рушацца яго погляды на мужыка, выказаныя пісару, як разьбіваецца ў грудзёх нешта падвойнае.

Максім яшчэ раздумвае: расказаць-бы аб тым іначай, што хворы ён чалавек, а гэта нядобра для гаспадаркі. Рэдка — калі-ні-калі—супярэчыў начальству, каб адстаяць сваё, прыдбанае ўласнымі рукамі, спрацаваны конь яго ледзь ходзіць пад восень, і нечым яму заплаціць падатку. Сказаць-бы яшчэ аб тым, што сярдзіты на яго стараста, бо ён выставіў сумысьля бунтаўшчыкам у вачох начальства; ды слухаць ня будуць, не паверацць...

— Нявінен я, пан земскі... Набяруся больш сілы—усё заплачу, паверце мне!

— Гаспадзін земскі!—бойка адзываецца стараста,—ён абразіў мяне пры ўсім вобчасьцьве, машэньнікам назваў, а я дзяржаве служу...

— Ты што скажаш?

— ...Хата ў мяне старая, разбурылася... конь хворы...

Бачыць Максім, што ня вяжуцца ў яго словы. Ня тое зусім думаў выказаць, ня так думаў сказаць. Ды адкуль мужыку згаварыцца з панам? Адкуль ён возьме тых слоў?

-- А ты ведаеш законы? К тэрміну павінен усё выплаціць...

— Адкуль-жа мне, пане земскі, ведаць? Рабі ды ўсё, што загадвае начальства... Мужык ня ўмее разважаць...

— І не павінен!

— Аб гэтым ня ведаю я.

Нудна барабаніць аб шыбы вакон дождж. Стучыць вецер гольлямі старой ліпы. Патрохі вецер перастае, і здаецца усім, што спаўзаюць з неба хмары, зямля робіцца вільготнай і расянай...

Аднекуль, з самай глыбіні нутра, выплывае ў Максіма спрадвечная злосьць да начальства—земскага, пісара, урадніка, старасты. Гадавалася гэтая злосьць на сярмяжных пагорбленых плячох, расьціў і выносіў яе дзед, бацька Максімаў, і сам ён.

Земскі гаворыць з пісарам, аглядаючы яшчэ раз бунтаўшчыка і злачынца. Макей зорка сачыць за ўсім, а ўраднік стаіць, прыхіліўшыся да сьценкі, і нібы сьпіць.

А Максім скардзіцца—не каму-небудзь, а сам перад сабою.

— З усіх бакоў гнятуць мужыка... Апошнія жылы цягнуць з яго... Э-эх, ты, распраклятая жысьцё! Дзе праўда на сьвеце—так яе...

Стаіць сярод пакою, камечыць шапку. Пужліва ўтаропіліся яго вочы. Сам ня ведае, што гаворыць:

— Сілы ў мужыка няма! Паклаў ён на зямлі, каб хлеб дастаць з яе, а хлеб гэты—жруць паны!..

— Скаты!—перарывае гаворку земскі.—Заганю ў Сібір... Зьвяр'ё!..

— Сам ты зьвер!—крыкнуў Максім і ўвесь ён у момант зьмяніўся, гатовы кінуцца на каго-небудзь.

Яму-б цяпер словамі, як каменьнем, разьбіць усіх!

Раптам земскі стукнуў па сталу кулаком—моцна, грозна, і задрыжэлі ў яго сківіцы:

— Пасадзіць яго ў адседку, заўтра суд будзе!

Сон і млявасьць разьліліся па целу, запякло ў сярэдзіне. Цяпер-бы закурыць моцнага тытуну ды захлібнуцца ім, а то—выпіць нагбом бутэльку гарэлкі —тады-б усё гэта прайшло!

Максім, асьцярожна тупаючы нагамі, пайшоў за старастам і ўраднікам на двор, у адседку, бо яму ўсё роўна было, куды ісьці, абы разьвеяцца, разагнаць нядобрыя думкі. Мокрыя аборы рэзалі ногі, давіла на плечы сярмяга.

Яшчэ ў тым пакоі чутны былі крокі земскага, скрып яго лякіраваных ботаў і незразумелае, але чамусьці крыўднае слова, сказанае земскім расьцяжна:

— Іды-ё-т-ты!..

На дварэ павеяў вецер і стала лягчэй; вецер прагнаў з ілба халодны пот... Дзьверы загрымелі жалезнай засоўкай. У цемень, асьцярожна, быццам баючыся каго, увайшлі. Чуць відна вакенца і там жалезныя краты. Многа з мужыкоў тут сядзела, а Максім ніколі. Не ўвайшоў разам ураднік. Пайшоў ён за вугал, пад нагамі ў яго вада хлюпцела і звонак быў кашаль. Нічога не гаварыў Макей. Вялікім сумам, бязьмежным павеяла на Максіма. „Хоць-бы ён адно слова сказаў“,—думаў, ды нешта галава разбалелася, ногі дрыжэлі, пад пахамі і на ілбу выступіў халодны пот, а над усім панаваў сум. Адступіўшыся на сьлізкай падлозе, стараста таўхануў Максіма плячом. У цёмным глухім куце іх было толькі двое, бо не варочаўся ўраднік, а ўсё кашляў за вуглом. Раптам к Максіму прышоў бадзёры і злы настрой: захацелася дужа пасьмяяцца над Макеем—такім някудышным і маленькім. Максім засьмяяўся сухім сьмехам ды ўзяў старасту за шыварат...

— Чаго ты?

— А-а,—спалохаўся!

— Не чапай рукамі!—прасіў стараста вісклівым голасам.

— А я вазьму вось дый задушу, ха-ха!.. і канец табе тут будзе, і ніхто не пачуе...

— Адчапіся, а то закрычу... так тваю...

— Э-эх.. гад ты!—абурыўся Максім,—чарвяк ты паўзучы. Захачу і задушу, бо сіла ў мяне ў руках...

Стараста Макей здаўся яму тым чарвяком, які сьсе кроў і якога патрэбна прыдушыць, але шкода, што забрудзіш нагу.

І ўсё стала ні пачым. Усё стала нейкім няважным, непатрэбным.

А ўрадніка ўсё ня было. Раз-по-раз кашляў за сьцяною. Макей занепакоіўся і хацеў выйсьці. Максім засланіў яму дзьверы. Халодная рука, абцягваючы сарочку, нашчупала складаны нож, якім ён плёў лапці і рэзаў хлеб і насіў яго разам з тытуном. Тады ў мазгі рэзнула рашучая думка, якой сам спалохаўся; потым стала вельмі-ж холадна, па целу забегалі дрыжыкі. Сударгава ён расклаў нож, і задрыжэла невядома чаму рука. У гэты час Макей рашуча йшоў к дзьвярам, каб зачыніць іх на жалезны замок ды пакінуць Максіма аднаго.

Макей нешта сказаў і здалося Максіму, што засьмяяўся; тады разам усё засьмяялася—вецер, зямля і сьцены.

— Што? Будзеш ісьці супроць, сукін сын...

І ня скончыў стараста...

Парушылася цішыня, бо слаба ёкнуў Макей ды зваліўся на падлогу, як мяшок са збожжам. Максім злодзеем скокнуў з дзьвярэй...

У гэты час урадпік ішоў к дзьвярам з другога боку і густа кашляў, а пад цяжкімі ступнямі ботаў хлюпцела вада.

---

Дыша зямля халодным подыхам.

Вецер ледзь датыркаецца да верхавін прыдарожных дрэў.

На небе паразьбегліся паўскрай хмары, сінім яно стала, і раскідаліся зоркі, як сьвечкі, ды ляглі ад бяроз цені.

Сіла ўзялася ў Максіма, каб бегчы па сырой халоднай зямлі, сэрца стукае, а ў грудзёх дыхавіца...

Нахіліўся наперад стан, падкашваюцца ногі; здаецца, зямля дрыжыць і ходарам захадзіла кругом—закружылася, замітусілася ў вачох. Думка—востры нож—не дае спачыну:

— Гэта-ж я чалавека загубіў!..

Сьвеціць вогнішча падарожнікаў. Бяжыць нацянькі праз рэчку; сьлізкая кладка, нагою ступіць няможна, а бегчы патрэбна, бо за ім гоняцца: там сабака брэша, голас ураднікаў чуваць, а галасы людзкія ўсё гудуць:

— А-а-э-э-а-ай...

У сьвісьце ветру ямчэй за ўсё чуваць:

— За-абой-ца-а!

Гудзіць звон працяжна, за горла душыць, а можа то лісты бярозавыя гамоняць?

— За-абой-ца!..

Мокрая сярмяга, як стопудовы камень, вісіць на плячох. Хочацца скінуць яе, бо яна, як зямля, прыгарнула да сябе чалавека...

Бяжыць Максім проста на вогнішча падарожнікаў. Ходзяць там яны, грэюцца, глядзяць на незнаёмага чалавека, які ўначы бяжыць полем, быццам звар'яцеўшы... і дзівяцца людзі. Падбягае Максім да вогнішча ды дзіка глядзіць...

— Што ты за чалавек?—пытаецца доўгі барадаты мужык у латаным кажуху.

Валіцца ён ля самага вогнішча на прыгрэтую зямлю, ёрзае жыватом, ірве на галаве валасы, плача дзяцінымі сьлязамі—просіць-каецца перад людзьмі:

— Людзі... браточкі! Забойца я... старасту нашага забіў—Макея...

— За што-ж гэта?—пытаецца, насупіўшы бровы, са сполахам той-жа мужык.

Бліжэй падсоўваюцца людзі, абступаюць Максіма, быццам пужаюцца, што пачуе нехта ды разьнясе па ўсяму сьвету.

— Толкам кажы—за што?

— Лю-юдзі, ня ведаю я...

— Як-жа гэта?..

— Жысьць мая такая была распраклятая!..

Стары дзед загаварыў:

— Шкода цябе, чалавеча, усё-ж ткі ты наш брат—мужык... Усе мы бачылі гора, усе мы цягнем лямец на сваёй сьпіне. Не з дабра, мусіць, і ты зрабіў...

Максім сеў, абхапіў калені дрыжачымі рукамі, апусьцілася галава на рукі.

— Дзе там, браткі вы мае! У жыцьці чалавека не пакрыўдзіў. А тут... Каня апошняга зьвесьці хацелі за падатак... З чым-жа б я застаўся? Што-ж я за гаспадар?.. Бунтаўшчыком выставіў мяне стараста... Засудзіць хацелі мяне... Э-эх!..

Яшчэ раз, як і ў воласьці, несьвядома гаворыць Максім пра сваё жыцьцё, пра векавечныя пакуты і маленькія радасьці.

Шкода людзям свайго чалавека.

— Што-ж мы зрабіць можам?

— Э-эха-ха-а!

Ізноў загаварыў старэйшы:

— Бяжы ты, чалавеча, у лес, а то горш будзе, бяжы хутчэй! Забіў—ну што з таго? Можа варты чалавек быў таго? А ў цябе сумленьне баліць... Аблягчыў ты сваю душу—ну, і бяжы, можа і не пападзешся...

Тады Максім паслухмяна пашыбаў да лесу. Глядзелі ўсьлед падарожнікі. Ім што? Пабылі на адным месцы, пераехалі ў другое... А да Максіма ізноў прышла абыякасьць—прайсьці-б няпрыкметным усю зямлю! Ды пасоўваліся нага ў нагу сьледам маладзіковы і зоркавы цень па зямлі. Толькі лес гэты—сасновы лес, чорны ды жудасна маўчыць. Хоць-бы раз ён скалыхнуўся, хоць-бы віхор які наляцеў ды скалыхнуў за магутныя

плечы,—тады-б весялей, можа, было на сэрцы! Калі на душы чалавека буры, а вакол ціха, як у труне,—горш пераносіць гэта.

І вось здалёку, з самай глыбіні імшарніку, за лядамі, загаласіў галодны воўк, а пагалоска па лесе страшная паняслася; падхапілі яшчэ з розных канцоў завываньні, узьнімалі высока, цягнулі доўга і працяжна...

Сеў пад сукаватай сасною на карэньні, падумаў аб тым, што яму рабіць; палажыў на калені галаву, ня мог ён падняць яе, ня мог страсануць клапатлівых дум.

Успырхнула спуджаная птушка, шубнём пракацілася па зямлі, зашабуршэла жоўтая асеньняя трава, заламалася ціха суччо. Па шляху (далёка гэта чуваць) едуць калёсы, людзі гаворку вядуць вясёлую, і здаюцца Максіму галасы такімі знаёмымі.' Кожны шолах, кожная праява моцна ўбіраліся ў пачуцьцё Максіма.

Неба—сіняе. Маладзіковы сьвет кідаецца паласою. Зьнянацку—ідзе, шабуршыць па верхавінах сосен вецер. Раскачаў іх пажоўклыя лапы, засьпявалі тыя журлівую песьню, і чым далей, тым больш. Чуецца ў песьні тэй вельмі-ж роднае Максіму-забойцу — і карчма, і жонка, і сын Андрэйка, і брат Андрон.

І вось цяпер, пад соснамі, узьняўся ў Максіма вясёлы бунт, быццам ён не забойца, а вольны чалавек, багаты, няма ні пакут, ні дум. Стол накрыты чыстым абрусом, за сталом бяседа; вышаў Андрэйка ў людзі, ня простым стаў мужыком, а бацьку шануе...

Сядзеў так скамечыўшыся ды шукаў прыгожага, кяцістага ў сваім жыцьці: перабіраў часы дзяцінства, маладосьці—і не знаходзіў. Зацягнулася тое жыцьцё туманам, сьляды ног пазарасьлі дзікім зельлем... Не, яно—прыгожае гэта—ёсьць, толькі нязвычайна даўно было, у самую пору маладосьці. Тады быў хлопцам-асілкам, як ня прыціснула яшчэ сукаватая калода грудзей. У жніво было. На постаці сустрэў, ідучы з пакосу, цяперашнюю жонку сваю—Дар'ю. Першая дзеўка на сяле Дар'я, і ён таксама хлапец хоць куды—на работу, на ўсё быў дужы і здатны. Падсеў Максім пад жытнёвую капу, ахапіў Дар'ю за кашулю за белую. Грэла сонца і горача так, вось быццам зараз, аж пот цячэ. Ласкава гаварылі яны пра жыцьцё, і сьпявала Дар'я звонкім дзявочым галасам на ўсё поле, і голас так разносіўся па паплавох, і пагалоска ўвечары бегала, як цяпер ад воўчых зыкаў; сьпявала хораша такую песьню:

Пасылала мяне ма-а-ці-і
зялёнае жыта жа-а-ці-і...

Шумяць сосны.

Ці буйнае жыта шапаціць, можа?

Эх, як слаўна йсьці на лузе па скошанай траве, нюхаць пах кра-сак, размахнуцца шырока касой-канавалкаю, добра адточанай, застыць у такім стане ды слухаць—не наслухацца ў высі нябёс вясёлага жаўранка!

— Людзі... браточкі мае!.. Цяжка мне!..

Шэпча Максім і просіць аб нечым.

— Родныя мае, ці чуеце вы?

Ня ведае Максім—сьпіць ён ці не. Перадумаў усё жыцьцё, самыя дробязі, самыя нязначныя здарэньні, вобразы людзей і шчасьця. І скончылася тым, што Максіма—ціхага, нявіннага чалавека—вядуць к земскаму. Страшны гэтыя людзі, бы зьверы ўначы. Стукае земскі па сталу, крычыць немым голасам, прысуд свой выносіць:

— Скаты! Павесіць яго на сасьне!..

Ці не на гэтай, што так шуміць?

Усхапіўся Максім асуджаны, схіліў галаву сваю незадачную, па корную. Падыходзіць жоўты чалавечак, маленькі, з вялізнай галавою, падобны да старасты Макея, накідае на шыю пятлю з вяроўкі, каб ушчапіць на сук сасны.

— За што? Ня дамся я,—звонкі ў Максыма голас, усё заглушае.— За мяне сяло будзе гарою стаяць, людзі паднімуцца і ня будзе сілы тэй, каб стрымаць сілу бядняцкую, мужычую сілу...

І плача Максім...

Плача аб сіле загубленай, сьлязамі жыцьцё абмывае, бо цякуць тыя сьлёзы рэкамі вясновымі, забурляць, загамоняць, прабудзяць спрадвечную сонную сілу.

— Хто-ж мяне знойдзецца павесіць?

Пытае Максім, а нехта кажа яму:

— Дык загоняць на край сьвету. Кайданы будуць бражджэць па нагах. Мёртвым ляжаш у чужой зямлі. А каму-ж свая зямля застанецца?

— Лю-юдзі?!

Выцер Максім халодным рукавом з ілба пот, адранцьвелымі рукамі шыбка расьперазаў пяньковую вяроўку, што была земест пояса, ашчупаў тоўсты каравы сук на сасьне. Тады ўжо супакойна завязаў вяроўку, паспрабаваў яшчэ, ці моцна. Раптам ускінуў на шыю пятлю, стаўшы на дыбы і выцягнуўшы ўперад шыю, сьцяў зубы... Маланкаю мігнула думка: што-ж Андрэйка? Ня знойдзе ён у жыцьці свайго шляху—эх, вывесьці-б яго!.. Тады задрыжэлі ногі ў каленях, заляскалі зубы, круглымі сталі вочы; нязвычайная млявасьць разьлілася па ўсяму целу і стала жудасна: зьявіліся новыя, няясныя формы думак—захацелася падняць рукі, каб разьвязаць вяроўку, ды ня было ўжо сілы, падагнуліся ў каленях ногі. Захрыпеў сук, загойдаўся, і пасыпалася з яго раса на траву—халодная, чыстая, бы крышталь. Здаўлена крыкнуў Максім і захістаўся, задрыгаўшы нагамі, потым выцягнуўся роўна і застыў так. А каравы сук, гойдаючыся ды раняючы расу, разламаўся ад цяжару, і цела пачало апускацца з вяроўкай на шыі ў карэньні сасны, тварам кнізу, на сівы і пахнучы шырокім раздольлем ды цёплым аржаным хлебам стары мох...

Пачало падыходзіць раньне, паразьбегліся з неба зоркі і папоўз усьцяж па полі туман.

Крычала ў лесе сава, скардзілася, нібы плакала маленькае дзіцё.

— Куга-а-а... куга-а-а!..

А сосны шумелі ды шумелі.

---

Туман стаяў над Лугінамі, буйна падуваў вецер на іржэўніку пустога поля, і марозная золкасьць была на зямлі.

Людзі пачалі прачынацца, як і заўсёды,—ціха, мала прыкметна; на дварох і ў хлявох застукалі, запалілі каміны, і дым, апускаючыся са стрэх, слаўся па вуліцы ў знак нядобрай пагоды...

Прышоў лясьнік у хату Андрона—мокры, аброшаны. Скінуў стрэльбу на лаўку, апусьціўся сам і так доўга сядзеў. Андрон адчуваў, што той хоча нешта сказаць, а лясьнік хукаў на рукі ды паціраў.

— Росы вялікія пайшлі,—гаварыў, ходзячы па хаце,—і ў паветры ўжо холадна так, азызнуць можна—зіма набліжаецца... Досьвіткам бачу сягоньня: ходзяць журавы па балоце...

— Што з іх, з журавоў гэтых?

— Разумная птушка, зіму чуюць, як што, дык яны... Зямля цьвёрдай стала і сіверка...

Андрон спакойна сядзеў за сталом, пакурваючы махорку; ён глядзеў на моцную, плячыстую і праставатую фігуру лясьніка...

— Ну, што—Максім ня прышоў?

— Няма.

— Дык, Андрон, толькі ты ня пужайся,—ціха папярэдзіў лясьнік.

— А што?

— У лесе ён. Павесіўся.

Андрон ускочыў з месца.

Лясьнік сеў і беспакойна стаў апавядаць аб тым, як вышаў ён досьвіткам у лес, каб ня было парубкі, як ціха ў лесе і раса да калена была. Ішоўшы па лініі назад, ён убачыў труп Максіма... І ўсё стаяў туман, і ўсё капала раса, як дробны дождж, і журавы курлыкалі на балоце...

Вестка аб гэтым скора па Лугінах праляцела; праляцела і пабудзіла, а пабудзіўшы ўскалыхнула.

Народ стаў зьбірацца каля хаты Максіма. Дар'я абхапіла Андрэйку з аднаго боку, меншае дзіцё—з другога і плакала:

— А дзетачкі-ж вы мае дробныя,
а як-жа вас карміць-гадаваць буду-у...
А-а-а у-у...

Народ шумеў.

Плакалі некаторыя бабы. Не затым яны плакалі, што вялікае гора ў Дар'і, а затым, што самі былі жонкамі ды маткамі...

Андрон запрог свайго каня, пасадзіў Дар'ю з сынам. Лясьнік ішоў ззаду з натоўпам мужыкоў і баб і ў дзесяты раз апавядаў пра тое, што досьвіткам вышаў ён паглядзець парубку ў лесе,—ціха было, раса капала, журавы курлыкалі...

Угледзеўшы скамечаны труп нябожчыка з вяроўкай на шыі, пасінелы твар і вочы, якія шырока і абыяка глядзелі на ўсё, мужыкі скінулі шапкі, нахілілі галовы, перахрысьціліся некаторыя... і нешта зарадзілася ў сярэдзіне кожнага, расло яно ў мужычай душы--ці крыўда, ці злосьць, ці яшчэ што,—толькі заўсёды пакідала яно глыбокі сьлед.

Плач Дар'і ў сасновым лесе далёка разносіўся.

Тады дзед Сапрон—вельмі стары, сівы і лысы—блізка падышоў да Дар'і, затармашыў яе нахілены стан за плячо, і голас яго быў глухі і сіплы:

— Ты, Дар'я, ня дужа плач! Вялікае гора сьлязамі ня змыеш, і горш толькі сабе зробіш... Яшчэ і ня гэта было... Чаго толькі я ня помню на сваім вяку?

Абвёў усю грамаду ня зусім лупатымі вачыма, сказаў яшчэ:

— Э-эх, многа чаго помню!.. Лёс такі наш...

Усе прыціхлі. Толькі шушукаліся міжсобя лапы сосен, на розныя лады вялі гаворкі.

Маўклівым, як хмара, быў Андрон. Зьвесіўшы галаву, вёў ён каня па карэньні. Дрыгацелі калёсы і хісталася з боку на бок цела Максіма-самагубцы...

---

На падводзе прывезьлі з воласьці старасту Макея, параненага ў жывот. Ляжаў ён у сваёй хаце на лаўцы з перавязаным жыватам, ціха стагнаў і глядзеў прыжмуранымі вачыма на кут з абразамі.

Людзі асадзілі Макееў двор. Крычалі, галдзелі.

Гэтыя крыкі не падабаліся Макею,—гаварыла грамада буйнымі словамі, таму і гул такі ўздымаўся.

Стараста падазваў сына. Той нахіліўся бліжэй к бацьку, а Макей скрыпуча гаварыў:

— Глядзі, Цімох, каб, ня дай бог, беспарадку якога ня было, а то не ўберажэшся тады.

— Ты ня пужайся, тата, нічога ня будзе. Пагамоняць яны дый разойдуцца.

— А можа будзе што?—дапытваўся Макей і хрысьціўся на абразы.

— Там ураднік стаіць сярод вуліцы.

— Ну, і дзякаваць богу, калі ўсё добра. А то, ня дай бог, бунт які. А-а-эх!..

— Можа к доктару ў горад адвезьці?—спытаў сын.

— Выжыву я і так... Слаба ён мяне—захаваў бог... „Дзівен бог у сьвятых сваіх"...

Устаў Макей на локаць, стаў глядзець на вуліцу. Грузнай развалістай паходкай ішоў нехта ў сенцы. Макей пазнаў па кашлю ўрадніка.

— Чаго ён стукае ботамі так?—спытаў у жонкі, прыціскаючы к жывату рукі.

— Цяжкі чалавек такі ўжо... і падковы ў яго жалезныя на ботах...

Ураднік ля парогу скінуў шапку, правёў рукою па рыжаватай стрыжанай галаве...

— Ну, як табе?

— Нічога, захаваў бог.

— Ну, і добра...

Кашлянуў адрывіста Макей. Людзі гудзелі на вуліцы. Ураднік зірнуў у вакно.

— Андрон крычыць, так яго... сукін сын... Бунтуюць... Пайду т'ка я на вуліцу, каб і сапраўды чаго ня было,—формальнае непадчыненьне начальству—о-ох!..

І цяжка затупаў падковамі.

---

На вуліцы, у сярэдзіне ўсіх, стаяў бяз шапкі Андрон, патрасаючы кулаком. Ня мог разабраць ураднік пра што гаварылі.

Мужыкі бліжэй прыціснуліся, замахалі рукамі; загаманілі жорсткімі словамі:

— Га-а-ады-ы!

— Ні завошта чалавек загінуў. А ўсё праз іх...

— Павесіць-бы, сукіных сыноў, саміх на сасьне...

— Кроўю мужычай жывуць, калі-б на вас...

— Земскія там розныя, старасты ды ўраднікі—трасца іх матары!

— Ды цяпер такі час ужо.

У сярэдзіну натоўпу ўлез ураднік. Павольна, па даўгу службы, супакойна таўхаў звычайна ціхіх мужыкоў. Падняўшы руку над галавою, каб перакрычаць, захрыпеў:

— Н-народ! Расхадзіся па хатах—загадваю вам. Неча тут... Скора начальства прыедзе.

— Што за начальства? Тут чалавека загубілі, і ён яшчэ...

— Э-эх, сьцерва!..

Ураднік лезе проста к Андрону, пагражае кулаком.

— Вон, а то раздаўлю, гадзіна!

— Не мінаваць табе Сібіры, перагэтак тваю...

— Адыйдзі, крываротая рожа, а то прыцісну—і канец табе... Ня будзеш тут з начальствам, як з ражном насіцца...

— Што-о? Супроць уласьці... бунтаваць?

— Па-айшоў ты к ліху з уласьцю сваёй!

Андрон горача лезе з натоўпу, пхае людзей.

— Мужчыны, а што-ж пасьля будзе, га-а?—нечы спуджаны голас.

А ў мужыка—гарачая кроў. Калі што—ня ўпусьціць, на прабіцьцё пойдзе, ні Сібір, ні турма—нічога ня страшны, бо загаворыць жывая крынічная сіла народная, усё разварушыць, а тады хоць і самому скласьці галаву—не пашкадуе.

Поп лугінаўскі вышаў угаварваць людзей, даўней словам яго былі пакорны лугінаўцы, а цяпер яго ня слухалі.

— Божа, барані ад народнай стыхіі!—шырокім махам рукі перахрысьціўся поп і, дробна трусячы і заплятаючыся ў адзежы, пашыбаў на ганак сваёй хаты.

Стаіць ураднік, выцірае рукавом сьліну з роту, твар злосны і крывіцца ад зьнявагі.

— Н-народ, расхадзіся ты, па чэсьці прашу!

— Я табе пакажу чэсьць...

— Даўно глуміцеся!

А Дар'я ў хаце словамі жалобнымі, расьцягнутымі пераказвала сваё гора:

„А як-жа я, людзечкі, пражыву-у,
А няма-ж мне пракарміцца чым з дробнымі дзецьмі?..“

Абступілі мужыкі ўрадніка, звалілі на зямлю. Цiскаць нагамі, біць сталі—злосьць сваю выказвае грамада. Захоплены ў нейкім вадаспадзе адзінай сілаю, каб адпомсьціць за ўсё жыцьцё сваё. Пхаюць цела ўрадніка, як на аблозе корань, які шкодзіць плугу роўна працягнуць баразну.

— А-ах, сьцерва!..

— Вось і начальства табе—бяры!

Ураднік нязможна, харкаючы крывёю, моліць:

— За што вы мяне? Пашкадуйце старога...

Бывае мера людзкой злосьці. Кінулі ўрадніка, патупіўшы галовы сталі разыходзіцца.

Тут адна дарога. Андрон з мужыкамі пайшоў у карчму, каб запіць усё, каб зьмесьці ўсе сьляды і плямы.

Як стала пуста, ураднік устаў, кашлянуў крывёю, выцерся і павольна пайшоў усьцяж вуліцы...

Над сялом цэлы дзень стаяў сіні туман. Засьцілаў балоты, лугі, сосны. Толькі жалобны голас удавы Дар'і ў пагорбленай хаце ніхто ня мог заслаць.

---

Зямля стала зусім акамянелай.

Сяло нялоўка прытулілася, згорбілася, абсіверала паўночнымі вятрамі, загразілася туманамі.

Трывожна было на сяле.

На тры дні зьнік некуды ўраднік, і лугінаўцы чакалі нядобрага. А недзе далёка, на захадзе, ішлі крывавыя бойкі, дзе ваявалі сыны з Лугінава...

Ураньні схлупіліся хмары—белыя, яны поўзалі па небу. Потым на цьвёрдую зямлю сыпаліся пухавыя сьняжынкі—яны мігацелі, кружыліся, бялілі зямлю.

Андрон хадзіў хмуры. У той дзень сядзеў у хаце, гледзячы ў акно, ды глядзеў, як ішоў першы сьнег. Жонка яго—яшчэ маладая, прыгожая—Марына, сядзела за кудзеляй, выводзячы ніткі белыя і тонкія.

— Што-ж то будзе, Андрон?—непакоілася Марына.

— Нічога ня будзе.

— Зловяць цябе калі-небудзь, павядуць. Што-ж я тады адна буду рабіць? Як-жа адна ды застануся?

Андрон думаў невясёлае ды ўсё глядзеў на вуліцу. Кружыліся там сьняжынкі, бялілі стрэхі, вуліцу, людзей...

І вось убачыў ён на дарозе, як ужо зусім блізка былі, што едзе ўперадзе на вараным кані з шашкай і рэвольвэрам з боку тоўсты прыстаў, за ім ураднік, тры стражнікі ды ідзе соцкі.

Андрон прыпомніў:

— Гэта-ж (калі тое было) той самы прыстаў лавіў, як дэмократа, тады хаваўся ён па лесе і ў горадзе ў таварыша.

Ездакі спыніліся ля самых варот Андронавых. Андрон раптам накінуў кажух, бегчы хацеў, ды было позна: прыстаў, бракаючы шашкай і шпорамі, самавіта і грозна ўвайшоў у хату ды спыніўся пасярод; стражнікі сталі ў дзьвярох.

Голас густы з-пад навіслых вусоў ды тлустых шчок:

— Ты Андрон Холад?

— Я!

Прыстаў чамусьці паказаў на ўрадніка і соцкага і прагаварыў:

— То-то, маладзец! Здаецца, знаёмымі былі раз добра! Тады—уцёк, цяпер не схаваешся. Папаўся, галубчык...

— Вам што патрэбна?

— Га-а? Дэмократызм разводзіш! Бунты! Надзець яму ланцугі на рукі!

Трое стражнікаў абхапілі з усіх бакоў, надзелі ланцугі—белыя, бліскучыя—на чорныя, мазолістыя рукі Андронавы.

Марына прыхілілася к сьцяне і заплакала...

Андрон злосна глядзеў, але не супраціўіўся.

— Ну,—загадаў прыстаў,—двое ў горад вядзеце па назначэньні—там спраўнік па галаве пагладзіць, белага хлеба паспрабуе. А ты, Сімакоў, за мною да старасты,—і, паглядзеўшы злосна, скамандваў:

— Жыва-а!

Забрынчэў шпорамі ды перакруціўся.

— А з іншымі бунтаўшчыкамі пасьля разьлічымся...

Марына плакала наўзрыд.

— Чаго ты плачаш? Усё роўна нічога ня выплачаш!

— Дык як-жа я адна застануся?..

Потым вывелі на вуліцу.

— Ну, Марына, не памінай ліхам! Жыў буду—убачымся!

І вочы ў Андрона зацягнуліся сінім туманам.

Схіліўшы галаву, поўную, як ноч, дум, пайшоў паперадзе Андрон у канец вуліцы, невядома куды—у горад, а з бакоў—два стражнікі. Думаў ён, што будзе яшчэ ў сяле цэлая расправа, што не аднаго павядуць так.

Накінуўшы на плечы кажух, вышла Марына за ваколіцу ды, абапёршыся на загарадзьдзе, стаяла так, ды ліліся ручаямі сьлёзы—колькі іх, сьлёз! Азірнуўся Андрон, махнуў галавою, быццам сказаў:

— Жыві, Марына!..

А Марына бязвольна спусьцілася на зямлю ды ўсё плакала...

Ішоў сьнег. Шумеў бор—звонка, галасіста. Забрахалі сабакі ды пракрычаў певень, а ў сяле было пакуль што ціха.

Кружыліся сьняжынкі ў віхры, плавалі, ды белым абрусом сьвятошным засьцілалі зямлю і поле.

І скрозь віхор сьняжынак хацелася Андрону крычаць, буйна крычаць пра вялікі бунт зямны—у прасторы крычаць і зваць людзей.

А тры стражнікі разгульнага мужыка вялі далёка ў горад.

Толькі ланцугі зьвінелі на руках...

# У ДАРОЗЕ

**Т. Кляшторны**

I

Дзень згараў...
Заціхалі ў палёх перазвоны.
Майскі вецер чаромху ня мёў...
Захлынуліся вокны вагону
Сіняватым вячэрнім агнём.
А за вокнамі сьцені скакалі
Табунамі ліхіх рысакоў...
Ціха талі
У звонкія далі
Пераліўныя хвалі палёў.
Бедных ніў
Залатое прывольле
Задрамала ў тынянай цішы...
Эх ты, поле,
Бязьмежнае поле!
Люба мне беларуская шыр!
Хай сягоньня сявалкамі вёсен
Сее смуту ў палёх недарод...
Нашы дні—
Ня журботная восень,
Нашы дні—
Грамавы веснаход.
Хоць палі нашы
Бедны вясною,
Але час наш
Сьвятлей і мілей,
Бо пад нізкай сялянскай страхою
Палынеюць зарніцы надзей.

II

— Усё так створана
Мудра на сьвеце,—
Развважаў спадарожнік Тарас;—

Ня прыкмеціш
ніяк ня прыкмеціш,
Як мяняюцца людзі і час.
Бачыш там,
Дзе бухмаціцца клён так,
Серабрыцца дзе квецень садоў,
Быў калісьці
Багаты маёнтак
З незапамятных дзён і часоў.
Жыў там
Ян Апанасавіч Сілін.
Ой, і пан быў,—
ня пан—удаў;
Ён сусьвет-бы
ў кішэню зажыліў
І за звонкія-б сонца прадаў.
Мужыка раз
Прыбіў да поўсьмерці,
А за што, братка,
Крыўдна сказаць:
— Што вы, кажа,
Зазналіся, чэрці,
Нават шапку ня хочаце зьняць!..
Што глядзіш так,
Адродак сабачы,
Што?!
Цураешся быдла паноў?!
А старык нават сьцежкі ня бачыў
Дзевятнаццаць мо' нейкіх гадоў.
Час ішоў,—
Не адзін маладзік зьнік,
Шмат сплыло ў нябыцьцё вечароў.
Раз на вёску прыехаў вураднік
І да пана зазваў мужыкоў.
У нэтрах душ
Невядомасьць гарэла:
Што пан мае,
Што мае сказаць?
А пан выкаціў бочку гарэлкі
І давай мужыкоў частаваць.
Падымаліся,
Бомкалі чаркі,

Залівалі
Надломы душы,
Покуль зор
Залатыя агаркі
Ня зблудзілі ў сьвятальнай цішы.
А як высахлі
Майскія росы,
Вышаў пан...
Пад шалеючы гам
Задуменна дастаў папяросу
І прамову сказаў мужыкам:
— Мы, браткі,—
Хрысьціянскія душы,
Хілім голаў
Ніжэй ад вады,
А нас нехрысьць праклятая душыць,
Нас асецілі сёньня жыды.
Нас асецілі
Шмэркі ды Бэркі...
Дай віна—
Дарагога віна!..
Гэй, выкачывай бочку гарэлкі,
Выпіваемо куфлі да дна!..
Разьміналіся
Звонка бакалы,
Залівалі
Надломы душы,
Покуль золак сівыя туманы
Не разьмёў павазёрнай цішы.
А як толькі
На раньнія росы
Зараніца цякла з-за гаёў,—
У мястэчку заляскалі косы,
У мястэчку крывавы пагром.
Забражджэлі
Жалезныя брамы,
Зазванілі
Засовы дзьвярэй...
Бачу, Моўша
Ляжыць каля крамы,
А ля Моўшы пяцёра дзяцей...
Эх, вы, любыя,
Як не заплакаць?!

Дарагія,
Ну як-жа, ну як?!
Мае скарбы—
Аборы ды лапці,
Скарбы Моўшы—
Стары лапсярдак.

Разам долі па сьвеце шукалі,
Разам мералі
Жорсткі сусьвет...
Надламілася
Сэрца ад жалю,
У ваччу затуманіўся сьвет...

III

Усё праходзіць,
Як дым у даліне...
Толькі ў сэрцы
Такая пустош!..
Я ледзь-ледзь
Не павіс на асіне,
А на Сіліна вытачыў нож.

І вось там,
Дзе бухмаціцца клён так,
Дзе пярэсьціцца
Зелень бяроз,
Быў калісьці багаты маёнтак,
А цяпер—багацейшы саўхоз.

Дагарэлі там п'яныя ночы
І ніколі ня вернуцца зноў,
Толькі вецер за брамаю точыць
Дурнап'яны мінулых гадоў.

Хоць палі нашы
Бедны вясною,
Але час наш
Сьвятлей і мілей,
Бо пад нізкай сялянскай страхою
Палымеюць зарніцы надзей.

Хай сягоньня
Сявалкамі вёсен
Сее смуту ў палёх недарод;
Нашы дні—
Ня журботная восень,

Нашы дні—
Грамавы веснаход...
... Ша...
Прыпынак...
Вячэрнія бомы!
І сьвятло залатых ліхтароў...
Захлынуліся вокны вагону
Сіняватым вакзальным агнём.

Менск – Парэчча 1927 г.

## ХАЛАДЗЕЕ КРОЎ

**Т. Кляшторны**

I

Не дары асеньніх васількоў,
Не дары мне красак на хвіліну,—
Не тваю трыццатую любоў
Панясу з сабой у дамавіну...
Не дары адцьвіўшых васількоў.

Не цалуй мне вусны на разлуку
(Не хачу я, любая, маніць),—
Я аддаў шчырэйшым пацалункам
Дарагія, дальнія агні...
Цалаваць ня трэба на разлуку.

Не каханьне томнае нясу
Я цяпер жыцьцёвай пуцявінай,
А жывую палкую вясну
Маладой абуджанай краіне...
Не каханьне сумнае нясу.

Не дары таго, што не прашу,
Не дары мне красак на хвіліну,
Я найшоў другую пуцявіну,
Я аддаў ёй сэрца і душу...
Не дары мне красак на хвіліну.

II

Люблю жальбу асыпаных лістоў
І золатам завеяныя сьцежкі,—
Нямую дрож бялявых валасоў
І сініх воч чароўныя усьмешкі.

Не цалаваць мне сініх васількоў,
Іх цалаваць каму-нібудзь другому...
Бягуць часы, і халадзее кроў,—
Мінаюць дні, як п'яныя надломы.

А ўсё-ж кажу:
Загубленых гарэз
Хоць не вярнуць для новага сьвітаньня,—
Я буду дружбай нашаю гарэць,
Не называючы яе каханьнем.

III

Халадзее кроў... І мы ня тыя,
Мы ня тыя,—
Не шалёнай пенай круціць вадаспад.
Замірае буйная стыхія
Між абвалаў гордасьці і страт.

Вось і мне над кубкам маладосьці,
Кубкам маладосьці
Больш гарэз юнацтва не прадзе...
Я чакаю новае у госьці
З падарункам сонечных падзей.

# ІЗНОЎ

В. Сасюра

Так, зноў наш дзень рудзяна-буры,
Такі шчасьлівы, а смутны...
Не ператорым мы ў буры
Дажынак песьні і вясны.
Няўжо ня згіне лёс закляты,
Каб не сказалі ўжо пра нас,
Што мы наіўны, як цяляты,
У навальнічны гэны час!
Няўжо няможна, мой народзе,
Усім сказаць, што ты ёсьць ты,
Што страшна нам са сьмерцю ў згодзе
Ісьці па костках з цемнаты.
Што жах бярэ!.. ды трэба, трэба,
Гасьцінцаў іншых і няма,
Бо іншы шлях—адна ганеба,
Бо ззаду цар, жандар, турма...
Брывёй ад болю нам ня хмурыць,
Не спатыкацца у журбе...
Бо ззаду нас стаяць хаўтуры,—
Ці-ж зноў пакутаваць табе?!
Такое там,—ня сьніў ніколі!
Хай галава, як той кавун,
Дык уздымі чало да волі
Ды маршам з намі да комун.
Скрозь кроў, скрозь сьлёзы ды пажары
У прамяністы наш эдэм,
То-ж мы, натхненны комунары,
Цябе, народ мой, павядзем...
То-ж мы, жалезны комунары,
Твае бацькі, сыны твае—
Скрозь кроў, скрозь сьлёзы ды пажары
З табой туды, дзе сьвет ўстае...
У абыймах ты стальнога кола,
Бо сьвет на сьвет ідзе вайной!..
Дык самапэўна глянь наўкола,
Народ мой любы, любы мой!

Пераклад з украінскае мовы **М. Грамыкі.**

# ПАЎ НА КАЛЕНІ ДЗЕНЬ...

## Аркадзь Моркаўка

Паў на калені дзень... Як шэпты ціхіх лоз
Узьнятыя растаць, пыліцца у вадзе,
З душы трывожнае з трывогай дня сплыло...
А млечны шлях заве... Паў на калені дзень.

Вачыма-б вымераць зялёных сноў струну,
Кацішча-б зоркаю ў тумане па ральлі!
Спакою гэтага рукою не крану,
Спакою чулых зор і зморанай зямлі.

А, здэцца, каб сьляза апала ў чарку сьлёз,—
Здрыгнуўся-б цэлы сьвет—такі нямы спакой...
Хацеў-бы заўжды знаць, што гора адцьвіло
І што ня сьпечаны Ванцэці і Сако.

О, сэрца, дык палай!—сьвяча замрэ, згарыць,
І сонца цёплае замрэ між маку зор.
Пакуль-жа ветры ткуць імкненьні і дары,
Прастру любоў на сьвет, як млечны шлях—прасьцёр

# КВЯЦІСТЫ ПАЛІСАДНІК РАН І БОЛЕК...

**Аркадзь Моркаўка**

Квяцісты палісаднік ран і болек
Лячылі воцат, соль і жоўць.
Спалю масты, каб не вярнуцца болей
На сьлед, пасеяны імшой.

Прывыклі мы таемна несьці цацкі
У глыбі дум, пакуль і сьмерць.
Адны у Лёндоне, другія—ў Шацку
Нясём, як нёс нядаўні зьвер.

Аднэй рукой пушчаем к небу птушак,
Другую сунем гідка ў твань.
І копы матылькоў прыгожых тушым,
А самі прагнем хараства.

Памылак чадны боль хмяльней за радасьць,
Хмяльней за пах цяжарных ліп.
І мне... і мне не адрачыся саду,
Дзе цені палямі былі.

# ВЕНА

**Іоганэс Бэхэр**

I

І вуліца жыва была
й крычала,
была пакрыта
масамі людзей,
рукамі й галавамі
красавала,
аружжам вуснаў,
дзідамі вачэй!

Пры стрэлах, гучных крыках,
няўстрымана
сваім пуцём
пайшла яна далей.

Яе калісь акрутна,
неўблагана
зьняволілі
калёсы і натоўп
і прыгнялі,
і утапталі зраньня,
але імпэт
паўстаньня
ў ёй ня змоўк.

І вырвалася
ўся яна ў шчарбінах,
падзёртая,
скалечаная ўся,—
цяпер руйнуе,
пад сабой хавае
ўсё тое,
што так мучыла, гняло.

Паліцыянтаў
пункты вартавыя
абстрэлены—
як ветрам іх зьмяло.

І кроў пралітую
зазьзяць змушае
пры стрэлах тых
гарачае сьвятло.

Калісь была ты
вуліцай прыгоннай,—
паўстанцкая
ты вуліца цяпер!

І падпаўзьлі
„Разважны“ ды „Прыстойны“
і радзяць
супакоіцца табе,
і нават
пагражаюць сілай збройнай—
нясуць гранаты
ў здрадніцкай руцэ:
— „Ці-ж панаваньне вуліцы
...наступіць?—
Не—мы ўсё чыста
прэч з яе зьмяцём!“

Яна-ж зусім
на гэта не зважае—
ідзе сабе,
ідзе сваім пуцём.

Стралкі на дахах
з двох бакоў, на версе,—
у нізе з барыкадаў
зроблен вал
і ўсё звужаецца
і ахапляе
той горад,
дзе пануе
капітал,
той горад,
дзе смуроду, бруду досыць,
шмат гультаёў,
рант‘ераў, мод, распусты;
мясцамі брудны,
лахманы ён носіць,
хоць у будынках
ёсьць нямала густу.

Вось вуліца
чырвонага паўстаньня!
Яна сьмяецца
весела цяпер:
працоўных сотні тысяч
выступаюць,
раве гудок,
як быццам дзікі зьвер.

Ваяк працоўных
шмат на самаходах;
цяглiцы ўсе
напружаны для бою.
Вось вуліца на ворага ідзе,
ступае пролетарскаю нагою,
басой і грубай—
ў цяжкай барацьбе.

II

— „Гэй, вуліца!
хутчэй-жа схамяніся,
сагні сьпіну
і поўзай
так, як мы!“—
Так Баўэры і Рэнэры
гавораць,
і Адлеры і Зэйцы—
дзеці цьмы:
— „Працоўныя,
дамоў ідзеце з вуліц,
а хто ня пойдзе,—
згінуць мусіць той:
мы хочам баставаць,
каб нам вярнулі
жаданыя
парадак і пакой!
Амінь!“
— Ї Зэйпэль,
гіерарх царкоўны,
ўсё тое, што здабыў,
пускае ў ход—
ў сталёвых шлемах
ворагі йдуць злыя,

ёсьць вартаўнік айчыны—
кулямёт;
ўсе з мэтаю,
каб змоўк зусім працоўны
на вуліцах сабраны
наш народ.
Їм удаліся
спробы баявыя—
і нашай вуліцы
заткнулі рот.

Так вуліцы
чырвонага паўстаньня
цяпер ужо
няма зусім і званьня.

Аб перамозе,
веры і моралі
давалі вестку
радасна званы;
зноў вуліцы
пакорныя ляжалі
і зноў,
сярод глыбокай цішыні,
багатыя
з працоўных кроў сматкалі,
аб квотах думалі, аб капітале,
крычалі: „віват!“ весела яны.

На вуліцах
труну к труне тут ставяць,
так, без прамежкаў
ўсе яны стаяць;
так венскіх комунараў
сьмерць праславіць—
за вуліцу ў бai
лягла іх рацьь.

Была ты, Вена,
бацькаўшчынай нашай
ў той дзень,
калі па вуліцах тваіх
дыханьне буры моцнае
няслося,
і выбухала

полымя з дамоў;
і ўсё тады
дрыжэла і траслося,
бо ведала,
што вуліца ідзе,
ступае пролетарскаю нагою,
басой і грубай—
у цяжкай барацьбе,
як вуліца
чырвонага паўстаньня,
вялікага,
гэройскага змаганьня!

З нямецкае мовы пераклаў
**Л. Цьвяткоў.**

# НАД БАЛОТАМ

*(Поэма)*

**Міхась Багун**

Уступ

Глянь, квітнеюць старыя таполі,
Песьні новыя ціха пяюць;
Вецер буйны узьняўся на полі,
Успаміны у сэрцы растуць...

Многа, многа было лятуценьняў
У іскрыстасьці дзён маладых,—
Ды надзеі, жаданьні, імкненьні—
Завалілі каменьнем гады.

І часамі мне хочацца ўспомніць
Пра падзеі мінулых гадоў,
Ссунуць хочацца той цяжкі помнік,
Што стаіць на адбітках сьлядоў.

Тых сьлядоў, што ня ведалі межаў,
Што вялі да ружовых надзей,
Што бурлілі ў жыцьцёвых бязьмежжах
Буйнай песьняй юнацкіх грудзей.

Так было.
Ды ня вернуцца болей
Дзён былых бураломы-завеі:
Як цьвітуць залатыя лілеі,—
Ня гуляе віхура над полем.

Ня гнісьці лёсу нашаму болей
Ў дагараньні растоптаных днёў,
Як падгніўшым ад часу таполям
Больш ня быць маладымі ізноў!

І цяпер вось, калі успаміны
Запалілі над сэрцам агні,—
Раскапаю былыя руіны
Й раскажу пра мінулыя дні.

I

Там, дзе хвоі стагоднія ў буру
Верхавінамі злосна гулі,—
Над дрымучым балотам віхуры
Ў агняцьветах маланак цьвілі.

Вербалозьзе, алешнік, асіньнік—
Ні дарогі, ні сьцежкі нідзе;
Толькі гадзінай зьвілася ціна
Ў парыжэлай ад часу вадзе...

Нават птушкі туды не ляцелі—
Ціха плакалі совы адны,
Ды кудлатыя, сінія елі
Адзявалі імглой туманы.

У марозныя сьнежныя ночы,
Пад пяяньне бялявых завей,—
Голас зморany, здушаны воўчы
Біўся жудасна ў сэрцы людзей.

А увесну—зялёным бязьмежжам
Паланела балотная твань.
Ні дарог, ні граніц і ні межаў
Ня убачыш—дзе толькі ні стань.

На ўзьбярэжжы балотных прастораў,
Як і ўсюды, бурліла вясна.
Там, пад сховамі сіняга бору,
Вёска Гніль існавала здаўна...

Завірухі, пажары краіны
Вёску Гніль не кранулі саўсім:
Гарады і палацы—руіны;
Вёска Гніль—шапаценьне асін...

Толькі раз давялося сялянам
Бачыць дзіва:
— жаўнераў атрад
За якімсь раззалочаным панам
На Заход праляцеў паміж хат...

А там—зноў запяялі асіны,
Акунулася вёска ізноў
Ў цемру-твань парыжэлае ціны,
Ў чараду заіржаўленых днёў.

І дагэтуль-бы, можа, было так,—
Ціха спаў-бы бязьмежны абшар...
. . . . . . .
Раз над дзікім і хмурым балотам
Песьня звонкая зьвесіла твар.

І якісь незнаёмы дарогай
У Сьцяпанаву хату прышоў,—
Панясласяя па вёсцы трывога:
Хтосьці новы у вёску прышоў!

А ў Сьцяпанавай хаце сягоньня
Радасьць ўеҗца у ружы-каралі:
Сын прышоў, што ад бацькавых гоняў
За царом у салдаты забралі...

Ён прышоў—жыцьцярадасны гэткі,
Вестак новых з сабою прынёс,
Прынёс кніжкі, сшыткі і газэткі
І сказаў: „Мы палепшым свой лёс!“

Ён сказаў:
„Прачытаю газэты—
Вы пачуеце новага шмат!“
Прачытаў пра якіясь Саветы
І што роўны з панамі наш брат...

І пасьля перамоў з мужыкамі
У трывожнай імклівасьці дзён
Зноў сказаў ён:
„Сваімі нагамі
Пойдзем мы за жыцьцём наўздагон!“

А праз месяц—ў бары, над балотам—
Заіскрыўся хваёвай красой
Новы дом,—агароджаны плотам,
Новы дом ды з драўлянай страхой.

І што толькі, што толькі было там,—
Дзіваваўся бязьмежны абшар;
Часта, часта над грозным балотам
Песьні новыя зьвешвалі твар...

Дні ішлі-б зачарованым колам—
Сёньня, заўтра—усе, як адзін,
Каб ня гэты Сьцяпанаў Мікола—
Роднай вёскі вярнуўшыся сын.

Пасьвятлела мужыцкае гора,
Засьвяцілі другія агні,—
Часта езьдзіў Мікола у горад
І праводзіў там доўгія дні...

Ён прывозіў у вёску газэты
І чытаў, покі згасьне зара,
І ізноў гаварыў пра Саветы,
Што зьмянілі ў Расійскай імпэр'і цара...

І сказаў раз Сьцяпанаў Мікола:
Стане ясным і сьветлым наш лёс!
Ды ў будынак—вясковую школу—
Ён настаўніка хутка прывёз.

А балота гудзела з пагрозай
Ў белых сьпевах асеньніх завей
І хіліла да долу бярозы—
Бы карала бунтоўных людзей...

II

Дні нясьліся разьмеценым шляхам
Між засыпаных сьнегам бяроз;
На падмесячных скованых гмахах
Рассыпаўся агнямі мароз...

А завеі—абрусам бялявым
Паляглі на бліскучых палёх;
Раз увечар віхор кучаравы
Да настаўніцкіх вокнаў прылёг.

І за шклом размалёваным, зорным
У міганьні вясёлкавых мараў
Ён убачыў у хаце прасторнай
Карты-пляны балотных абшараў.

А над імі, схіліўшы галовы,
І сур'ёзна наморшчыўшы твары,
Наш Мікола й настаўнік наш новы—
Аляксандр Мікалаевіч Жарын—

Пасяброўску, вясёла гаворацць
Аб панурым і хмурым балоце:
„Як асушым—адвернецца гора—
Ўсім зямлі пладавітае хопіць".

Вечарамі удвух яны марацъ
Аб вясьне, аб жыцьці сьветла-новым,
Аб таемных балотных абшарах,—
Хлебароб і настаўнік вясковы...

. . . . . . . . .

Дні ляцяць за гадамі ў пагоню,
Студзень, люты—мінулі, як ў сьне;
На шнурох пачарнеўшыя гоні
Ўжо шапочуць аб новай вясьне.

Ужо чуецца новая радасьць
У пяяньні бязьлістых асін;
Сонца льле залатым вадаспадам
Свае косы з сівых верхавін.

Няпрыветнаю плямаю шэрай
З плачам
Пеніцца спэцканы сьнег,—
Сакавік
Адчыніў свае дзьверы
Сьветлакудрай
дзяўчыне-Вясьне.

І ідзе яна
Радасным крокам,
Рассыпае надзеі вакол
І яскрава-прыветлівым вокам
Дарыць
Першымі кветкамі дол...

Ажываюць панурыя нетры
Векавых балатоў-таямніц,
І ў блакітна-празрыстым паветры
Ўецца зноў шапаценьне зарніц...

Ажылі
Пасінелыя далі
Цёмнатварых
Далёкіх лясоў,
Зазьвінелі бурлівыя хвалі
Маладых-маладых галасоў.

У вясновай вясёлкавай пене
Заімклівіла радасьць ізноў,
Зноў вясна

Адрадзіла імкненьні
Да бурлівых
І радасных сноў.

Завіхурыла песьнямі вёска,
Забунтарыла звонам вясны;
На бары,
На гаі,
На палоскі
Клічам кінула песьні жаўны.

Клічам радасным
Бурным і
звонкім—
Перапевамі новага дня!
Зноў зьвіняць маладыя сасонкі
У крышталіста-росных агнях.

А настаўнік з бадзёрым Міколам
Вечарамі зьбіраюць народ
І на ганку сасновае школы
Размаўляюць аб шкодзе балот.

Той гаворыць, што летась карову
Зацягнула балотная твань...
І журбою мужычай, вясковай
Над балотам ўсплывае туман.

А старыя, старыя дзядулі
Ўспамінаюць мінулыя дні:
„У багне мае дзеці заснулі!"
Гора шчырае глуха зьвініць...

І гавораць старыя, гавораць,
З іх вачэй выглядае журба:
Многа, многа сапраўднага
Гора
Нам дала
Балатоў варажба!

Ды падняўся Мікола Сьцяпанаў
(Гасьлі бляскі вячэрняй зары)
І старым пасівелым сялянам
Ён такое пачаў гаварыць:

„Гляньце, брацьце!—
Над краем мігае

Залаціста-яскравая рань,
І наўкол балаты высыхаюць,
Высыхае і ціна і твань!..

А у нас—гаспадарыць балота.
Ці-ж ня сорам ад іншых адстаць?!
Дайце зробім, каб больш ня было так—
Ды з балотам пачнем ваяваць!

Чуў я вашыя скаргі і стогны:
„Няма пашы, лугоў і зямлі!“
Вось ляжаць залатыя загоны,—
Толькі вы іх узяць не змаглі!“

А старыя і чуць не хацелі,—
Не, няможна балота сушыць!..—
Пакараюць вас грозныя елі
Ці глыне вас балотная шыр!

Але моладзь
З вясёлым Міколам
Захацела пановаму жыць
І,
На дзіва спалоханым сёлам,
Распачала
Балота сушыць.

III

Йшлі гады...
Залатыя дзяньніцы
Зазьвінелі ў краі перамог,
Ў паднябесьсі пяялі зарніцы
Аб яскравасьцях новых дарог.

Дзе калісьці
Ў крывавыя буры
Верхавінамі хвоі гулі,
Дзе калісьці
Страшныя віхуры
Ў агняцьветах маланак цьвілі,—

Там сягоньня
Красуюць прасторы,
Там—
Прывольлі зялёных палёў,
Там—начамі
Бялявыя зоры
Апускаюцца ў шэпт каласоў.

Дзе калісьці ляжала,
Як мора,
Балатоў непраходная твань,—
Караблём выплывае з-за бору
Залатая
Бліскучя рань...

Праплывае гарачае сонца
Над цьвітучым хваёвым сялом,
Праплывае
Прасторам бясконцым—
Лашчыць ніў залатую салому...

Вёска Гніль дзе стаяла калісьці—
Новы сьпеў сёньня звонам гудзіць;
Дзе згнівала апаўшае лісьце—
Вёска Новая Доля стаіць.

Старшынёй сельсавету—Мікола,
Ён кіруе вясковым жыцьцём,
А на ўзгорку—працоўная школа—
Вылятае з жыцьця буралом...

Дзе балота панура шумела,—
Там красуюць разлогі палёў,
Долу хіліцца жыта пасьпелае
Пад цяжарам буйных каласоў.

Вецер лашчыць раку залатую,
Ўкола—
Радасьці іскрысты цьвет...

. . . . . . .

Так дакончыў аповесьць даўгую
Пасівелы і радасны дзед.

Менск, 1927 г.

# ШЛЯХІ ВЯДУЦЬ...

**Падабед Язэп**

Вянок пачуцьцяў
на магілу адышоўшых.

Шляхі вядуць... Вядуць і абрываюцца...
Ня сьціхла Навальніца,
і—чалавек гарыць...
У гэткі час дубы так часта валяцца,
а іх жывіца
цячэ да новых дрэў мяздры...

К магілам сьвежым, незарослым, волатаў
з наўкол зышліся тропы.
Пашана, ты—крышталь!
Ударыў гром—і неба шлём расколаты...
А сьцяг жалобы—
да болю раніць сонца-даль...

Шляхі вядуць... Вядуць і абрываюцца...
Ня сьціхла Навальніца,
і—чалавек гарыць...
Дубоў-асілкаў многа яшчэ зваліцца...
Але зарніца—
дзень родзіць Новае Пары.

## БАЯВАЯ ПЕСЬНЯ

**Падабед Язэп**

...Военные ветры
в степях отдыхают.
*М. Сьветлов.*

Мы ў сэрцы насілі,
мы ў песьнях пяём
змаганьня часіны
і бурных баёў.

Гады адзьвінелі,
а памяць жыве
пра сьвісты шрапнэляў,
агнёвых завей...

Мы сёньня—на варце
і новых шляхох:
у Творчае Заўтра
Вялікі паход.

І мы не астылі
мінулым гарэць:
брытанскія стыні
плывуць з-за марэй...

Адвагаю звоняць
гады барацьбы.
Іх нельга ня помніць,
іх нельга забыць!

У новых паходах
паўторым мы іх,
калі ад заводаў
паклічуць баі...

А сёньня—на варце
і новых шляхох:
у Сьветлае Заўтра
Вялікі паход.

Хай ворагі выюць,—
напеў наш зьвініць
пра дні баявыя
і творчыя дні!

# СЁНЬНЯ ТОЛЬКІ РАДАСЬЦЬ...

**С. Ярмак**

Сёньня толькі радасьць, сёньня толькі шчасьце,
Сёньня ў сэрцы жалю аніяк няма...
Трэба-ж так, каб сталася, трэба так прапасьці
Смутку непраглянднаму, сэрца што абняў!

Сёньня мне так весела, хочацца сьмяяцца,
І каб сьмехам юным зялячыць ўсю боль...
І ўсяму пражытаму ў думках ня узьняцца,
Каб параніць сэрца, сэрца жалем больш...

То гучэце, струны, то імчыся, песьня,
Бо сягоньня вольна, вольнасьці я рад!
І жыцьцё бязьмерна мяне сёньня песьціць
І заве к змаганьню... бо яму я брат!

Сёньня мне так весела, хочацца сьмяяцца,
І каб сьмехам юным залячыць ўсю боль...
І ўсяму пражытаму ў думках ня узьняцца,
Каб параніць сэрца, сэрца жалем больш...

в. Каменка

# ДЗЕСЯЦЬ ГОД

*(Кароткі экономічны агляд БССР)*

**М. Карклін**

## Першыя гады

Надышла Кастрычнікавая рэволюцыя... Рабочая кляса ў 1917 годзе ўзяла ў свае рукі ўладу і гэтым усклала на сябе ўвесь клопат ня толькі па лініі політычнага, але і экономічнага аднаўленьня на соцыялістычных асновах як Расіі, так і ўсіх тых дзяржаўных аб'яднаньняў, што цяпер знаходзяцца ў складзе Савецкага Саюзу.

Соцыял-дэмократычная партыя (бальшавікоў), цяперашняя комуністычная партыя (бальшавікоў), абвесьціла барацьбу за дыктатуру рабочае клясы, стала фактычным адзіным кіраўніком усіх дзяржаўных політычных і экономічных пытаньняў краіны.

Але перш, чым распачаць непасрэдную працу па ажыцьцяўленьні лёзунгаў, выкінутых Кастрычнікавай рэволюцыяй, комуністычнай партыі ды ўсёй рабочай клясе Савецкае Расіі прышлося адбіць яраснае супраціўленьне ўсіх дробна-буржуазных партый, шматлікія ўзброеныя паўстаньні, саботаж, а таксама ліквідаваць інтэрвэнцыю з боку імпэрыялістычных дзяржаў, разбурыць ваенную ды экономічную блёкаду Савецкага Саюзу і, урэшце, скончыць грамадзянскую вайну.

Пры такіх абставінах, вядома, не магло быць думкі аб хуткім экономічным аднаўленьні краіны. Ішло бязупыннае разбурэньне. Поруч з разбурэньнем капіталістычных форм гаспадараньня адбывалася разбурэньне ўсяе гаспадаркі краіны наогул, што зьяўлялася вынікам стратэгічных меркаваньняў адступаючай буржуазіі, помсты і распраў з боку шматлікіх контр-рэволюцыйных сіл.

Ня прыходзіцца цяпер покуль што паўтараць усе гэтыя абставіны, яны яшчэ ня зьніклі з нашай памяці. Пра іх шмат гаварылася і пісалася ня толькі ў нас, аб гэтым шмат пісалі і па-за межамі. У прыватнасьці па Беларусі можна было-б падаць шэраг фактаў, як гінулі ад пажараў цэлыя вёскі, забіраліся цэлыя статкі жывёлы, узрываліся чыгуначныя масты, разбураліся заводы і фабрыкі,—якія яскрава апісваюцца ў нядаўна выданай кнізе „Интерпеляции Белорусских послов".

Вядома, што ў першыя гады пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі пры такіх абставінах рабочай клясе прыходзілася перш за ўсё накіроўваць

усе свае сілы на тое, каб замацаваць сваю ўладу і сваё кіраваньне, каб потым ужо можна было перайсьці да ажыцьцяўленьня лёзунгаў Кастрычнікавай рэволюцыі.

Окупацыя і грамадзянская вайна асабліва цяжка адбіліся на гаспадарцы Беларусі. Возьмем хоць-бы даныя па мясцовай прамысловасьці. Вось адзін з тэзісаў дакладу аб стане мясцовай прамысловасьці, зробленага мною ў 1926 годзе на 3-яй сэсіі ЦВК БССР: „Пасьля вайны мясцовая прамысловасьць падпала пад вялікае разбурэньне. Лічбаў, якія маглі-б характарызаваць ступень гэтага разбурэньня па ўсёй БССР, няма, але досыць падаць прыклад дзьвёх акруг: Аршанскае і Менскае. У Аршанскай акрузе да вайны было 22 кахленыя заводы з 2.000 рабочых, цяпер толькі два заводы з 164 рабочымі; бровараў было 21 з 420 раб., цяпер-жа 4 з 80 раб.; быў хэмічны завод з 250 раб., які зараз не працуе; быў кастмольны завод з 100 раб.—цяпер разбураны; была гута з 300 раб.—цяпер зьліквідавана і г. д. У Менску было 7 цагелень, выраблёўшых 15 млн. цэглаў—цяпер працуе 2 заводы, якія даюць 5 з паловай мільёнаў цэглаў; было 6 мэталяапрацоўчых заводаў—цяпер ад іх засталіся толькі адны сьцены; было 6 абойных фабрык, цяпер працуе толькі адна фабрыка.

Такі-ж самы малюнак назіраецца і па ўсіх акругах, і чым бліжэй да граніцы, тым большымі становяцца разбурэньні".

На гэтай-жа сэсіі старшыня тав. *Чарвякоў* у сваім заключным слове падаў шэраг дакумантаў з нядаўнага мінулага, якія з надзвычайнай яскравасьцю перадаюць усе „культурныя" падзеі адступаючых белапалядкіх войск у 1920 годзе.

Напрыклад—дакумант, які характарызуе настрой насельніцтва: „Становішча жыхарства зрабілася зусім нявыносным. Цяжкое ярмо польскае окупацыі прыціснула ўсіх абываталяў; амаль што ўсе, апроч невялікай жменькі спэкулянтаў, паноў, галадавалі. Польскія банды тэрорызавалі ўсё жыхарства, рэзалі бароды, лавілі на работу і як мага зьдзекваліся над беднымі базабароннымі яўрэямі. Ня дзіва, што ўсё жыхарства, як ласкі з неба, чакала вызваленьня з-пад гэтага нясьцерпнага ярма".

Але гэта толькі пачатак. Самое разбурэньне толькі пачынаецца, і дасягае высокага свайго стопню ў самы момант адступленьня белых войск і наступу чырвоных войск. Вось што запісана ў дакумантах сьведкаў: „8-га мая, у 3 гадзіны раніцы, вораг стралянінаю з гармат пачаў руйнаваць Барысаў з правага берагу Бярэзіны. У 9 гадзін раніцы палякі адкрылі па Барысаву гураганны артылерыйскі агонь, страляючы хэмічнымі і запальваючымі знарадамі.

Было выпушчана каля 800 шасьці і васьмі-цалёвых знарадаў, ад якіх загарэлася некалькі будынкаў. Дзякуючы ветру, агонь ахапіў палову гораду.

Да сьмерці напалоханае жыхарства гораду, больш як 25.000 чалавек, пахавалася ў склепох. У некаторых склепох набралася каля 200—300 чал.

Наўкол чулася страшэнная траскатня падаючых знарадаў. Да таго-ж знарады падалі ў больш густа заселеныя месцы.

Так, у адзін склеп, дзе хавалася больш за 200 асоб, трапіла чатыры знарады адзін за адным; дом і склеп былі зруйнованы, а людзі, што там схаваліся, былі часткаю перабіты, а часткаю пакалечаны.

Некаторых дзяцей, што там знаходзіліся, сілаю выбуху выкінула ў другі квартал з адарванымі рукамі, нагамі і галовамі. Частка патрапіўшых уцячы з склепу былі забіты і пакалечаны знарадамі, што былі пасланы ім уздагон. Як разьвіднела, палякі пачалі кідаць запальваючыя знарады, і горад запалаў. Страціўшыя галаву жыхары кінуліся былі ратаваць сваю маемасьць з агню, але град знарадаў прымусіў іх у страшэнным перапалоху кінуцца ўцякаць з гораду.

Страшэнныя гэта былі ўцёкі. Наўкола палала вялізарнае пажарышча, над галовамі сьвісталі знарады, тут-жа і падалі, праз забітых і параненых скакалі і беглі далей.

Агонь і сьмерць з усіх бакоў. Гэтак прышлося бегчы пяць вёрст праз гарадзкое поле да лесу, дзе, нарэшце, можна было схавацца.

Там, у лесе, разыгралася трагедыя.

Няшчасныя маткі лемантавалі, ламалі рукі і шукалі сваіх дзяцей, а дзеці шукалі сваіх бацькоў, сёстры—братоў і г. д. Зморания, разьбітыя і абясьсіленыя няшчасныя ўцекачы залягалі ў лесе ў 6-ці вярстах ад гораду.

Барысаў быў не аднэю ахвяраю, якую Беларусь прынесла на алтар свайго ўтварэньня. Гарэў і руйнаваўся з усіх бакоў Менск. Па страшэнных выбухах і пажарах жыхарства Беларусі даведалася аб тым, што „культурныя" заваявальнікі пачынаюць адыходзіць ад гарадоў і мястэчак; як некалі рымскі імпэратар Нэрон, зьверскі, свавольны тыран, спаліў Рым, каб зрабіць сабе прыемнасьць—бачыць пажар,—так польскія генэралы, адступаючы, палілі нашы гарады, мястэчкі і сёлы".

Да ўсяго сказанага няма чаго дадаць—наўрад ці магчыма штонебудзь страшнейшае і больш разбуральнае зрабіць, як гэта „памастацку" рабілі польскія паны.

## Пералом

Толькі 1921 год дае пералом у жыцьці Беларускай Соцыялістычнай Савецкай улады, калі паступова ў цэнтры ўвагі ўдаецца ставіць арганізацыйныя, экономічныя мерапрыемствы па аднаўленьні народнае гаспадаркі. Цікава па матэрыялах кастрычнікавых нумароў нашай „Зьвязды" прасачыць гэты малюнак паступова зьменных абставін, ход жыцьця і процэс экономічнага разьвіцьця БССР.

У адным з кастрычнікавых нумароў „Зьвязды" за 1921 год мы чытаем наступнае вызначэньне тых задач, што комуністычная партыя намячала ў Беларусі. Ударнай задачай у той час была прызнана нацыяна-

лізацыя прадпрыемстваў, умацаваньне ды аднаўленьне транспорту і шэрагу галін нашае прамысловасьці, у прыватнасьці, гарбарнай, паліграфічнай, мэталюргічнай, лясной; адначасна намячаецца задача па ажыцьцяўленьні будаўнічай работы ў вёсцы. Далей—у тэй-жа газэце пішацца: „Умовы работы вельмі цяжкія, дзякуючы недахвату сродкаў, сыравіны і абсталяваньня“. Але, ня гледзячы на гэта, работа вядзецца ва ўсіх галінах прамысловасьці. Гуты аднавілі работу, поўнасьцю адноўлены завод „Вікторыя“, пушчана хрустальная фабрыка ў Барысаве, пушчаны фабрыкі „Бярэзіна“, „Вулкан“, папяровая „Папірус“ і кардонавая „Яніна“. Гарбарная прамысловасьць концэнтруецца ў 7-мі заводах, мэталёвая прамысловасьць на заводах „Энэргія“, „Мэталь“ і „Таура“ (у Мазыры); з лесапільных заводаў працаваў 21 завод: два фанэрныя, адна цьвіковая фабрыка і адна фабрыка па вырабу аптэкарскіх скрыначак і шэраг крухмальных і броварных заводаў.

Вось, прыблізна, усё тое, што к пачатку 1921 году ўдалося пусьціць у ход.

На вёсцы, апрача пачатку будаўнічых работ, намячаецца значная падрыхтоўчая ды організацыйная работа па перадачы зямлі працоўным, і пачалося ўжо разьмеркаваньне зямлі. Зямляўпарадчыя работы, дзякуючы недахвату спэцыялістых, яшчэ не пачыналіся, агрономічная работа знаходзіцца толькі ў зачатку; па мэліорацыі пачынаюцца толькі вышукальныя работы.

Вось асобныя рысы, якія напамінаюць нам цяпер, што мы мелі ў 1921 годзе.

Пасьля чатырох гадоў Кастрычнікавае рэволюцыі мы маем усім памятнае зьявішча—голад у Паваложжы, што моцна адбілася на тэмпе нашага гаспадарчага ўзросту. Улада знаходзілася ў руках саветаў, але яе прыходзілася яшчэ замацоўваць ня толькі адміністрацыйна, але і экономічна, бо надта малы процант саветаў у той час займаўся экономічнаю работаю, а работа іх, галоўным чынам, концэнтравалася вакол пытаньняў адміністрацыйных. У той час мы бачым усякія ўнутраныя затрудненьні: нездаволеньне, бандытызм ды інш. Комуністычная партыя ў 1921 годзе, у гадавіну Кастрычнікавай рэволюцыі, папераджае, што мы павінны быць гатовы да новых ускладненьняў да новай магчымай інтэрвэнцыі з боку капіталістых, і таму нам трэба ўзмоцніць нашу армію, але гэта не павінна тармазіць пераход на больш спакойную гаспадарчую работу, і поруч з такімі заклікамі, якія мы яшчэ часта сустракаем у газэтах таго часу, ня гледзячы на гэта, усё болей і болей увагі нашы газэты аддаюць экономічным мерапрыемствам. У адным месцы тав. *Кнорын*, вызначаючы чарговыя задачы, піша: „Мы вышлі на барацьбу за хлеб, але ў нас у краіне голад. І задачаю 5-га году нашай барацьбы і работы зьяўляецца далейшая барацьба за хлеб. Ужо не за права на хлеб, а за стварэньне самога хлеба“.

Поруч з заклікам да ўсяго несельніцтва: „Дапамажэце галадаючым Паваложжа“, мы сустракаем ужо лёзунгі: „Падняцьце сельска-гаспадарчай вытворчасьці... Устанаўленьне найлепшых форм зямлякарыстаньня... Устанаўленьне лепшых форм узаемаадносін гораду з вёскай“,—каб гэтым стварыць магчымасьць дапамогі ў сваёй гаспадарцы, а пры бядзе і суседу.

Такім чынам, у дадатак да нашых уласных труднасьцяй, якія ляжалі вялікім цяжарам на Беларусі, трэ‘ было, у імя солідарнасьці, у імя захаваньня Кастрычнікавых заваёў, дапамагаць сялянам Паваложжа, і беларускія рабочыя ды сяляне з сваіх мізэрных сродкаў выдзялялі ўсё магчымае на гэту справу.

## 1922 год

1922 год—палова шляху, які мы прайшлі да сучаснага моманту. Экономічныя проблемы ставяцца ўжо значна глыбей і шырэй, чым яны стаялі ў 1921 годзе. Зроблены значны крок наперад у сэнсе організацыйнага замацаваньня мерапрыемстваў, якія былі пастаўлены комуністычнай партыяй і савецкаю ўладаю.

Адзначаючы нашы дасягненьні ў галіне аднаўляльнай работы, кастрычнікавы нумар „Зьвязды“ ўжо характарызуе шэраг конкрэтных адмоўных зьяў у разьвіцьці народнае гаспадаркі. Узьнікае пытаньне аб экономічнай перавазе дзяржавы на рынку над прыватным вытворцай. Для вырашэньня гэтай задачы заклікаецца коопэрацыя, і перад ёю ставяцца складаныя і сур‘ёзныя задачы накапленьня сродкаў для пашырэньня таваразвароту. Для рэгуляваньня гандлю і ўстанаўленьня некаторага ўплыву ў стасунку да прыватнага гандляра ствараюцца таварныя біржы. Прамысловасьць у 1922 годзе сындыкавана ўжо амаль на 80 проц. Быў створан іх дзяржаўны банк.

Адзін артыкул у „Зьвязьдзе“ зусім правільна адзначае, што мы, можа, яшчэ ня зусім зьяўляемся гаспадарамі на рынку, мы покуль што яшчэ ня зусім наладзілі нашу прамысловасьць, але затое мы за гэты год (1921-1922) вызначылі шлях да гэтага, і мы маем ужо зачаткі пляновай работы і пачалі барацьбу з прыватным капіталам шляхам узмацненьня дзяржаўнай прамысловасьці і ўзмацненьня ўплыву коопэрацыі ў гандлі.

І ў політычных адносінах краіна таксама ўзмацавалася: зьліквідаваны канчаткова контррэволюцыйныя банды, якія групаваліся ў лясох і балотах; міжнародны бандытызм таксама пераможаны і канчаткова заняпаў. Гэтыя ўмовы стварылі магчымасьць больш пасьпяховай работы па далейшаму мірнаму гаспадарчаму будаўніцтву.

У тым-жа годзе адзначаецца яшчэ адзін важны фактар у нашым жыцьці, а менавіта—у шэрагах інтэлігенцыі, якая да таго часу стаяла па-за нашай работай і барацьбою, заўважаецца пэўнае зрушэньне, і ў 5-ю гадавіну большасьць ужо з намі.

Пры дапамозе новай экономічнай палітыкі нам удалося ажывіць гаспадарчае жыцьцё краіны. Але нэп таксама адрадзіў і буржуазную ідэолёгію, і ў сувязі з гэтым, перад намі паўсталі новыя задачы, якія яскрава высьветлены Т. І. Ошэровічам у адным з нумароў „Зьвязды“ ў артыкуле „Кастрычнік—база пролетарскай культуры“. Ён піша: „У першы год мы зламалі царскі буржуазны апарат улады; другі год быў годам суровай грамадзянскай вайны, барацьбы з бандытызмам; трэці год—перамога на ўсіх ваенных франтох; чацьверты год—значная перамога на фронце голаду і разрухі; а пяты год, поруч з замацаваньнем гаспадарчых дасягненьняў, высоўвае, як адну з найважнейшых задач, барацьбу на ідэолёгічным фронце“. Такое вызначэньне сапраўды правільна малявала стан таго часу. Шэраг нашых гаспадарнікаў і гаспадарчых установ, захапіўшыся „свабодай нэпу“, рашыў, што нэп—гэта адступленьне, адступленьне без канца, няправільна зразумелі становішча таго часу і нарабілі значных памылак. Яны няправільна зразумелі, што пастаўлены тады лёзунг „всерьез и надолго“, які праз некаторы час быў дэталёва распрацаваны ў нашай партыі, ёсьць толькі манэўр, што нэп павінен стварыць умовы не адступленьня, але наступленьня.

Гэта барацьба за пролетарскую ідэолёгію, за пролетарскую культуру ва ўмовах нэпу, ва ўмовах пэўнага адраджэньня прыватнага капіталу, сапраўды зрабілася актуальнай задачай, калі на гаспадарчым фронце ішла барацьба за скарыстаньне капіталістычных мэтодаў у інтарэсах пролетарскае дзяржавы.

Так з году ў год мы ўсё бліжэй падыходзім да ажыцьцяўленьня нашых гаспадарчых задач, усё больш конкрэтна ставім перад сабою гэтыя задачы, усё больш замацоўваем вызначаныя мерапрыемствы.

## 1923 год

Прамысловасьць запрацавала як сьлед. Дзяржаўны гандаль і коопэрацыя заваявалі цэлы шэраг позыцый у прыватнага капітала. Высоўваецца новы лёзунг: „Прыбытковасьць сельскай гаспадаркі немагчыма падняць высокімі цэнамі, трэба падняць яе ўраджай“. Ва ўсёй нашай гаспадарчай рабоце адчуваецца ўжо такі вялікі размах, што ставіцца пытаньне аб недахваце сродкаў. І адказам на гэта пытаньне зьяўляецца лёзунг: „Трэба эканоміць ва ўсім, трэба дабіцца патаненьня сельска-гаспадарчых продуктаў і даць гэтым магчымасьць для росту дзяржаўнай прамысловасьці“. Вызначаецца далейшая лінія разьвіцьця прамысловасьці і ўздыму тых галін, што абслугоўваюць масавае спажыцьцё. Лёзунгі адзначаюць ужо значны рост нашых таварных зваротаў, павялічэньне крэдытных опэрацый і пачатак уздыму буйнае прамысловасьці. Вельмі востра стаіць яшчэ пытаньне разыходжаньня цэн, стварыўшае агульнае затрудненьне для далейшага разьвіцьця сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. У той-жа час высоўваецца лёзунг паляпшэньня гандлёвага апарату, па-

таненьня яго, а таксама зьмяншэньня выдаткаў вытворчасьці. Комуністычная партыя гаворыць праз свае цэнтральныя органы: „Хочаш міру—паляпшай гаспадарку, зрабі больш таннай сельска-гаспадарчую сыравіну, падымі прамысловасьць, падтрымай чырвонага дырэктара, абкружы рупівасьцю ды любасьцю нашу Чырвоную армію і Чырвоную флёту, дай селяніну даступныя па цане тавары“. Гэтымі лёзунгамі падкрэсьліваецца, як павінна разумецца і што павінна даць сувязь гораду з вёскай.

## 1924 год

1924 год праходзіць амаль што цалком пад лёзунгам усё большага замацаваньня пролетарскага кіраваньня ў вёсцы: „Уся ўвага, усе сілы на вёску“. За гэтыя гады барацьбы сумесна рабочых і сялян на франтох ваенных і гаспадарчых—вёска значна перарадзілася, скінула з сябе адвечную сьпячку, санлівасьць, ленасьць, незацікаўленасьць да падзей і спраў, і стала новай, маладой, моцнай і здольнай да творчага жыцьця. Рабочаму даецца заданьне: „100 проц. даваеннага вырабу шляхам паляпшэньня вытворчасьці, падняцьця продукцыйнасьці працы“. Некаторыя галіны прамысловасьці набліжаюцца ўжо да даваеннай нормы. У прыватнасьці, шкляру не хапае ўсяго 4 проц. да даваеннай нормы, папяровіку 9 проц., дражджавіку—1 проц., але некаторыя галіны прамысловасьці адстаюць яшчэ значна: маслабойная на 22 проц. ад даваенных норм, лесапільная—39 проц.,—гэта сьведчыць, што рост ідзе пакуль што неаднолькавым тэмпам і шмат залежыць ад рынкавага запыту ды тэхнічных магчымасьцяй прадпрыемства.

Пэўны рост маецца і ў сельскай гаспадарцы. Лік гаспадарак бяз жывёлы з 4,6 проц. у 1923 годзе зьмяншаецца да 3,8 проц. у 1924 годзе; лік бядняцкіх гаспадарак за гэты-ж год зьмяншаецца з 8,6 проц да 6 проц.

Коопэрацыя перайшла на добраахвотнае членства. Абароты сельскай, а таксама і рабоча-гарадзкой коопэрацыйна-праводнай сеткі павялічылася, прыблізна, у тры разы. Актыўны ўдзел пачынае займаць жанчына ў гаспадарчай рабоце, замацоўваючыся організацыйна ў саветах, коопэрацыі і ў шэрагу іншых грамадзкіх організацый.

## 1925 год

Экономічныя дасягненьні 1925 году вызначаюцца наступнымі данымі па Беларусі: прамысловасьць дасягае 65 проц. даваеннае, заработная плата набліжаецца да даваеннай, лік рабочых павялічваецца на 30 проц. Зямляўпарадкавана да 30 проц. усяе засеўнае плошчы. Засеяна маладым лесам каля 3.000 дзесяцін. Перадана сялянству зямлі з ляснога фонду каля 330 тыс. дзес. Па прамысловасьці дасягненьні перавысілі намечаны плян на 16 проц.; агуловая продукцыя прамысловасьці ў параўнаньні з мінулым годам павялічылася на 47 проц.; на пераабсталяваньне прамысловасьці даецца да 3 млн. руб. Прычым тэмп росту прамысловасьці харак-

тарызуецца наступнымі данымі: паводле пляну на будучы год намячаецца ўжо да 7 млн. рублёў укладаў (замест 3 млн. руб. 1924 годзе), рост продукцыйнасьці працы на 14 проц. і заработнай платы на 10 проц. Кон'юнктура паказвае агульнае зьніжэньне цэн па ўсіх галінах выпусканае продукцыі.

Але адначасна адзначаецца і шэраг недахватаў, якія сконцэнтраваны ў лёзунгах. Высоўваюцца насупныя задачы: павышэньні якасьці продукцыі, выпуск асортымэнту больш падыходзячага для сялянскага рынку тавараў, бо „добраякасная сеялка—самы лепшы сродак замацаваньня сувязі гораду з вёскай“. Пляновасьць ва ўсіх нашых гаспадарчых мерапрыемствах набывае галоўнае значэньне, і ў сувязі з гэтым—лёзунг: „замацоўвай пляновасьць ва ўсёй нашай робоце“.

Гэты-ж год дае надзвычайнае павялічэньне актыўнасьці савецкай грамадзкасьці; выяўляецца яна ва ўзмацненьні крытыкі, з боку працоўных, нашых недахватаў, што гавораць аб росьце зацікаўленасьці рабочых і сялян у гаспадарчых пытаньнях.

У канцы 1925 году агульная продукцыя складае ўжо 119 проц. ад даваеннае, у той час як у пэрыод пераходу да нэпу яна раўнялася ўсяго 18 проц. даваенных.

Бурны тэмп росту нашай прамысловасьці ідзе адначасна з ростам аграмаджанай часткі дзяржаўнай і коопэрацыйнай прамысловасьці, пры адначасным зьмяншэньні ролі прыватнай прамысловасьці...

Стан сельскае гаспадаркі да гэтага часу характарызуецца ростам агулавае продукцыі і, што асабліва паказальна, ростам яе таварнай часткі.

Значны пералом наглядаецца ў справе коопэраваньня насельніцтва. Коопэрацыя робіцца адным з галоўных памочнікаў ажыцьцяўленьня дзяржаўнай лініі ў справе гандлю, зьяўляючыся фактарам у збыце (асабліва на вёсцы) прамысловых тавараў.

## 1926 год

1926 год канчаецца наступнымі лёзунгамі: „Буйная прамысловасьць—грунт Савецкае ўлады“. „Індустрыялізацыя—шлях да соцыялізму“. „Будзем экономіць кожную савецкую капейку,—гэта абавязак кожнага кіраўніка, кожнага рабочага, служачага“. „Лішняе і непамернае раскіданьне сродкаў абы-як—ворагі Кастрычніка“. „Рэжым экономіі правядзем па пролетарску ў інтарэсах соцыялізму“. „Падзешавім, узмоцнім, аздаровім наш дзяржаўны гаспадарчы апарат, скароцім непродукцыйныя выдаткі, павялічым соцыялістычнае накапленьне“. „Ажыцьцяўленьне саветаў—узмацненьне пролетарскага кіраваньня“.

Даныя гаспадарчага разьвіцьця БССР ва ўмовах нэпу паказваюць, што, ня гледзячы на тое, што хоць нэп і зьяўляецца капіталістычнай формай гаспадарчага жыцьця, ён ніяк ня мог паслабіць наступу соцыялістычных элемэнтаў у нашай народнай гаспадарцы.

## Умовы працы 1927 году

Пасьля вышэйсказанага мы можам цяпер параўнаць цяперашнія ўмовы працы з тым пэрыодам, які мы ўжо прайшлі. Мы сёньня ня маем непасрэднай вайны ці інтэрвэнцыі, але стаім перад ваеннай небясьпекаю. Поруч з лёзунгам індустрыялізацыі краіны мы высоўваем і заклік: будзем рыхтавацца з такою-ж энэргіяй, як і ў першыя дні жыцьця Савецкае ўлады, да абароны нашых заваяваньняў. Мы ня маем цяпер такіх контррэволюцыйных выступленьняў, як гэта было 1920 і 21 г. г., але мы маем цяпер другія, больш гібкія, формы контррэволюцыйнае работы, як: напады на нашы прадстаўніцтвы за межамі, забойствы нашых упоўнаважаных прадстаўнікоў, падрыхтоўкі асобнымі контррэволюцыйнымі групамі ўзрываў на заводах і замахаў на савецкіх працаўнікоў.

Так што „приемственность" у цяперашніх нападках, калі можна так сказаць, у гэтай рабоце бязумоўна маецца: з адкрытай інтэрвэцыйнай політыкі яна перарадзілася ў напады з-за вугла, і таму нам прыходзіцца быць на старожы да гэтай работы і аддаваць яшчэ штодзенную ўвагу. Мы ня маем ужо адкрытаімі блёкады процiў савецкае дзяржавы, але мы штодзень стыкаемся з адкрытымі экономічнаю і фінансаваю блёкадамі замежных дзяржаў, асабліва ў пытаньнях гандлю, і асабліва мы гэта назіраем з боку ангельскага капіталізму. Мы маем выпадкі зрываў у шэрагу дзяржаў нашых дагавароў на дастаўку хлеба, лёну ды іншых відаў сыравіны. Голаду ў краіне мы не адчуваем, але, ведаючы з практыкі нашай гаспадаркі, што недаўраджай у некаторых раёнах Савецкага Саюзу мае цыклічны характар, компартыі прыходзіцца шырака ставіць перад савецкай грамадзкасьцю пытаньне аб падрыхтоўцы спэцыяльных фондаў, хлебафуражных рэзэрваў, павялічэньні дзяржземфондаў для забесьпячэньня засушлівых раёнаў насеньнем, якое не баіцца сухменю, каб гэтым гарантаваць сябе ад выпадковасьцяй.

Такім чынам, мы бачым, што шэраг пытаньняў, якім мы павінны былі аддаваць усе нашы сілы і ўвагу ў першыя гады існаваньня Савецкае ўлады, стаяць перад намі і цяпер. Мы цяпер ня маем тых разбурэньняў, якія некалькі гадоў таму назад сустракаліся на кожным кроку, але мы цяпер яшчэ констатуем у нашай працы шэраг недаглядаў і недахватаў пры ажыцьцяўленьні нашых гаспадарчых мерапрыемстваў. Нэп, у выніку правільнага кіраваньня партыі, не стварыў спрыяючых умоў для разьвіцьця прыватнага капіталу, але мы і цяпер яшчэ можам адзначыць выпадкі, калі ў асобных галінах, дзе наша праца яшчэ слабая, прыватны капітал выпаўзае на арэну і скарыстоўвае нашу слабасьць. Мы намячаем цяпер ужо досыць выразныя пляны ня толькі на бліжэйшыя месяцы, але і на шэраг гадоў уперад, мы маем ужо пэрспэкцыйны пяцігадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі і прыступаем да падрыхтоўкі генэральнага пляну на больш доўгі пэрыод для таго, каб яшчэ выразьней вызна-

чыць тую рэальную мэту, програму, выяўленую ў рэальных лічбовых матэрыялах, адбіваючых, чаго павінна дасягнуць Савецкая ўлада ў бліжэйшыя гады, ажыцьцяўляючы паступова програму комуністычнай партыі. З ажыўленьнем работы саветаў, з умацаваньнем плянавай дысцыпліны на мясцох, з уцягненьнем шырокіх рабочых і сялянскіх мас у ажыцьцяўленьне нашых вытворчых плянаў—мы можам ужо паставіць задачы дэцэнтралізацыі выкананьня нашых плянаў, г. зн. ускладаньне на месцы ў большым разьмеры, чым да гэтага часу, ажыцьцяленьне гэтых плянаў.

З кароткага параўнаньня папярэдняй работы мы бачым яшчэ адно, гэта тое, што з кожным годам усё болей і болей і замацоўваецца сувязь рабочых і сялян з адначасным замацаваньнем уплыву комуністычнай партыі; вакол лёзунгаў партыі ўсё шчыльней групуецца ўсё здаровае, усё сумленнае, яднаючыся ў адным захапленьні творчай працай.

## 1927 год

За мінулыя гады нам удалося аформаваць БССР, як адміністрацыйную і экономічную адзінку. Усім вядома, што пасьля сканчэньня савецка-польскай вайны тэрыторыя Савецкай Беларусі складала ўсяго 52 тыс. кв. клм. з насельніцтвам трохі больш паўтара мільёны чалавек. У 1924 годзе Беларусь пашырылася, і тэрыторыя яе складае ўжо звыш 109 тысяч кв. клм. з насельніцтвам каля 4.200 тысяч чалавек. Урэшце, з апошнім пашырэньнем у 1926-27 годзе і з далучэньнем да БССР часткі был. Гомельскай губэрні, тэрыторыя Савецкай Беларусі займае ўжо звыш 125 тыс. кв. клм., з лікам насельніцтва каля 5 млн. чалавек. Гэта хуткае пашырэньне тэрыторыі Беларусі, выкліканае канечнасьцю стварэньня цэльнай у экономічным і нацыянальным стасунку адзінкі, вядома, пашырае і экономічную моц ды робіць больш цяжкімі нашы гаспадарчыя мерапрыемствы.

Цікава падаць даныя аб росьце нашых гарадоў у параўнаньні з даваенным часам.

Рост гарадзкога насельніцтва па галоўных гарадох Беларусі паводле даных ЦСУ:

| | 1926 год | 1923 год | 1897 год |
|---|---|---|---|
| Бабруйск . . | 50.398 | 36.656 | 34.336 |
| Барысаў . . | 25.734 | 18.225 | 15.063 |
| Віцебск . . | 98.809 | 90.918 | 65.871 |
| Гомель . . . | 86.236 | 77.604 | 36.775 |
| Менск . . . | 130.838 | 110.926 | 90.912 |
| Магілеў . . . | 50.244 | 43.459 | 43.119 |
| Мазыр . . . | 9.698 | 8.323 | 8.076 |
| Ворша . . . | 21.991 | 20.414 | 13.061 |
| Полацак . . . | 25.950 | 19.330 | 20.294 |
| Рэчыца . . | 16.542 | 15.139 | 9.280 |
| Слуцак . . . | 15.988 | 13.708 | 14.349 |

Другімі словамі, адбываецца концэнтрацыя і групаваньне насельніцтва ў больш буйных цэнтрах БССР, што зьяўляецца вынікам разьвіцьця прамысловасьці, павялічэньня рабочае клясы і росту культурных сіл.

У кастрычнікавым нумары „Зьвязды“ за 1924 год быў зьмешчаны цікавы артыкул пад назваю „Чаго ня было раней і што ёсьць цяпер“.

У ім пералічаецца цэлы шэраг новых устаноў, узьнікшых за часы Савецкае ўлады: клюбаў, нардамоў, хат-чытальень, саўпартшкол, вячэрніх школ, школ фабрычна-заводзкага вучнёўства, сельска-гаспадарчых школ, вузаў, інстытутаў і г. д. Цяпер гэты сьпіс можна было значна павялічыць. З гэтага можна бачыць, што хутка разьвіваецца ня толькі наша ніжэйшая культурна-асьветная сетка і ўсякія дапаможныя культурныя ўстановы, якіх Беларусь да рэволюцыі наогул ня ведала, але і сетка вышэйшых навучальных і навуковых устаноў. У прыватнасьці, трэба адзначыць такія ўстановы, як С.-Г. Акадэмія, Комуністычны Унівэрсытэт, Дзяржаўны Унівэрсытэт, Інстытут Беларускае Культуры, Навукова-Дасьледчы Інстытут імя Леніна ды іншыя навучальныя і навуковыя ўстановы, дзе рабочая і сялянская моладзь з посьпехам рыхтуецца да свае будучае практычнае працы па падняцьці культурнага і экономічнага роўню БССР.

Даныя аб разьвіцьці сельскай гаспадаркі па агулавай продукцыі даюць наступны малюнак: з 414 млн. даваенных рублёў у 1926-27 годзе яна павялічаецца да 442 млн. даваенных рублёў у 1927-28 годзе, г. зн. рост каля 6% пры проекце зьніжэньня цэн на хлеб на 2% і на мяса да 5%.

Калі параўнаць гэтыя даныя з матэрыяламі аб долі прамысловай продукцыі ў агульнай народнай гаспадарцы, дык мы ўбачым наступны малюнак (росту долі ў процантах): 11,9% у 1924-25 годзе; 15,3% у 1925-26 годзе і 17% у 1926-27 годзе, г. зн. прамысловая частка расьце значна з году ў год і ў сваю чаргу робіць уплыў на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі.

Асабліва яскрава гэтая тэндэнцыя відаць з табліцы, якая паказвае процантны рост таварнай часткі продукцыі сельскай гаспадаркі. Таварная частка ў мільёнах рублёў складала ў 1924-25 годзе 62,8 млн. даваенных рублёў; у 1925-26 годзе—67,9 млн. рублёў і ў 1926-27 годзе пры недародзе—59,6 млн. рублёў.

Рост засеўнае плошчы дае павялічэньне за кошт пашырэньня кліну тэхнічных культур, г. зн. тых культур, якія патрэбны для далейшага разьвіцьця нашай прамысловасьці, і гэтым самым ствараецца моцная база сыравіны для далейшага разьвіцьця нашай прамысловасьці.

Гэта сьвядомае рэгуляваньне шэрагу процэсаў і ў нашай сельскай гаспадарцы дае магчымасьць ставіць такія задачы перад ім, як, напрыклад, па контрольных лічбах разьвіцьця народнае гаспадаркі на 1927-28 год: засеўны клін павінен пашырыцца на 2,3%, а лёну—на 11,6%, бульбы—на 4,8%, ячмень—на 11,5%, пасеўных траў—на 10%.

Рост проценту прамысловасьці ў агульнай таварнай масе за 1924-25 год складаў 46,1%, за 1925-26 год—52,5% і за 1926-27 год—58,7%; рост проценту рабочых у агульнай масе занятых у працы наёмных асоб (без парабкоў) у 1924-25 годзе складаў 17,6%, у 1925-26 годзе—18,8% і 1926-27 годзе—20,1%, пры адначасным росьце продукцыі прамысловасьці ВСНГ у 1925-26 годзе—на 46,1%, а ў 1926-27—на 15,9%, вытворчасьці працы каля 5% у мінулым і гэтым годзе, 39,5% росту агульнага ліку рабочых у 1925-26 годзе і 10,6% у 1926-27 годзе, пры росьце заработнай платы на 11,8% у 1927 годзе.

Рост коопэраваньня шырокіх мас рабочых і сялян вакол вытворчых мерапрыемстваў таксама мае месца.

Спажывецкая коопэрацыя давяла лік членаў да 350 тыс., а сельскагаспадарчая—да 220 тыс., што дало магчымасьць пры дзяржаўнай дапамозе (ільгот і крэдытаў) значна зьнізіць, паводле даных Наркамзему, процант беспасеўных гаспадарак з 9,8% у 1917 годзе да 1,4% у 1926 годзе, гаспадарак бяз коняй—з 15,5% да 13%, гаспадарак без кароў—з 9,5% да 43% і бяз усякае жывёлы—з 4,8% да 1,3%.

Прыватны сэктар па агуловай продукцыі ў цэнзавай прамысловасьці за 3 гады зьмяняўся такім чынам: з 4,9% у 1924-25 годзе, зьменшыўся да 2% у 1926-27 годзе. У дробнай прамысловасьці (тут і саматужная) роля прыватніка пакуль што зьяўляецца наступнай: 88% у 1924-25 годзе і 83,8% у 1926-27 годзе. Такім чынам, мы можам адзначыць, што ў цэнзавай прамысловасьці прыватны капітал адыгрывае надзвычайна малую ролю, але затое ў дробнай ён займае вялікае месца, г. зн. з 43 міл. рублёў усяе агуловае продукцыі ўладае 36 міл. руб.

Гэта ня можа быць небясьпечнай зьявай у народнай гаспадарцы, дзякуючы сваёй распыленасьці, і калі дзяржаўная ды коопэрацыйная цэнзавая прамысловасьць складаюць 125 міл. рублёў агуловай продукцыі ў 1926-27 годзе.

У справе гандлю ва ўсім звароце як оптавым, так і раздробным прыватнік з 33,7% у 1924-25 годзе зьменшыўся да 30,7% у 1926-27 годзе з перавагаю проценту ў розьніцы, г. зн. у 46,8% у 1926-27 годзе замест 53,5% у 1924-25 годзе. Гэтая дынаміка лічбаў паказвае, што і ў гэтым цяжкім пытаньні, як гандаль, дзяржаўны і коопэрацыйны гандаль бязупынна пракладаюць шлях да шырокага спажыўца—рабочага і селяніна.

## Вынікі 1927 году

Прыведзеныя ў гэтым разьдзеле даныя яскрава сьведчаць аб тым, якіх посьпехаў можа дасягнуць рабочая кляса ў саюзе з большасьцю сялянства. Гэта паказвае значэньне кіраваньня комуністычнай партыі ў гаспадарчым пытаньні; гэта адначасна паказвае, як глыбака ўжо пусьцілі карані ідэі соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Зразумела, што такі хуткі рост савецкае дзяржавы не падабаецца ангельскім „цьвёрдалобым“ як Чэмбэрлену і Балдуіну, так і гэроям імпэрыялістычнай вайны, напрыклад, генэралу Фошу ды іншым, якія, скрыгаючы зубамі, заклікаюць да адкрытага ваеннага выступленьня процiў Савецкага Саюзу.

Яны жадаюць спыніць наш рост і хочуць паставіць нашу соцыялістычную дзяржаву ў такія-ж умовы, у якіх знаходзяцца колёніяльныя краіны, жадаюць паставіць на калені рабочых і сялян Савецкага Саюзу перад капіталістычным сьветам. Але гэтаму ня бываць. Мы моцны ня толькі моцнасьцю Савецкага Саюзу, але мы моцны яшчэ і тым, што маем сяброў у лягеры нашых ворагаў,—гэта рабочая кляса ўсяго сьвету, гэта масы колёніяльных краін, якія ўсё больш ды больш рэволюцыянізуюцца. У гэтым наша сіла, у гэтым слабасьць нашых ворагаў і зарука нашай перамогі над імі. Мы бачым, як лявее рабочая кляса Эўропы, у прыватнасьці, рабочая кляса Ангельшчыны, мы бачым, як лявеюць шырокія масы ў колёніяльных краінах—Кітаі, Індыі і г. д. Вельмі характэрным у гэтым стасунку зьяўляецца апошні паядынак між рабочай клясаю і буржуазіяй у сувязі з забойствам *Сако* і *Ванцэці*. Гэты паядынак паказаў згоднасьць усяе рабочае клясы, протэставаўшае супраць сусьветнае буржуазіі, якая солідарызавалася ў пытаньні аб забойстве двох нявінных рабочых-анархістых. Няхай паспрабуе буржуазія пры такіх абставінах, пры рэволюцыйным полымі, якое ўсё больш ды больш разгараецца, узьняць руку на соцыялістычнае вогнішча СССР. Мы рыхтуемся сустрэць нашых ворагаў належным чынам.

## Цяжкасьці і недахваты

Каб перайсьці да задач, якія стаяць перад намі на бліжэйшы час, канечна трэба раней паступова адзначыць тыя цяжкасьці, якія мы маем у БССР. Павінен агаварыцца, што некаторыя з гэтых цяжкасьцяй ужо адзначаны апошнім пленумам УсеКП(б) у дакладзе аб контрольных лічбах. Яны часткаю об'ектыўна адбіваюцца і на працы ў БССР. Прыходзіцца адзначыць, што, поруч са шмат якімі станоўкімі момантамі ў нашай працы, мы маем за апошні год шэраг адмоўных зьяў. Мы маем, напрыклад, значнае адставаньне росту продукцыйнасьці працы ад росту заработнае платы па прамысловасьці ВСНГБ; мы маем і такую адмоўную зьяву, як рост сабекошту прамысловай продукцыі на І-ае поўгодзьдзе апошняга году. Праўда, апошні момант выкліканы ўмовамі не заўсёды залежнымі ад нас, бо гэты рост сабекошту зьвязаны з умовамі разьвіцьця ўсяе саюзнае прамысловасьці, у прыватнасьці, уздаражаньнем сыравіны, чыгуначных тарыфаў і г. д., але ўсё-ж нам прыходзіцца адзначыць, што ў гэтай справе мы асаблівых посьпехаў за апошні год ня маем. Таксама-ж мы маем аблічку ў прыбытку, які мы намячалі ад прамысловасьці: прыбытак ад прамысловасьці, на які мы

спадзяваліся, сапраўды ня зусім апраўдаўся, бо з чаканага чыстага прыбытку ад прамысловасьці прышлося пакінуць вялікую суму для папаўненьня зваротных капіталаў яе, дзякуючы тэй таварнай дэпрэсіі, якую мы мелі ў гэтым годзе. Мы мелі недалік і ў галіне прамысловага будаўніцтва як у сэнсе адставаньня, як у сэнсе тэрміну намечаных мерапрыемстваў, так і ў сэнсе кошту. У паасобных капітальных работах мела месца слабая эфэктыўнасьць, у паасобных выпадках назіралася няпоўнае скарыстаньне вынікаў капітальнага будаўніцтва. Урэшце, мы мелі ў Беларусі некаторыя затрудненьні ў пытаньні сыравіны, галоўным чынам ільнянае валакніны і ільнянага семя. Гэты апошні момант тлумачыцца (асабліва ў стасунку лёну) тэю зьніжанаю ўраджайнасьцю, якую мы мелі па БССР.

У галіне сельскае гаспадаркі мы мелі такія адмоўныя зьявы, што ў сувязі з быўшым у нас недародам і недахватам збожжа заўважалася некаторае ажыўленьне дзейнасьці вярхушкавых груп вёскі і пявялічэньне ўнутрысялянскага звароту. Надта кульгала, асабліва ў пытаньнях уцягненьня шырокіх сялянскіх мас у справу мобілізацыі вакол шэрагу грамадзкіх момантаў у вёсцы, работа нашай сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Нездавальняюча пастаўлена яшчэ інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі і скарыстаньне сялянскай рабочай сілы.

Урэшце, мы бачым, што беспрацоўе ў гарадох, ня гледзячы на рост нашай прамысловасьці, ня зьменшылася, але ў апошнія часы выяўляе нават тэндэнцыю да некаторага росту, і гэтае зьявы ў бліжэйшыя часы зьнішчыць будзе нельга.

Востра пакуль што стаіць кватэрнае пытаньне, ня гледзячы на вялікую ўвагу, якая аддавалася гэтай справе.

І апошні адмоўны момант, гэта тое, што досыць шырака пастаўленая плянавая праца не заўсёды, аднак, ажыцьцяўлялася з тэю актуальнасьцю і дысцыплінаванасьцю, як-бы гэта было патрэбна. Меліся адступленьні, якія не заўсёды давалі карысьць у справе разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва.

## Задачы

Пры ажыцьцяўленьні тых задач, што стаяць перад намі, нам прыходзіцца грунтавацца, перш за ўсё, на нашых рэальных магчымасьцях і, падругое, мець на ўвазе тыя асаблівасьці, з якімі мы сустракаемся ў працы па БССР. Пагранічнае становішча БССР і яе гаспадарчыя асаблівасьці высоўваюць перад намі спэцыфічныя задачы. Наяўнасьць нескарыстанай рабочай сілы і аграрная перанаселенасьць прымушае нас накіроўваць значныя сродкі на соцыяльныя ды іншыя віды дапамогі; культурная адсталасьць БССР таксама прымушае нас выдзяляць на культурна-асьветныя патрэбы ў пропорцыянальных адносінах больш сродкаў, чым у шэрагу другіх раёнаў саюзу; агульная беднасьць беларус-

кага насельніцтва, слаба разьвітая прамысловасьць з большасьцю аграрнага насельніцтва прымушаюць падкрэсьліваць, што кіраваньне рабочае клясы ў стасунку да сялянства павінна быць асабліва чуткім і прыемлемым.

Гэтыя асаблівасьці ставяць перад намі наступныя конкрэтныя задачы на бліжэйшы час:

1) Паслабіць усімі мерамі аграрную перанаселенасьць БССР. Гэтага неабходна дасягнуць шляхам больш шырокай інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі, разгортваньня ў вёсцы шэрагу мерапрыемстваў вытворчага характару (у прыватнасьці, распрацоўка торпу), організацыі грамадзкіх работ, далейшага ўзмацненьня вытворчых працколектываў, пашырэньня саматужных промыслаў, пашырэньня засеўных плошчаў шляхам увядзеньня ў севазварот новых зямель (разьвіцьцё мэліорацыйных работ) і, урэшце, шляхам перасяленьня часткі насельніцтва ў іншыя раёны Саюзу.

2) Пашырыць наша прамысловае будаўніцтва, ня гледзячы на тое, што ў апошні год ажыцьцяўляецца ўзмоцненым тэмпам шэраг мерапрыемстваў і пачаты шэраг фундамантальных работ, як: пабудова Асінаўскай электрычнай станцыі, чым прадвызначана разьвіцьцё прамысловасьці ў трох буйных акругах (Аршанскай, Віцебскай і Магілеўскай); распачата пабудова Бабруйскага лесакомбінату, і гэтым замацована лінія на шырокае разьвіцьцё ў Бабруйскай акрузе лесаапрацоўчай прамысловасьці і далейшай інтэнсыфікацыі ды распрацоўкі ў Бабруйскай (і Мазырскай) акрузе з шырокім скарыстаньнем прыродных водных і чыгуначна-транспортных магчымасьцяй. У сувязі з гэтым шырака прыдзецца паставіць мерапрыемствы ў сэнсе скарыстаньня нашых водных шляхоў, магчыма нават паставіць пытаньне аб сплаве па Нёмну. Далей, наша тэкстыльная прамысловасьць павінна набыць закончаны від, вырабляючы ня толькі поўфабрыкаты, але і рэчы шырокага спажываньня, у прыватнасьці, галянтарэі, трыкатажу і г. д. Разьвіцьцё гэтае галіны намечана ў Віцебску, а часткаю ў Гомлі ды Менску. Потым у Гомлі ёсьць на ўвазе згрупаваць нашу мэталёвую прамысловасьць і пабудаваць там завод па вырабу сельска-гаспадарчых машын. Разьвіцьцё сярніковае прамысловасьці будзе адбывацца ў Гомлі і Барысаве.

Усе гэтыя гаспадарчыя мерапрыемствы, намечаныя на бліжэйшыя пяць год, павінны павялічыць лік рабочых у нашай дзяржаўнай прамысловасьці ВСНГ каля 54,6%, і доля дзяржаўнай прамысловай продукцыі ў нашай экономіцы павінна значна падняцца звыш, чым на 50% у чырв. рублёх.

3) Але адным толькі ўзмацненьнем уплыву прамысловасьці на сельскую гаспадарку нам ня ўдасца досыць хутка зьмяніць формы сялянскага землякарыстаньня і апрацоўкі зямлі. Таму ўсё больш і больш актуальнае значэньне набывае наша праца па пышырэньні колектыўных форм работы на вёсцы. Таму мы павінны будзем павялічыць нашу ўвагу да работы комун, сельска-гаспадарчых таварыстваў, сябрынь і асабліва на-

шых саўгасаў. Згодна апошніх пастаноў ураду, да сельтрэсту, пад загадам якога знаходзяцца ўсе нераьмеркаваныя саўхозы, павінна перайсьці ўся маемасьць і ўсе тыя саўхозы, што яшчэ не знаходзяцца пад яго загадам, як: прыпісныя і належачыя ўстановам ды г. д. Адначасна павінны быць захованы ўсе прадпрыемствы, якія цяпер знаходзяцца ў саўхозах, павінен быць даны адпаведны крэдыт і зваротны капітал на пашырэньне гэтай справы. Гэтым будзе даны новы штуршок справе ўзмацненьня саўхозаў, як культурных савецкіх асяродкаў на вёсцы, як памочнікаў нашай прамысловасьці ў галіне падрыхтоўкі трывалае базы сыравіны для яе патрэб.

4) Электрыфікацыя павінна зрабіцца грунтам разьвіцьця ўсяе эканомікі краіны. Вось чаму, апроч буйнае станцыі раённага значэньня, якую мы пачынаем будаваць у Воршы, канечна трэба па ўсёй Беларусі пабудаваць шэраг станцый прамыслова-сельска-гаспадарчага значэньня, якія павінны ў першыя часы будавацца і павінны быць зьвязаны з тымі прадпрыемствамі, што блізка знаходзяцца, як млыны, саўхозы і г. д. Такім шляхам трэба дабівацца электрыфікацыі сельскае гаспадаркі, машынізацыі яе і павялічэньня таварнасьці.

5) Наша коопэрацыя, ня гледзячы на яе буйны рост за апошнія гады, асабліва ў галіне ўцягваньня сялянскіх мас у коопэрацыю, усё-ж ня здолела яшчэ поўнасьцю ахапіць усе вучасткі нашага гандлю. У прыватнасьці, у гэтым годзе мы мелі выпадак адставаньня дзяржаўна-коопэрацыйнага гандлю ў справе мясных загатовак ад прыватнага рынку. І гэта, ня гледзячы на тое, што мясныя загатоўкі, у сувязі з нашым імкненьнем пашырыць жывёлаводны ўхіл у сельскай гаспадарцы, мае вялізарнае значэньне ў БССР. Такога роду недагляды ў коопэрацыйнай працы можна знайсьці амаль ва ўсіх галінах коопэрацыі.

Вось чаму наша агульная лінія на бліжэйшыя часы павінна быць у тым, каб большую ўвагу зьвяртаць ня толькі на ўцягваньне мас у коопэрацыйную працу, але і на організацыю мас вакол вытворчых мерапрыемстваў, 100-процантны абхват рынку, асабліва па тых таварах, у якіх зацікаўлены рабочыя і сялянскія масы.

6) Як буйны недахват у разьвіцьці нашай прамысловасьці мы адзначалі нездавальняючы рост продукцыйнасьці працы і некаторы разьбег між ростам продукцыйнасьці працы і заработнай платай. Гэта можа быць апраўдана толькі ў аднэй частцы, іменна, што наша прамысловасьць была вельмі разбурана, і тыя капітальныя ўклады, якія мы зрабілі за апошн год, не маглі яшчэ даць усюды належнага эфэкту. Але ў некаторых мясцох назіраліся такія факты, калі не скарыстоўваліся ні нашымі організатарамі гаспадаркі, ні самымі рабочымі ўсе організацыйныя магчымасьці, якія меліся на некаторых прадпрыемствах.

Рацыяналізацыя прамысловасьці адбываецца пакуль што ня так хутка,—робяцца пакуль што толькі першыя крокі, таксама-ж і зьніжэньне

сабекошту не ажыцьцяўлялася з тэй энэргіяй і рашучасьцю, якая вызначана для яе компартыяй. І, урэшце, задача па палепшаньні якасьці тавараў і лепшага падбору асортымэнтаў у адпаведнасьці з запатрабаваньнем рынку таксама павінна быць пастаўлена яшчэ больш энэргічней, як ударная задача, чым раней.

Павялічэньне капітальных укладаў у нашу цэнзавую дзяржаўную прамысловасьць (замест 6,6 млн. у 1925 г., каля 13,1 млн. у гэтым годзе, а ў будучым каля 19,7 млн.) павінна будзе даць поўны эфэкт у сэнсе зьніжэньня сабекошту, рацыяналізацыі вытворчасьці, паляпшэньня асортымэнту, і дапаможа, у сувязі са зьніжэньнем сабекошту продукцыі, больш эфэктыўна гэтага дасягнуць.

У сувязі з гэтым стаіць і другая ўдарная задача—гэта зьніжэньне будаўнічага індэксу, г. зн., з аднаго боку, лепшая організацыя будаўнічых работ па капітальнаму будаўніцтву, а таксама і ў кватэрнай справе, з другога боку—зьніжэньне цэн на будаўнічы матэрыял з боку прамысловасьці.

7) Пры ўсім жаданьні выдзеліць больш сродкаў на прамысловае разьвіцьцё Беларусі мы прымушаны значныя сродкі накіроўваць на соцыяльна-культурныя патрэбы, бо без падняцьця культурнага ўзроўню мас мы ня здолеем досыць хутка ажыцьцёвіць наша соцыялістычнае будаўніцтва і падняць на належную вышыню сельскую гаспадарку—ня здолеем наогул стварыць неабходную соцыялістычную дысцыпліну ў ажыцьцяўленьні нашых гаспадарчых задач.

Вось чаму культурна-асьветная праца, а асабліва па лініі зьліквідаваньня няпісьменнасьці і ўвядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня, па лініі правільнае пабудовы сыстэмы народнае асьветы і ўвязкі вышэйшае асьветы з сярэдняю, тэхнічнаю і ніжэйшаю—павінна быць пастаўлена перад намі, як неадкладная задача ў галіне ажыцьцяўленьня нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

У прыватнасьці, намечаны рост рабочае клясы, інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі, уцягненьне ў прамысловасьць і сельскую гаспадарку жаночае працы, вядома, высоўвае перад намі канечнасьць разьвіцьця таксама і сеткі нашых культурна-бытавых установаў, як-та: ясьляй, дзіцячых дамоў, дзіцячых садоў і г. д.

8) Як адна з асноўных задач, што стаіць перад намі і што будзе ўсё болей і болей высоўвацца па меры нашага гаспадарчага росту,—гэта ўзмацненьне плянавай дысцыпліны ва ўсёй нашай працы. Пераход да плянавай працы на падставе зацьверджанага пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі, а ў далейшым на падставе больш доўгатэрміновых генэральных плянаў, асабліва востра ставіць пытаньне аб канечнасьці цэнтралізаванай распрацоўкі плянаў і правядзеньня плянавай дысцыпліны ў сэнсе выпаўненьня плянаў; але ў той-жа час разьвіцьцё народнае гаспадаркі і ўскладненьне нашага народна-гаспадарчага жыцьця

патрабуе наданьня мясцом больш праў для ажыцьцяўленьня намечаных плянаў, другімі словамі—пры павялічэньні адказнасьці за выконваную работу, пры ўстанаўленьні большай дысцыпліны і выкананьні намечаных мерапрыемстваў, канечна трэба даць мясцом больш праў і давер'я для ажыцьцяўленьня пастаўленых задач.

9) Усе нашы плянавыя мерапрыемствы ў практычным ажыцьцяўленьні павінны ў выніку атрымаць адбітак у нашых фінансавых магчымасьцях як унутры БССР, так і, па магчымасьці, атрыманьня па-за межамі яе, дзякуючы чаму скарыстаньне ўсіх крыніц сродкаў, якія ня надта вялікія, прымаючы пад увагу пакуль што нашу беднасьць і слаба разьвітую прамысловасьць і сельскую гаспадарку, трэба паставіць так, каб яны пайшлі выключна на самыя эфэктыўныя мерапрыемствы, набліжаючыя нас хутчэй да ажыцьцяўленьня задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Тут канечна патрэбна яшчэ і яшчэ раз найбольшая экономія і плянавасьць.

Мы павінны цяпер паставіць перад сабою пытаньне так, каб ня толькі дзяржаўныя зборы, падаткі ды іншыя крыніцы зьяўляліся тымі магчымасьцямі да ажыцьцяўленьня плянаў будаўніцтва і культурнай працы, але і павінны ў дадатак да іх быць мобілізаваны ды прыцягнуты і тыя сродкі, якія рознымі шляхамі накоплены ў народнай гаспадарцы, а таксама і тыя, што знаходзяцца ў руках індывідуальных асоб.

Мы ставім задачу прыцягненьня ўсіх сродкаў і сіл у справу соцыялістычнага будаўніцтва шляхам рацыяналізацыі і палепшаньня тэхнічнае базы ў сельскай гаспадарцы, шляхам актыўных узносаў у касы ашчаднасьці, банкі, крэдытныя таварыствы, коопэратывы сваіх укладаў, шляхам закупкі дзяржаўных пазык (асабліва на індустрыялізацыю), шляхам удзелу ў асобных галінах гаспадаркі і г. д. Такім чынам, наша лінія павінна быць—барацьба за экономію па ўсіх кірунках, правільнае скарыстаньне сродкаў і потым найбольш эфэктыўныя мерапрыемствы, прыцягненьне сродкаў накапленьня ў народнай гаспадарцы ажыцьцяўленьнем правільнай падатковай політыкі, лініі адхіленьня шкоднасьці прыватнага капіталу, стымуляваньня пры абкладаньні, росту колектыўных форм разьвіцьця народнай гаспадаркі ды іншыя меры,—павінны быць тэю фінансаваю лініяй, якую мы павінны пацьвердзіць і яшчэ з большай актыўнасьцю правесьці.

10) Урэшце, мы ні на хвіліну ня можам забыцца на ажыцьцяўленьне працы па абароне нашай краіны ад магчымай контр-рэволюцыйнай вайны супраць нашага Савецкага Саюзу.

Мы, актыўна ажыцьцяўляючы нашы гаспадарчыя задачы пры шырокім удзеле саміх рабочых, рабочых і сялян,—створым немагчымасьць нападу на нас, і створым моцную базу для будучых перамог над капіталістычным сьветам, пад адзіным сьцягам сусьветнай пролетарскай рэволюцыі, пад адзіным кіраўніцтвам Комуністычнага Інтэрнацыяналу, па запаветах творцы Кастрычніка—*Леніна*.

# ВЯЛІКАЕ ДАСЯГНЕНЬНЕ Ў ГАЛІНЕ КОДЫФІКАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА ПРАВА

**Проф. М. Грэдынгер**

1 сакавіка 1923 году Грамадзянскі Кодэкс РСФСР набыў моц на тагачаснай тэрыторыі Савецкай Беларусі [1]). А ў мясцовасьцях, пазьней далучаных да БССР са складу РСФСР, гэты кодэкс, адпаведна з пастановаю ЎсеЦВК, ухваленаю на IV сэсіі IX скліканьня 31 кастрычніка 1922 г., лічыцца набыўшым моц з 1 студзеня 1925 г.

Запазычаньне Гр. Код. было праведзена ў Беларусі ў поўным аб'ёме: кожны артыкул яго мае ў межах БССР сілу да таго часу, пакуль ён ня будзе скасованы спэцыяльным законам. Але на працягу 4-х год, мінуўшых з таго часу, у Грамадзянскім Кодэксе на яго бацькаўшчыне зроблена шмат дадаткаў, і шэраг артыкулаў быў грунтоўна зьменены або нават зусім скасованы. БССР пільна сачыла за гэтаю эволюцыяю заканадаўства, зрабіўшы таксама адпаведныя зьмены ў сваім заканадаўстве. Аднак, калі ў 1923 г. Гр. Код. РСФСР зрабіўся законам на Беларусі ў цэлым яго аб'ёме і ў той час запазычаньне яго адбылося аўтаматычна, бяз жадных агаворак і абмежаваньняў, то ў далейшым беларускае заканадаўства крытычна падыходзіць да тых навэль, што зьяўляліся ў РСФСР, уважліва прыглядаючыся да таго, як зьмяняецца грамадзянскае права ў іншых савецкіх рэспубліках, асабліва на Украіне. Пры гэтым уніформіцкім тэндэнцыям давалася месца толькі як спосабу да мэты, паколькі такім чынам можна дасягнуць лепшых норм [2]).

Асабліва значнае розьніцы ў зьмесьце між заканадаўствам РСФСР і УССР, з аднаго боку, і БССР—з другога ў галіне грамадзянска-праўных адносін няма, што зусім і зразумела, калі ўзяць пад увагу, што эканомічныя посьпехі ў БССР цесна зьвязаны з іншымі савецкімі рэспублікамі, дзе грамадзянскія правы аднолькава ахоўваюцца клясаваю дзяржаваю і клясавым судом пролетарыяту. Аднак, гэта яшчэ ня значыць, што ў залежнасьці ад некаторых гістарычных і бытавых асаблівасьцяй у БССР такіх адступленьняў зусім няма. На некаторых з гэтых адступленьняў мы ніжэй і спынімся.

---

[1]) С. У. БССР 1923 г. № 3. арт. 29.

[2]) Гэта зьяўляецца прыкладам практычнага ажыцьцяўленьня таго лёзунгу, які рэкомэндуе проф. Карэцкі ў артык. „Униформизм в праве“ ў зборніку ў памяць проф. В. М. Гордона. 1927 г., стар. 107.

* * *

Да самага апошняга часу выўчэньне Беларускага Грамадзянскага Права было справаю досыць цяжкою, бо для гэтага яшчэ мала было звярачацца да Грамадзянскага Кодэксу РСФСР у выданьні 1923 г.; апроч гэтага, трэ' было найдакладнейшым чынам прасачыць усе законадаўчыя зьмены на працягу з 1 сакавіка 1923 г. да выданьня ўласнага Грамадзянскага Кодэксу Беларусі, карыстаючыся пры гэтым „Зборам Законаў і Загадаў БССР". Але само сабою зразумела, што такое становішча зьвязана з вялікімі практычнымі нявыгодамі, якія вельмі перашкаджаюць ходу работы судоў.

Таму ўжо даўно насьпела патрэба, каб Беларусь выдала свой Грамадзянскі Кодэкс, у якім-бы адбівалася ўсё законадаўства гэтае рэспублікі ў галіне рэгуляваньня грамадзянска-праўных адносін,—як запазычанае, так і самабытнае.

Але гэтая запаветная думка спаткала на шляху свайго ажыцьцяўленьня значныя перашкоды. Здавалася зусім пажаданым і сваячасным выдаць Грамадзянскі Кодэкс на беларускай і расійскай мовах. Асаблівых перашкод для выданьня зазначанага кодэксу на беларускай мове ў сучасны момант ужо няма. Яшчэ ў 1921 годзе пачалася работа па складаньні беларускае праўнае тэрмінолёгіі [1]). Работа гэта цяпер ужо дасягнула значнага посьпеху, і Інстытут Беларускае Культуры выдаў у канцы мінулага году зборнік пад назваю: „Беларуская Навуковая Тэрмінолёгія, вып. X".

Аднак, покуль што Гр. Код. БССР выданы толькі на аднэй—расійскай мове. Гэта, зразумела, ня значыць, што думка аб выданьні гэтага кодэксу пабеларуску пакінута. Наадварот, паколькі мне вядома, работа па складаньні Грамадзянскага Кодэксу на беларускай мове ўжо скончана ў лябараторыі законадаўства пры нашым Савеце Народных Камісараў, г. зн. у Камісіі Законадаўчых Проектаў. Прычыны, па якіх дагэтуль Грам. Кодэкс ня выданы пабеларуску, ляжаць трохі глыбей, як гэта можа здавацца на першы пагляд. Яны заключаюцца ў тым, што Камісія Законадаўчых Проектаў хоча апрацаваць ня простую зводку тых зьмен, што за апошнія гады зроблены ў Гр. Кодэксе, але—кодэкс грунтоўна перапрацаваны і прыстасаваны да запытаньняў савецкага дзяржаўна-экономічнага, а значыць і соцыялістычнага будаўніцтва. Такая работа, зразумела, патрабуе зусім іншага падыходу, іншых спосабаў і іншых падгатоўчых дзеяньняў.

Але, як-бы там ні было, нельга ня бачыць вялікага культурнага дасягненьня ў выданым толькі што Народным Камісарыятам Юстыцыі БССР Грамадзянскім Кодэксе на расійскай мове. Беларусь першы раз

[1]) Гуткоўскі М. „Беларуская праўная тэрмінолёгія" ў „Працы БДУ" 1927 г. №14.

узбагацілася сваім Грамадзянскім Кодэксам, як нечым цэлым, што не зьяўляецца ўжо, як гэта было да апошняга часу, толькі зборам паасобных кавалкаў законадаўчых пастаноў, раскіданых па розных выданьнях.

Паглядзімо цяпер на надворны выгляд Г. К. БССР, а потым зьвернем увагу на некаторыя бакі яго ўнутранага зьместу.

* * *

Заўважым раней за ўсё, што выданы Гр. Код. БССР не адрозьніваецца ад Гр. Кодэксу РСФСР ды інш. савецкіх рэспублік ні сыстэмаю сваёю, ні наогул структураю. Пытаньне і не стаяла аб грунтоўнай перапрацоўцы кодэксу. Для гэтага, відаць, яшчэ не надышоў час, бо не такая лёгкая справа выразіць у рэзка-акрэсьленых формулях уласьцівасьць зьяў права, як яны склаліся ў пролетарскай дзяржаве, і прапанаваць новыя мэтазгодныя прынцыпы для падзелу і разьмеркаваньня ўсіх пытаньняў, якія павінны быць уключаны ў савецкі Грамадзянскі Кодэкс [1]).

Але калі і няма розьніцы між разгляданым кодэксам і яго папярэднікамі ў сэнсе сыстэмы і пабудовы, то ў адным пункце розьніца ўсё-ж ткі ёсьць,—кодэкс БССР формальна значна павялічыўся—замест 435 артыкулаў Г. К. РСФСР, ён складаецца з 476 артыкулаў.

Гэта—першая асаблівасьць Г. К. БССР, якая адразу кідаецца ў вочы. Далей спыняе на сабе ўвагу наступная акалічнасьць. Вядома, што грамадзянскія кодэксы савецкіх рэспублік, уводзячы новыя артыкулы, не зьмянялі першапачатковае нумарацыі Грамадзянскага Кодэксу 1923 году, а зьмяшчалі новыя артыкулы або як дадаткі, або як дапаўненьні да ранейшых артыкулаў з літарамі—„а“, „б“, „в“ і г. д. або з лічбамі—„1“, „2“, „3“ і г. д. Тыя-ж артыкулы, што страцілі ўсякае практычнае значэньне, былі проста выключаны, без перамяшчэньня на іх месца тых артыкулаў, якія за імі стаяць. Ад гэтага мэтоду беларускі кодэкс адышоў, хаця трэба зазначыць, што такі мэтод вельмі выйграе ў сваёй вартасьці з прычыны паралельнага існаваньня ў нашых савецкіх рэспубліках амаль аднолькавых па зьместу грамадзянскіх кодэксаў. Месцы скасаваных артыкулаў у Беларускім Грамадзянскім Кодэксе занялі тыя артыкулы, што беспасрэдна стаялі за імі, а новыя пастаўлены самастойнымі нумарамі. Так, напрыклад, пасьля арт. 76, які гаворыць, што „забудоўшчык павінен плаціць усе выпадаючыя на права забудоўкі дзяржаўныя і мясцовыя падаткі і зборы, і што пабудаваныя на падставе дагавору аб праве забудоўкі будынкі, прызначаныя для жыльля, з належачымі да іх зямельнымі вучасткамі, вызваляюцца зусім ад дзяржаўных і мясцовых падаткаў і збораў на працягу 3-х год ад дня аднаўленьня або пабудаваньня будынку“, кодэкс БССР уводзіць новы артыкул пад № 77. Гэты артыкул устанаўляе, што „пасьля зыходу зазначанага ў арт. 76 тэрміну, паказаныя ў ім падаткі і зборы

[1]) Гл. артыкул Раевіча ў часоп. „Советское Право“. 1926 г. кн. 4. ст. 49.

бяруцца з забудоўшчыка або яго правапераймальніка на працягу ўсяго часу дзейнасьці дагавору а праве забудоўкі ў разьмеры 50 проц. належачых акладаў пры ўмове, што жылая плошча аднаўленага або адбудованага домауладаньня складае ня менш 75 проц. усяе плошчы будовы".

З тае прычыны, што паказаны артыкул запісаны пад № 77, прышлося ранейшы артыкул, які быў запісаны пад тым самым нумарам, перамясьціць на адну адзінку, так што, пачынаючы з арт. 78, нумарацыя беларускага і дзеючых у іншых савецкіх рэспубліках грамадзянскіх кодэксаў разыходзіцца. Аднак трэба сказаць, што да выданага Беларускага Грамадзянскага Кодэксу дадана параўнальная табліца, якая паказвае, якім артыкулам выданьня Грамадзянскага Кодэксу 1923 г. адпавядае цяперашняя беларуская нумарацыя. У разьдзел а праве забудоўкі беларуская рэдакцыя дадала яшчэ адзін новы артыкул, а іменна 86, які зьмяшчаецца ў пазьнейшым выданьні Расійскага Грамадзянскага Кодэксу ва ўвазе 2-й да арт. 71. Гэты артыкул гаворыць аб тым, што правілы, запісаныя ў арт. арт. 71—86, прыстасоўваюцца таксама і да дагавораў, якія заключаюцца на зямельныя вучасткі па-за гарадзкімі мясцовасьцямі. Далей, нормы, якія рэгулююць куплю-продаж у розьніцу з раскладам тэрміну платы, і якія зьмешчаны ў Гр. Кодэксах іншых Саюзных Рэспублік, як дадатак да разьдзелу аб куплі-продажы, у разгляданым кодэксе зьяўляюцца артыкуламі 208—214. Нарэшце, палажэньне аб дагаворы камісіі, зацьверджанае 7 лютага 1927 г., запісана ў Гр. Код. БССР пад артыкуламі 285—312 [1]). Таксама дадаsucceed 4 артыкулы, датычныя да дагавору страхаваньня, а іменна—артыкулы 412, 414, 417 і 419.

Такім чынам, Грамадзянскі Кодэкс БССР узбагаціўся ўсяго на 41 артыкул, чаму агульны лік артыкулаў складае 476. Апроч таго, 48 артыкулаў рэдакцыі 1923 г. былі ў ім зьменены. Але, з тае прычыны, што гэтыя зьмены большаю часткаю тэкстуальна супадаюць з тымі зьменамі, што зроблены за мінулы час у законадаўствах РСФСР і УССР, то няма патрэбы тут на іх спыняцца. Адзначым толькі, што ўсюды, дзе раней гаварылася аб утварэньні ўгод у нотарыяльным парадку, гэты выраз заменены формуляю „нотарыяльныя пасьведчаньні",—якая павінна знаходзіцца ў сувязі з заменаю 2-е часткі арт. 27 наступным тэкстам: „пісьмовыя ўгоды дзеляцца на: 1) простыя і 2) нотарыяльна-пасьведчаныя".

Кодэкс БССР выкінуў таксама азначэньне валюты золатам, што страціла, як вядома, практычнае значэньне пасьля нашае грашовае рэформы; у некаторых мясцох выпраўлены ранейшы (1923 г.) тэкст. Так, у арт. 226, які замяніў сабою арт. 217 Г. К. выд. 1923 г., словы: „за выключэньнем выпадкаў дзеяньняў, якія караюцца ў крымінальным парадку", заменены словамі: „за выключэньнем выпадкаў, калі справа

[1]) Гл. Грединтер—Договор комиссии в Белорусском законодательстве (Украінск. „В. Сов. Юст.", 1927 г., № 5—6).

павінна разглядацца ў крымінальным судзе". Там, дзе ў Гр. Код. 1923 г. знаходзіцца адноска на „Известия ВЦИК", Беларускі Кодэкс накіроўвае да афіцыяльнага органу Ўраду БССР, газэце—„Савецкая Беларусь". У арт. 9 заўвага на тое, што над марнатраўцам устанаўляецца апека, заменена заўвагай на назначэньне папячыцельства. Гэта замена зроблена ў адпаведнасьці з арт. 87 Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і ды апецы БССР, які ўвайшоў у сілу 1 сакавіка б. г.

Аднак, для характарыстыкі Грам. Код. БССР зьяўляюцца значна важнейшымі тыя артыкулы, дзе выяўляецца пэўная прынцыповая законадаўчая творчасьць, якая надае ўсяму кодэксу арыгінальную, самабытную афарбоўку. На апошніх артыкулах мы і спынім нашу асаблівую ўвагу. Але пры гэтым трэба памятаць, што цяперашняе выданьне Гр. Кодэксу БССР зьяўляецца толькі зводкаю, аб'яднаньнем усяго законадаўчага матэрыялу, датычнага рэгуляваньня грамадзянска-праўных адносін, якія былі праведзены законадаўчым парадкам, пачынаючы з 1923 г. Формы скарыстаньня асноўнае дзяржаўнае маемасьці—зямлі, лясоў, нетраў, вялікіх прамысловых прадпрыемстваў,—як і раней, засталіся па-за межамі спэцыяльна грамадзянскага права.

* * *

У Гр. Кодэксе БССР грунтоўна зьменены арт. 12, які заслугоўвае ўважлівага аналізу. Дзеля гэтага мы пакажам, раней за ўсё, дзеючы ў іншых савецкіх рэспубліках тэкст гэтага артыкулу. „Асоба, невядома дзе адсутная,—гаворыцца ў іх,—можа быць абвешчана памёршаю, калі ад дня публікацыі аб прызнаньні яе адсутнаю, мінула поўных 5 год. Запіс гэтае асобы ў акты грамадзянскага стану, як памёршае, робіцца на падставе пастановы суду, прычым момантам сьмерці лічыцца час уваходжаньня пастановы суда ў сілу". Ва ўвазе-ж да арт. 12 гаворыцца, што „правілы справавядзеньня а прызнаньні асобы адсутнаю і памёршаю запісаны ў спэцыяльным законе", які ў Грам. Код. РСФСР і паказаны, як дадатак да гэтага артыкулу. Гэта ёсьць дэкрэт СНК ад 17 чэрвеня 1918 г. аб праве палучэньня ўтрыманьня з маемасьці асоб, абвешчаных адсутнымі, і аб судовым прызнаньні прапаўшых памёршымі. Трэба сказаць, што гэты дэкрэт пазьней быў зьменены ў шмат якіх мясцох па рэдакцыі 27 верасьня 1921 г. Аднак, правілы, што знаходзяцца ў ім, ва ўсіх адносінах перажылі сябе, бо яны супярэчаць—з аднаго боку, арт. 12 Г. К., а з другога—наогул не адпавядаюць сучаснаму становішчу. Так, напрыклад, хадайніцтва а прызнаньні адсутнага памёршым можа быць паднята паводле правіл, зазначаных у дадатку, ужо пасьля заходу 2-х год ад дня выстаўленьня ў судзе абвесткі аб прызнаньні асобы невядома дзе адсутнаю. Апроч гэтага, публікацыя паводле зазначаных правіл лічыцца толькі факультацыйнаю, тымчасам як паводле арт. 12 яна зьяўляецца абавязковаю.

Замест зазначанага тэксту арт. 12 беларускае законадаўства прыняло яго ў наступнай рэдакцыі: „Асоба, якая прызнана Грам. Проц. Кодэксам невядома дзе адсутнаю, можа быць абвешчана прапаўшаю, калі ад дня публікацыі аб прызнаньні яе невядома дзе адсутнаю мінула 5 год. Запіс такое асобы ў актах грамадзянскага стану за прапаўшую робіцца на падставе пастановы суду. Абвяшчэньне асобы прапаўшаю мае такія самыя вынікі, як і сьмерць. Асоба, якая зьяўляецца пасьля ўваходжаньня ў сілу пастановы суду аб прызнаньні яе за прапаўшую, траціць права на атрыманьне раней належаўшае ёй маемасьці". Разам з гэтым выкінута і ўвага да зазначанага артыкулу. Што-ж да правіл, якія запісаны ў дадатку да арт. 12, то яны страцілі ўсякае практычнае значэньне для Беларусі, бо адпаведная процэдура ўстаноўлена ў Гр. Пр. Код. БССР у 1927 г. ў арт. 202—213, якія гавораць аб прызнаньні асобы невядома дзе адсутнаю і невядома дзе адсутную—прапаўшаю.

Спынімся некалькі падрабязьней на беларускай рэдакцыі арт. 12 Грам. Кодэксу. Пакажам раней за ўсё на формальныя перавагі яе перад расійскім тэкстам. Папершае, яна не патрабуе, каб ад часу публікацыі аб прызнаньні асобы адсутнаю прайшло „поўных" 5 год. Нібы суд можа вынесьці пастанову аб такім прызнаньні, калі міне няпоўных 5 год. Падругое, ужыты ў арт. 12 Г. К. расійскі тэрмін „судовае рашэньне" ў беларускім кодэксе заменены больш згодным з правіламі грамадзянскага процэсу тэрмінам „пастанова суду". Але што глыбей усяго захапляе ўсю процэдуру, дык гэта тое, што беларускае законадаўства замяніла абвяшчэньне асобы невядома дзе адсутнаю „памёршаю" прызнаньнем такое асобы „прапаўшаю". Мотывам для гэтага зьявілася меркаваньне, што ёсьць выпадкі, калі невядома дзе адсутная асоба, абвешчаная памёршаю, сапраўды жыве, так што судовая прэзумпцыя аб яе сьмерці ня мае пад сабою грунту.

Такім чынам, беларуская законадаўчая навэля можа быць названа перадавою. Аднак, трэба прызнаць, што тэрмін „прапаўшы" зьяўляецца няўдалым па сваёй расплывучатасьці і нявыразнасьці, бо дзе, можна запытаць, будзе лёгічная мяжа між невядома дзе адсутнымі і прапаўшымі? Пры гэтым ніякім чынам нельга забывацца на тое, што ў дадатку 1-м да арт. 12 Г. К. РСФСР гаворыцца „аб судовым прызнаньні прапаўшых памёршымі", г. зн. невядома дзе адсутныя зусім прыраўноўваюцца да прапаўшых. Абодва тэрміны (абвяшчэньне невядома дзе адсутным і абвяшчэньне памёршым) запазычаны з германскага законадаўства, і там яны маюць вельмі пэўны сэнс*).

Замена-ж у даным выпадку слова „памёршы" словам „прапаўшы", апроч блытаніны і няяснасьці, нічога не дасягае. Гэта і адчувалася ў той

*) 1. B. G. B § 13 сьлед.; Z. P. 0, § 960, 962. Ням. тэрмін „Verschollenheit"—„ні слуху, ні духу" адпавядае і разуменьню аб невядомай адсутнасьці і аб прапажы, і ў такім іменна сэнсе гэта зразумелі аўтары вышэйазначанага дадатку да арт. 12 Г. К. РСФСР.

час, як рэдагавалася беларуская навэля, бо ў яе ўнесена агаворка аб тым, што „абвяшчэньне асобы прапаўшаю мае такія самыя вынікі, як і сьмерць“.

Тымчасам, калі ўжо трэба адкінуць одыёзнае абвяшчэньне невядома дзе адсутнага памёршым, дык для гэтага існуе куды лепшы і просты спосаб, як урываньне ў тэхнічную мову і замена пэўнага і не выклікаючага сумненьня тэрміну расплыўчатым і пазбаўленым яснасьці выразам. Для гэтага досыць, не гаворачы зусім аб прызнаньні асобы памёршаю, вызначыць правіла, на падставе якога пасьведчаная судом невядомая пяцігадовая адсутнасьць асобы выклікае за сабою пераход яе маемасьці ў парадку спадчынаемства. Іменна да гэтага і схіляецца беларуская навэля, бо ў апошняй сваёй частцы яна вызначае, што асоба, якая зьявіцца пасьля ўваходжаньня ў сілу пастановы суду аб прызнаньні яе прапаўшаю, траціць права на атрыманьне раней належаўшае ёй маемасьці.

Праводзімы тут прынцып становіцца ў рэзкі контраст з кодэксамі іншых савецкіх рэспублік, а таксама і з вышэйзазначаным дэкрэтам СНК, які ўстанаўляе, што асоба, якая была абвешчана памёршаю і зьявілася пасьля прызнаньня яе памёршаю, мае права атрымаць, незалежна ад часу свайго звароту, усю тую маемасьць, што засталася, за выключэньнем выпадкаў, калі няяўка прызнана судом не заслугоўваючаю ўвагі. Трэба зазначыць, што гэты прынцып, хоць і не ў такой яркай форме, праводзіцца і ў буржуазных законадаўствах, паводле якіх спадчынаемец асобы, абвешчанае памёршаю, нясе адказнасьць перад тым, хто вярнуўся пасьля такога абвяшчэньня ў межах узбагачэньня, аднак толькі да зыходу тэрміну даўнасьці, але незалежна ад тэрміну няяўкі асобы. Гэткая, напрыклад, пастаноўка пытаньня ў германскім законадаўстве [1]). Яшчэ больш дакладна гэта пытаньне азначаецца ў францускім Грам. Кодэксе, на падставе якога, тая асоба, што невядома дзе адсутнічала і потым вярнулася, атрымлівае сваю маемасьць у тым становішчы, у якім яна будзе знаходзіцца, або цану ўсяго таго, што было адчужана з яе, або тую маемасьць, якая замест яе набыта на грошы ад яе продажу [2]).

На такім самым грунце стаяў дарэволюцыйны расійскі закон. Арт. 1459 „Уст. Гражд. Судопр.“ ўстанаўляў, што пастанова акруговага суду аб прызнаньні невядомае адсутнасьці не пазбаўляе прызнанага такім права прасіць гэты суд у тэрмін, паказаны арт. 1244 Грам. Законаў аб звароце яму яго маемасьці. Адноска на арт. 1244 вельмі затрудняла і практыкаў і тэорэтыкаў; але ўсе згаджаліся з тым, што да зыходу тэрміну даўнасьці—у той час 10 год ад моманту першае публікацыі аб невядома дзе адсутным, апошні ня траціць пасьля свайго звароту права на атрыманьне свае маемасьці.

[1]) B. G. B.; §§ 2031, 2018.

[2]) Code civil, арт. 132 і 133.

Калі мы спынімся на мінуту на паказаных законах, дык ня можа ня кінуцца ў вочы, што, дзякуючы ім, над спадкаемцамі, якія прынялі спадчыну зьнікшага, вісіць нейкі Дамокляў меч, бо невядома, ці ня здарыцца з імі бяды, і ці ня будуць яны рана ці позна прымушаны выдаць гэтую маемасьць гаспадару, які вярнуўся. Такім чынам, робіцца нейкая трагікомэдыя. І сапраўды, калі атрымаўшы маемасьць выявіць належную ашчаднасьць і руплівасьць і захавае маемасьць або яе эквівалент, дык ён будзе прымушаны выдаць яе быўшаму гаспадару, калі гэты гаспадар зьявіцца. Але калі, наадварот, ён выявіць поўную безгаспадарнасьць або марнатраўства, так што ад маемасьці ў яго нічога не застанецца, дык гаспадар, які вернецца, пойдзе з голымі рукамі.

Здавалася-б, што такое становішча ня можа адпавядаць разумнай экономічнай політыцы. Як вядома, мэтаю даваньня грамадзянскіх праў, паводле нашых законаў, зьяўляецца скарыстаньне гэтых праў у адпаведнасьці з соцыяльна-гаспадарчым назначэньнем іх. А нельга адмаўляцца ад таго, што пяцігадовая невядомая адсутнасьць гаспадара маемасьці і пакіданьне ім гэтае маемасьці на волю лёсу менш за ўсё сьведчыць аб соцыяльна-гаспадарчым скарыстаньні яе. З другога-ж боку, у нормальны час нельга дапусьціць такі зьбег акалічнасьцяй, калі суд будзе прымушаны прызнаць пяцігадовую невядомую адсутнасьць заслугоўваючаю ўвагі. Зразумела, у выпадку доўгае вайны могуць выдавацца спэцыяльныя законы, якія будуць выключэньнем з гэтага агульнага правіла. Вось чаму, як мне здаецца, Беларускае законадаўства зрабіла правільна, адважыўшыся, нарэшце, паставіць кропку над „і“ і спыніць магчымасьць узьнікненьня бясконцых і складаных маемасных спрэчак пасьля звароту асобы, абвешчанае, з прычыны невядомае адсутнасьці, памёршаю або, як гаворыць Грам. Код. БССР, прапаўшаю.

* * *

З іншых адступленьняў ад тэксту Гр. Код. выданьня 1923 году заслугоўвае ўвагі наступнае: Г. К. БССР з паказаных пад арт. 59 трох уваг захаваў толькі адну, а іменна ў такой рэдакцыі: „Быўшыя ўласьнікі, маемасьць якіх была экспропрыявана на падставе рэволюцыйнага права, або наогул перайшла ва ўласнаснасьць працоўных да 1-га жніўня 1922 г. у межах непашыранай БССР і да 22 мая 1922 г. для часьці БССР, адышоўшай ад РСФСР, ня маюць права патрабаваць звароту гэтае маемасьці“. Некаторыя зьмены далей зроблены ў артыкулах 69 і 70, якія далучылі да сябе некаторыя палажэньні, запазычныя з дадатку 4 да Гр. Код. выд. 1923 г. (па выд. 1925 г. дадатак 7). Вось тэкст арт. 69 беларускае рэдакцыі: „Рэквізыцыя (прымусовае адчужэньне або часовае адабраньне дзяржаваю маемасьці ад уласьнікаў за плату) можа рабіцца ў выключных пыпадках толькі тады, калі гэта выклікаецца патрэбаю і няіначай, як паводле пастановы Савету Народных Камісараў БССР. Разьмер платы

ўласьніку за рэквізаваную маемасьць вызначаецца па сярэдніх рынычных цэнах, якія існуюць у дзень адабраньня маемасьці". Арт. гэты мае дзьве ўвагі. Першая ўвага гаворыць, што парадак рэквізыцыі прадугледжаны асобным законам, а другая—што правілы аб выплаце гаспадару за жывёлу, забітую для спыненьня заразьлівых хвароб і загінуўшую з прычыны прышчэпак, а таксама за зьнішчаныя рэчы, запісаны ў Вэтэрынарным Кодэксе. Арт. 70 запісаны так: „Конфіскацыя (бясплатнае прымусовае адчужэньне маемасьці ад уласьніка на карысьць дзяржавы) можа рабіцца толькі як мера соцыяльнае абароны ў выпадках асобна зазначаных у законе. Не конфіскуюцца рэчы хатняга ўжытку, якія патрэбны асобе, у якой робіцца конфіскацыя, і ў яе сям'і ды прылады дробнае сельска-гаспадарчае, саматужнае і рамесьніцкае вытворчасьці, якія зьяўляюцца спосабам да жыцьця, або інвэнтар, патрэбны для профэсыянальнае работы асуджанага, а таксама прадметы харчаваньня і грошы, патрэбныя яму самому і яго сям'і для асобнага карыстаньня ня менш як на шэсьць месяцаў. Інвэнтар, патрэбны для профэсыянальнае работы асуджанага, можа быць конфіскаваны, калі суд пастанаўляе аб пазбаўленьні данага асуджанага права займацца адпаведнаю профэсіяю".

Зьмяшчэньне арт. 69 ў разьдзеле рэчавага права, строга гаворачы, магло-б выклікаць супярэчаньне. Было-б больш мэтазгодна арт. аб рэквізыцыі і конфіскацыі запісаць беспасрэдна пасьля правіла аб тым, што ніхто ня можа быць пазбаўлены грамадзяснкіх праў або абмяжованы ў іх іначай, як у выпадках і парадку, вызначаных законам, а іменна, як вынятак з гэтага агульнага правіла. Другое пытаньне—ці трэба здаволіцца месцам, якое займае паказаны прынцып у Грамадзянскім Кодэксе, г. зн. сярод норм, што гавораць аб суб'ектах права, бо гэта правіла мае агульнае значэньне і конституцыйны характар. Але аб гэтым можна сказаць толькі між іншым, бо мэта выданьня гэтага кодэксу БССР, як мы бачылі, не заключаецца ў зьмене сыстэмы, якое прытрымліваюцца Грамадзянскія Кодэксы савецкіх рэспублік. Заўважым толькі, што правіла арт. 70 аб тым, што засуджанаму і яго сям'і пакідаюцца прадметы харчаваньня і грошы ня менш, як на шэсьць месяцаў, носіць элемэнт выпадковасьці, які адчыняе шырокае поле для свавольства. Падобнае гутаперчавае правіла не павінна мець месца ў Грам. Кодэксе. Некаторыя орыгінальныя рысы мае таксама арт. 103 у беларускай рэдакцыі. Вось яго тэкст:

„Застаўленая маемасьць, належачая даўжніку, ідзе на задаваленьне наступных катэгорый спагнаньняў, калі іншае маемасьці даўжніка не хапае для пакрыцьця гэтых спагнаньняў, у першую чаргу на пакрыцьцё даўжнікам доўгу заработнае платы рабочым і служачым, соцыяльнага страхаваньня і аліментаў; у другую чаргу—на пакрыцьцё акцызных спагнаньняў, накладзеных на застаўленую маемасьць, калі гэтая маемасьць была застаўлена на месцы вырабу на базісным складзе або на мытні; у трэцюю чаргу—на пакрыцьцё забясьпечаных заставаю патрабаваньняў

крэдытных устаноў, якія дзейнічаюць ва ўстаноўленым парадку; у чацьвертую чаргу—на пакрыцьцё нядоімак іншых падаткаў і збораў, як агульна-дзяржаўных, так і мясцовых, і на задаваленьне прэтэнзій Дзяржаўнага Банку; у пятую чаргу—на пакрыцьцё прэтэнзій дзяржаўных органаў і акцыйных таварыстваў, вынікаючых з дагавораў падраду і дастаўкі.

*Увага 1.* Спагнаньні, уваходзячыя ў адну і тую-ж самую чаргу, у выпадку, калі ня будзе хапаць маемасьці даўжніка для задаваленьня іх, цалкам задавальняюцца па суразьмернасьці.

*Увага 2.* Для цяжараў, што пераводзяцца па чыгунцы, гэты артыкул не зьмяняе права чыгунак, адзначанага ў арт. 68 Статуту чыгунак СССР".

На іншых артыкулах Грамадзянскага Кодэксу БССР мы ня будзем спыняцца, бо яны ня маюць у сабе нічога істотнага. Застаецца, аднак, падкрэсьліць некаторыя недахваты Гр. Код. БССР, бо яны могуць быць карыснымі з прычыны таго, што чакаецца агульная перапрацоўка Грам. Код. ў сувязі з надыходзячым выданьнем „асноў" грамадзянскага заканадаўства СССР.

Да катэгорыі такіх хібаў трэба аднесьці ўвагу 2-ю да арт. 139, адпавядаючага артыкулу 137 рэдакцыі 1923 г., паводле якога „рэгістрацыя на біржы ўгод куплі-продажы і дастаўкі прыраўноўваецца да натарыяльнага пасьведчаньня". Справа ў тым, што гэта норма ў стасунку да Беларусі зьяўляецца анахранізмам, бо бірж у сучасны момант у нас няма, але ёсьць толькі рэгістрацыйныя бюро пры органах Народнага Камісарыяту Гандлю, функцыі якіх не супадаюць з функцыямі бірж. Далей, у разьдзеле куплі-продажы не хапае спэцыяльнага правіла аб куплі-продажы ў раздроб з раскладам тэрміну выплаты за сельска-гаспадарчыя машыны і прылады, якія набываюцца сялянамі і колектыўнымі сялянскімі організацыямі. Патрэбнасьць такога правіла прадугледжана пастановаю ЦВК і СНК СССР ад 11 студзеня 1924 г. Няма таксама дакладнасьці і ў арт. 219, які ўстанаўляе, што сума пазычкі павінна быць выражана ў рублёх, хаця яна зусім адпавядае артыкулу 210 Гр. Код. РСФСР, выд. 1925 г. і блізка падыходзіць да першай часткі гэтага арт. ў апошняй яго рэдакцыі. Вядома-ж, што паводле дагавору пазычкі пазычкадавец перадае ва ўласнасьць пазычальніку не заўсёды грошы, але часамі і іншыя рэчы, якія азначаюцца родавымі прыметамі. Тымчасам, арт. 219 (210) датычыць толькі выпадкаў першае групы. Таму было-б правільней запісаць паказаны арт. у тым сэнсе, што, калі прадметам пазычкі зьяўляецца грашовая сума, то яна павінна быць паказана рублямі.

Гр. Код. БССР, далей, выключыў па невядомых мотывах увагу да арт. 422 рэд. 1923 г., які адпавядае артыкулу 463 ў беларускай рэдакцыі. Выключаная ўвага гаворыць: „Адказальнік можа пазбавіць праў

законнага спадкаемства аднаго, некаторых або ўсіх асоб, паказаных у арт. 418. У такім разе спадчынная маемасьць пераходзіць цалкам або часткаю дзяржаве парадкам арт. 417 і 433. У арт. 418 (у Г. К. БССР арт. 459) паказаны круг асоб, якія заклікаюцца да спадкаемства па абедзьвюх падставах, г. зн. у парадку закону і ў парадку адказаньня; арт. 417 гаварыў аб перавышэньні максымуму каштоўнасьці спадчыны, які максымум пазьней быў скасаваны, а таксама аб спосабе падзелу спадчыннае маемасьці; арт. 433 (у Г. К. БССР арт. 474) устанаўляе, што пры няяўцы спадкаемцаў на працягу 6 месяцаў спадчынная маемасьць лічыцца адмерлаю маемасьцю. І вось паўстае пытаньне: ці ёсьць патрэбны мотыў для таго, каб выключыць паказаную ўвагу? Вырашыць гэта пытаньне можна лепш за ўсё толькі пры дапамозе параўнаньня данай увагі з арт. 422 (463). Арт. 422 гаворыць: „Адказаньнем прызнаецца зробленае асобаю ў пісьмовай форме распараджэньне на выпадак сьмерці аб аддачы маемасьці аднэй або некалькім пэўным асобам з ліку паказных у арт. 418 або аб разьмеркаваньні яе між некалькімі або ўсімі гэтымі асобамі ў іншым парадку, як гэта прадугледжана арт. 420". Як відаць, у гэтым артыкуле ніводнага слова не гаворыцца аб праве адказальніка пазбавіць праў законнае спадчыны ўсіх спадкаемцаў. Таму было-б больш мэтазгодна ўнесьці пэўную яснасьць у самы артыкул замест таго, каб выкінуць гэту ўвагу.

Яшчэ горш з другою часткаю выкінутае ў разгляданым кодэксе ўвагі. Тут ужо зроблена значнае адступленьне ад асноўных позыцый савецкага спадчыннага права, якія рэзка адрозьніваюць наша права ад буржуазных законадаўстваў. На падставе адзначанае часткі паказанае ўвагі пазбаўленьне адказальнікам праў законнае спадчыны аднэй, некаторых або ўсіх асоб, якія, паводле закону, прызываюцца да спадкаемства, выклікае пераход у прыбытак дзяржавы ўсяе спадчыннае маемасьці або часткі яе. У самым-жа арт. 422 (463) пра гэта нічога не гаворыцца. І сапраўды, калі адкідаць правіла, на падставе якога, у выпадку пазбаўленьня адказальнікам праў аднае або некалькіх асоб з ліку яго спадчынаемцаў, неразьмяркованыя такім чынам долі, як адмерлыя, пераходзяць у прыбытак дзяржавы, дык мы, самі не заўважаючы гэтага, або адновім так званае права „прырашчэньня" на карысьць іншых спадчынаемцаў, якія адказаньнем не абойдзены, або мы павінны будзем прызнаць, што неразьмяркованая частка маемасьці дастаецца ўсім спадчынаемцам у парадку спадкаемства па закону. Але як першае, так і другое дапушчэньне супярэчыць прынцыпам савецкага законадаўства, якое зусім не ведае права прырашчэньня. Гэта палажэньне ня раз ужо прызнавалася ў нашай судовай практыцы. (Гл., напр., пастанову Гр. Кас. Кал. Найв. Суду РСФСР за 19 ліпня 1924 г. па іску Вяршынінай да Андрэевай і Кулаковай, паказаную ў выданым НКЮ РСФСР у 1925 г. Гр. Код. з сыстэматычным паказчыкам на артыкулы, ст. 920—922).

У заключэньне нельга не падкрэсьліць, што вышэй паданыя крытычныя ўвагі маюць адну толькі мэту—дапамагчы папярэдзіць магчымыя памылкі і пасьпешныя рашэньні пры будучым законадаўчым агульным пераглядзе грамадзянскага кодэксу. Тое выданьне, што зьявілася грунтам для гэтага нарысу, натуральна, не магло зрабіць ніякіх істотных папраўак у існуючым законадаўстве, бо яно павінна было абмежавацца толькі існуючым. Аднак, зьяўленьне на сьвет Гр. Код. БССР і ў такім відзе, як нешта суцэльнае, ёсьць, бязумоўна, вялікае культурнае дасягненьне, якім Беларусь сапраўды можа ганарыцца.

# МАРКСЫЗМ У ДЗЕЯНЬНІ

## І. Герчыкаў

Калі дзесяць год таму назад рэволюцыя ў Расіі скончылася перамогаю пролетарыяту, абярнуўшага выраслую з нетраў рэволюцыі сыстэму саветаў у сыстэму дзяржаўнага кіраўніцтза, якая ажыцьцяўляе дыктатуру пролетарыяту; калі, абапіраючыся на гэтую дыктатуру, ён на руінах напалову фэўдальнае, напалову буржуазнае гаспадаркі Расіі пачаў будаваць плянавую соцыялістычную гаспадарку,—у шэрагах буржуазных тэорэтыкаў—публіцыстых і экономістых—у пераважнай частцы гаварылася аб нямінучай гібелі ўсяго прадпрыемства, але чуліся і паасобныя галасы, якія ня так лёгка глядзелі на гэтую вялікую, сапраўды соцыяльную рэволюцыю, якая ўпяршыню зьдзяйсьняецца ў гісторыі чалавецтва. Так, адзін з супрацоўнікаў архібуржуазнай, рэакцыйнай газэты „Temps“ пісаў, што сіла бальшавікоў ёсьць, галоўным чынам, ня ў тым, што яны заўладалі рэштаю буржуазнае гаспадаркі, дзяржаўным апаратам і склалі ўзброеную сілу для прыдушэньня контррэволюцыі ўнутры краіны, і падтрыманьня яе знадворку, але ў тым, што яны маюць *тэорыю*, якая ляжыць у аснове ўсіх іх дзеяньняў, і на аснове гэтае тэорыі яны свае дзеяньні разьвінаюць мэтазгодна і плянава. Сіла ў тым, што рэволюцыя не разьвіваецца сьлепа ад выпадку да выпадку, а ў сваім разьвіцьці зьдзяйсьняе сьвядомую навукова-тэорэтычна выяўленую волю. І сапраўды, асноўная сіла пераможнай рэволюцыі была ў навукова-абснованай тэорыі марксызму, якая загадзя вытлумачыла ўсе ўмовы, у якіх разьвілася рэволюцыя, загадзя выявіла асноўныя рысы разьвіцьця рэволюцыі ў зьвязку з тымі ўмовамі, у якіх разгортвалася рэволюцыйнае дзеяньне. Так, сіла гэтай рэволюцыі была ў тым, што гэта быў *марксызм у дзеяньні.* Выўчыўшы добра законы і будову грамадзкіх адносін, сапраўдныя вучні Маркса надта добра разьбіраліся ў тых падзеях, якія перад імі разьвіналіся, і вайна ды рэволюцыя не захапілі іх непадрыхтаванымі.

Вайна і рэволюцыя—зьявы, якія на практыцы зьдзяйсьняла і зьдзяйсьняе буржуазія, але з якімі ніяк ня мірыцца буржуазная навука аб грамадзтве. Згодна буржуазнаму вучэньню, з грамадзкіх адносін, як такіх, ні вайна, ні рэволюцыя не выцякаюць. Гэта ёсьць нейкія грамадзкія непаразуменьні, фактары выпадковага парадку, парушэньне звычайнага бегу грамадзкага разьвіцьця, якія тлумачацца або прычынамі біолёгічнага, толькі біолёгічнага, і ні ў якім разе не гістарычна-соцыолёгічнага

характару. Гэта нейкая дрэнная жывёльная спадчыннасьць, якую, па думцы адных, чалавецтва яшчэ не перамагло сілаю свайго розуму і невядома калі пераможа; па думцы другіх, гэтыя зьявы біолёгічнага парадку ўжо таму непераможны, што адбіваюць нязьменны закон біолёгічнага разьвіцьця—дарвінскую тэорыю барацьбы за існаваньне. Па думцы іншых, вінавайцамі войнаў і рэволюцый зьяўляюцца правадыры і кіраўнікі грамадзка-політычнага жыцьця, і калі-б толькі яны былі лепш у грамадзка-гістарычным сэнсе выхаваны і кіраваліся розумам больш, чым непасрэднымі пачуцьцямі раздражненьня і злабы, дык ні войнаў, ні рэволюцый не існавала-б. З апошняга прадстаўленьня аб пахаджэньні войнаў і рэволюцый і выцякаюць дробна-буржуазныя абычайна-сэнтымэнтальныя развагі аб прыймальнасьці, ці няпрыймальнасьці вайны і рэволюцыі, як быццам гістарычны процэс у якой-небудзь меры падначалены гэтым пачуцьцям і меркаваньням.

Марксызм, далёкі ад таго, каб падначальваць гістарычны процэс суб'ектыўным этычным меркаваньням, прыняў і вайну і рэволюцыю як об'ектыўныя гістарычныя факты, і іх пахаджэньне самым глыбокім і радыкальным спосабам выўчыў.

Пахаджэньне вайны і рэволюцыі выўчаў ужо Маркс, пачынаючы з рэволюцыі 1848 году, і паказаў з надзвычайнай яскравасьцю, бяз усялякіх сумненьняў, як гэтыя зьявы зьвязаны з усёй прыродай буржуазнай экономікі і грамадзкасьці і выцякаюць з няўхільнасьці прамысловых крызісаў, якія ўзрушаюць усю буржуазную грамадзкасьць. І паколькі прамысловыя крызісы няўхільны пры анархіі капіталістычнай вытворчасьці, дык таксама няўхільны, законамерны войны і рэволюцыі, якія будуць пераможаны толькі з нашай перамогай над капіталістычным ладам. Ні біолёгія, ні злая воля асобных або груп дыплёматаў тут ні прычым.

Узяўшы з навуковае спадчыны Маркса кардынальнае палажэньне аб тым, што вайна і рэволюцыя—самыя законамерныя зьявы грамадзкіх адносін у эпоху капіталізму, марксыцкая думка ня спынілася на тым, што было зроблена Марксам. Яна з надзвычайнай упартасьцю, вялікай умеласьцю і дасьціпнасьцю дасьледавала далейшае разьвіцьцё грамадзкіх адносін і, канчаткова зацьвердзіўшы вышэйпамянёнае палажэньне, выявіла, што самы характар капіталістычных адносін перамяніўся, а разам з ім перамяніўся характар і значэньне вайны і рэволюцыі. Марксыцкая навука ў асобе Леніна і яго вучняў вытлумачыла, што Маркс выўчаў капіталізм у часе панаваньня свабоднай конкурэнцыі, у той час, калі капіталізм магутна разьвіваў свае сілы, увесь час паднімаючыся ўгару, і калі, дзякуючы гэтаму, пэрыодычныя прамысловыя крызісы, даючы сябе моцна адчуваць буржуазнаму грамадзтву, усё-ж давалі ёй магчымасьць кожны раз адраджацца на пашыранай падставе, разам з тым даючы магчымасьць памяншацца ў аднэй сыстэме супярэчным інтарэсам наёмнае працы і капіталу. У той час крызісы і выкліканыя імі войны і рэво-

люцыі перамяшчалі сілы ўнутры капіталістычнай сыстэмы, не парушаючы, а іншы раз нават узмацняючы яе.

З таго часу свабодная конкурэнцыя ў капіталістычных адносінах зусім зьнікла і вырас монополістычны капіталізм, той самы імпэрыялізм, аб якім, пачынаючы з апошняй чвэрці XIX ст., гаварылі і пісалі амаль усе, не дадаўшы ніводнага грану навуковасьці да таго, што к таму часу было вядома аб капіталістычных адносінах. Толькі вучні Маркса, пайшоўшыя сьледам за Леніным, разабраліся ў сапраўдным характары капіталізму новай формацыі, пралілі яркі сьвет на проблему імпэрыялізму, на тыя абставіны, у якіх зараз разьвіваюцца войны ды рэволюцыі, і паказалі, што сучасныя войны і рэволюцыі пры капіталізьме, які мы зараз перажываем, у надзвычайна напружным становішчы азначаюць яго гібель, і на аснове гэтых вывадаў штурхалі рабочую клясу пры першай-жа вайне ўзяцца за ліквідацыю буржуазнага грамадзтва, абярнуць вайну капіталістычную ў вайну грамадзянскую, пролетарска-рэволюцыйную. Ня дзіва, такім чынам, што ў агульным матэрыяльным і духоўным разбурэньні і спусташэньні, зробленым вайною 1914—18 г.г., марксызм не замяшаўся, ня страціў нязьменна ўласьцівага яму оптымізму, ня страціў веры ў прогрэс чалавецтва; больш таго, ён бачыў ва ўсіх разбурэньнях і спусташэньнях тую працу гісторыі, якая нямінуча павінна была прыйсьці і расчысьціць поле для актыўнага ваяўнічага, рэволюцыйнага марксызму.

І ў той час, як марксызм узбройваўся да вялікіх гістарычных боек у імя прогрэсу, лібэральна-буржуазная думка білася і б'ецца да гэтага часу над неразьвязальнымі супярэчнасьцямі капіталізму, губляючы ў вайне і рэволюцыі ўсё тое, чым яна валадала, і ня прыдбаўшы нічога новага.

Яшчэ напярэдадні вайны ў 1913 годзе адзін з лібэральных расійскіх гісторыкаў Р. Віппер з сумам пытаў: „Ці верыць хто-небудзь у тэорыю прогрэсу?“ І сам, даючы адказ на гэтае пытаньне, пісаў: „Калі-б мы спыталі сябе зараз, ці ёсьць у нас ранейшая вера ў агульны прогрэс чалавецтва, ці бачым мы ў ім выраз вышэйшага закону гістарычнага жыцьця, то, здаецца, аграмадная большасьць не адважыцца адказаць станоўча... Трэба прызнаць, што тэорыя, якая яшчэ нядаўна займала ў навуцы пануючае становішча, скончылася, выветрылася з галоў“. А яшчэ праз чатыры гады, правяраючы лібэральна-буржуазную тэорыю прогрэсу перад тварам сусьветнай вайны, гэты-ж гісторык піша: „Калі ўжо да вайны памнажаліся пярэчаньні супроць тэорыі прогрэсу, якія падкопваліся пад яе з розных бакоў, то сусьветная сутычка народаў абярнула апошнія яе падставы. Ніводная партыя, ніводны з кірункаў культурнай думкі ня меў магчымасьці бараніць догматы вучэньня аб прогрэсе“. Дзе-ж карэньні такой цёмнай філёзофіі?—Яны ў прадчуваньні гібелі капіталізму, у страце веры ў творчыя яго сілы:—„Дарэмна марылі аб нейкай нахільнасьці капіталу да эканоміі, сыстэмы, ашчаднасьці, аб нейкіх творчых сілах, яму ўласьцівых. Капітал паказаў сябе тым самым, што прадстаўляе

сабою наогул сучаснае чалавецтва, г. зн. нарастаючай організацыяй барацьбы, ваяўнічай сілай, якая шукае толькі для сябе выгодных шляхоў для дзеі". І ў канечным выніку аналёгія паміж пэрыодам заняпаду антычнага сьвету і становішчам сучаснага цывілізованага чалавецтва, якое таксама ідзе да заняпаду з тымі-ж сымптомамі, з якімі калісьці ішоў да заняпаду антычны сьвет. І замест бадзёрай філёзофіі прогрэсу містычная будыйска-рэлігійная філёзофія вечнага колараху, які пагружае ўвесь сьвет і чалавека ў нябыцьцё, у нірвану.— „Усе гэтыя факты, якія мы называем заняпадам антычнага сьвету, мімаволі прадстаўляюцца цяпер нам у іншым выглядзе; яны як быццам наблізіліся да нас, раптам зрабіліся магчымымі. А гэта зьмена ня можа не адбіцца на тэорыі гістарычнага пазнаньня. Калі да гэтага мы кіраваліся пабудовамі накшталт тэорыі гістарычнага прогрэсу, то зараз ёсьць падстава ўспомніць аб другім забытым гістарычным сьветапоглядзе, якога трымаліся гуманістыя, які, у процілежнасьць тэорыі прогрэсу, завецца тэорыяй гістарычнага колараху".

Голас расійскага лібэрала ня гучыць адзінокім у хоры эўропэйскай публіцыстыкі. Нішто іншае, як больш распаўсюджанае і больш абаснованае, з пункту гледжаньня буржуазнай псыхолёгіі, выказваньне тых-жа думак прадстаўляе сабою і вядомая тэорыя Освальда Шпэнглера, якая ўсхвалявала ўсю буржуазную Эўропу і выклікала сапраўдны запал сярод шырокіх колаў буржуазных чытачоў. Бліжэйшай тэмай яго філёзофіі, згодна заявы самога Шпэнглера, зьяўляецца аналіз заняпаду заходня-эўропэйскай культуры, і пасьля доўгага дасьледваньня, якое прадстаўляе сабою нагрмаджэньне вялізарнага ліку адцягненых і амаль што не на прарочай інтуіцыі заснаваных палажэньняў, Шпэнглер прарочыць:—„Антычнасьць таксама памерла, але нічога ня ведала аб гэтым. Яна верыла ў вечнае існаваньне... Мы ведаем нашу гісторыю. Мы памром сьвядома і прасочым усе стадыі ўласнага распаду вострым позіркам спрактыкаванага лекара. 200 год цывілізацыі і панаваньня навукосьці—і мы будзем ужо перасычаны імі. І ня толькі асобныя людзі, але душа культуры перасыціцца імі". Аднача́сна з Шпэнглерам, другі, набыўшы шырокую вядомасьць сярод эўропэйскай чытаючай публікі, нямецкі публіцысты Тэодор Лессінг выдае кніжку, назва якое „Гісторыя як азмысьленасьць неазмысьленага" (Geschichte als Sinngebung des Sinnlosen) гаворыць сама за сябе. Выдавец кніжкі Шпэнглера, адзначаючы той факт, што яна зьявілася адначасна з кніжкай Лессінга, піша: Um so überraschender sind trotz schärfster innerer Gegensätze zahlreiche Berührungspunkte zwischen den Geschichtswertungen der beiden Männer (тым больш дзіўна тое, што, ня гледзячы на вострае ўнутранае супярэчаньне, ёсьць шмат агульнага ў гістарычнай ацэнцы абодвух аўтараў) і гэтае агульнае, галоўным чынам, заключаецца ў адмаўленьні прогрэсу ў сучаснай эўропэйскай цывілізацыі. Можна было-б назваць яшчэ цэлы шэраг аўтараў, якія гава-

рылі аб адным і тым-жа, што і расійскі лібэральны гісторык Р. Віппер і нямецкія публіцыстыя Шпэнглер і Лессінг, але і памянёных прыкладаў досыць. Калі выдаўца Шпэнглера дзівіць супаданьне думак у Шпэнглера і Лессінга, то нас ані ня дзівіць супаданьне думак у ўсіх трох названых намі аўтараў і цэлага шэрагу іншых ім падобных, таксама як для нас зразумелы іх шырокі посьпех у шырокіх колах чытаючай публікі. Для ўсёй тэй масы, дабрабыт якое зьвязаны з дабрабытам капіталізму, сьмерць апошняга адчуваецца, як сьмерць усяго чалавецтва, усёй цывілізацыі. З пераконаньня ў крах капіталізму, з відавочнага факту яго гібелі і з глыбокіх зрушэньняў капіталізму, рабочыя масы, будучы дабрабыт якіх толькі з пагібельлю капіталізму і зьвязан, набіраюць сілу для барацьбы і веру ў прогрэс чалавецтва ў новым соцыялістычным грамадзтве.

Марксызм у дзеяньні—гэта рабочая кляса, якая разбурае старое буржуазнае і закладае падмурак новага соцыялістычнага грамадзтва.

Але калі ўзрушаныя буржуазныя ідэолёгі напамінаюць сабою таго індыйскага факіра, які ўвесь захоплены разглядам свайго ўласнага пупа, забываючыся на ўвесь сьвет, калі для іх гібель буржуазнае Эўропы ёсьць гібель усёй чалавечай культуры, то марксызм выходзіць далёка за гэтыя межы і ў рэволюцыйным сваім дзеяньні абхоплівае ўвесь сьвет, будзячы да жыцьця, ці, праўдзівей, папаўняючы жыцьцём абуджаныя шматмільённыя масы ўсіх краін сьвету, прыгнечаных да гэтага часу пятой зараз паміраючай буржуазнай цывілізацыі. Марксыцкая формула прогрэсу сапраўды абхоплівае ўвесь сьвет і прадстаўляе поўную істоту будучага сапраўднага сусьветнага ўсечалавечага прогрэсу. Уражаньне, пакінутае вайною 1914—18 г. г. і Кастрычнікавай рэволюцыяй у сусьветных грамадзкіх адносінах, надзвычайна вялікае, і дзеючаму марксызму даводзіцца, уласьцівымі яму навуковымі мэтодамі, перамагаць усе процэсы сучаснай рачаіснасьці і пановаму тэорэтычна разьвязваць, здавалася-б, даўно ўжо разьвязаныя, проблемы. Так пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі перад марксыцкаю думкаю і рабочым рухам пановаму ўжо ў трэцяй сваёй фазе стала проблема вайны і рэволюцыі.

Калі імпэрыялістычныя войны да Кастрычнікавай рэволюцыі выраслі на падставе клясавых супярэчнасьцяй у капіталістычным грамадзтве, на падставе супярэчных інтарэсаў паміж імпэрыялістычнай буржуазіяй розных краін і нацыянальнасьцяй, то вайна пасьля Кастрычніка—гэта непасрэдная вайна клясаў, гэта грамадзянская вайна ў сусьветным маштабе, сусьветнае паўтарэньне пасьля Кастрычніка інтэрвэнцыі буржуазных дзяржаў на тэрыторыю расійскай пролетарскай рэволюцыі.

Буржуазія імкнулася наўкола гэтай новай інтэрвэнцыі сабраць усе сілы, якія толькі могуць яе падтрымаць, вядома, не выключаючы і соцыялдэмократаў, якія ўжо даўно кінулі гаварыць аб рэволюцыі, але ўсё яшчэ гуляюць у клясавую барацьбу і марксызм. З дапамогаю выбражальнага

марксызму соц.-дэмократыі і ўласнага даволі выпрабаванага досьледу, буржуазія пастараецца да пачатку будучай вайны выпрацаваць і фэтышызаваць у сьвядомасьці ды пачуцьцях мас такія лёзунгі, якімі гэтыя масы можна было-б захапіць.

Калі ў вайне 1914—18 г.г. гэтымі лёзунгамі былі абарона айчыны, нацыі, зьнішчэньне войнаў, мілітарызму, зьнішчэньне рэакцыйных урадаў (расійскага і нямецкага самаўладзтва), абарона прогрэсыўнай дэмократыі і г. д. і т. падобная хлусьня, але абернутая ў сьвятыню, то для бліжэйшай будучай вайны ўзбуджаючым асноўным лёзунгам павінен стаць лёзунг—*дэмократыі*.

Якое дэмократыі—буржуазнай ці пролетарскай,—не, крычыць буржуазія, не, вучыць рабочыя масы соцыял-дэмократыя,—ніякае розьніцы,—ёсьць толькі адна дэмократыя, па-заклясавая, надклясавая,—найдасканалейшая і справядлівейшая грамадзкая організацыя, якую павінен бараніць кожны жывы чалавек па-за залежнасьцю ад клясы і становішча.

Такой дэмократыяй выслаўляецца і ўрад фашыстых Італіі і ангельская болдуінаўшчына, і ваяўнічая рэспубліка Фоша-Клемансо і, урэшце, рэспубліка нямецкага народу, якой кіруюць монархістыя. Маскіруючы сапраўдны факт таго, што сучасная рэспубліка немцаў прышла да свайго гістарычнага існаваньня на плячох рэволюцыйнае рабочае клясы, але пасьля прыдушэньня пролетарскай рэволюцыі ў крыві, Гільфэрдынгі і Каўцкія гавораць аб тым, што гэта рэспубліка ўтворана рабочай клясай, зьяўляецца яе дэмократыяй, што якраз рабочая кляса зьяўляецца „насіцелем гэтай формы дзяржаўнасьці". Рабочая кляса, якая праз свае організацыі ва ўсіх краінах сучаснай дэмократыі робіць непасрэдны ўплыў на кіраўніцтва, а ў некаторых дзяржавах праз узьніканьне рабочых урадаў, дзе на кароткі час (Ангельшчына), а дзе і на больш доўгі тэрмін (напр., Аўстралія) узяла ўладу ў свае рукі, рабочая кляса навучалася цаніць дэмократыю і дзяржаву і цяпер будзе бараніць іх да апошняй кроплі крыві. Супроць каго?

*Напэўна супроць СССР.*

Калі няма меры павялічэньню дэмократыі Гіндэнбурга-Болдуіна, то няма таксама меры зьневажэньня пролетарскай дэмократыі, пролетарскай дыктатуры СССР. Тут усё зводзіцца да адмаўленьня дэмократычнасьці, тэй формы кіраўніцтва, якая існуе ў СССР, пролетарскага характару дыктатуры, рэволюцыйнага ды інтэрнацыянальнага характару політыкі СССР. Так праводзіцца ідэолёгічная падрыхтоўка вайны—зьбіраньне ўсіх сіл наўкола буржуазіі супроць аванпосту пролетарскай рэволюцыі—СССР.

Клясавая сутычка расійскага пролетарыяту з расійскай буржуазіяй перанесена на сусьветную арэну, і сымболістычным, добрым выразам гэтага факту зьяўляецца тое, што выдатны Аўгур—урадовы выказьнік думак Чэмбэрлена, яго, так сказаць, літаратурны і публіцыстычны двайнік, яго alter ego, ёсьць ніхто іншы, як расійскі белагвардзеец Палякоў. У асобе

Палякова расійская белагвардзейшчына робіць сваю справу на эўропэйскай тэрыторыі, а эўропэйскі імпэрыялізм выкарыстоўвае злосьць, выкліканую расійскай рэволюцыяй у расійскім белагвардзейцу, каб завастрыць і выразьней высьветліць усю варожасьць сваей ідэолёгіі супроць СССР і агаласіць канечнасьць і няўхільнасьць агульнабуржуазнай (па Аўгураўскай тэрміналёгіі—агульнаэўропэйскай) вайны супроць СССР, так што ніякі компроміс немагчымы. Хто, апроч злобнага расійскага белагвардзейца, мог-бы агаласіць барацьбу супроць СССР барацьбой белай расы супроць краіны, якая знаходзіцца па-за межамі белага чалавецтва. І гэтыя злобныя зьвярыныя выгукі друкуюцца на старонках урадовага органу Чэмбэрлена, органу ангельскага міністэрства замежных спраў, ангельскага ўраду, органу, які карыстаецца аграмаднаю вагою і ўплывам ва ўсёй сусьветнай дыплёматыі, у „Фортнайтылі Рэвью". Гэтыя злобныя выгукі пераходзяць у асноўныя програмныя палажэньні рэальнай палітыкі сучаснай сусьветнай буржуазнай дыплёматыі,—дыплёматыі, якая ставіць сваёй канечнай мэтай бескомпромíснае прыдушэньне СССР. Ці патрэбен дзеля гэтага лепшы лёзунг, як абвясьціць СССР па-за межамі цывілізованага сьвету і белага чалавецтва. „У сучасны момант,—агаласіў Аўгур у маі 27 году, і гэта ўсё больш і больш робіцца бравым лёзунгам ваяўнічага імпэрыялізму,—Эўропа канчаецца на мяжы паміж Польшчай і СССР; па той бок мяжы ляжыць краіна, якая адкінула ідэалы белай расы. *Саюз Савецкіх Рэспублік не належыць* да Эўропы, і прызнаваныя ім прынцыпы настолькі проціележны цывілізованаму сьвету, што *ніякі компроміс немагчымы*".

Якраз толькі ўсялякімі скажэньнямі лёзунгу дэмократыя, буржуазія зьбірае аграмадныя арміі, фактычна дзякуючы новым вайсковым рэформам, мілітарызуючы цалкам нацыі і жанчын і мужчын у імя гэтай бескомпромíснай вайны. Амэрыканскі акт нацыянальнай абароны 1920 г.—апошняя і самая дасканалая аграмаднага размаху вайсковая рэформа, якая мілітарызавала ўсё насельніцтва П-АЗШ і падначаліла інтарэсам вайны і надзвычайна хуткай мобілізацыі войска ўсю прамысловасьць Штатаў—прыкрываецца сваім дэмократызмам і барацьбой са звыш прыбыткамі капіталістых у часе вайны. Выданы ў красавіку 1926 г. францускі закон аб усеагульнай організацыі нацыі носіць тыя-ж рысы і хваліцца тым-жа дэмократызмам. Але паколькі гэта ўсеагульнае і па сваёй усеагульнасьці ды сапраўднасьці дэмократычная мобілізацыя нацыянальных сіл для зусім не дэмократычных мэтаў монополістычнага капіталізму можа пацярпець, дзякуючы гэтай супярэчнасьці, крах, то гэта дэмократыя ў дужках мае сваю страхоўку ў фашызьме—нанятых і падкупленых організацыях для зьдзяйсьненьня дэмократыі прымусам. Фашызм павінен адыгрываць ролю ня толькі ў тэхнічнай і псыхолёгічнай падрыхтоўцы вайны, але ў самой вайне, як тая ўзброеная сіла, якая экономічна і гістарычна зьвязана з інтарэсамі монополістычнага капіталізму, павінна

прымусам падпарадкаваць прыгнечаныя клясы дэмократыі монополістычным капіталістым.

Але, абвясьціўшы па той бок белага чалавецтва,—а з пункту погляду буржуазнай дыплёматыі гэта абазначае чалавецтва наогул—СССР, буржуазія зьліла ў адно цэлае СССР са ўсім прыгнечаным каляровым чалавецтвам зямное кулі, і ў даным выпадку позыцыя чэмбэрленізму зусім правільна, і праў Аўгур, калі зьлівае ў адно цэлае барацьбу з СССР і кітайскай рэволюцыяй. Рэволюцыя ў Кітаі, паўстаньні ў Інданэзі, і цэлы шэраг падобных фактаў ёсьць зьявы аднаго і таго-ж антыімпэрыялістычнага парадку, як і Кастрычнікавая рэволюцыя.

У часе паўстаньня Парыскай Комуны, калі Прусія анэксавала ў Францыі Эльзас і Лётарынгію, Маркс пісаў, зварачаючыся да ўсяго эўропэйскага пролетарыяту, зварачаючы ўвагу на тое, што пролетарыят прыналежыць Комуне, наступныя выдатныя словы: „На вачох у прускай арміі, анэксаваўшай дзьве французскія провінцыі, Комуна анэксавала рабочых усяго сьвету, зьліўшы іх з Францыяй". І калі рэволюцыйны Кітай і ўсё каляровае чалавецтва Аўгуры самі аддалі СССР, то СССР з свайго боку ўжо анэксаваў вялікія часткі пролетарскага белага чалавецтва па той Аўгураўскі бок Эўропы і анэксуе іх канчаткова тады, калі Аўгуры пачнуць анэксаваць Саюз.

Пакуль што марксыцкае дзеяньне разгортваецца і з СССР праз Кітай прабіраецца ў Індыю, а гэта-ж самы страшны бок кітайскай рэволюцыі для ангельскай політыкі. І Ангельшчына, ваюючы супроць кітайскай рэволюцыі, ня так бараніла каштоўнасьці ангельскіх капіталістых у самым Кітаі, як бачыла ў перамозе кітайскае рэволюцыі нямінучую гібель свайго панаваньня ў Індыі—гэта яна і папераджала.

У справаздачы брытанскаму парляманту сам ангельскі ўрад піша: „Граніца Бірмы (провінцыя Індыі) распасьціраецца на 1.000 міль з граніцай Кітаю. Мы не павінны забывацца, што ў сучасны момант у Кітаі маецца больш 1.000.000 узброеных салдат, раскіданых у шмат якіх провінцыях пад кіраўніцтвам розных генэралаў, у большасьці выпадкаў ваюючых паміж сабою. Але калі прыдзе час, *калі Кітай у якой-небудзь меры аб'яднаецца, дык гэтыя вялікія арміі зробяцца вялікай потэнцыяльнай пагрозай для Індыі*". А індыйскі нацыянальны рух уважліва адносіцца і к таму, што робіцца ў СССР, і к таму, што робіцца ў Кітаі. 22 мая 1927 г. „Індыян Немналь Геральд" (орган левых індыйскіх нацыяналістых) пісаў: „Чаму стараньні ангельскага ўраду ў аб'яднаньні дзяржаў для барацьбы з Расіяй дасягнулі да пэўнай ступені посьпеху, тымчасам як яны ў Кітаі пацярпелі няўдачу? Паколькі капіталістычныя ўрады Францыі, Злуч. Штатаў і Японіі спалохаліся ўплыву на іх уласных падданых рабочай рэспублікі, то яны ахвотна аб'ядналіся з Ангельшчынай у барацьбе за зьнішчэньне Савецкага Саюзу. Але ў Кітаі іх інтарэсы разыходзяцца... Аднак, як-бы там ні было, але мы сумняваемся ў

тым, што барацьба супроць кітайскіх нацыяналістых абумоўлена выключна меркаваньнямі дасягненьня панаваньня ў багацейшых частках Кітаю, хоць само па сабе гэта зьяўляецца паважным мотывам барацьбы Ангельшчыны супроць Кітаю, але яно не выключае існаваньня і другое прычыны. *Гэта прычына—Індыя.* Паглядзеце на карту. Калі Кітай утварае рэспубліку ў інтарэсах рабочых і сялян, і калі з гэтага часу Кітай і белыя расы будуць роўнымі, *то ўвесь твар Азіі зьменіцца.* Тады Індыя безнадзейна застанецца ззаду. Амаль яна адна будзе пад дэспотычным рэжымам. Уражаньне ад такое ганьбы будзе вельмі адчувацца на ідэолёгіі індыйцаў. Гэта зьнішчыць сілу і ўплыў індыйскага рэформізму, які можа і зьяўляецца асноўным апірышчам брытанскага панаваньня ў Індыі. Гэта ў сваю чаргу будзе сур'ёзным ударам па імпэрыялізму... *Ідэолёгічна свабодны Кітай будзе такім-жа страшным для брытанскіх пануючых клясаў, якім зьяўляецца для іх вызваленая Расія.* Вось чаму ангельцы глядзяць з жахам на перамогі рэволюцыйнага Кітаю, перамогі, якія перашкаджаюць іх інтарэсам ня толькі ў Кітаі, але могуць прывесьці іх да паўтарэньня ў Індыі. З гэтае прычыны ангельцы, паколькі гэта практычна магчыма, мобілізуюць усе сродкі сваёй цывілізацыі—грошы і кулямёты—дзеля прыдушэньня кітайскай рэволюцыі, *як гэта яны рабілі для зьнішчэньня расійскай рэволюцыі*".

Мы прывялі гэту доўгую вынятку з тае прычыны, што ў ёй ад пачатку да канца ўсё вельмі выдатна, але асабліва—гэта цесная сувязь між рэволюцыйным рухам у Расіі, Кітаі, Індыі, гэта супольнасьць рэволюцыйных інтарэсаў супроць Ангельшчыны, чэмбэрлінізму, у канечным выніку квінтэсэнцыі сусьветнай буржуазнай політыкі. Ня дзіва, што комунізм заваёўвае ўсё больш і больш уплыву ў Індыі, і па цэламу шэрагу пытаньняў апошняя конфэрэнцыя Ўсеіндыйскага Камітэту Нацыянальнага Конгрэсу солідарызавалася з політыкай Комінтэрну і, напрыклад, па пытаньні аб ангельскіх профсаюзах вынесла рэзолюцыю, прапанованую комуністымі, дзе гаворыцца: „Усеіндыйскі Камітэт Нацыянальнага Конгрэсу выказвае сваю гарачую сымпатыю брытанскім рабочым супроць імпэрыялістычнага ўраду, які праз парлямант прымусова праводзіць самы рэакцыйны і самы рэпрэсыўны біль аб трэд-юніёнах. Гэта адкрытая атака на брытанскіх рабочых зьяўляецца часткаю агульнай агрэсіі і рэпрэсіі, накіраваных супроць рэволюцыйных рухаў у імя капіталістычнай ды імпэрыялістычнай прагавітасьці". А ў стасунку да Кітаю прыняты наступныя дзьве цікавыя рэзолюцыі:

I. „Усеіндыйскі Камітэт Нацыянальнага Конгрэсу выказвае кітайскаму народу сваю сымпатыю ў яго барацьбе за незалежнасьць Кітаю і ганіць дзеі брытанскага ўраду, які выправіў індыйскія ды іншыя войскі ў Кітай".

II. „Усеіндыйскі Камітэт Нацыянальнага Конгрэсу заклікае „Се-ва-Даль" (організацыя валонтэраў выключна з моладзі) распачаць практычную працу ў стасунку да організацыі паходнага санітарнага аддзелу для выправы ў Кітай".

Абмяжованыя месцам, мы ня можам тут падаць цэлага шэрагу фактаў рэволюцыйнага руху іншых краін, асабліва Індонэзіі, якія паказваюць, як руская і кітайская рэволюцыі, яднаючыся, будзяць увесь прыгнечаны каляровы сьвет.

Уся гісторыя XIX сталецьця поўна дзесяткаў крывавых паўстаньняў прыгнечаных народаў ва ўсіх частках сьвету. Іх моц да гэтага часу была ў іх стыхійнасьці, іх няўхільнасьці; іх слабасьць—у разрозьненасьці, адсутнасьці сьвядомай мэты, сьвядома вызначанага кірунку. У гэтых адносінах марксызм прарабіў у апошняе дзесяцілецьце аграмадную работу. Ён удыхнуў ва ўсе гэтыя рухі разумны зьмест, ён праняў іх тэорэтычнай думкай, зьвязаў у адно цэлае рух супроць імпэрыялізму, супроць няволі капіталістычных монополістых.

Бальшавізмам дыхаюць, паводле прызнаньня нават буржуазных назіральнікаў, паўстаньні кафраў у Паўднёвай Афрыцы, малайцаў на Суматры і Яве, прыгнечаных сялянскіх мас у дзікіх стэпах, на апрацоўваных нявольнікамі плянтацыях Бразыліі, Чылі ды іншых старонках Паўднёвай Амэрыкі. Пад непасрэдным і надзвычэйна моцным уплывам комунізму разгортваецца ў нетрах кітайскай рэволюцыі рух рабочых і сялянскіх мас. Усё больш пад знак бальшавізму становіцца рэволюцыйна-нацыянальны вызваленчы рух у Індыі. Пад непасрэдным уплывам і пры непасрэдным удзеле комуністых утвараецца асярэдзіна, якая яднае ўвесь антыімпэрыялістычны рух прыгнечаных народаў—„Ліга барацьбы з імпэрыялізмам“.

Усё больш марксыцкае сьвядомасьці ўносіцца ў гушчу рабочае клясы тых краін, якія да гэтага часу стаялі амаль збоку організаванай барацьбы з капіталізмам; мы гаворым аб профэсыянальным руху рабочае клясы ў ціхаакіянскіх краінах, які або зусім ледзь трымаўся, або цалкам і поўнасьцю знаходзіўся пад уплывам амэрыканскай фэдэрацыі працы, якая выключала з рабочага профэсыянальнага руху шырокія масы некваліфікаваных і каляровых рабочых. Організацыя ціхаакіянскага зьезду профэсыянальных саюзаў пад непасрэдным уплывам комуністычнага Профінтэрну, організацыя цэнтру гэтых зьездаў уцягвае ў організаваную барацьбу шырокія масы, якія стаялі да гэтага часу па-за організаванымі шэрагамі рабочых мас.

Нас мала абражае тое, што Аўгур ставіць нас па-за белай расай і цывылізацыяй, ці даўно гэта рабілася ангельцамі ў стасунку да бошаў—немцаў, а немцамі—у стасунку да англа-саксаў; зараз Аўгур хваліць Нямеччыну за яе энэргію і ўпартасьць у мінулай вайне і думае скарыстаць гэтыя якасьці Нямеччыны, якая ўвойдзе ў саюз сусьветных імпэрыялістычных дзяржаў, для прыдушэньня рэволюцыі; мы-ж скарыстаем упартасьць гістарычных вывадаў марксызму, каб далучыць да вызваленай ад капіталістычнай няволі цывілізацыі Эўропы ўсе аграмадныя масы каляровага чалавецтва. Дзесяць год пасьпешнага разьвіцьця СССР зьяўляюцца гарантыяй таго, што гэта будзе зьдзейсьнена.

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ХАРАКТАР ЛІТОУСКАГА СТАТУТУ 1529 г. [1])

С. Барысёнак

## IX

Той, што ёсьць, друкаваны матэрыял не дае магчымасьці прасачыць па ўсяму Статуту ўсе нормы звычаёвага права і судовыя прыгаворы, якія зрабілі ўплыў на зьмест палажэньняў Статуту, ці нават проста перанесены ў яго бяз усякіх зьмен. Але паказаць ня мала конкрэтных выпадкаў выкарыстаньня гэтай крыніцы аўтарамі Статуту, каб пераканацца, што ў яго ўвайшлі нормы літоўска-беларускага звычаёвага права, зьяўляецца ўпаўне магчымым. Зразумела, аб'ём выкарыстаньня звычаёвага права пры складаньні Статуту ня мог быць аднолькавым ува ўсіх яго разьдзелах.

Разьдзел I можна лічыць констытуцыйнаю гарантыяй зямляўласьніцкай клясы Літоўска-Беларускай дзяржавы. Некаторыя з артыкулаў маюць выключна дэкларацыйны характар, як, напрыклад, артыкул 9 аб тым, што *„вси* подданные... тым писанымъ правомъ мають быти сужоны", ці артыкул 25, які зьмяшчае ўрачыстае абяцаньне вярхоўнай улады не выдаваць прывілеяў без паноў-рады і вальнага сойму.

У беспарадкавым, на першы погляд, разьмяшчэньні асобных артыкулаў гэтага разьдзелу можна ўсё такі ўгледзець сваясобную лёгіку. Так, напрыклад, першыя артыкулы выходзяць з аб'яднальнага разуменьня „маестату".

Якія крыніцы першых 8 артыкулаў? Асноваю першага артыкулу паслужыў прывілей 1447 году [2]). Артыкулы 2—4 выходзяць з разуменьня ўцёку ў варожую зямлю, як дзяржаўнага злачынства; яны крыніцай сваёй маюць законадаўчы акт: „Уставу... на тыхъ, хтобы зваду подъ господаремъ вчинилъ" [3]). Артыкул 5 аб падробцы лістоў ці пячатак, асновааны на судовай практыцы [4]). Артыкул 6 аб згалтаваньні ўрадніка ці пасла

---

[1]) Гл. „Полымя" № 6 за 1927 г.

[2]) Владим.-Буданов. Хрестом. II, с. 23.

[3]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр. I, с. 616.

[4]) Так, у судовай справе зямяніна дарапіцкага Людвіга Яновіча 1494 г. чытаем: „ино перво сего тотъ Людвикъ вказалъ передъ нами на тую землю листъ отца нашого несправный, фальшовный, и мы, того гораздо ся доведовшы, што-жъ листъ былъ не добрый, за то есмо того Людвика вельми скарати"—Р. И. Б. XXVII, с. 524.

гаспадарскага ў часе выкананьня службовых абавязкаў запазычаны з польскай канстытуцыі 1510 г. [1]). Крыніцаю артыкулу 7 маглі быць прывілеі 1447 году, Судзебнік Казіміра, прывілеі Смаленскі і Кіеўскі, і, апрача таго, артыкул гэты меў многа прэцэдэнтаў у судовай практыцы. Артыкул 8 аб тым, „хто бы за мало много упросилъ“, унесены ў Статут на падставе спэцыяльнай законадаўчай пастановы Гародненскага сойму 1522 году аб канфіскацыі за самавольна захваченыя гаспадарскія землі [2]).

Аглядваючы пералічаныя артыкулы, ці можна заўважыць у іх пераважу якога-небудзь аднаго нацыянальнага права? Тут выкарыстаны настолькі рознастайны матэрыял, што наўрад ці мелі аўтары Статуту на мэце нацыянальную ідэю.

Артыкул 9 пачынае сабою шэраг норм, устанаўляючы, як выходны момант, роўнасьць усіх (трэба разумець—шляхты) перад новым „пісаным правам“—Літоўскім Статутам. Агульны характар іх таксама канстытуцыйны. Аснованы яны на рознастайным матэрыяле. Так, тут ёсьць артыкулы наватарскага характару, як, напрыклад, „устава давности земское“, артыкул 27, ці артыкул 18, які ўстанаўляе тэрміны дарослаcьці не такія, як іх прызнавала звычаёвае права, а іменна 18 год для мужчыны замест 15-ці [3]). Ёсьць палажэньні, аснованыя ў вогуле на польскім праве; так, крыніцаю арт. 21 „хто бы новые мыта уставлялъ“—паслужыў закон, выданы на Кадомскім сойме 1505 г. [4]). Ёсьць артыкулы, якія бяруць сваю істоту з прывілеяў, як арт. 14—15. Ёсьць палажэньні, істотаю якіх паслужыла судовая практыка. Каб паказаць, што апошняя сапраўды была выкарыстана пры складаньні Статуту, спынімся на артыкуле 13—„Хтобы выпустилъ с казни осаженого злочинцу, або виноватого“.

Пры вялікім значэньні прыватнага погляду на правасуднасьць трыманьне ў астрозе таго, хто парушыў права, ці вінавайцу, было справаю выключна прыватнаю. За нагляд над заключным варта атрымлівала асобную плату (павежнае—па Бельскаму прывілею), а за гэта (адзьверныя, варотныя) павінны былі ўважна пільнаваць вязьняў. Аб гэтым складаўся спэцыяльны дагавор, дзе азначаліся ўзаемныя абязацельствы як таго, хто садзіў каго-небудзь „у казнь“, так і таго, хто браў „у свае рукі нетца“. Так, у 1517 годзе дваранін гаспадарскі Галубка дагаварыўся з варотным ковенскага замку Якубам Кунцовічам аб тым, што Галубка дае ў казьнь гаспадарскую баярына, павету Ясьвенскага, на імя Войдота Жыбіртовіча ў сарака двух копах грошай. Варотны Якуб Кунцовіч павінен быў трымаць у заключэньні таго баярына Войдота „до матки Божое Первое“, і ў выпадку, калі-б Галубка ня ўзяў з казьні таго баярына ва ўмоўлены

[1]) Максимейко. Источники Угол. Зак., с. 127.

[2]) Любавский. Литовско-Рус. Сеймъ, с. 227.

[3]) Ср. Р.И.Б. XX, Лит. Метр. I, с 1548.

[4]) Максимейко. Ист. Уг. Зак., с. 128.

тэрмін, то варотны меў права выпусьціць таго вязьня з казьні. А таксама, божа таго ня дай,—угаварваліся бакі—калі-б якая-небудзь боская воля сталася, што ўцёк-бы той баярын з казьні да тэрміну, тады Галубка ня мог „поискивати“ на тым варотным ні баярына, ні пенязей тых, што былі на тым баярыне.

Такім чынам, варотны Кунцовіч забясьпечыў сябе дагаворам ад усякіх выпадковасьцяй. І ўсё такі ён зьвярнуўся ў суд з заяваю, што пасаджаны ў казьнь баярын паміраe, а Галубка яго не бярэ. Судзьдзі пастанавілі баярына з казьні выпусьціць [1]).

У 1517 годзе скардзілася на гаспадарскім судзе мяшчанка віленская Ганна Мацейкава Вавіна на адвернага гаспадарскага Пятра Маньяка аб тым, што ён узяў яе мужа з казьні духоўнай і невядома куды выправадзіў, а між тым яе „въ мужнихъ долгохъ находятъ“, а яна ня мае чым плаціць.

Адверны Пётр прызнаў, што муж яе быў у яго і вытлумачыў, што да яго прышоў дваранін гаспадарскі Раман Мошковіч і стаў прасіць каб выняў таго Мацея з казьні на яго парукі. Адверны і аддаў яму Мацея на парукі. Дзякуючы таму, што дваранін гаспадарскі Раман Мошковіч адмаўляўся ў гэтым, адверны прапанаваў яму прысягнуць. У назначаны судом дзень Мошковіч не прысягнуў. Тады судзьдзі:

„положили ему рокъ *земский дванадцать недель,* того мужа ее поставити“.

А калі-б не паставіў Раман таго Мацея, то павінен быў-бы заплаціць Ганьне „подъ добрымъ доводомъ“ даўгі і шкоды, якія ўчыніў ёй муж,—трыццаць коп бяз двух грошай.

Раман і на гэты тэрмін Мацея не паставіў і прасіў даць яму яшчэ тэрмін. Суд даў яму яшчэ чатыры тыдні, аднак, з тою ўмоваю, што, калі Мацея не паставіць, дык павінен будзе заплаціць Ганьне пенязі „на чомъ присягнеть, або свѣдомье доброе вчинить“ [2]).

Гэтую практыку, якая наглядалася па Літоўскай мэтрыцы ў Літве, і зафіксоўвае Літ. Статут:

„Коли-б хто дан был в казнь нашу господарскую, або в которую иншую в некоторой суме осажоной або о которое иное обвиненье; онъ бы которому оного виноватца в руки поданого своего неапаторностью с казни выпустилъ, тотъ мает сам тую суму або шкоду заплатити, в которой былъ посаженъ, и на што бы чиего нетца выпущоно—слушный довод учинить, або оного выпущоного опять в право поставити мает на року судовом положономъ; естли у земли Господарской—тогды дванадцать недел, а естлиж въ чужой земли, тогды трое дванадцать недел“ [3]).

---

[1]) Р. И. Б. XX, Литов. Метр. I, с. 422.

[2]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 508. Аналёгічны выпадак с. 262.

[3]) Літ. Ст. 1529 г., I, 13.

## X

Разьдзел III па сваёй істоце зьяўляецца непасрэдным працягам I разьдзелу. Артыкулы „аб вольнасьцях шляхты“ — гэта сапраўдная шляхецкая канстытуцыя. Асноўнай ніткаю праходзяць упэўненьні вярхоўнай улады аб „захованье старыхъ привилеевъ земскихъ и звычаевъ, которые в тыхъ привилеяхъ описаны, подтвержоны и уфалены“ (арт. 6). Аднак, і тут наглядаецца ня толькі фіксацыя папярэдніх парадкаў, але сёе-тое і новае. І тут ёсьць запазычаньні з польскага права, як, напрыклад, артыкул 12 („хто бы кому приганилъ, а назвалъ его, ижъ естъ нечистого ложа сынъ“)—узяты цалкам з Вісьліцкага Статуту[1]). У аснове артыкулаў пра „звод шляхецтва“ ляжыць ухвала „аб вываде шляхецтва за примоваю“ [2]). Некаторыя артыкулы асsnovаны на судовай практыцы і звычаёвым праве.

Артыкул 12 гаворыць:

„естли бы шляхтичъ шляхтича збилъ; тогды водле *обычая правъ дванадцать рублевъ грошей*“...

І сапраўды, гэта была норма звычаёвага права, якое ўжывалася ў Літве і Беларусі.

У 1516 годзе скардзіліся на гаспадарскім судзе баяры Эйшышскія Наўкупцы аб захваце зямлі і бойцы, учыненай п. Барташэвічам. Гаспадар для разгляду справы назначыў камісараў.

„Ихъ милость (камісары) тамъ ездили, и тыи земли и сеножати, о которыи они жаловали, имъ присудили и за бои ихъ навязки по дванадцати рублевъ грошай сказали“ [3]).

Артыкул 15, які рэгулюе асабістыя і маемасныя адносіны паміж панамі і іх слугамі шляхціцамі, адбівае ранейшую практыку, і, вельмі магчыма, быў унесены ў Статут у інтарэсах служылай шляхты, якая адчула ўжо ўціск ад магнацтва.

Так, напрыклад, у 1517 годзе скардзіўся слуга двараніна гаспадарскага п. Падвірбецкага, Сьцяпан Балтромеевіч, на п. Яна Войтковіча. Калі бацька яго служыў бацьку п. Яна, дык той даў яму зямлю. Але бацька Сьцяпана меў і сваю ўласную маемасьць: два кані, два валы, дзьве каровы, шасьцёра авец; апрача таго, і матка прынесла ў дом на тую-ж зямлю два валы, клячу, кажух, сукно, верхні акрывак ад пылу (плашч) і іншыя рэчы і дзеўку нявольную. Пасьля сьмерці бацькі яго п. Ян усе гэтыя „статки“ забраў, трымаў у сябе і не хацеў аддаць.

На судзе выявілася, што ў Сьцяпана сапраўды рэчы былі ўзяты, аднак учыніў гэта ня пан Ян, а яго цівун Пятро. З гэтай прычыны суд прызнаў п. Яна правым, „а тому Счепану велели того Петра искати“ [4]).

[1]) Максімейко. ук. работа, с. 128.
[2]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 1114.
[3]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 410.
[4]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 462.

Каля 1513 году разглядалася на гаспадарскім судзе справа паноў Грынковічай з іх слугамі Нарушам з сынам аб тым, што іх Грынковічы „верънуть в неволю“... Для даказнасьці таго, што яны людзі вольныя, родзічы якіх служылі ў Крэве панцырную службу, Нарушы паказвалі, што калі Грынковічы маёнткамі свайма дзяліліся, дык яны „им то припоминали“. А Грынковічы адказвалі:

„коли ся они делили, они о том молчали, а в делу ся того не припоминали. *А хто въ делу стоить а замолчить, тотъ дей, подле права великого князства, маеть тому вечно служити*“[1]).

Труднасьць выяўленьня падобных спраў заключалася заўсёды ў тым, што бакам прыходзілася даказваць свае правы пераважна тымі „дельчими“, якія рабілі падзел маёнтку. Такі спасаб даказнасьці не заўсёды быў выгадны, бо звычайна з моманту падзелу маёнтку да моманту зьяўленьня спрэчных адносін праходзіла ня мала часу. Статут касуе гэтую нявыгоду, вымагаючы, каб асабістыя і маемасныя правы панскіх слуг афармляліся дакумантальным спосабам—„листом“, які і зьяўляецца адзінай даказнасьцю.

...„а естли бы тотъ, который выслужилъ имене на пане своемъ, а по смерти пана своего на которомъ онъ выслужилъ, дети того пана делити ся хотели, а тотъ бы у тотъ часъ, коли ся они будутъ делити, не препоуминалъ, а места не вказывалъ, а тотъ панъ будет ли ему того в насъ листом нашим не подтвердилъ, а они ся поделят; тогды таковый лист моцы мети не будетъ, иж замолчалъ, и спадываетъ тое имене за се на отчица, а таму маеть служити, кому у делу достанет. А естли бы не хотел служити, тогды мает имене подати тым всим, с чим ему дано, а самому, волно пойти со всими его статки“[1]).

Артыкул 17 мае характар выпадковага дадатку да III разьдзелу. На гэта паказвае нязвычайная рэдакцыя яго. Ён мае загад ураднікам усім „абы не допущали корчомъ варити, покупных на местцех не слушных, а найболшей тым, которые бы данины не мели через лист, нашъ або через урядниковъ нашихъ“. А далей ідзе такі зварот да ўраднікаў, які зусім не адпавядае агульнаму стылю статуту: „А про то приказуем, абы кождый з васъ таковые корчмы забирал“. Мотывам гэтага артыкулу зьяўляецца тое, што „*через таковых корчмы много злодейства чинит* и теж плат наш Господарскій уменшается теж и тым, которые мают данину через листъ нашъ“.

Падставаю гэтай пастановы паслужылі судовыя справы, якія разьбіраліся ў гаспадарскім судзе. Так, каля 1520 году на гаспадарскім судзе разглядалася скарга п. Чыжовай Марыны, якая вінавааціла свайго сына Андрэя ў гвалтоўным нападзе на яе маёнтак, у забойствах і пабо-

[1]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр., с. 811.
[2]) Статут 1529, III, 15.

ях слуг, у розных шкодах. Пан Андрэй адкідаў абвінавачаньне ў нападзе і паказваў, што ўсё сталася ў звадзе слуг іхніх, да якой ён асабіста ня меў ніякіх адносін:

„тыи слуги мои пришли до корчмы у тотъ домъ, и пили там, пиво за свои властныи пенязи, бо ее милость тамъ корчму маеть безъ данины господарское, як же ся много звадъ и злодейства становить от тое корчмы“ [1]).

## XI

Разьдзел VI зьмяшчае, галоўным чынам, нормы па судабудаўніцтву і судавытварэньню. У ім знаходзяцца новыя артыкулы, выкліканыя самім фактам выданьня новага кодэксу, які, па думцы законадаўцы, павінен быў быць адзінаю крыніцаю права (арт. 1, 2, 27). Некаторыя з артыкулаў, як, напрыклад, „о бранье пересудовъ“—узяты з „уставы о пересудах“ 1509 г. [2]), маюць законадаўчыя крыніцы. Арт. 3, які гаворыць аб удзеле прадстаўнікоў шляхты на судзе ваявод, стараст і дзяржаўцаў—ёсьць спэцыяльны законадаўчы акт, якога дабілася шляхта ў часе разгляду проекту Статуту [3]). Некаторыя артыкулы маюць характар абмежаваньня праў, якія мелі сілу да Статуту, як, напрыклад, артыкул 2, які забараняе бакам адзывацца да вышэйшага права, не дастаяўшы права да канца; ці артыкул 8, які забараняе „закрывацца лістамі гаспадарскімі“. Ёсьць нормы, крыніц якіх нельга знайсьці ў старадаўна-рускім праве, як, напрыклад, артыкул 13 аб паверaных (прокуратарах). Урэшце, ёсьць артыкулы, якія зафіксоўваюць старадаўны звычай ці ўсталяваную судовую практыку. У цэлым, разьдзел VI рэформатарам быў даволі значна перапрацаваны.

Што датычыць звычаёвага права, якім кіраваўся ў сваёй дзейнасьці гаспадарскі суд, дык у некаторыя артыкулы яно ўвайшло бяз усякіх зьмен. Так, напрыклад, „роки заплате денежной“—чатыры тыдні ўстаноўлена Статутам, згодна звычаю (артыкул 15). Ї сапраўды, у справе 1514 году пана Мікалая Радзівіла з пан. Юр'ем Зяноўевічам знаходзім, што судзьдзі прызналі п. Юр'я вінаватым і прысудзілі заплаціць за ўсе гвалты, галоўшчыны, бої і шкоды:

„и роки есмо тому три положили по чотыри недели то есть двенадцать недель, подлугъ обычая права земского“ [4]).

У справе Людмілы Сузінай і Тодара Сузіна аб гвалце і бойцы—судзьдзі пастанавілі, каб Тодар заплаціў усе гвалты і навязкі:

„положили есмо три роки по чотыри недели подле обычая права земского“ [5]).

---

[1]) Р.И.Б. Лит. Метр. I, с. 1402.

[2]) Р. И. Б., Лит. Метр. I, с. 619.

[3]) Любавский. Литовско-Русский Сейм. ст. 252.

[4]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр., I, с. 195.

[5]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр. I, с. 223, глядзі яшчэ с. с. 411, 561, 1277, 1283, 1296, 1317, 1485, адпаведна астальному зьместу артыкулу 15.

## XII

Разьдзел VII характэрны тым, што 1) аўтары Статуту амаль для ўсіх артыкулаў гэтага разьдзелу выкарыстоўвалі польскае права, праўда, перапрацаваўшы яго так, што яно не супярэчыла праву тубыльнаму, і 2) у ім зьмяшчаецца клясавае—шляхецкае крымінальнае права, у аснове якога ляжыць шырокае разуменьне „гвалту"; аб злачынствах, якія адбыліся сярод сялянскага і нявольнага насельніцтва і, галоўным чынам, аб зладзействе трактуе разьдзел XIII.

Зьвярнуўшыся да польскіх крыніц, аўтары Статуту бязумоўна прысьпешылі сваю работу, хоць бытавы фон быў ім, зразумела, вядомы, калі яны працавалі над тэкстам Вісьліцкага Статуту адносна гвалтоўнага наезду на дом (Статут, 1529, арт. 1—5) [1]).

Тэкст польскіх законаў дапамагаў клясыфікаваць злачынствы, узгадняць рознастайныя судовыя пастановы і г. д. Іншы раз аўтары завельмі блізка падыходзілі да чужога тэксту, дзякуючы чаму забываліся аб такім, што трэба было-б унесьці ў кодэкс. Так, напрыклад, артыкул 7 прадугледжвае парадак судовага вытварэньня з прычыны „пофалкі" ўчыніць шкоду, спаліць двор ці гумно ці забіць каго-небудзь. Аднак, ён не паказвае крымінальнай адказнасьці за самы падпал. У судовай практыцы знаходзім дакладную формулёўку нормы аб падпале. Так, у справе кн. Палубенскага з кн. Пузынаю сказана:

„маеть Севрукъ (вижъ) самъ тыи светки перед нами поставити, а тыи светки мають подъ присягою светчити, для тое причины, ижь есть пожога: *а хто безъ пригоды кого сожжеть, тот сам огню годенъ*" [2]).

Артыкулы 11, 12, 13—аднароднага зьместу, якія гавораць аб праве родных на сысканьне з забойцы галоўшчыны („которой братьи рожоной будет отца забито, яко мають головщины искати"—„Близкие которые не всхотят близкост головщины искати".—„Межи братьи и сестръ рожоных хто мает головщины отцовское и матчины искати").

У 1515 годзе скардзіўся гаспадар дваранін Творыян Дрэмлік на ваяводзіную Троцкую пані Петровую Яновіча, што яна, наслаўшы на дом яго бацькі, загадала забіць яго. На судзе п. Пятровая паказала, што перад гэтым ён вінаваціў яе слуг, а цяпер скардзіцца ўжо на яе, а яна і цяпер „права не боронить". Гаспадар вырашыў, каб Дрэмлік шукаў на слугах. Тады Дрэмлік перад гаспадаром:

„*взялъ от братьи своее полеценье,* ижъ тое головы отца своего на тых слугах панее Петровое одинъ—самъ маеть искати" [3]).

---

1) Ср. Р. И. Б. XX. Литов. Метр., I. с. с. 424, 589, 261, 1.239 і іншыя.

2) Р. И. Б. XX. Литов. Метр., I, с. 1.521.

3) Р. И. Б. XX, Лит. Метр., I, с. 857. Глядзі яшчэ с. 1.481.

Гэта быў нормальны парадак. Статут (арт. 11) прадугледжвае той выпадак, калі астальныя браты будуць малыя, ці каго-небудзь з братоў у зямлі ня будзе. Калі браты разам не захочуць шукаць галоўшчыны, тады той брат, які застанецца ў доме і сышча галоўшчыну, не павінен дзяліцца ні з кім.

У 1520 годзе скардзілася баярыня Медніцкага павету Цыцэлія Васноўка на дзядзькавічаў сваіх—Юхна і Самуіла Андрушковічаў, што дзяржаць яе айчызны маёнтак. Апошнія так адказвалі: брат яе родны, а іх дваюрадны Балтромей Васковіч забіў брата свайго роднага Івахна „Мардерскимъ обычаемъ". І перад тым яны ўжо мелі права, і суд знайшоў таго дзядзьковіча Балтромея вінаватым і „сказаў ім на іх галоўшчыны сто коп грошай; *а она у правѣ с ними не хотела стояти*". Суд пастанавіў увязаць іх у той маёнтак. А брат той, Бартоломей, уцёк, а яны той маёнтак і да гэтага часу трымаюць. Судзьдзі запыталі Цыцэлію, ці была яна падзелена з братам сваім „у выправе сваей". Тая адказала, што „не была дельна". Тады судзьдзі пастанавілі:

„и мы, порозумевши, ижь *она въ тотъ часъ, коли брата ее вбито, не хотела правомъ головщины на брате своемъ искати,* а они, будучи дядьковичи, *в то ся вложили* и за голову брата своего *головщину зыскали*, сказали есмо межи ними тымъ обычаем: маеть тое Цыцэлія половину отчизны свое держати, а тымъ дядьковичомъ ее, Юхну а Самуилу, другую есмо половицу сказали держати, *для тое причины, ижь они брата своего голову зыскали*" [1]).

Артыкул 18 трактуе аб адказнасьці дамавога гаспадара за шкоду ў яго доме ці гвалт на дарозе, калі гэта адбылося „з волею або с приказаньемъ або с ведомостью" яго. Гаспадар дому павінен у такім выпадку сваімі пенязьмі той разбой ці шкоду „оправовати, а тых злодеев искати".

Гэты артыкул перадае норму дзейнічаўшага ў Літоўскім княстве звычаёвага права, формуляваным у судовым прыгавары гаспадарскага суду 1519 году па справе аб забойстве п. Венслава Скіндзярэвіча:

„и мы тому порозумевши ижь тотъ обычай есть и права въ панстве господаря нашого: „коли въ чием дому будеть гость раненъ або вбитъ, маеть вбийци господарь домовый искати, а головщину маеть самъ платити" [2]).

Артыкул 20 ўстанаўляе адказнасьць за гвалт, але не дамавы, які прадугледжаны 1—2 артыкуламі таго-ж разьдзелу VII,—а так званы „польный"—на полі, суседзкі. Кара—дванаццаць рублёў грошай скрыўджанаму і столькі-ж гаспадару каралю. „Польный гвалт" быў самым звычайным шляхецкім злачынствам, якое зьяўлялася на глебе заблытаных зямельных адносін шляхты.

---

[1]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр., I, с. 1.481.

[2]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 1.275.

З аднэй судовай пастановы гаспадарскага суду відаць, што артыкул 20 аднаўляе судовую практыку, якая знайшла сваё выяўленьне ў спэцыяльным законадаўчым акце:

Каля 1516 году скардзіўся стараста Жамойцкі п. Станіслаў Яновіч на біскупа Віленскага Вайцеха, што той гвалтам забраў сенажаці, якія ён здаўна трымаў. Біскуп адказваў, што сенажаці, наадварот, здаўна яго. Пан стараста спасылаўся на сьведак, якія пацьвердзілі, што сенажаці сапраўды старасты:

„ино господаръ его милость, съ паны радами своими о томъ межи ними досмотревши, *подлуг тое уставы, которую его милость первей* сего уставилъ: „хто што кому на поли озметь, а человека вдарить, або соху зрубаеть, тотъ маеть то вернути и кгвалту двенадцать рублевъ грошей заплатити; а хто што озметь безъ бою, тотъ то платить з навязкою“[1]).

Каля 1514 году скардзіліся гаспадару кн. Сьвірскія на п. Юрыя Зіноўевіча, што ён, наслаўшы, гвалтам узяў у іх стада, дваццаць коняй і сорак сьвірэн. Судзьдзі пастанавілі аб заплаце за коняй і кароў і апрача таго:

„сказали есмо князем Свирскимъ на пане Юрьи *кгвалту дванадцать рублевъ грошей, а на господаря другую дванадцать рублевъ грошей*“ [2]).

Шэраг артыкулаў аб „звадзе“, як падставе для злачыннага нанясеньня ран ці забойства, складзена па чужаземных узорах. Некаторыя з іх проста зьяўляюцца перафразоўкай чужых норм, як, напрыклад, артыкул 24—„О зваде вечерней“, аснованай на пастанове Вісьліцкага статуту, аб параненьні ў той час, калі была патушана сьвечка[3]); артыкул 25 аб наўмысным параненьні ўзяты з Вісьліцкага Статуту з пастановы аб параненьні ў часе гульні; артыкул 26 аб параненьні каго-небудзь слугою ў часе абароны свайго пана запазычаны з Саксонскага Зерцала[4]), артыкул 27 аб слузе, які ўчыніў галоўшчыну, мае крыніцаю Вісьліцкі Статут; артыкул 28—новага зьместу—які ўстанаўляе тэрміны крымінальнай даўнасьці.

Тубыльнага пахаджэньня артыкул 23 „аб звадах“. Ён прадугледжвае шэраг конкрэтных казусаў.

I. Звада, учыненая пры такіх умовах: а) паранены абодва бакі, б) пры адсутнасьці сьведак, в) абодва бакі бяруцца прысягаць. Кіданьне жэраб'я павінна было выявіць каму прысягаць. А прысяга мае толькі адну задачу, даказаць, хто *першы* пачаў зваду, у выніку чаго адбылося параненьне.

---

[1]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр., I. с. 950.

[2]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр., I. с. 100. Глядз. таксама с. с. 171, 188, 269, 320, 383, 480, 1.356, 1.399, 1.508, 1.545.

[3]) Максимейко, паказ. творы, с. 123.

[4]) Максимейко, паказ. творы, с. 170.

Кіданьне жэраб'я было нормаю звычаёвага права, як у грамадзянскіх справах, так і ў крымінальных, калі трэба было выявіць які з бакоў дапусьціць да прысягі. Так, у справе аб доўгу каля 1514 году між службоўнікам панскім Грамыкаю і віленскім мешчанінам Зіновым суд пастанавіў:

„Естли обе стороне въсхотять присягнуть, маеть промѣжи ними лесы кинути, кому ся лесъ выйметь тотъ маеть присягнути"[1]).

У справе аб бойцы каля 1520 году між дарагіцкім мешчанінам і баярынам гаспадарскім Венцком Яцковічам, кожны бок браўся прысягнуць. Суд пастанавіў:

„межи ими лесы кинути, кому ся выйметь присягати"[2]).

II-гі казус—калі з абодвух бакоў, якія звадзіліся, ёсьць забітыя. Тады ізноў кідаецца жэраб'я, якое павінна вызначыць, хто будзе даказваць першы „пачатак" звады.

III-ці казус—калі з аднаго боку будзе паранены, а з другога—забіты. У гэтым выпадку пераважнае права даказваць, што зваду пачаў другі бок, належыць боку забітага („тогды при ономъ убитомъ близший будет довод чинити, нижли ровным отводити").

У судовым працэсе каля 1520 году п. Андрэя Чыжэвіча, які абвінавачваўся ў начным гвалтоўным наезьдзе на маёнтак маткі сваёй, і забойстве і параненьні слуг яе, ён паказваў на непрыналежнасьць сваю да гэтага злачынства і, апрача таго, даказваў, што ўсе гэтыя здарэньні адбыліся ў звадзе паміж слугамі іх у патаемнай карчме сваёй маткі. Пані Чыжовая сьведак не паставіла. Справу трэба было разьвязваць прысягаю. Судзьдзі:

„далі ім (параненым слугам пані Чыжовай) на присягу, якожь ближним они на том гвалте и на своихъ ранахъ, тежь на шкодахъ присягнути"[3]).

Каля 1516 году гаспадарскі суд разглядаў крымінальную справу аб гвалтоўным забойстве сына баярына гаспадарскага Грына Зьмітравіча і аб бойцы іхніх баяр, у ўчыненьні чаго вінаваціўся Дароўскі намесьнік Скатаровіч з слугамі. Намесьнік паказваў, што забойства і бойка адбыліся ў звадзе і сам ён удзелу ў гэтым ня прымаў, а зваду пачалі самі абвінавайцы. Апошнія гаварылі:

„Мы дей *звады не починали: тотъ намѣстникъ* зъ людьми пришедши на господу, *насъ* почалъ бити, и также насъ поранили и побили и брата нам забили ажъ до смерти".

Судзьдзі запыталі гэтых баяр:

„Маете ли вы на то доводъ, естли бы ихъ початокъ былъ?"

Баяры адказалі:

[1]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 147.
[2]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 1467.
[3]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 1404.

„Доводу на то не маемъ, бо люди ихъ все были; хочомъ на то право поднести, ижъ они напервей почали насъ бить и брата намъ забили до смерти, а не одны оны были, и инши и съ ними нежли ихъ уголовах знаем“ [1]).

Забойства ў звадзе па Статуту каралася толькі галоўшчынай „подле роду“ забітага, за раны і пабоі плацілася адпаведная навязка.

Заплата галоўшчыны ў залежнасьці ад соцыяльнага становішча забітага практыкавалася і да Статуту. Так, у вырашэньні гаспадарскага суду каля 1517 году па справе Яна Радзівіла з кн. Жыжэмскім аб слузе Янцы Горэглядзе, якога кн. Жыжэмскі невядома дзе дзеў, чытаем:

„и мы за таковое его непослушенство сказали на немъ головщину на того слугу пану Яну тымъ обычаемъ: если ся выведеть сынъ того Янъка, абы отецъ его шляхътичъ былъ, маеть платити шляхетъскую головщину; а если ся не вывядеть, маеть платити головщину, подлугъ его вроды“ [2]).

Артыкул 29-ы—а забойстве і звадзе шляхціца шляхціцам, хоць і блізкі па тэксту Жмудзкаму прывілею, напісаны па ўзору адпаведнага артыкулу Вісьліцкага Статуту, асабліва ў другой сваёй палавіне [3]). Вінаваты ў гэтым злачынстве караўся па Статуту галоўшчынай у 100 коп грошай і віною гаспадару—другіх 100 коп грошай.

У 1518 годзе гаспадар прызнаў п. Станіслава Якубавіча Шчытовіча вінаватым у тым, што ён бяз суду павесіў земяніна гаспадарскага Сьцяпана Сосіна:

„сказалъ его милость *головщины* на пану Станиславе за того ихъ брата Степа на *сто копъ грошей, а противъ того вины господарю* его милости *другую сто коп грошей* [4]).

Зусім зразумела, што аўтары Статуту хоць і карысталіся тэкстам польскага закону, унесьлі ў пастановы Статуту такую лічбу галоўшчыны, якая прызнавалася звычаёвым правам Літоўскага княства.

Другая палавіна артыкулу 29-га аб парадку сысканьня галоўшчыны і віны ў выпадку, калі забойца ўцячэ з зямлі, зьяўляецца таксама перапрацоўкай польскага закону. У той-жа самы час зьмест яго ўпаўне адпавядаў і судовай практыцы. Няпэўнасьць выклікаюць толькі апошнія словы артыкулу: „а того истого забойцу мають виволати, хто-бы забил тогды яно бы безецника“. Наш матэрыял не дазваляе пацьвярджальна сказаць, што забойства ўцёкшага злачынцы было безнакарным, як і ў польскім праве.

---

1) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 1402.

2) Р. И. Б. XX. Лит. Метр. I, с. 992.

3) Ясинский. Устав. Земская Грамота, с. 176. Максимейко, источ. с. 117.

4) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 1282.

У 1518 годзе скардзіўся зяменін гаспадарскі Якуб Цэханоўскі на дачку сваю пані Станіслававую Скіндзярэвіч, што яна яго маёнтак трымае і паступіцца ня хоча. Пані Станіслававая адказала:

„тое имѣнье панъ мой, по близкости моей зыскалъ от братьи въ тотъ часъ, коли онъ збѣгъ былъ до Мозовть, некоторым головъщины починивши; штожь господарь его милость тое имѣнье съ права сказалъ мнѣ мети, и листъ свой увяжчий на то далъ, а ему вжо не казалъ у тое имѣнье ся уступати“ [1]).

Артыкул 30-ы прадугледжвае вынікі для злачынцы, які адкупіўся ад сьмерці ці памілаванага пацярпеўшым.

У 1515 годзе скардзілася на гаспадарскім судзе Станковая Буткевіча Барбара з сынамі свайма на мужняга брата Каспара Буткевіча, што той не дапушчае яе да спадчыны і трымае частку яе мужа.

Аб сваіх маемасных адносінах вось што расказаў судзьдзям Каспар Буткевіч:

Было нас чатырох братоў—гаварыў ён.—Муж яе, брат наш Станько, забіў брата нашага Мікалая „безвинне, неодповедне“,—а ў той час ён яшчэ ня быў жанаты. І Каспар з братам другім пакойным Венеславам скардзіліся каралю Аляксандру, які найшоў Станька вінаватым і прыгаварыў за такое мардэрства выдаць яго на вежу „на згубенье“. *„І мы его повѣлі были з братом* своимъ зъ Венславамъ на ратушъ *зъ вижомъ* господарським“—апавядаў далей Каспар. З імі было там многа і іншых добрых людзей гаспадарскіх. І калі прывялі Станька ў вежу (ратушу), ён стаў біць чалом, каб дапусьцілі яго паспавядацца, і яны яму дазволілі. А пасьля ён прыслаў айцоў духоўных з просьбаю, „абыхмо его на смерть не выдалі“. І яны ў тым з братам сваім Венславам памысьліўшы, на просьбу айцоў Бернардзінаў і іншых духоўных, на сьмерць яго ня выдалі,—„пустили есмо его, абы онъ самъ за тотъ свой грѣхъ покутовалъ“. Потым ён стаў біць чалом, каб браты яму далі „до живота его хлѣбокормление“. І яны далі яму „именейцо“ на Ржы з усім тым, што яно ў сабе мела, „до живота на поживенье“. Калі вораг захапіў тую тэрыторыю, дзе знаходзіўся гэты маёнтак, браты згадзіліся даць яму чацьвертую частку з маёнтку ў Ашмені. Гаспадар у выніку адмовіў Барбары ў яе дамаганьнях на гэты апошні маёнтак, бо муж яе:

„въ братьи свое не вспоминалъ, а бы добре и вспоминалъ, за таковое мардэрства свое ни къ чому не мелъ прийти“ [2]).

Прыраўноўваючы судовыя пастановы са Статутам, трэба зрабіць вывад, што апошні адбіваў уплыў польскага права, устанавіўшы, што вінаваты пазбаўляецца шляхоцкай чэсьці, а чэсьць і добрая слава тых, хто акупалі злачынцу—„на ласцы господарськой“ [3]).

[1]) Р. И. Б. XX, Литов. Метр. I, с. 1306, глядзі яшчэ с. 1481.

[2]) Р. И. Б. XX Лит. Метр. I, с. 346.

[3]) Максимейко, Ист. Угол. Зак., с. 135.

## XII

Статут ведае дзьве катэгорыі норм крымінальнага права: адну для шляхецтва, а другую для той часткі насельніцтва, якая дзякуючы зямлі была зьвязана з панствам, а таксама для нявольнікаў. Для апошняй катэгорыі існавала свая драбіна грашовай узнагароды за парушэньне асабістых і маемасных праў. Разьдзел XI „о головщине людей путных и мужицкие и парабоцкие“ рэгулююць адносіны паміж зямляўласьнікамі па прычыне забойстваў, пабояў, параненьняў, зробленых залежнымі ад іх сялянамі.

Мабыць, гэты разьдзел не адчуў моцнага рэформацкага ўплыву. Можна лічыць, аднак, новаю пастановаю арт. 6-ы („жид, татаринъ, хрестьянинъ въ неволи межи не маютъ“), мяркуючы па рэдакцыі яго („отъ того часу приказуемъ воеводамъ, старостамъ и державцамъ“...).

Нормы гэтага разьдзелу цалкам стаяць на глебе звычаёвага права. У ім азначаюцца сумы ўзнагароды за страту, нанесеную злачынствам. Гэта было пытаньне далёка не малой значнасьці. Аўтары не маглі самавольна ўстанаўляць разьмер узнагароды. Разам з тым, апошняя была неаднолькавай у розных частках Літоўскай дзяржавы. Гаспадарскі суд, які ведаў сваю ацэнку шкод, зусім незнаёмы быў з велічынёю навязкі за пазбаўленьне свабоды, якая ўжывалася ў Каменцы літоўскім, ён таксама ня ведаў, напрыклад, што ў Берастве галоўшчына роўна 10 грыўняў срэбрам. Разам з тым, тая такса, якую прыстасоўваў гаспадарскі суд“, лічылася таксама „правамъ земскимъ“ [1]). У Статут увайшла такса крымінальных штрафаў, якія прыстасоўваліся якраз гаспадарскім судом.

Каля 1519 году гаспадарскі суд разглядаў крымінальную справу п. Яна Скіндзера, якога п. Мацеевая Станькевіча Ядвіга вінавацiла ў зьняважаньні яе асабіста і ў забойстве слугі яе Мікалайца. Судзьдзі, згодна прызнаньня п. Яна, знайшлі яго вінаватым у забойстве таго слугі,

„и сказали есмо были на немъ *дванадцать рублевъ головщины,* ижь бы дей былъ путный слуга“.

Але п. Ян даказваў, што забіты родам „тяглый человекъ, простый“. Паны-рада сказалі таму чалавеку:

„шесть рублевъ грошей, какъ то тяглому, коли онъ з роду не есть путный слуга, хотя бы и был вчиненъ путнымъ слугою, маеть заплатити десять коп грошей у двенадцати неделех по Велицедни в тыдень, а мне (судзьдзі) вины другую десять коп грошей“ [2]).

Па звычаёваму праву, якое практыкавалася гаспадарскім судом, галоўшчына за путнага слугу была роўнай 12 рублёў грошай.

А Статут гаворыць:

„теж уставляемъ, хто бы путного человека або бортника забилъ: головщина за путного двенадцать рублевъ грошей“ (Статут 1529, XI, I).

---

[1]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 847.

[2]) Р. И. Б. XX, Литов. Метр. I, с. 1388; 6 руб. грош.=10 копам грошей.

Путныя слугі былі вышэйшай катэгорыяй панскіх слуг з вольных людзей няшляхціцаў. За „бой“ іх Статут устанаўляе найвышэйшую ацэнку. Іншыя катэгорыі ацэньваюцца ніжэй—за „бой“ 1 рубель, напрыклад, бортнік, нават рамясьнік. І тут Статут таксама ўзаканяе ранейшую практыку.

У справе каля 1516 году п. Станіслава Скіндзера, які наехаўшы на дом Фурса Кулаковіча, пабіў яго слугу і забраў каня і другія рэчы, суд пастанавіў:

„навязку слузе яго, подле яго безъстья рубль грошей“ [1]).

Па Літоўскім Статуце за забітага цяглага мужыка галоўшчыны плацілася дзесяць коп грошай (артыкул 4), а за раны і бой—навязкі паўрубля грошай; а жанчыне ўдаве больш, рубель грошай (артыкул 5).

У 1516 годзе гаспадарскі суд прызнаў п. Бутрыма Няміровіча вінаватым у тым, што ён загадаў бясправўна павесіць Мацея, чалавека п. Няміровіча Аўдоцьці:

„и сказали мы на нем п. Нямировой за человека ее, на имя Мателя, которого безправие казалъ обкосити, головщины десять коп грошей“ [2]).

Па судовых пастановах за бой мужыку плацілася паўрубля грошай.

Так, у прыгавары 1514 году па справе аб розных злачынствах учыненых людзьмі дзяржаўцы Магілеўскага Юрыя Зеноўевіча людзям п. Мікалая Радзівіла, судзьдзі пастанавілі аб заплаце намесьнікам п. Юрыя:

„людомъ за бои ихъ навязки по полтине грошей“ [3]).

Па Статуту галоўшчына за парабка нявольнага была роўнай пяці коп грошай, як і „жонце“ нявольнай. Навязка за раны і бой—паўрубля грошай, а жонцы-удаве больш, капа грошай (ар. ар. 4 і 5).

Гэта ацэнка ўзята таксама з звычаёвага права, якое ўжывалася гаспадарскім судом.

У 1520 годзе судзіліся па розных справах браты Ян і Мікалай Голешэевічы. Паміж іншым, п. Мікалай скардзіўся на п. Яна, што слуга яго парубаў парабка п. Мікалая. Пан Ян згадзіўся ўчыніць справядлівасьць брату (зрабіць суд) пад такою ўмоваю:

„естли будеть тотъ паробокъ на который члонокъ ображэнъ, маеть за того парабка тотъ слуга съ права пану Миколаю заплатити, за половицу чалавека полтрети копы грошей [4]), або того паробка маеть панъ Янъ къ своей руце взяти, а пять копъ грошей за него пану Миколаю заплатити“ [5]).

---

[1]) Р. И. Б. XX. Литов. Метр. I, с. 281.

[2]) Р. И. Б. XX. Литов. Метр. I, с. 384; глядзі таксама с. с. 375, 39.

[3]) Р. И. Б. XX, Литов. Метр. I. с. с. 188. 1357, 1512 і друг.

[4]) Г. з. 2½ капы грошай, значыць ацэнка цэлага чалавека—5 коп грошай.

[5]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр. I, с. с. 1421, 312, 393.

XIII

Разьдзел XII трактуе аб „грабежніцтвах і навязках". Большасьць артыкулаў зьмяшчае нормы звычаёвага права, як іншы раз паказвае і сам закон („быдло кони волы коровы свиньи гуси мают займаны быть подле давного обычая", арт. 2). Аднак і тут пападаюцца нормы, запазычаныя з польскага права (арт. 11 і 15) [1]).

Артыкул 1-ы ўстанаўляе розныя навязкі за коняй, у залежнасьці, калі можна так сказаць, ад соцыяльнага становішча іх уласьнікаў. Найвышэйшую ацэнку маюць па Статуту каралеўскія коні: за жарабца—10 коп грошай, за кабылу 5 коп грошай.

Каля 1516 году судзіліся з-за каня „находника стада господаря короля его милости" п. Марцін Заранковіч з п. А. Лозкаю, п. Л. Багавіціновічам і Грыцькам маршалкам пакойнага ўладыкі Берасьцейскага Васіана. Судзьдзі пастанавілі, каб апошнія заплацілі:

„десять копъ грошай господарського стада конь водлугъ обычая" [2]).

Па Статуту коні панскага стада ацэньваліся троха ніжэй: за жарабца—5 коп грошай, за кабылу—3 капы грошай (артыкул 1).

Каля 1514 году скардзіліся князі Сьвірскія на п. Юрыя Зеноўевіча, што той, гвалтам наслаўшы, паграбіў у іх стада, дваццаць коняй і сорак сьвірэн. Судзьдзі, абвінаваціўшы п. Юрыя, прысудзілі на ім гвалту 12 руб. і віны столькі-ж на гаспадара, і, апрача таго:

„тую двадцать валоховъ и сорокъ свиренъ казали пану Юрью за кождого валаха по пяти копъ грошай, а свирену по три копы грошай платити" [2]).

Па статуту рабочы панскі конь ацэньваўся ў паўрубля грошай; сьвірэна, якая ня была ў працы, ацэньвалася па вольнай ацэнцы. За домарослыя мужыцкія коні плацілася паўрубля грошай, а за купленую клячу—даную за яе цану.

У 1520 годзе суд прысудзіў намесьніку кн. Чартарыйскага Міхну заплаціць пану Колантаеву за паграбленых коняй:

„тыи кони навязати по полтине грошай, то есть рубль грошей, бо вжо цена вышла тыхъ коней"... [4]).

У 1520 годзе скардзілася пані Мацеевая Міхновіча на двараніна гаспадарскага Луку Быкоўскага, што той пабіў людзей яе і паграбіў чатырох коняй. Суд прыгаварыў:

„Маеть Лука, естли тыхъ коней лицомъ не будетъ мети, за двое клячъ доморослыхъ по полтине грошей заплатити, а навязки по другой полтине, а за другую двое коней *купленых* (какъ же повѣдила передъ нами пани Михновая, штожь за одного коня дано

[1]) Максимейко. Источники, с. 129, 120.
[2]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр. I, стар. 284.
[3]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, стар. 100.
[4]) Р. И. Б. XX, Литов. Метр. I, с. 1433.

рубль грошей, а за другого полторы копы грошей) естли тыхъ коней лицомъ не будеть, маешь онъ за тыи кони цону рубль грошей заплатити за одного, а за другого полторы копы грошей, а навязки на тыи кони также одному рубль, а другому полторы копы грошей, *водлуг слушного доводу*, которых людей кони будуть, тым маютъ довод чинити"[1]).

Артыкул 3-і ўстанаўляе за грабежніцтва „подъ шляхтичем або шляхтянкою" навязку, як і за раны—12 рублёў.

У 1569 годзе скардзілася баярыня Балтромеева Торціловіча Алена на Юрыя, дзяка Станіслава Скоповіча, што ён паграбіў у яе каня ды яшчэ пабіў ды „зсоромотилъ". Судзьдзі прызналі, што дзяк няправільна каня адабраў ды яшчэ і скрыўдзіў яе:

„присудили на немъ той боярыни Болтромѣевой Алене навязки за безчестье ее двадцать и чотыры рублі грошей... А за коня присудили есмо на томъ дзяку Балтромѣю три копы грошей"[2]).

Артыкул 5-ы сам паказвае на даўні звычай, як сваю крыніцу:

„А естлибы тежъ чий человек таже чиего человека пограбилъ: тогды маеть наведати грабежъ яко кони такъ и быдло по неделям подле давного обычая".

Статут, аднак, не дае дакладнай таксы такой аплаты, яе можна выявіць з судовых актаў. Так, напрыклад, за путных коняй плацілася навязкі па пяць грошай за тыдзень[3]), за валоў—па 3 грошы, за дойную карову па 1 грошу за тыдзень[4]).

„Пойманье" людзей цяглых і нявольных з пункту погляду шляхецкага кодэксу, мала чым адрозьніваецца ад „займанья" быдла. „Хто чиего мужика поймаеть, а въ себе держить"—паўрубля грошай навязкі, а жонцы ўдвая больш, 1 рубель грошай. Парабку—паўкапы грошай, жонцы нявольнай—1 капа грошай (арт. 6).

Па справе 1516 году п. Аўдоцьці Няміровіч з п. Бутрымам Няміровічам судзьдзі прызналі цівуна Бутрымава вінаватым у тым, што ён чалавека панінага „ималъ и въ калоде держалъ" бязьвінна:

„сказали тивуну того человека навязати пятьдесятъ грошей"[5]).

Па справе каля 1514 году паміж полацкім ваяводаю п. Ольбрахтам Гаштольдам і ваяводаю віленскім п. М. Радзівілам і дваранінам Глебовічам суд пастанавіў, каб намесьнік п. Ольбрахта заплаціў п. віленскаму:

„а на тыхъ людей живых которыи будуть биты, або в нетстве держаны, навязка, подлугъ права земского"[6]).

---

[1]) Р. И. Б. Лит. Метр. I, с. 1376, яшчэ гл. 1256, 1359, 1433, 1443 і іншыя.

[2]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. с. 1368, узнагарода жанчыне па звычаёваму праву падваялася.

[3]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр. I, с. 37.

[4]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. с. 45.

[5]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 383.

[6]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр. I, с. 848, таксама с. 40. 42, 421, 1409 і другія.

Артыкул 9-ы дае таксу навязак за пакрадзенае ці паграбленае быдла.

Па справе 1519 году паміж Крэвенскім чалавекам Янкам Якуцевічам і Абельскім гаспадарскім чалавекам аб бясправуным грабежніцтве, суд пастанавіў:

„навязати за клячу і *за вола по полтине грошей*, а за корову по пол-копы грошей; але [не] будеть ли лицом мети тогды з новезкою совито платити“[1]).

Ацэнка вала ў 50 грошай сустракаецца і ў другіх судовых прыгаворах[2]), яна пераходзіць у Літоўскі Статут:

„Ино тому цена за вола пятьдесятъ грошей... А хто бы въ кого пограбилъ съ тых скотовъ, а што-бы умерло; тогды маеть зъ навезкою речъ платити“.

* * *

Можна было-б працягнуць ілюстрацыю таго, як шырока ўлілося ў Літоўскі Статут 1529 году права, якое „з вековъ у панстве“ было, старадаўні звычай, права земскае. Але мы ня мелі на мэце дасьледаваць Лівва ўсім абдыме судовую практыку і звычаёвае права, як крыніцу Літоўскага Статуту. Для нашай мэты прыведзеныя конкрэтныя прыклады павінны былі падкрэсьліць, што пры існаваньні ў кожнай з зямель літоўскай дзяржавы свайго мясцовага звычаёвага права, у Літоўскі Статут увайшло права, якое дзейнічала ў галоўнай яе частцы, якраз у Літоўскім княстве, ва ўласным сэнсе. Пры складаньні Статуту ня было выкарыстана ні звычаёвае права рэшты беларускіх зямель, ні права зямель украінскіх.

Тэрыторыя ўласна Літоўскага княства,—ці, вярней, Літоўска-Беларускага,—было тым месцам, адкуль ішлі творчыя плыні, якія стваралі, хоць і вельмі паступова, права, якое ўзвышалася над усёю рэштаю мясцовых звычаёва-праўных сыстэм. Гаспадарскі суд быў фактарам, які часткова выяўляў, часткова ўтвараў гэтае адзінае для ўсёй Літоўскай дзяржавы права. Нормы права, якія прыстасоўваліся ці былі абавязковы, раней за ўсё для самой Літвы, але, дзякуючы сваёй найвышэйшай аўторытэтнасьці, іх дзейнасьць пашыралася на ўсе мясцовыя справы, якія ішлі на яго разгляд. Усё-ж пры колізіі права мясцовага з правам літоўска-беларускім, першае не заўсёды траціла сваю моц. Яго гаспадарскі суд паважаў, па магчымасьці лічыўся з ім, але, разам з тым, ня ведаў, ня мог ведаць, ды і ня цікавіўся ім.

Такое было становішча рэчаў, калі надышоў момант для ўтварэньня адзінага для ўсёй дзяржавы кодэксу.

---

[1]) Р. И. Б. XX. Лит. Метр. I, с. 1359.
[2]) Р. И. Б. XX. Лит Метр. I, с. 384, 409, 475.

З тэй прычыны, што няма даных нагадваць шырокага ўдзелу прадстаўнікоў ад розных зямель у складаньні проекту Статуту, то, значыцца, адпадае пытаньне аб тым, што Статут павінен быў адбіваць права якой-небудзь з зямель. Сьвядомай барацьбы за правядзеньне ў Статут нормы права якой-небудзь асобнай зямлі, напрыклад, Валынскай,—зусім ня было.

Але грамадзкі контроль над кодыфікацыйнаю работаю ўсё-ж такі быў, выявіўшыся ў форме абгаварэньня і зацьвярджэньня проекту Статуту на вялікіх соймах. І калі Статут быў прыняты шляхтаю, дык выходзіць, што яна ня прызнала ў ім нічога, што-б супярэчыла нацыянальнаму духу ўсіх складаных частак Літоўскай-Беларускай дзяржавы.

Гэта адбылося таму, што аўтары Статуту выкарысталі нормы права, якія ўжываліся якраз гаспадарскім судом. Тут якраз выявілася права агульна-дзяржаўнага значэньня, „старадаўні звычай *усяго* вялікага князства Літоўскага", на які спасылаліся бакі і суд, калі хацелі падставіць пад свае дамаганьні самы аўторытэтны юрыдычны фундамант.

З другога боку, пры выключна бюрократычным спосабе складаньня проекту Статуту, аўтары яго, скарэй за ўсё чыноўнікі гаспадарскай канцыляріі, палічылі-б для сябе ў некаторай ступені дзіўным шукаць якога-небудзь іншага матэрыялу, чым той, які быў у іх пад рукамі ў сваім архіве, у выглядзе судовых пастаноў гаспадарскага суду. І сапраўды, якія пастановы мясцовых судоў маглі па свайму аўторытэту конкураваць з пастановамі вялікакнязеўскага суду?

Такім чынам, калі судовыя пастановы і звычаёвае права, увайшоўшыя ў Статут, мелі моц раней за ўсё ва ўласна Літоўска-Беларускім княстве (краіне) і праз гаспадарскі суд пашыралі свой уплыў на тэрыторыю ўсёй дзяржавы, дык тым самым вырашаецца і пытаньне аб нацыянальным характары Літоўскага Статуту 1529 году. Гэта было права тых этнографічных элемэнтаў, з якіх пераважна складалася ўласна Літоўскае княства, г. зн. права літоўска-беларускае, якое ўвабрала ў сябе і значную долю чужаземнага права, галоўным чынам, права польскага.

## XIV

Можна было-б лічыць сваю задачу—выявіць нацыянальны характар Літоўскага Статуту 1529 году—упаўне скончанай, калі-б у літаратуры ня быў выстаўлены ў якасьці доваду ў даным пытаньні яшчэ адзін момант, іменна, мова Літоўскага Статуту (Лашчанка).

Па сутнасьці кажучы, мова законадаўчага помніка ня можа раскрываць нацыянальны характар права, якое зьмяшчаецца ў ім. Праз год пасьля свайго выданьня Статут 1529 году быў перакладзены на латынскую мову, а праз тры гады—на мову польскую. У якой ступені зьмянілася ад гэтага нацыянальная істота Статуту? У Польшчы старадаўнія польскія звычаі запісваліся на латынскай мове (Volum Legum). Чужое—

Майдэборскае права, прывівалася праз прывілеі, якія даваліся на „рускай“ мове; найбольшай папулярызацыі гэтае *нямецкае* права атрымала дзякуючы працам Гронцкага і другіх юрыстых, напісаным на *польскай* мове.

Афіцыяльна—мова, на якой пісаліся акты, судовыя вырашэньні,— Статуты—насіў назву *„рускай“* мовы. Так, напрыклад, у 1518 годзе земяне гаспадарскія браты Сосіны ў часе суду з панам Станіславам Шчытовічам па справе аб незаконным павешаньні бацькі іх, прад'явілі прывілей, які „по латыне писанъ на перкгамине съ прывѣсістаю печатью“... Гаспадар, вырашыўшы справу, загадаў, „того привилья выпись по-руски списати“ [1]). І сапраўды, у кнігі Літоўскай Мэтрыкі гэты прывілей быў запісаны „по-руски“, тою-ж звычайнаю юрыдычнай мовай, якою напісана ўся аўтэнтычная III-кніга Судовых Спраў Літоўскай Мэтрыкі, якою напісаны быў і Літоўскі Статут 1529 году.

Поруч з афіцыяльнай „рускай“ моваю ў той час стаяла мова латынская. На Украіне ў Галіччыне латынская мова ўжо з паловы XV сталецьця набывае значэньне адзінай афіцыяльнай мовы. Яна-ж была моваю літаратурнаю, на якой пісалі адукаваныя людзі [2]).

Шырокае ўжываньне мела латынская мова ў Падлясьсі, якою, па прыкладу польскіх калёністых, карысталася тубыльнае насельніцтва. Так, хоць першы тэкст прывілея Бельскаму павету 1501 году быў „рускі“, аднак ён быў перавыданы і на латынскай мове [3]). Латынская мова, наогул, да сярэдзіны XVI сталецьця была найбольш сур'ёзнай конкурэнткай „рускай“ мовы, чым можна лічыць на першы погляд. У самой Польшчы панавала латынь, як афіцыяльная юрыдычная, так і літаратурная мова [4]). Праваднікам латынскай мовы на Літве быў урад, які ўжываў яе, найперш за ўсё, у дыплёматычных зносінах з заходня-эўропэйскімі дзяржавамі. Асабісты склад гаспадарскай канцылярыі падзяляўся, галоўным чынам, на пісароў „рускіх“ і латынскіх. Наколькі шырока ўжываў урад гэтую мову, паказвае той факт, што ў другой палове XV сталецьця зьяўляецца і на працягу ўсёй першай палавіны XVI сталецьця пануе асаблівы тып скорапісі, якая вытварылася ў літоўскай вяліка-князеўскай канцылярыі пад уплывам латынскага пісьма [5]). Латынская мова ўжывалася ў майдэборгіях, дзе таксама былі латынскія пісары. Такім чынам, можна ўпаўне дапусьціць, што пераклад Статуту на латынскую мову, зроблены ўжо ў 1532 годзе,—быў разьлічаны на сапраўднае ўжываньне. Знаёмства з латынскаю моваю, якая была ў сярэднявяковай Эўропе пануючаю моваю, юрыдычнаю, дало магчымасьць аўтарам Статуту выкарыстаць польскія законы і Саксонскае Зерцало.

---

[1]) Р. И. Б. XX, Лит. Метр. I, с. 1281—1285.
[2]) Соболевский. Слав. рус. палеография., СПБ. 1908 г., с. 12.
[3]) Ясинский, Устав зем. грам., С. 96.
[4]) М. Грушевский, Історія Укр.-Руси т.VI. ст. 412—413.
[5]) Соболевский, Паказ. творы., ст. 60.

Пачынаючы ад сярэдзіны XVI сталецьця ўсё больш і больш павялічаецца польскі ўплыў на юрыдычную мову Літоўскай дзяржавы. Прадпасылкай для гэтага паслужыла разьвіцьцё экономічнага жыцьця, якое ўскладніла юрыдычныя разуменьні. У „рускай“ мове стала не хапаць юрыдычных тэрмінаў для выражэньня новых разуменьняў і з гэтай прычыны прыходзілася запазычаць іх звонку і, перш за ўсё, з польскай мовы. Пасьля Люблінскай вуніі ўжываньне польскай мовы і пісьма павялічваецца. З 1597 году польская мова становіцца адзінай афіцыяльнай юрыдычнай мовай у Літоўска-Беларускім княстве.

Пануючая нацыя—літоўская ня толькі не адхіліла „рускай“ мовы, але і сама карысталася ёй у дзяржаўна-юрыдычным жыцьці. Прычыны гэтай зьявы даўно ўжо вытлумачаны ў гістарычнай навуцы.

Такім чынам, пры наяўнасьці чатырох моў, якія маглі прэтэндаваць на значэньне юрыдычнай мовы ў Літоўскім княстве першай чвэрці XVI сталецьця,—літоўская мова аставалася толькі разгаворнаю для самой Літвы, хоць слабае ўкараненьне літоўскіх юрыдычных тэрмінаў усё-ж адзначыць можна; латынская мова знаходзіла даволі значнае прыстасаваньне ў цэнтральнай урадавай практыцы; польская мова толькі пачынае ўкараняцца ў „рускую“ мову, замяняючы некаторыя старыя тэрміны ці ўносячы зусім новыя, якіх старына „рускихъ панствъ“ адзінай не пасьпела выпрацаваць; і, значыцца, толькі „руская“ мова застаецца дзяржаўнай мовай у Літоўскім Статуце.

Мове якой нацыянальнасьці—беларускай ці украінскай—родна гэтая „руская“ юрыдычная мова Літоўскага Статуту 1529 году? Не адважваючыся (зусім сьвядома) брацца за канчатковае вырашэньне такога спэцыяльнага пытаньня аб нацыянальным характары „рускай“ юрыдычнай мовы Літоўскай дзяржавы XVI сталецьця, каб унікнуць памылак, зробленых вучонымі (напрыклад, Ліндэ), якія прыстасоўвалі выключна слоўнікавы мэтод, мы можам спаслацца на апошняе слова мовазнаўцаў, бо толькі ў фонэтыцы і морфолёгіі мовы трэба шукаць асаблівасьцяй яе характару. Маем рацыю прывесьці аўторытэтны погляд на гэтае пытаньне выдатнага мовазнаўцы акадэміка Карскага:

„Сучасная беларуская мова склалася паступова, гістарычна, з мовы тых старадаўня-рускіх пляменьняў, якія, пераважна ў эпоху Літоўскага гаспадарства, ляглі ў аснову беларускай народнасьці. Наколькі можна меркаваць па паведамленьню нашага начальнага летапісу, гэтыя пляменьні былі драгавічы, радзімічы і часткова крывічы (Полацкія і Смаленскія). Набліжэньне гэтых пляменьняў асабліва ўзмоцнілася ў пэрыод удзельна-вечавога жыцьця рускага народу, але канчаткова злучыла іх у адну беларускую народнасьць літоўскае ўладыцтва ў XIII—XIV сталецьцях. У гэты час і часткова пазьней беларусы ў некаторых мясцох асымілявалі сабе северан, вяцічаў і нават некаторыя літоўскія пляменьні, напрыклад, ятвягаў, голядзь. Складзеная такім чынам беларуская народнасьць і яе мова ў

духоўных адносінах зрабілі зусім падлеглымі сабе літоўцаў: апошнія пачалі пераймаць у заходнярусаў нажытую імі цывілізацыю, паступова набывалі мову і нават праваслаўную веру. Ужо пры Альгердзе літоўскі ўрад знайшоў патрэбным прызнаць рускую мову афіцыяльнай; за ўрадам пайшло і вышэйшае грамадзтва...

... У гэты час, які разглядаецца намі, беларуская мова ўжо мела ў сабе амаль усе тыя фонэтычныя і морфолёгічныя асаблівасьці, якія характарызуюць яе гукі і формы цяпер; толькі слоўнікавы склад яе і сынтаксычны бок і надалей зьмяняліся і ў наступны час у эпоху польскага ўладыцтва і ўплыву, які быў даволі значным ужо ў XV і асабліва ўзмоўніўся ў XVI сталецьці, і ў наступны час да канчатковага далучэньня Заходняй Русі да Ўсходняй...

... Граць ролю літаратурнай і афіцыяльнай мовы ёй (беларускай мове) прышлося доўга. Толькі ў самым канцы XVII сталецьця яна была выціснута з судова-адміністрацыйнай практыкі польскаю моваю" [1]).

## XV

Агульныя вывады нашы прыходзяць да наступнага:

1. Сучаснае становішча літаратуры аб Літоўскім Статуце такое, што ў ёй нельга знайсьці цьвердых даных для вырашэньня пытаньня аб нацыянальным характары Статутку 1529 году, бо ня вывучаны галоўныя крыніцы яго—судовая практыка і звычаёвае права часу непасрэдна папярэдняга выданьня Статуту. Гэтае дасьледваньне высоўвае ў першую чаргу гэты матэрыял.

2. Характэрнаю асаблівасьцю юрыдычнага жыцьця Літоўскай дзяржавы да выданьня Статуту 1529 г. зьяўляецца панаваньне прынцыпу сэпаратызму, які выявіўся ў існаваньні ў кожнай зямлі сваёй самастойнай сыстэмы звычаёвага права. Карэньні гэтага сэпаратызму ідуць да старадаўняга часу ўтварэньня старадаўня-рускіх зьмель. Параўнаньне Смаленскага Дагавору 1229 году з „Рускаю Праўдаю" паказвае, што ўплыў Рускай Праўды не прыдушыў пачатку мясцовага права. „Руская Праўда" ўспрыймалася ня ў выглядзе цэльнага комплексу норм звычаёвага права Кіеўскай Русі, а ў асобных палажэньнях, падобных з мясцовымі нормамі.

3. Параўнаньне Смаленскага Дагавору 1229 году з Полацкім, Смаленскім, Віцебскім земскімі прывілеямі таксама даказвае, што права беларускіх зямель XV сталецьця зьяўляецца простым працягам ня „Рускай Праўды" ў цэлым, а свайго мясцовага права, якое яшчэ ў XIII сталецьці адрозьнівалася ад права „Рускай Праўды".

4. Літоўскі Ўрад захоўваў прынцып юрыдычнага сэпаратызму. Гаспадарскі суд ня лічыў магчымым прыстасоўваць да спраў, якія пераходзілі на яго разгляд з асобных зямель, немясцовае права.

---

[1]) Акад. Карский. Русская диалектология. П. 1914, с. 81—82.

5. Уласна Літва, — „панства Літоўскае“, якое складалася з Літвы і Літоўскай Русі (Беларусі) мела таксама сваё мясцовае звычаёвае права. У 1467 годзе яно падлегла частковай кодыфікацыі ў выглядзе так званага Судзебніка Казіміра. Гэтым моц другіх мясцовых звычаёва-прававых сыстэм зусім ня была зьнішчана, як пазьней пры выданьні Статуту 1529 году.

6. Поруч з панаваньнем у праве прынцыпу сэпаратызму—у практыцы гаспадарскага суду выяўлялася таксама і дзейнасьць норм агульнадзяржаўнага значэньня. Існаваньне іх можна вытлумачыць часткова агульнымі карэньнямі некаторых норм, часткова творчай работай самога гаспадарскага суду, які ўтвараў новыя нормы, задавальняўшыя новыя патрэбы жыцьця.

7. Ужо ад самага пачатку XVI сталецьця выказваецца думка аб неабходнасьці выданьня адзінага для ўсёй дзяржавы кодэксу, які павінен быў-бы замяніць сабою ўсё стракатае мясцовае права.

Шлях да гэтага быў падрыхтованы, папершае, існаваньнем выпрацаваных практыкаю гаспадарскага суду звычаёва-прававых норм агульнадзяржаўнага значэньня і, падругое, агульнадзяржаўнаю законадаўчаю дзейнасьцю ў форме ўхвал і ўставаў. Ёсьць падставы лічыць, што проект Статуту быў складзены выключна бюрократычным спосабам, у гаспадарскай канцылярыі, пад агульным наглядам канцлера Гаштольда, з прычыны яго службовага становішча. Статут 1529 году зьяўляецца вынікам компромісу паміж інтарэсамі двух пластоў зямляўласьніцкай клясы—магнацтва і шляхецтва. Пераважную ролю гралі інтарэсы не асобных народнасьцяй (нацыянальныя), а агульна-клясавыя (экономічныя і політычныя). Адсюль— шырокае выкарыстаньне аўтарамі Статуту польскага права, блізкага па клясавых інтарэсах і чужога па нацыянальнаму духу. Польскае права, часта запазычанае літаральна, палягчала складаньне першага асноўнага проекту Статуту ў самы кароткі тэрмін. Няпрыкметна сьлядоў выкарыстаньня „Рускай Праўды“, як цэльнага помніка.

8. Разам з тым, было шырока выкарыстана звычаёвае права і судовая практыка, як гэта відаць з прыкладаў, прыведзеных для разьдзелаў I, III, VI, VII, XI і XII. Гэта была судовая практыка гаспадарскага суду і звычаёвае права, раней усяго, уласна Літоўскага княства, якое пашырала сваю моц на ўсю дзяржаву. Мясцовае права другіх краін Літоўскай дзяржавы ў Статут не ўвайшло. Звычаёвае права Літоўскага Статуту 1529 году ёсьць права літоўска-беларускае. А дзякуючы таму, што гэтая крыніца-пераважваючая, дык і ўвесь Літоўскі Статут можна назваць помнікам права літоўска-беларускага (пераважна беларускага).

Кіеў, 1927 г.

# АД АМАТАРСКАГА ГУРТКА ДА ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРУ

**М. Грамыка**

## I

Тэатральнае мастацтва, як ніякае іншае, ёсьць *колектыўнае* выяўленьне зьместу і формы Сапраўды, малюнак можна „напісаць" у адзіноцтве, і ён ужо будзе законченым мастацкім „цэлым". Статую, музычны твор, лірычны верш і роман,—таксама можна індывідуальна стварыць і індывідуальна ўспрыняць. Нешта іншае ўяўляе з сябе „драма" ў шырокім сэнсе слова: драматычны твор (трагедыя, драма, комэдыя)—прызначаецца для сцэны і толькі праз сцэну належна ўспрымаецца. Такім чынам, самая „творчасьць", утварэньне драмы не канчаецца першым аўтарам-драматургам, але ідзе ад яго да рэжысэра-пастаноўшчыка, да актора, да дэкоратара і, нарэшце, да ўсяго тэатральнага *колектыву*. Гэта папершае; і падругое, і самае ўспрыманьне драмы адбываецца ў тэатры, перад масавым успрымальнікам-гледачом. З гэтага боку толькі оркестровае і харавое выкананьне музычнага твору мае супольнае з драмай.

Самая вялікая „драма", якую перажывае гістарычнае чалавецтва, гэта клясавая барацьба ў яго асярэдзіне,—драма, якая ў пэўныя моманты выліваецца ў вялікае дзейства—рэволюцыю!

Вось чаму рэволюцыйныя падзеі на вуліцах, вялікая колектыўная драматычная „ігра" прыгнечаных мас, рэволюцыйная эпоха ўвогуле і— сцэна, кулісы, абмежаваны сьценамі тэатр, дзе адбываюцца ўжо ня крывавыя, але толькі мастацкія дзействы, так цесна бываюць зьвязаны між сабой.

Вось чаму рэволюцыя мас—а такой і была Кастрычнікавая рэволюцыя—ні на адну галіну мастацтва не зрабіла такога беспасрэднага, магутнага ўплыву, як на тэатр—менавіта—на тэатр-драму. І там і тут— колектыўны, масавы дзейнік; і там і тут—актыўнасьць, рух, дзейства, *драма!*

Рэволюцыя дала ня толькі іншы зьмест драматычных паказаў: замест драмы індывідаў—драму і дзейства цэлых колектываў; рэволюцыя ня толькі паказала новыя кірункі і новыя шуканьні ў знадворным афармленьні драматычнага твору,—рэволюцыя зрабіла тэатр надзвычайна патрэбным для таго масавага гледача, які раней мог наглядаць толькі „п'есы", накшталт—„голад", „бясправое", „прыгнечаньне".

Сучасны масавы глядач (лепш сказаць: глядач працоўных мас) ідзе ў тэатр не дзеля развагі: адны з іх ідуць, каб успомніць і асьвядоміць

праз жывыя тэатральныя вобразы тое, што яны самі ў тэй ці іншай меры праграблялі нядаўна ў вялікім рэволюцыйным дзействе, і іншыя, каб навучацца жыць, змагацца і перамагаць. Рэволюцыя зрабіла тэатр адным з галоўных сэктараў ідэолёгічнага фронту, шырокавіднай і чуткай трыбунай і адным з самых уважна гадаваных і пеставаных дзіцянят Савецкай улады.

## II

Калі наогул сучасны савецкі тэатр адчувае на сабе добравейныя подыхі Кастрычнікавай рэволюцыі, дык што сказаць ужо пра наш беларускі тэатр! Вось што кажа пра наш тэатр тав. Чарвякоў у адным з сваіх артыкулаў:

„На ўсім працягу барацьбы работнікаў і сялян Беларусі за сваё вызваленьне, беларускі тэатр іграў ролю рэволюцыйнага фактару“.

„Мужычая праўда“,—вось сьцяг, пад якім ідзе беларускі тэатр“.

„Яго поступы—ёсьць поступы рэволюцыйных работнікаў і сялян Беларусі“.

Сапраўды, само сабой просіцца параўнаньне і ўмоўная паралель між дарэволюцыйнымі (дакладней кажучы, дакастрычнікавымі гурткамі аматараў-тэатралаў, з аднаго боку, і тымі падпольнымі і напоўпадпольнымі рэволюцыйнымі організацыямі, у якія толькі і магла выліваццa сьціснутая воля працоўнага беларускага народу ў часы царызму, а таксама ў часы змрочных антрактаў адзінага рэволюцыйнага пасьлякастрычнікавага дзейства—розных окупацый, з другога.

Ня было і не магло быць *дзяржаўнасьці*, як афармленьня волі працоўных на Беларусі,—ня было і не магло быць і *тэатру* ў сьцісльм і сур'ёзным значэньні гэтага слова.

Беларускі тэатр прышоў разам з Савецкай Беларусьсю, бо ён на сваёй *малой* умоўнай сцэне адбівае тое, што робіцца і рабілася на *вялікай*, жывой сцэне-арэне, на тэрыторыі, занятай беларускім народам і яго гістарычнымі ды географічныі сабратамі. „Беларускі тэатр сваім існаваньнем, сваімі посьпехамі сярод працоўных, сваёй, нарэшце, яснай пастаноўкай пытаньня аб патрэбе адраджэньня нацыянальнае беларускае культуры, памагаў іменна таму, што культура гэта станавілася на шлях культуры працоўных Беларусі *).

---

*) Па артыкулу тав. А. Чарвякова—„Беларускі тэатр у будаўніцтве Савецкай Беларусі“. З падрыхтаванага да друку зборніку—„Штогоднік бел. тэатру“.—Аўтар наогул выкарыстаў матэрыялы памянёнага зборніку, таксама як і некаторыя іншыя крыніцы („Театрально-декорационное искусство в СССР“) і інформацыі дырэкцый паасобных тэатраў. Асабліва павінен адзначыць артыкул А. Бурбіса, Ф. Ждановіча, М. Гарэцкага, Ул. Галубка, Ан. Баліцкага, а таксама інформацыю М. Красінскага ды інш., з якіх аўтар бярэ гістарычны матэрыял. М. Г.

III

Кароткі гістарычны нарыс беларускага тэатру прыводзіць да наступнага.—Народнай крыніцай нашага тэатру трэба лічыць калядаваньні, батлейкі і некаторыя дзе-ні-дзе захаваныя звычаі. Але крыніца гэта залоджана і засыпана далёкай мінуўшчынай, і толькі руплівы гісторык зможа адшукаць у гэтай крыніцы доўгія карэньчыкі тэатру нашых дзён. Больш выразным гістарычным фактам зьяўляецца пастаноўка п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча „Сялянка", з музыкай С. Манюшкі, якая адбылася 9 лютага 1852 году ў Менску.

Трэба памятаць, што ў пераважнай большасьці тэксту „Сялянка" была польскай, і што толькі ў нашыя дні Інстытут Беларускае Культуры ўзяўся за аднаўленьне тэксту пабеларуску. Ад 1852 аж да 1906 году мы амаль нічога ня ведаем аб якой-бы то ні было форме жыцьця беларускага тэатральнага мастацтва. Бясспрэчна, што тыя самыя калядаваньні з удзелам такіх „драматычных" пэрсонажаў, як каза, мядзьведзь, кабыла, салоха (аўтар гэтага артыкулу добра памятае іх з часоў свайго дзяцінства на Быхаўшчыне), маглі да некаторай ступені быць далёкай падсьвядомай прычынай тае зацікаўленасьці да тэатральнага дзейства, якія выявіліся ў паасобных беларускіх тэатральных дзеячоў, таксама як і наогул уся слаўная народная творчасьць; але бясспрэчна і тое, што ўся гэтая прымітыўна-народная стыхія так і заставалася-б „падсьвядомай", каб ня першы подых рэвалюцыі. „Першая спроба арганізаваць беларускі народны тэатр—піша А. Бурбіс—была зроблена ўвесну 1906 году ў Пятроўшчыне пад Менскам". Арганізацыяй тэатру заняліся вядомыя тагачасныя беларускія палітычныя і культурныя дзеячы—А. Бурбіс, А. Уласаў, С. Кукель ды інш. Пастаўлены быў пераклад комэдыі Крапіўніцкага „Па рэвізіі". Сцэна была зроблена на падворку каля сьвірна, партэрам зьяўляліся самадзельныя лавы, „гардэроб" (беларускія вопраткі) даставіла беспасрэдна вёска.

Для характарыстыкі палітычнага атачэньня, у якім быў гэты першаўзор беларускага тэатру, можа зьявіцца той факт, што арганізатары тэатру ледзь не апынуліся ў вастрозе за дэклямацыі, асабліва за Купалаўскі „Што ты сьпіш, беларускі мужык". Мужычая праўда ў 1906 г. яшчэ не даравалася!

Вось і ўсё аж да 1909 году.

У 1909 г. сярод працаўнікоў „Нашай Нівы" зноў вынікае думка аб арганізацыі трупы аматараў. Не ўдаецца: няма грошы дый ініцыятары заняты выдавецкай працай. Улетку 1909 г. з вастрогу выходзіць А. Бурбіс. Віленскі аддзел „імпэратарскага" музычнага таварыства рыхтуе этнографічны вечар. Прадстаўлены на ім вялікаросы, палякі, літоўцы, украінцы, яўрэі... Беларусы дабіваюцца месца: і мы! „Імпэратарскія" этнографы зьдзіўлены: „што за беларусы?" Нарэшце дабіваюцца права праспяваць свае песьні. Арганізуецца хор пад кіраўніцтвам Людоміра Рагоў-

скага (паляк-мазур, аўтар музыкі да слоў Я. Купалы „А хто там ідзе"). Нарэшце, 22 лютага 1910 г. адбыўся этнографічны вечар з выступленьнем на эстрадзе і беларусоў. Пяялі „А хто там ідзе", скакалі „Лявоніху", „Мяцеліцу", „Юрку" (у пастаноўцы вядомага Ігната Буйніцкага).

Яшчэ раней, 12 лютага 1910 году, у клюбе чыгуначнікаў была пастаўлена усё тая-ж п'еса „Па рэвізіі". Ігралі А. Бурбіс, Ч. Родзевіч, Арлоўскі ды інш.

Пяяліся ў той вечар народныя беларускія песьні (пад кіраўніцтвам Л. Рагоўскага), скакалі „Юрку", „Лявоніху", „Мяцеліцу".

Газэта „Наша Ніва" (№ 7, за 1910 г.) зьмясьціла рэцэнзію з фотографіямі некаторых сцэнак спэктаклю.

У прыхільным да выступленьня беларусоў тоне зьмясьцілі рэцэнзіі літоўская газэта „Viltis" і польсая „Kurjer Litewski". Але другая польская газэта, чорнасоценная „Goniec Wileński", для якой беларускае адраджэньне было справай „расійскага ўраду супроць Польшчы", пісала, што спэктакль наладзілі „палякі, якія гавораць папросту, або, як нядаўна пачалі называць, пабеларуску"...

Паралельна з гэтым, офіцыяльная газэтка „Виленский Вестник" аўторытэтна заяўляла, што спэктакль організавалі людзі, якія працуюць на польскія грошы супроць Расіі! [1])

З гэтага-ж 1910 году пайшла праца па стварэньні рэпэртуару. Інсцэнізавалі „У зімовы вечар" Э. Ожэшка (В. Ластоўскі), пераклалі „Пашыліся ў дурні" Крапіўніцкага (Чарнецкі), „Сватаньне" Чэхова і г. д. З сваіх орыгінальных ставілі „Модны шляхцюк" Каганца. З Віленскіх тагачасных артыстых-аматараў вызначаюцца: Л. Радзевіч, Власенка, Шыла, Манькоўскі, Юрэвіч, Янкоўскі, А. Ляжневіч, Копэць ды інш [2]).

31 сакавіка 1911 г. быў зацьверджаны статут „беларускага музычна-драматычнага гуртка".

Гэты гурток здолеў, ня гледзячы на політычныя і матэрыяльныя перашкоды, паставіць у Вільні шэраг спэктакляў. Але „легалізаванаму" ў Вільні гуртку адмовілі ў пастаноўцы спэктакляў на Горадзеншчыне. Губарнатар Борзэнка лічыў беларускія спэктаклі ня болей, ня меней як „неудобными".

У 1912 г. Ігнат Буйніцкі організаваў вандроўны тэатр, куды перайшлі з Віленскага музычна-драматычнага гуртка Ч. і Л. Родзевічы, М. Шыла, А. Бурбіс, наездамі працавала ў вандроўным тэатры Буйніцкага і А. Пашкевіч („Цётка").

Тэатр выступаў у Сьвянцянах, Полацку ды іншых мясцох, яго ўсюды прыхільна прымалі працоўныя нізы насельніцтва.

Ленінград (тагачасны Пецярбург) быў блізка другім горадам пасьля Вільні, дзе беларускія гурткі культурнікаў наогул выяўлялі актыўнасьць.

[1]) Матэрыял бяру з артыкулу М. Гарэцкага „Нашы першыя легальныя спэктаклі".
[2]) Падаю сьпіс паводле А. Бурíса.—М. Г.

Таксама і адносна тэатру.

19 лютага (старога стылю) 1910 г. пецярбурскія беларусы-соцыялістыя студэнты і рабочая інтэлігенцыя організавалі спэктакль.

Програма была падобна да віленскай: і тут „Па рэвізіі“, песьні, скокі.

„У нашай Ніве“ № 10 за 1910 г., між іншым, пісалася:

„Ідзе работа цяжкая, мазольная. Возьмем хаця-б тыя вечарыны ды ігрышчы, што апошнімі днямі рабілі беларусы ў Вільні, Слуцку, Горадні, Пецярбурзе. Гэта ня былі звычайныя гулянкі... Вось ў Пецярбурзе, закінутыя далёка ад роднай старонкі беларусы ня мелі нават *вопраткі* сваёй (курсіў М. Г.). Дык кожны нёс, што меў: хто паясок з Магілеўшчыны, хто сьвітку з Віцебшчыны, сарочкі з Горадзеншчыны... І дзіўна было і радасна, што блізка з кожнага куточка Беларусь прыслала свайго сына з дарам. Праўда, у дарах гэтых многа было латаў, дзірак, дзёгцю...“

Праўда, досыць было „лат“ і „дзірак“—адсутнасьці належных сродкаў, і „дзёгцю“—політычных „прыемнасьцяй“ з боку царскіх чыноўнікаў ва ўсёй тэатральнай працы, дый наогул ва ўсёй культурнай працы беларускіх адраджэнцаў.

Аж да сусьветнае навальніцы 1914 году, калі што дзе і рабілася беларускага з тэатральных падмосткаў, дык аматарскаю вандроўнаю трупай таго-ж І. Буйніцкага. За тры сэзоны (звычайна ў канцы лета, праз усю восень) трупа Буйніцкага пабыла амаль ва ўсіх значных гарадох Заходняе Беларусі аж да Менску; раз пабыла і ў б. Пецярбурзе (на этнографічным вечары, наладжаным „Вестником Знания“). Але пораху не хапіла, сродкаў не хапіла: фальварак Буйніцкага „Палівачы“ пайшоў на харчаваньне аматараў!—Трупу прышлося зьліквідаваць.

Наколькі аматарскай была ўся беларуская тэо-праца да 1917 г., сьведчыць хоць-бы сабе той факт, што такі „фанатык“ тэатральнае справы, як І. Буйніцкі, быў не акторам-профэсыяналам, але каморнікам; іншыя з яго супрацоўнікаў—хто політычным дзеячом (А. Бурбіс), хто хэмікам-тэхнікам (Ч. Родзевіч) і г. д.

Імпэрыялістычная вайна.

Напалоханы царызм парасьціскаў ды параскідаў нават тыя кволыя зерняткі беларускага адраджэньня, якія там-сям далі паросткі пасьля рэволюцыі 1905 году. Была зачынена ў Вільні „Наша Ніва“, і рассыпаліся ўсе культурнікі, што працавалі вакол яе. І. Буйніцкі паступіў на службу ў фронтавую організацыю і ў 1917 г. памёр ад тыфусу каля м. Маладэчна. Гэта і была сымболічная сьмерць таго гэроічна-романтычнага аматарства, якое характарызуе сабой у гісторыі нашага тэатру пэрыод 1906—1914 г. г.

Тры гады (1914—1917) амаль поўнага нябыту для бел.-тэатру—і „ўваскрашэньне“ толькі пасьля рэволюцыі 1917 году.

IV

Яшчэ да гэнага рэволюцыйнага году, яшчэ ў самы развой імпэрыялістычнай вайны, менавіта, з моманту окупацыі нямецкім войскам Вільні, гісторыя беларускага тэатру ідзе па двох кірунках. Утвараюцца два „цэнтры“—Вільня і Менск—і што далей, дык болей і болей разыходзяцца між сабой ва ўсіх адносінах.

Спачатку гэтага пэрыоду, паколькі Менск быў яшчэ ў межах расійскай імпэрыі, а Вільня—у межах кайзэраўскай окупацыі, некаторая перавага, як гэта ні дзіўна з пункту погляду расійскага імпэрыялізму,—была за Вільняй.

Нямецкія генэралы глядзелі скрозь пальцы на беларускі нацыянальны рух, і гэта дало магчымасьць зноў выявіць ініцыятыву і некаторую організацыю адносна тэатру.

Францішак Аляхновіч, актор-профэсыянал з літаратурна-драматургічнымі здольнасьцямі, бярэцца працягваць у Вільні працу Буйніцкага.

Зноў організуецца драматычныя грамада, зноў ладзяцца аматарскія і напоўаматарскія спэктаклі.

Заместа „Па рэвізіі“, ставіцца „На Антокалі“ Аляхновіча; ён-жа стараецца наогул папоўніць скупы беларускі рэпэртуар орыгінальнымі п'есамі. Бярэцца горача, шчыра, але... зноў, як і пры Буйніцкім,—няма грошы, ніхто (у сэнсе дзяржаўнай організацыі) не дапамагае, справа „разьяжджаецца“, бо прымушаны быў выехаць з Вільні на пасаду настаўніка дзіцячага прытулку і організатар тэатральнай справы—Ф. Аляхновіч!

Што дае беларускаму тэатру ў Вільні і наогул у Заходняй Беларусі наноў народжаная „Рэч Паспалітая“? Шчыра кажучы, надта мала, апрача права на энтузыязм, самаахвярнасьць, выяўленьня організацыйных талентаў, а нарэшце—расчараваньне і заміраньне.

Прыблізна тое самае, што было і пры царызьме ў 1906—1914 гадох.

У лістападзе 1921 году драматычны гурток ставіць „На папасе“ Я. Купалы, але ўжо пад коляды таго-ж году польская ўлада забараніла большасьць падрыхтаваных да пастаноўкі п'ес. „Гэта было як-бы ўступам да разгрому віленскіх беларускіх організацый“,—кажа А. Настулін.

У 1923 г. было заарыштавана і выслана 33 беларускія культурнікі, у ліку якіх Леапольд Родзевіч, тагачасны кіраўнік тэатральнае працы ў Вільні.

Праўда, была там заснавана „Беларуская Драматычная Майстроўня“ (1922 г.) з апрацаваным „статутам“, з адданымі справе працаўнікамі (М. Гарэцкі, М. Красінскі, А. Трэпка, Ф. Аляхновіч, Міхалевіч ды інш.), з шырокімі плянамі, але ігралі... на сцэне переважна вучні беларускае віленскае гімназіі, „рэпэтыцыі адбываліся пры тэмпэратуры ня вышэй 7—8°“,—усё гэта настолькі-ж далёка ад сталага тэатру, наколькі наогул беларускае нацыянальна-культурнае (ды і соцыяльнае!) жыцьцё пад „скрыдламі“ Рэчы

Паспалітай далёка ад вольнага, дзяржаўнага афармленьня. „Пашыліся ў дурні“, „У зімовы вечар“, „На папасе“—вось п'есы, якія ставіла Майстроўня на працягу 1922—24 г. г. П'еса „На Антокалі“ так і ня ставілася (хаця рыхтавалася): вучні пачалі разьяжджацца. І гэта было ўжо ўвесну 1925 году, зусім ужо „нашыя дні“ ў гісторыі „Віленскай“ галіны беларускага тэатру! Што там робіцца зараз, мы добра ведаем і ўяўляем.

## V

Іншым гістарычным шляхам пайшоў беларускі тэатр усходняй, сучаснай Савецкай Беларусі.

Усходняя Беларусь трапіла разам з рэштай былой імпэрыі (не занятай нямецкім войскам) у сфэру спачатку Лютаўскай, а пасьля і Кастрычнікавай рэволюцыі і прымала сама, сваімі працоўнымі гушчамі, самы чынны ўдзел у абедзьвюх.

Лютаўская буржуазна-дэмократычная рэволюцыя з сваімі шырокавяшчальнымі лёзунгамі розных „свабод“ калі што і дала беларускай культуры наогул, тэатру ў прыватнасьці, дык хіба тое, што „асьвяжыла“ мярцьвячую, душную атмосфэру запуджанага вайной царызму, якая панавала ў пэрыод 1914—1917 гадоў.

„Дэмократызм“ Керанскага „дазваляў“ выяўляцца беларускай культурнай ініцыятыве, паколькі ў яго аб гэтым пыталіся.

Там і сям зьяўляецца шэраг культурна-асьветных гурткоў, сярод якіх выключнае месца па актыўнасьці і паказальнасьці займаюць драматычныя гурткі, розныя па складу, здольнасьці і значэньні.

Так, у Горках закладаецца літаратурна-вокальна-драматычны гурток, з беларускай сэкцыяй у 50 чалавек. Інсцэнізаваліся „Тарас на Парнасе“, „Размова беларуса, украінца і маскоўца“. Пачалі рыхтаваць „знамянітую“ і неабходную для ўсякага аматарства п'есу „Пашыліся ў дурні“.

„Грошы было зусім мала, заможных людзей сярод вучняў-беларусаў таксама ня было“,—успамінае Г. Гарэцкі, але гэта ня ўсе перашкоды: трэба было „дэмократычна праканаць зрусыфікаваных заправілаў каморнікаў і агрономаў, што „мужычая“ п'еса не „забрудзіць храма навукі“!

Падалі голас за беларускі спэктакль усе клясы, за выключэньнем выпускной, дзе было досыць „панкоў з усяе матушкі Расіі“.

З Горак беларускі тэатральны рух пракаціўся па суседніх раёнах Магілеўшчыны ўсё ў тым-жа выглядзе аматарскіх гурткоў, хораў і г. д.

З тае прычыны, што савецкая ўлада ўсталявалася канчаткова на Беларусі значна пазьней за цэнтральную Расію (чаргаваньне нямецкай окупацыі, савецкай улады, польскай окупацыі), дык і тэатральная гурткоўшчына, аматаршчына з „дазволу“ тых ці іншых „уладз“ цягнулася доўга. Падобна Горацкаму, тэатральна-аматарскі рух выяўляецца пасьля рэволюцыі 17 году на Случчыне, Чэрвеншчыне (тагачаснай Ігуменшчыне) і па іншых кутках Беларусі.

Галоўнымі актывістымі гэтага руху зьяўляюцца вясковыя настаўнікі і вучні.

Асаблівай актыўнасьці і асаблівага рэвалюцыйнага значэньня набываюць культурна-асьветныя гурткі ў часы польскай окупацыі (1919 г.), калі адзіным выяўленьнем нацыянальнага жыцьця „хлопскай" нацыі мог быць хіба дзе-ні-дзе пастаўлены беларускі спэктаклік. Сярод тагачасных культурна-асьветных організацыі на Случчыне ў часы польскай окупацыі можна адзначыць „Папараць-Кветку" і яе драм-сэкцыю.

На Чэрвеншчыне драм-гурткі былі ў самым Чэрвені, Дукорах, Цытве і па іншых мястэчках і вёсках.

Калі мы спыняемся на пасьлялютаўскай працы розных драм-гурткоў і драм-сэкцый і адзначаем некаторыя з іх, дык толькі для таго, каб выясьніць, што фактычна „базай" для ўтварэньня Беларускага Дзяржаўнага Тэатру гэты тэатральны рух наўрад ці мог быць. Ён сьведчыў толькі, у адзіна магчымай пры окупацыях форме, аб жыцьцёвасьці культурна-нацыянальнага адраджэньня працоўных мас Беларусі.

Надаць гэтаму культурна-нацыянальнаму адраджэньню ў галіне тэатральнага мастацтва сталую, зьлітую форму—організаваць Дзяржаўны Тэатр—захацела і змагла толькі ўлада працоўных, якая ўсталявалася канчаткова на Беларусі ў 1920 г. Гэты год і трэба лічыць годам нараджэньня Беларускага Дзяржаўнага Тэатру.

## VI

Менск зьявіўся тым савецкім цэнтрам на Беларусі, які ня толькі перанёс да сябе ўсе культурна-нацыянальныя беларускія традыцыі Вільні, але і паглыбіў ды пашырыў іх, зрабіўшы справу невялічкіх шчыра адданых ідэі адраджэньня груп жыцьцёвай справай усёй працоўнай масы народаў Беларусі.

З утварэньнем *тэатру* справа, каротка кажучы, стаяла так:

Яшчэ ў 17 годзе організавалася беларуская трупа пад кіраўніцтвам Флёрыяна Ждановіча. Яго можна лічыць пераймальнікам працы І. Буйніцкага ў „менскай" (у шырокім сэнсе слова, процілежна „віленскай") галіне беларускага тэатральнага мастацтва. Ф. Ждановіч ставіў спэктаклі ня толькі ў Менску, але езьдзіў з трупай у Магілеў ды іншыя месцы. Так-сяк перабіваліся, цярпелі, мелі „моральны" посьпех. Вядома, нікому з „рэволюцыйна-дэмократычных" адпаведных асоб часоў Керанскага і ў голаву ня прышло ўзяць нейкую беларускую трупу на дзяржаўнае ўтрыманьне!

Само сабой ня цікавіліся трупай і нямецкія окупанты.

У 1919 г. савецкая ўлада, першы раз стаўшы ў Менску, узяла трупу на дзяржаўнае ўтрыманьне.

Пасьля часовага адыходу з Менску савецкай улады (1919—1920 г.), беларускай трупай кіраваў Ф. Аляхновіч, але яе не ўзялі польскія окупанты на дзяржаўнае ўтрыманьне!

У 1920 годзе, пры звароце савецкай улады, трупе Ф. Ждановіча быў адданы гарадзкі тэатр, што „няпрыятна“ зьдзівіла старое чыноўніцтва і зрусыфікаванае мяшчанства.

Але факт застаўся фактам: сталае памяшканьне, дзяржаўнае ўтрыманьне і савецка-профсаюзная поўнапраўнасьць для працаўнікоў трупы!

У дапамогу кіраўніку і пастаноўшчыку Ф. Ждановічу прыходзіць популярны рэжысэр расійскай сцэны, ня меней вядомы, як аўтар шмат якіх пашыраных на расійскіх тэатрах п‘ес,—Аўсьцігней Міровіч. Пераходзіць у беларускі тэатр з тым, каб аддаць яму ўсю сваю сцэнічную спрактыкаванасьць, творчую рэжысэркую здольнасьць і драматычны талент.

На працягу кароткага часу тэатр у цэлым расьце літаратурна не па днёх, а па гадзінах; учорашнія аматары робяцца акторамі-профэсыяналамі з выяўленьнем у многіх выразнай талентнасьці; ідзе шуканьне сваіх форм сцэнічнага выкану; творацца новыя п‘есы, зараджаюцца новыя драматургі.

1921 год быў новай прыступкай у эволюцыі нашага Дзяржаўнага Тэатру: была пастаўлена першая цалкам беларуская музычная пьеса—„На купальле“.

Тэкст даў малады тады поэта Міхась Чарот, музыку—У. Тэраўскі, оркестроўку—Маркевіч.

Пастаноўкай гэтай п‘есы Тэатр пакончыў з старым, традыцыйным аматарскім рэпэртуарам („Пашыліся ў дурні“, „Па рэвізіі“, „Модны шляхцюк“ і г. д.) таксама, як і з п‘есамі сымболічна-індывідуалістычнымі, як „Цені“ Ф. Аляхновіча.

У шэрагу новых п‘ес, што ставіліся і ставяцца з 1921 г. па сёнешні дзень, сцэнічна-мастацкі разьвярнулася ўся социяльна-клясавая мінуўшчына Беларусі і яе гэроічная барацьба за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Ідуць п‘есы: „Машэка“ Міровіча, напісаная поводле легенды „сказаньне магілеўскіх лернікаў пра заснаваньне г. Магілева“. Сялянскае паўстаньне XIV сталецьця,—вось соцыяльная канва п‘есы.

„Панскі Гайдук“ Н. Бываеўскага (Я. Дылы) пераносіць гледача ўжо ў XVI сталецьце; „Кастусь Каліноўскі“ Міровіча, адна з самых выдатных, калі ня самая выдатная, п‘еса орыгінальнага рэпэртуару, выводзіць слаўнага беларускага гэроя-рэволюцыянэра і яго час—паўстаньне 1863 году.

Далей ідуць п‘есы з нашых дзён: „Кар‘ера Брызгаліна“, „Перамога“—Міровіча, „Над Нёмнам“ М. Грамыкі, „Змрок“ В. Шашалевіча, „Лес цёмны“ М. Ільлінскага і шэраг іншых. Ставяцца і музычныя п‘есы—„Каваль-ваявода“ Міровіча, „Вір“ А. Рамановіча.

Тэатр спрабуе свае сілы і на клясычным рэпэртуары: Міровіч ставіць „Мешчанін у шляхэцтве“ Мольера і, як у свой час адзначыла крытыка, гэтая пастаноўка канчаткова зацьвердзіла права беларускае мовы на „пачэсны пасад між народамі“. У новым, конструкцыйным разрэзе ставяцца некаторыя перакладныя п'есы, як „Чырвоная маска“ А. Луначарскага, „Жрэц Тарквіні“ ды іншыя.

Месца і час не дазваляюць нам прааналізаваць усю солідную працу як пастаноўшчыкаў, так і ўсяго колектыву—гэта патрабуе спэцыяльнай увагі,—але няможна не адзначыць, напрыклад, таго, як вырасьлі і растуць акторскія сілы, як публіка прызвычаілася і любіць бачыць на сцэне і „ксяндза“ Ф. Ждановіча, і „гэроя“ Крыловіча, і „коміка“ Грыгоніса, і жвавую, маладую фігуру Платонава; удаюцца некаторыя спэцыфічныя персонажы сцэны і Крыніцы і Зораву, Ржэцкай і Галіне, К. Грамыка і Цераху і іншым, і іншым. Ня ўсё „гладка“, ня ўсё „клясычна“, ня ўсё, далёка ня ўсё можа ісьці ўровень з *лепшымі* тэатрамі такіх цэнтраў, як Масква, Ленінград, але кожны бесстароньні глядач, асабліва той, хто ведае хоць крыху ўсю сапраўды *гэроічную* гісторыю нашага тэатру, убачыць на пастаноўках ясны рост і эволюцыю.

VII

Мы гаварылі ўвесь час пра „Дзяржаўны Беларускі Тэатр“, разумеючы пад гэтым увесь комплекс тэатральнага беларускага мастацтва. У сучасны момант *адзіны тэатр* дыфэрэнцыяваўся, падзяліўся на некалькі колектываў, кожны з сваімі заданьнямі, з сваім месцам у культурнай савецкай рабоце.

Гістарычна „першым“ зьяўляецца „Першы Дзяржаўны Беларускі Тэатр“. Яго гісторыю мы каротка падалі.

Ён мае ў сваім складзе каля 34 артыстых драмы; хор у 20 чалавек пад кіраўніцтвам аднаго з першых зьбіральнікаў і гармонізатараў беларускае народнае музыкі, У. Тэраўскага; оркестру (з 1923 г.) і невялічкі балет. Гадавы бюджэт вызначаецца, прыблізна, у 150.000, з якіх Народны Камісарыят Асьветы дае каля 130.000 і толькі каля 20.000 мяркуецца папаўняць з касы тэатру. Рэжысэрамі-пастаноўшчыкамі былі: Ф. Ждановіч, А. Міровіч (нязьменна з 1921 г.), М. А. Папоў; у апошні час з „гуртка самадзейнасьці“ (2-X—1923 г.) высоўваюцца маладыя пастаноўшчыкі—М. Ільлінскі, Б. Дольскі ды іншыя. Дырэктарамі ў паступовасьці былі: А. Ляжневіч, М. Гурскі, Я. Дыла, В. Сэлях.

*Другі Беларускі Дзяржаўны Тэатр* вырас ужо выключна ў савецкіх варунках і ня мае сувязі з аматарскімі гурткамі. Ён утварыўся з Беларускай Драматычнай Студыі, заснаванай савецкім урадам Беларусі ў 1921 годзе. Колектыў Другога Тэатру прайшоў сталую тэатральную школу ў атмосфэры слаўных традыцый і новых шуканьняў лепшых Маскоўскіх тэатраў. Беспасрэднымі настаўнікамі тэатральнага мастацтва

былі рэжысэры і акторы Другога Маск. Худ. тэатру (Мхат 2), асабліва С. В. Смышляеў і Б. М. Афонін.

21 лістапада 1926 г., у г. Віцебску, пры ўрачыстай абстаноўцы адбылося адчыненьне гэтага тэатру.

Колектыў складаецца з 34 актораў і оркестры. З акторскага колектыву выдзелілася рэжысэрская група: Н. Міцкевіч, В. Рагавенка, К. Саньнікаў, Т. Сяргейчык і І. Чайкоўскі. Першым дырэктарам зьяўляецца М. Красінскі (А. Ляжневіч быў дырэктарам Студыі).

Рэпэртуар складаецца з студыйных п'ес, як „Цар Максімільян", народная драма, і новых пастановак:

„У мінулы час" І. Бэна, п'еса з часоў прыгону; „Сон у летнюю ноч" Ул. Шэксьпіра, „Астап" А. Глобы, сучасная комэдыя; „Эрос і Псыха" Ю. Жулаўскага (у перакладзе Я. Купалы); „Бакханкі" Эўрыпіда (у перакладзе Ю. Дрэйзіна).

*Тэатр гэроічнай романтыкі* (гэроізм сучаснай эпохі і „романтызм" натуры беларуса)—вось плян утварэньня далейшага рэпэртуару БДТ 2[1]).

Для гэтага: беларускія орыгінальныя п'есы і лепшыя ўзоры сусьветнай драматургіі.

„Гісторыя" гэтага колектыву ўся яшчэ ў „заўтрашнім дні".

*Дзяржаўная Вандроўная Трупа* пад кіраўніцтвам У. Галубка.

Беларускі вандроўны тэатр зьяўляецца цікавым прыкладам „народнага" тэатру ў шырокім сэнсе слова.

Ініцыятар яго, У. Галубок,—адначасна і рэжысэр, і драматург, і актор, і адміністратар. Ён пачаў сваю працу ў трупе Ф. Ждановіча (1918 г.), затым пераходзіць у работніцкі беларускі клюб, дзе і арганізуе сваю трупу (1920 г.).

З 1921 году гэтую трупу Народны Камісарыят Асьветы бярэ на дзяржаўнае падтрыманьне. Трупа абслугоўвала рабочыя клюбы Менску, а пазьней вылілася амаль выключна ў праўдзіва „вандроўную": няма такога кутка (мястэчка) на Меншчыне, Случчыне, Чэрвеншчыне, потым і па іншых акругах ды раёнах Савецкае Беларусі, дзе-б не пабываў Галубок з сваёй трупай. Тысячы людзей першы раз у жыцьці бачылі „тэатральнае дзейства" ў выкананьні яго самога і яго актораў.

Пераважны рэпэртуар—яго ўласныя творы, некаторыя з якіх карыстаюцца шырокай популярнасьцю: „Пісаравы імяніны", „Суд", „Апошняе спатканьне", „Бязьвінная кроў" і г. д.

Пры трупе маецца свой уласны хор.

Ёсьць яшчэ „пячатка аматарства" на гэтым тэатры, але кожны год дае рост, і ёсьць падставы думаць, што з яго вырасьце орыгінальны і цікавы вандроўны тэатр.

---

[1]) Бярэм гэта з артыкулу аб беларускім тэатры ў зборніку „Театрально-дек. искусство в СССР".

VIII

Далейшыя пэрспэктывы нашага тэатру? З усёй яго гісторыі, як і з адносін савецкае улады да тэатру наогул, выцякае і ў далейшым яшчэ большая роля беларускага тэатру ў культурным жыцьці краіны.

*Ідэолёгічна:* асьведамленьне шырокіх працоўных мас у першую чаргу і іншага савецкага грамадзтва ў адносінах клясава-соцыяльных і нацыянальных; асьвятленьне гэтых проблем як у гістарычнай пэрспэктыве („гісторыка-гэроічная драма“), так і ў формах сучаснага жыцьця і быту („бытавая драма“).

*З боку афармленьня:* рэалізм, але не сьляпая, фотографічная копіроўка кожнага кута хаты, кожнага гузіка ў вопратцы.

Рэалізм нашага тэатру павінен прайсьці праз мастацкі горан, атрымаць некаторую мастацкую ўмоўнасьць і падкрэсьліваньне галоўнага.

*Эстэтычна:* час-ад-часу даваць і клясычныя ўзоры сусьветнай драматургіі, каб падняць эстэтычны крытыцызм гледача, прылучыць яго да інтэрнацыянальнае культуры.

Мы лічым „беларускі тэатр“ з гэтага боку адзіным.

Вядома, усе тры колектывы беларускага тэатру з сваім падыходам і з сваімі магчымасьцямі выканаюць гэтыя заданьні.

*Першы колектыў,* валадаючы большымі сіламі, будзе даваць і болей „грамадзкія“ спэктаклі, з удзелам балетных груп, вокальных афармленьняў і г. д., магчыма, выльлецца ў музычную драму.

*Другі колектыў,* які атрымаў больш закончаную школу, будзе даваць формальна больш закончаныя, стыльна вытрыманыя спэктаклі, будзе тэатрам „чыстай драмы“ (разумеючы пад гэтым і беларускую клясычную комэдыю).

*Вандроўны колектыў* па самой сваёй сутнасьці будзе больш формальна спрошчаным, пастановачна лёгкім і рухомым, але *без парушэньня* пры гэтым запатрабаваньняў як асноўна-ідэолёгічных, таксама мастацка-эстэтычных: можна даць рэч проста, танна, але мастацкі правільна і вытрымана.

Спадзяемся, што яшчэ праз дзесяць год, пры 20-гадовым юбілеі Кастрычніка, мы пабачым яшчэ большыя дасягненьні нашага тэатру, яшчэ большы яго рост, уровень з ростам агульнае культуры працоўных.

---

Канчаючы артыкул, трэба сказаць, што апрача трох беларускіх, на дзяржаўным утрыманьні знаходзіцца і адзін *яўрэйскі тэатр,* які таксама як і другі бел. тэатр, утварыўся з яўрэйскай студыі. Але аб ім, трэба думаць, будзе напісаны асобны артыкул. З другога боку, калі мы правадзілі думку, што наш сучасны дзяржаўны тэатр як-бы ўвабраў у сябе ўвесь „аматарскі“ папярэдні пэрыод, дык гэта ня значыць, што цяпер толькі гэтымі трыма дзяржаўнымі беларускімі і адным яўрэйскім тэат-

рамі абмяжоўваецца ўся тэо-культурная работа, усё тэо-культурнае жыцьцё на Беларусі.

Кожны, хто хоць крыху знаём з савецкім культурным будаўніцтвам, ведае, што існуюць сотні клюбаў з драм. гурткамі пры іх; што амаль пры кожнай 7-годцы, не гаворачы пра вышэйшыя навучальныя ўстановы і рознага тыпу тэхнікумы, існуюць таксама драмгурткі; што пераважная большасьць драматычных пастановак адбываецца зараз на беларускай мове; што выдаюцца цэлыя зборнікі п'ес і г. д.

„Мужычая праўда“ і „мужычая“ мова перамаглі на сцэне праз Вялікі Кастрычнік!

У ідэолёгічным злучэньні сялянства, работнікаў і працоўнай рэволюцыйнай інтэлігенцыі—аснова грамадзянскага шляху беларускага тэатру,— піша Х. Херсонскі.

Рэволюцыя вымагае ад тэатру, каб ён ня толькі адбіваў, але і дапамагаўператвараць і будаваць жыцьцё. Ĭ беларускі тэатр, вырасшы з аматарскага гуртка ў Дзяржаўны Колектыў, успрыняўшы ў свой організм разам з дарэволюцыйным адраджанізмам *плоць і кроў* соцыяльнай Кастрычнікавай рэволюцыі,—здолее гэта выканаць!

# КАСТРЫЧНІК І МУЗЫКА

## Ю. Дрэйзін

Калі чалавек сыты, апрануты, жыве ў цяпле, ён перастае гэтым задавальняцца. Яго ўвага накіроўваецца на новыя патрэбы. Ён хоча жыцьцё сваё ўпрыгожыць, ушляхетніць, хоча ня толькі жыць, але і мець радасьць, асалоду жыцьця. Дзеля гэтага ўсё, што аздабляе чалавечае жыцьцё, усё, што надае яму хараство, ушляхетняе яго, прымушае хоць-бы часова забыцца на звычайную штодзённую прозу,—усё гэта зьяўляецца прадметам бязумоўна законных імкненьняў і замілаваньня з боку чалавека.

Сярод заваёў чалавечага гэнія, якія ўпрыгажаюць і ўшляхетняюць чалавечае жыцьцё, на першым месцы трэба паставіць, зразумела, так званыя мастацтвы. Калі яны ўзьнікаюць? Гэта немагчыма азначыць, як немагчыма азначыць, калі зьявіўся чалавек на нашай плянэце. Мастацтвы такія-ж старыя, як старое чалавецтва, як старое яго жыцьцё, як старая яго барацьба за існаваньне і да таго за шчасьлівае існаваньне. Самыя дзікія народы пяюць; на самых старадаўнейшых першабытных начыньнях, якія зроблены яшчэ рукамі *без ганчарнага кругу*, мы знаходзім аздобы хаця-б у выглядзе простых кропак, рысак або сьпіральных ліній. Няма эпохі, якая-б яна ні была далёкая, калі-б чалавек ня імкнуўся да мастацтва, не стараўся ўпрыгажаць ім сваё жыцьцё.

Але ці вычэрпваецца зьмест мастацтва аднэй толькі прыгожасьцю?

Паглядзім, як акрэсьляюць мастацтва прадстаўнікі ідэалістычнай школы.

„Мастацтва свабодна“,—кажуць ідэалістыя.—„Яно ня мае бліжэйшай утылітарнай мэты. Мастацтва павінна адбіваць толькі ўсё прыгожае і ня быць прасякнута жаднай ідэяй. Яно павінна выклікаць толькі „наслаждение“ [1]).

Гэта ня так. Калі мы возьмем, напрыклад, маляўнічае мастацтва, дык яно заўсёды выпаўняла якую-небудзь соцыяльную функцыю.

„Кожнаму этапу ў грамадзкім разьвіцьці чалавецтва адпавядае мастацтва, якое выпаўняе пэўную соцыяльную функцыю.

У паляўнічай групе, на ніжэйшым узроўні цывілізацыі мастацтва ёсьць акт вядзьмарскі (колдовской), зьяўляецца магіяй непасрэдна падпарадкуючай чалавеку (паляўнічаму) прыроду (у выглядзе зьвера, на якога ён паляваў). У земляробска-фэўдальна-жрэцкіх грамадах мастацтва робіцца актам

1) Фрычэ. Социология искусства.

узьдзейнічаньня на багоў з мэтай заміласьцівіць іх для дабрабыту чалавека. Буржуазія, якая паднімаецца на барацьбу з фэўдальнай клясай, робіць мастацтва сродкам моральна-політычнага выхаваньня членаў"[1]) таго буржуазнага грамадзтва, што ўтвараецца. Тое-ж самае трэба сказаць і аб поэзіі ды музыцы.

„Грамадзка-неабходная праца—вось калыбель (калыска) поэзіі. Спачатку поэзія была ні чым іншым, як сродкам організаваць працу, на якой трымаўся і трымаецца грамадзкі колектыў.

Рабочая песьня іменна была песьняю, г. зн. злучала словы з напевам, да гэтага апошні зьяўляўся ні чым іншым, як сродкам перайманьня спачатку голасам, а пасьля пры дапамозе музычных інструмантаў, тымі гукамі, якія вырываліся з грудзеў рабочага або вытварыліся тым ці іншым інструмантам. Такім чынам, і музыка ўвасходзіць к працы, як к аднэй з яе першакрыніц"[2]).

Пазьней, на вышэйшых ступенях грамадзкага ладу зьмяняюцца як форма, так і зьмест мастацтва ў залежнасьці ад зьмены вытворчых узаемаадносін, у залежнасьці ад тэй новай формы грамадзтва, якая заступае папярэднюю.

На вышэйшых ступенях грамадзтва, якое організавана на клясавых падставах, мастацтва ў першую чаргу пачынае для пануючай клясы зьяўляецца адным з сродкаў тым ці іншым спосабам замацаваць сваё панаваньне.

Цяпер, аднак, мы будзем гаварыць не аб мастацтве наогул, а толькі аб адным з мастацтваў, аб мастацтве музычным. Ці-ж сапраўды павінны зьмяніцца формы і зьмест музыкі ў залежнасьці ад тых зьмен у экономічных, грамадзкіх і політычных адносінах, якія прынесла з сабою Кастрычнікавая рэволюцыя? Справа ў тым, што між усіх мастацтваў музыка ёсьць найболей бесьцялеснае, няўхвытнае, а таму і найменей зразумелае мастацтва. Музычныя творы так цесна зьвязаны з асабістасьцю іх творцы, яны находзяць з такіх патаемных глыбінь і тайнікоў усяе яго організацыі; што ў большасьці выпадкаў і сам творца ня скажа, чаму ён у адным выпадку стварыў такую мэлёдыю, а ў другім—іншую. Пад уплывам прыліву творчых сіл, таго, што звычайна завуць натхненьнем, выліваецца мэлёдыя ў яе творцы часта незалежна ад яго волі. Як зразумеюць гэтую мэлёдыю іншыя людзі? Кожны зразумее яе пасвойму, кожны ўложыць у яе сваю думку, свой настрой, свае жаданьні. І ўсе будуць правы, і ў той-жа час няправы, бо мэлёдыя ёсьць нешта недатыкальнае, нябачнае, няўхвытнае. Вось гэтая недатыкальнасьць, нябачнасьць, адухоўленасьць, нібы-та адарванасьць музыкі ад рэальнага сьвету і робіць надта цяжкім дасьледваньне пытаньня аб залежнасьці яе форм і зьместу ад экономічнае, соцыяльнае і політычнае структуры грамадзтва.

---

[1]) Фрычэ. Социология искусства.

[2]) Фрычэ. Очерки по искусству.

Магчымасьць вывесьці факты музычнае гісторыі з такіх асноў, як экономічная, соцыяльная і палітычная організацыя грамадзтва, здавалася раней многім, ды адгэтуль шмат каму здаецца, няверагоднай. Надта-ж рэальныя матэрыяльныя амаль датыкальныя гэтыя асновы, каб на іх магчыма было пабудаваць гісторыю самага адухоўленага, самага няўхвытнага, самага недатыкальнага з усіх мастацтваў. Здавалася, што між зьявамі музычнага парадку і зьявамі парадку соцыяльна-экономічнага няма і ня можа быць ніякай сувязі, ніякай залежнасьці. Як сапраўды вытлумачыць ноктурн Шопэна гаспадарчымі адносінамі, якія панавалі ў часе яго ўтварэньня ў Польшчы? Што ёсьць супольнага між „Обэронам“ Вэбэра і суадносінамі палітычных партый, якія змагаліся між сабою ў эпоху яго зьяўленьня? Якім чынам соцыяльны лад Нямеччыны ў першай палове XIX сталецьця мог зрабіць уплыў на стварэньне „Фінгалавае пячоры“ Мэндэльсона?

Трэба адзначыць таксама і тую акалічнасьць, што і дыялектычны матэрыялізм у гісторыі ёсьць зьява параўнальна новая. Толькі ў сярэдзіне XIX сталецьця быў знойдзены і навукова ўгрунтаваны той факт, што разьвіцьцё народаў, іх гісторыя будуецца цалкам на экономічнай аснове. Шмат якія бакі ў жыцьці чалавечага грамадзтва і ў яго культуры з таго часу былі нанова асьветлены і растлумачаны, зроблена была аграмадная пераацэнка вартасьцяй, але далёка яшчэ ня ўся праца зроблена. Далёка ня ўся гісторыя перабудована на гэтай падставе, ня ўсе яе факты вытлумачаны з гэтага пункту погляду. І музыка гісторыкамі гэтага кірунку зусім ня была закранута. Тут перад гісторыкам адкрываецца зусім недасьледваная краіна.

Пытаньне аб залежнасьці форм і зьместу музыкі ад экономічнае, соцыяльнае і палітычнае структуры грамадзтва для нас, грамадзян СССР, набывае асабліва важнае значэньне, з прычыны тых зьмен у гэтай структуры, што прынесла з сабою Кастрычнікавая рэволюцыя. Належнае разьвязаньне гэтага пытаньня мае нават актуальнае значэньне, бо ад яго залежыць адказ на пытаньне аб музыцы будучыні, аб формах і зьмесьце новага пролетарскага музычнага мастацтва, аб тых кірунках, у якіх трэба далей працаваць у музычнай галіне.

Сапраўды, уся гісторыя музыкі сьведчыць аб такой залежнасьці. Але ў гэтым артыкуле мы абмяжуемся двума-трыма яскравымі прыкладамі. Трэба толькі мець на ўвазе наступнае. Калі паставіць пытаньне, прыкладам, у такой форме: „Якім чынам на ўтварэньне Шопэнам яго баляд магла мець уплыў тагачасная цана на збожжа ці на бульбу?“—гэта будзе сьмешна, сьмешна і з боку формы, і з боку зьместу такога пытаньня. Справа ў тым, што музыка ёсьць адна з ідэолёгічных надбудоў на экономічнай падставе. Гэта ёсьць адна з вышэйшых надбудоў, а мо‘ нават і найвышэйшая. Паміж ёю і апошняю падставай (экономікай) ёсьць шмат прамежных зьвеньняў, якія між сабой знаходзяцца ў адносінах прычыннае

залежнасьці. Тут ёсьць і організацыя вырабу ды разьмеркаваньня продуктаў ужытку, і соцыяльны ды палітычны лад, і клясавая прыналежнасьць композытара, і асаблівасьці яго ўласнага жыцьця, і нязьлічоныя, часта супярэчныя, міжклясавыя ўплывы, і ўзьдзеяньне традыцыі старыны і г. д. Вось калі мы ад музыкі пярэйдзем па ўсіх (па магчымасьці) гэтых прамежных зьвеньнях, тады ад яе дабярэмся і да экономікі,—да збожжа з бульбай. Тады залежнасьць між імі ўжо сьмешнай ня будзе здавацца. А ставіць найвышэйшую ідэолёгічную надбудову ў непасрэдную залежнасьць ад найглыбейшай падставы, зразумела, сьмешна, бо зусім няправільна. Гэта будзе той вульгарны, спрошчаны марксызм, ад якога ў свой час перасьцерагаў Плеханаў.

Пярэйдзем да гісторыка-музычных прыкладаў. Першы прыклад—гэта тая рэформа пяяньня, якая была зроблена ў XVI сталецьці лютэранствам і якая мела нязьлічоныя вынікі ды адбілася на ўсім далейшым ходзе гісторыі эўропэйскае музыкі.

Калі мы слухаем хор, дык ясна адрозьніваем, якую мэлёдыю ён выконвае, бо гэтую мэлёдыю звычайна вядзе высокі жаночы голас, які найболей рэзка, ясна выдзяляецца,—дыскант або сопрано. Калі мэлёдыя простая, і харавое пяяньне паўтараецца шмат разоў, дык нават чалавек, незнаёмы з нотамі, слухаючы неаднакраць хор, можа ўрэшце па слуху запомніць гэтую мэлёдыю і прыняць удзел у пяяньні. Рэшта галасоў у большасьці выпадкаў іграюць ролю справаджэньня, даюць гармонію, акордавы акомпанімэнт. Ня так было 400—500 год таму назад. Партыі для галасоў пісаліся па правілах так званага контрапункту, калі кожны голас выконваў сваю самастойную мэлёдыю, а ня быў толькі акомпанімэнтам да асноўнае мэлёдыі. Але асноўная мэлёдыя была, і выконваў яе высокі мужчынскі голас. Ён „трымаў“ яе, чаму і названы быў „трымальнік“, палацінску „tenor“—тэнор. Але ён не выдзяляўся рэзка на фоне іншых галасоў у хоры, а таму і асноўная мэлёдыя ня была ясна чутна, так што, слухаючы хор, чалавек нявучаны па слуху ня мог-бы запомніць яе. Пераход асноўнае мэлёдыі ад тэнара да дысканта адбыўся ў эпоху рэформацыі і меў аграмадныя вынікі для музыкі.

400—500 год таму назад Нямеччына не складала адзінае цэлае, магутнае, моцна організаванае дзяржавы з адзінаю моцнаю цэнтральнаю ўладай. Яна была пакрышана на мноства паасобных уладаньняў, на чале якіх стаялі буйныя і дробныя князі, каралі, герцогі, графы, бароны, рыцары. Каталіцкая царква таксама ўладала вялізнымі тэрыторыямі, дзе ўладу мелі каталіцкія прэлаты, і гэтыя тэрыторыі ў сваёй скупнасьці займалі бадай ня трэцюю частку ўсяе Нямеччыны. А ў склад апошняе ўваходзілі ня толькі сучасная Нямеччына, але і Нідэрлянды, Аўстрыя і Прыбальтыка. У гэтай агромністай краіне, з прычыны многаўладзтва, ня было ніякага парадку. Усе нязьлічоныя буйныя і дробныя ўладары рабілі, што хацелі. Беззаконнасьць і свавольства панавалі ў поўнай меры. Існаваў,

праўда, імпэратар, але ён быў толькі адным з сільнейшых князёў і быў бясьсільны завесьці парадак у краіне і гвалтам прымусіць да падлеглясьці закону іншых князёў, якія ня слухалі яго. Такі стан рэчаў быў надзвычайна цяжкі для насельніцтва, якое не магло мець спакойнага забясьпечанага жыцьця і займацца мірнаю працаю. Асабліва цяжкае было, зразумела, становішча сялян, гаспадаркі якіх руйнаваліся бязупыннымі нязгодамі ўладарных паноў. Цяжкае таксама было становішча і гарадоў, дзе скупіўся гандлёвы стан, які патрабаваў згоды і парадку для правільнага і нясупыннага гандлю. А гэты гандаль разьвіўся ўжо настолькі, што гарады зрабіліся паважнай сілай. Яны былі вялікай прынадай для князёў і разбойніцкіх рыцараў. Абароны шукаць ня было ў каго, прыходзілася спадзявацца толькі на ўласную сілу, зварачацца да самаабароны. Зразумела, увесь гэты хаос у экономічных, грамадзкіх і палітычных адносінах быў адбіткам пераходнага часу, калі ранейшыя формы натуральнае гаспадаркі, зьвязаныя з фэўдалізмам, руйнаваліся, а новыя формы грашовае гаспадаркі яшчэ не разьвіліся, не азначыліся, не ўсталяваліся канчаткова. Але гістарычны процэс ішоў у кірунку разьвіцьця і перамогі якраз гэтых новых форм грашовае гаспадаркі. Усё мацней і мацней раздаваліся галасы, якія патрабавалі рэформы, патрабавалі ўтварэньня адзінае моцнае цэнтральнае ўлады, якая-б завяла парадак у замучанай і зруйнаванай краіне. Але гэтае наладжаньне парадку, гэтае ўтварэньне адзінае моцнае цэнтральнае ўлады было вельмі некарысна для каталіцкае царквы і асабліва для яе галавы, рымскага папы. Некарысна было зьмяншэньне ўлады каталіцкага духавенства ў царкоўных уладаньнях, бо князі-прэлаты, што стаялі на чале іх, былі гэткімі-ж князямі, як і сьвецкія князі ў сваіх уладаньнях. І калі сяляне ды гарадчане цярпелі ад экономічнае эксплёатацыі іх з боку паноў, буйных і дробных, князёў і абшарнікаў, дык асабліва моцна адчувалі яны эксплёатацыю з боку каталіцкага духавенства. Усё насельніцтва Нямеччыны абкладзена было падаткамі на карысьць гэтага духавенства, і вялікім цяжарам ляжалі яны на плацельніках. Прыходзілася плаціць мясцоваму, бліжэйшаму духавенству, плаціць князю-прэлату, плаціць рымскаму папе. А апрача выплаты падаткаў, на сялянах ляжалі яшчэ розныя павіннасьці на карысьць духавенства. Калі яшчэ ўсе гэтыя падаткі і павіннасьці выплачваліся натурай, сяляне як-ні-як спраўляліся з імі. Але калі, разам з разьвіцьцём гандлю і пашырэньнем грошай, хцівасьць каталіцкага духавенства з рымскім папай на чале страціла ўсялякія межы, і падаткі пачалі спаганяцца грашыма, тады становішча няшчасных плацельнікаў зрабілася нясьцерпным. Духавенства высмоктвала ўсе сокі з сялян, а само жыло ў цямноце і распусьце. Рэлігія, культ зрабіліся крыніцаю набытку. Усё гэта магло цягнуцца вельмі доўга, бо не сустракала сабе перашкоды з боку організаванае дзяржаўнае сілы, якой і не існавала. Але глухое нездаволеньне і злосьць хаваліся ў нетрах народных і раней ці пазьней павінны былі прарвацца, павінна

была выбухнуць рэволюцыя. І яна выбухнула. Гэта і была рэформацыя. Яна пайшла па ўсіх тых кірунках, якія вялі да разрыву з каталіцкаю царквою, да разрыву з Рымам. У політычных і грамадзкіх адносінах гэта было ўзмацненьне сьвецкае ўлады за кошт духавенства і перадача сьвецкай уладзе царкоўных уладаньняў, у экономічных—вызваленьне ад экономічнага ўціску, экономічнае эксплёатацыі з боку духавенства, у рэлігійных—разрыў з хрысьціянствам у яго рымска-каталіцкай форме і зварот да хрысьціянства першапачатковага, да хрысьціянства першых вякоў.

На чале рэволюцыі - рэформацыі стаяў былы каталіцкі манах, М. Лютэр. Гэта быў чалавек зусім не перадавы па сваіх пераконаньнях, але ён выканаў тую справу, якая патрабавалася ад яго гістарычным ходам рэчаў. У далейшым выкладаньні мы будзем мець на ўвазе толькі рэлігійны бок рэформацыі, бо ў даным выпадку ён для нас найважнейшы.

У першыя гады рэформацыі між сялян быў надта пашыраны, між іншым, такі малюнак, якіх шмат хадзіла ў той час сярод народу: селянін стаіць перад алтаром замест папа, а поп замест селяніна ледзьве цягнецца за сахой. Гэты малюнак напамінае тую характарыстыку, якую калісьці Карл Маркс даў рэволюцыйнай справе Лютэра. „Лютэр—пісаў Маркс—абярнуў каталіцкіх папоў у сьвецкіх людзей, бо апошніх ён зрабіў папамі“. Гэтая глыбока правільная думка абазначала, што адгэтуль перад богам усе абвяшчаліся роўнымі, што зьнішчалася тая сьцяна між богам і чалавекам, якую пабудавала каталіцкая царква ў выглядзе царкоўнае гіерархіі. Гэтая рэлігійная роўнасьць павінна была выявіцца з знадворнага боку, між іншым, у зьмене характару набажэнства. Да рэформацыі сьвецкія людзі прымалі ўдзел у набажэнстве чыста пасыўны, прымалі ўдзел толькі сваёю прысутнасьцю ў ім. Ляодыкійскі царкоўны сабор 367 году пастанавіў, што ў царкве можа пець толькі хор спэцыяльна для гэтага прызначаных і навучаных пеўчых. Гэтая пастанова Ляодыкійскага сабору пільна выконвалася да рэформацыі. Між тым, згодна дэмократычнаму духу апошняе, належала ўсіх сьвецкіх прыцягнуць да актыўнага ўдзелу ў набажэнстве. Дый Лютэр лічыў, што музыка сама па сабе выхоўвае і ўшляхетняе людзей. З гэтае прычыны ў першыя-ж гады рэформацыі ў лютаранскіх царквах пачалі заводзіць агульнае (супольнае) пяяньне. Зьявіліся зборнікі новых малітвеных песень, мэлёдыі якіх вельмі часта былі ўзяты з народных песень. Сам Лютэр напісаў вядомы хорал „Ein' feste Burg ist unser Gott“[1]). Але тут зараз і натрапілі на тую перашкоду да ўводу агульнага пяяньня, аб якой гаварылася вышэй. І старыя і новыя царкоўныя песьні былі пабудованы па правілах контрапункту, галоўную партыю „трымаў“ тэнор, а іншыя галасы выконвалі пабочныя, але таксама самастойныя мэлёдыі, у тым ліку і дыскант, які найболей выдзяляўся ў хоры. Просты нявучаны

[1]) У гэтым хорале асноўная мэлёдыя аддзелена была басу.

народ ня мог з гэтае прычыны ўхапіць асноўную мэлёдыю і запомніць яе па слуху. І вось адзін з лютаранскіх композытараў другое паловы XVI сталецьця, доктар Лукаш Озіандэр, робіць неабходную рэформу. У 1586 годзе ён выпускае ў сьвет зборнік „50 духоўных песень і псальмаў", у якіх галоўную мэлёдыю ён пераносіць ад тэнора да дысканта. Гэта была музычная рэволюцыя, бо яна зьнішчала шматвекавую традыцыю. І Озіандэр разумеў гэта, але разумеў таксама і тое, што гэтая рэволюцыя няўхільна, што яна выклікана гістарычнаю канечнасьцю. У прадмове да свайго зборніку ён пісаў: „Я ведаю, што гэта будзе не да спадобы вучаным композытарам, што я раблю супроць правіл. Але калі асноўны мотыў у тэнора, дык просты чалавек ня можа пазнаць, якая гэта псальма і ня можа падпяваць, а я больш за ўсё жадаю, каб уся грамада пяяла з хорам".

Мы бачым, што гэтая музычная рэволюцыя, гэтая зьмена музычнае формы была дапасаваньнем яе да руху социяльна-экономічнага характару. А вынікі былі вялізарныя.

Перш за ўсё неабходнасьць для ўсіх сьвецкіх пяяць і сваім пяяньнем прымаць актыўны ўдзел у набажэнстве прымусіла масы пазнаёміцца бліжэй з музыкай, з ужываньнем нот, прымусіла зьвярнуць большую ўвагу на музыку і пяяньне, больш займацца імі. Яна ўтварыла тую музычную атмосфэру, сярод якой лягчэй выдзяляцца і разьвівацца тым музычным талентам, што зьяўляюцца ў народзе. І калі нямецкая нацыя дала ў музыцы больш, чымся іншыя, калі яна справядліва можа ганарыцца такімі імёнамі, як Бах, Гендэль, Гайдн, Моцарт, Бэтговэн, Вэбэр, Шубэрт, Шуман, Вагнэр і шмат іншых, дык гэта быў вынік ня столькі яе прыроднае музычнасьці [1]), колькі тых спагадных для музыкі ўмоў тае музычнае атмосфэры, якая ўтварылася, дзякуючы лютаранскай рэформе пяяньня.

Другім вынікам гэтае рэформы было тое, што арганы ў лютаранскай царкве набылі непараўнальна большае значэньне, чымся яны мелі да гэтага часу ў каталіцкай. Адгэтуль яны перасталі абмяжоўвацца рольлю простага акомпанімэнту хору. Яны саправаджалі агульнае пяяньне парафіян, ігра на іх павінна была навучыць іх мэлёдыям хоралаў, яна стала неабходнай прыладай пры ўводзе і пашырэньні агульнага пяяньня. А потым гэтая ігра набыла і самастойнае значэньне, як сродак падтрымліваць у парафіян іхні набожны настрой. Яна зрабілася як быццам музычным казаньнем. Гэтая акалічнасьць выклікала ўзмоцненае выўчэньне арганаў і, як вынік гэтага,—зьяўленьне ў Нямеччыне цэлага шэрагу першарадных арганістых—віртуозаў, зьяўленьне цэлае школы паўночна-нямецкіх [2]) арганістых. Прадстаўнікі гэтае школы—папярэднікі вялікага І. С. Баха.

---

[1]) Як сьведчыць гісторыя і як прызнаюць самі немцы, славянская раса ня меней а мо' і болей музычная за нямецкую.

[2]) Паўднёвая Нямеччына ў большасьці засталася каталіцкаю, і росквіт арганнае ігры ў XVII і XVIII сталецьцях мы наглядаем у паўночнай, лютаранскай Нямеччыне.

Але творчасьць іх была абумоўлена рэлігійнымі, царкоўнымі патрэбамі, а таму, як і творчасьць самога Баха, носіць на сабе царкоўны адбітак, царкоўны характар. І гэта трэба сказаць нават адносна такіх твораў, якія пісаліся зусім не для царквы, а адносіліся да сьвецкае музыкі.

Але найважнейшым вынікам лютаранскае рэформы пяяньня было зьяўленьне новых музычных форм. Ужо адзін перанос асноўнае мэлёдыі хору ад тэнора да дысканта ёсьць зьяўленьне новае музычнае формы. Але калі гэты перанос стаў фактам, дык усе іншыя галасы паступова страцілі сваё самастойнае значэньне. Дый гэтая рэформа і зроблена была з тэй мэтаю, каб простыя людзі маглі лёгка чуць і запамінаць толькі асноўныя мэлёдыі хоралаў, перададзеныя для выкананьня дысканту. Паступова ўсе іншыя галасы перастаюць пяяць самастойныя мэлёдыі, злучаныя з асноўнай правіламі контрапункту. Яны пачынаюць іграць ролю простага справаджэньня, яны толькі ўтораць дысканту. Дзеля гэтага іхнія партыі робяцца ўсё болей і болей простымі, пакуль, нарэшце, гэтыя партыі не абярнуліся ў просты акордавы акомпанімэнт да партыі дысканта. Гэта і ёсьць вядомы ў гісторыі музыкі пераход ад поліфоніі да гомофоніі [1]).

Калі-ж разьвілася гомофонія, калі тры ніжнія галасы (альт, тэнор, бас) пачалі даваць толькі акордавы акомпанімэнт дысканту, дык адсюль пераход да акордавага інструментальнага акомпанімэнту быў ужо зусім просты і лёгкі. На фоне інструментальнае музыкі разьвівалася сольнае пяяньне, арыя. Гэты процэс павёў, з аднаго боку, да разьвіцьця опэры [2]), а з другога—да нябывалага росквіту гармоніі, вялікімі патрыярхамі якой былі ў XVIII сталецьці Бах і Гендэль.

Гэткі быў вялізарны процэс музычнага разьвіцьця, першымі прычынамі якога былі экономічныя, соцыяльныя і політычныя ўмовы, што выклікалі рэформацыйную рэволюцыю.

Другі гістарычны прыклад датычыць творчасьці паасобных композытараў. Надзвычайна цікавае пытаньне аб тых прычынах і ўплывах, якія абумоўліваюць творчасьць паасобных композытараў, азначаюць агульны характар гэтае творчасьці, яго пануючы настрой, і нават выклікаюць зьяўленьне тае ці іншае композыцыі. Пытаньне гэтае, зразумела, вельмі складанае. Дзеюць у даным выпадку самыя рознастайныя прычыны і ўплывы: спадчыннасьць, выхаваньне, нацыянальнасьць, умовы жыцьця. Але сярод гэтых прычын і ўплываў вельмі істотную і нават

1) Поліфонія — „шматгалосьсе“, калі некалькі галасоў адначасна выконваюць кожны самастойную мэлёдыю; гомофонія — „аднагалосьсе“, калі мэлёдыю выконвае толькі адзін голас, а рэшта галасоў даюць толькі гармонію галоўнаму голасу, акомпануючы яму.

2) Самае зьяўленьне опэры (у Італіі ў канцы XVI веку) выклікана было таксама экономічнымі прычынамі. Гэта тыя самыя прычыны, якія выклікалі зьяўленьне і разьвіцьцё руху, вядомага пад імем гуманізму.

самую істотную ролю іграе тая соцыяльная асярэдзіна, тая кляса, да якой належыць па сваім пахаджэньні і выхаваньні композытар, і сярод якой цячэ жыцьцё композытара. Пачуцьці, настроі, густы клясы адбіваюцца ня толькі на вокальнай (сьпеўнай), але і на інструментальнай музыцы. А кляса ёсьць у сваей аснове катэгорыя экономічнага парадку. Для прыкладу возьмем творчасьць некалькіх выдатных композытараў, у якой найболей рэзка выявіліся гэтыя клясавыя рысы, або найболей рэзка адбіліся адносіны композытара да соцыяльна-політычных падзей яго часу.

Бацька сымфоніі і смычковага квартэту, композытар Язэп Гайдн, па сваім пахаджэньні належаў да клясы дробнае буржуазіі. Ён быў сынам простага рамесьніка-карэтніка. Аднак, абставіны яго жыцьця склаліся так, што ён быў цалкам прасякнуты ідэолёгіяй і настроямі клясы фэўдальнае арыстократыі, якая панавала ў той час. Пачынаючы з 26-летняга ўзросту, ён пачаў жыць выключна ў гэтых колах. Спачатку на службе ў графа Морціна, потым на працягу болей, чымся 30 год, на службе ў вэнгэрскіх магнатаў князёў Эстэргазі, ён і да канца свайго жыцьця жыў, абкружаны павагай і клопатамі з боку венскае арыстократыі. Гэтая арыстократыя дала яму забясьпечанае і бязьбеднае існаваньне, дала яму пачэснае становішча ў сьвеце і, што асабліва важна, дала яму магчымасьць цалкам аддацца ўлюбёнаму мастацтву. І Гайдн шчодра адплаціў гэтай арыстократыі. Ён тварыў для яе, дзеля яе і пад уплывам яе. Яе густы, яе настроі адбіў ён у сваёй музыцы. У ёй мы ня знойдзем глыбокае тугі, пакуты, у ёй няма болю за чалавецтва, якое сударгава б'ецца і рвецца да шчасьця, да сьвятла, да волі. Гайдну жылося шчасьліва і сьветла, а што ён сапраўды ня быў вольны, што ён сапраўды быў у няволі ў арыстократыі, якая песьціла і мілавала яго толькі за тое, што ён даваў патрэбную і прыемную ёй музыку,—гэтага ён не адчуваў. Ён памёр у 1809 годзе 77-летнім дзедам і, значыцца, пережыў усю эпоху французскае рэволюцыі, да ідэй і гэроічных падзей якое мог аднесьціся зусім сьвядома. І што-ж? Яна прайшла міма яго, не закрануўшы яго сэрца, не ўсхваляваўшы яго і ня прымусіўшы задумацца. І нічым, роўна нічым не адбілася гэтая вялікая эпоха ў яго музыцы. Ціхамірная, спакойная, жыцьцярадая гэтая музыка. Так, яна прыгожая, гэтая мілая, далікатная, часам падзіцячаму наіўная і нявінная музыка Гайдна, але ў кожным яе гуку адчуваецца, што створана яна сытым чалавекам для сытых людзей. Цэлымі дзесяцілецьцямі сядзеў Гайдн на вёсцы, у маёнтках сваіх улюбёных князёў Эстэргазі, і пісаў свае нязьлічоныя сымфоніі і квартэты. З асаблівым замілаваньнем апрацаваў ён адну музычную форму, асабліва мілую для тагочасных арыстократычных колаў. Гэта быў мэнуэт, прыгожы танок, поўны свайго роду хараства і манернасьці, у якой яскрава адбілася эпоха. Мэнуэтаў ён напісаў некалькі сот і давёў гэтую форму да найвялікшае дасканаласьці і прыгожасьці. Так жыў і тварыў гэты музычны гэні фэўдальна-арыстократычнае эпохі, і сканаў,

калі на мілую яго сэрцу арыстократыю зваліўся цяжкі ўдар з боку Францыі, калі Наполеон падыходзіў да Вены і недалёка ад дому Гайдна разарвалася некалькі бомб.

За два месяцы да сьмерці Гайдна, у тым самым 1809 годзе, у багатым гандлёвым Гамбурзе, у сям'і, якая належала да буйнае буржуазіі, нарадзіўся хлопчык з нязвычайнымі музычнымі здольнасьцямі. Гэта быў Фэлікс Мэндэльсон—Бартольдзі. Шпаркімі крокамі ішло наперад яго музычнае разьвіцьцё, і да 16-17 год гэта быў канчаткова злажыўшыся віртуоз і композытар. Усё яго жыцьцё працякло ў багатых і нават раскошных абставінах. Ніколі ня ведаў ён беднасьці, ніколі не „абліваў хлеба сьлязьмі". Нарадзіўшыся ў буржуазнай сям'і, ён і ўсё сваё нядоўгае жыцьцё быў верным членам буржуазнага грамадзтва. Здаецца, адзінае вялікае гора ў яго жыцьці было тое, якое ён дазнаў з прычыны сьмерці свае ўлюбёнае сястры Фаньні. Якая-ж яго музыка? Яна таксама няглыбокая, але яна ўся наскрозь гладкая, прыгожая, мілагучная. У ёй няма пакуты, але ў ёй шмат хараства. Яна ўтворана для грамадзтва, якое любіць асалоды і жыве для гэтых асалод. 48 песень бяз слоў, 4 сымфоніі, камерныя творы, фортэп'янныя і скрыпачны концэрты оркестравыя ўвэрцюры-фантазіі,—усё гэта вельмі хораша, усё гэта прыгожая музыка, але і яна ўтворана сытым чалавекам для сытых людзей, пры тым такіх, якіх ня трэба прымушаць занадта многа працаваць мазгамі, удумвацца, углыбляцца, якія ўтвораную для іх музыку хочуць зразумець адразу.

Мэндэльсону было ўжо 18 год, ён знаходзіўся ў пэрыодзе росквіту сваіх творчых сіл, калі памёр вялікі Бэтговэн. Мэндэльсон шмат чаму мог-бы ў яго навучыцца, але ўспрыняў толькі яго клясычныя формы. А адносна зьместу музыкі, па тым сьветаадчуваньні, якое выяўляецца ў іх творчасьці, Бэтговэн, і Моцарт—антыподы. Бэтговэн па сваім пахаджэньні належаў да клясы пролетараў, дакладней—да клясы працоўнае інтэлігенцыі. Ён быў сынам пеўчага капэлі арцыбіскупа Кельнскага. Бэтговэн усё жыцьцё сваё пражыў у беднасьці, клопаты аб хлебе штодзенным бадай што ніколі яго не пакідалі. Так, і яго гатова была прыцягнуць да сябе венская арыстократыя, і ён мог-бы сытна жыць на яе ўтрыманьні. Але ён згубіў-бы тады сваю вольнасьць,—але на гэтую вольнасьць ён ня мог забыцца, як пролетары, ён імкнуўся да яе ўсёю сваёю істотай. І глыбока, усім сэрцам перажываў ён францускую рэволюцыю, яе барацьбу, яе пакуты, яе афяры, яе вялікія ідэі. І глыбока ненавіднымі былі яму ўсе незьлічоныя каралі Эўропы з іхнімі падлізьнікамі. Калі прыяцелі наладзілі сустрэчу яго з Гэтэ, з якім Бэтговэн вельмі жадаў пазнаёміцца, ён хутка расчараваўся ў асобе вялікага поэты, бо не знайшоў у ім таго, чаго шукаў. „Я думаў, сказаў ён, што знайду караля поэтаў, а знайшоў толькі поэта каралёў". Змаганьне чалавецтва за вольнасьць і шчасьце, яго пакуты былі змаганьнем і пакутамі Бэтговэна. Гэта быў адзін з найвялікшых ідэалістых (у сэнсе гатоўнасьці аддаць

жыцьцё за вялікую ідэю) пачатку XIX веку. 3-яя (гэроічная), 5-ая і 9-ая сымфоніі, Эгмонт і Промэтэй сьведчаць аб такім яго настроі, а ўся музыка яго ёсьць песьня аб пакутах чалавека. Так, не заўсёды быў ён зразумелы для яго сучасьнікаў. Але ня ўсе яго сучасьнікі мелі магчымасьць чуць яго музыку. Такімі шчасьліўцамі былі толькі прадстаўнікі сытае часткі грамадзтва арыстократычнае і буржуазнае. Ці-ж маглі яны зразумець усю бясконцую глыбіню музыкі вялікага Бэтговэна? А ён марыў, марыў гэты пахмуры чалавек, марыў аб гэроі, які павядзе чалавецтва з краіны пакут у сьветлую краіну свабоды і шчасьця. І як люта асьмеяны былі яго мары! Ён думаў, што Наполеон, гэты якобінец і генэрал рэспубліканскіх рэволюцыйных войскаў, і ёсьць яго доўгачаканы гэрой. І ён уславіў яго ў сваёй Eroica (гэроічнай сымфоніі). На загалоўным аркушы яе стаяла вялікімі літарамі: Buonaparte, а пад імі Luigi van Beethoven. Ён хацеў ужо адаслаць партытуру Наполеону, калі прышла вестка, што рэспублікі францускае ўжо няма, а ёсьць француская імпэрыя і імпэратар яе—Наполеон. Гэта быў цяжкі ўдар для Бэтговэна. „І ён аказаўся такім, як усе!“... з глыбокім сумам гаварыў ашуканы марыцель, „замілаваньне да славы перамагло ўсё, што было ў ім добрага. Шкада, што я не ўладаю ваенным штукарствам так, як музычным, я-б бязумоўна перамог яго“! Ён схапіў партытуру, сарваў яе вокладку і кінуў у печ, а праз некалькі дзён надпісаў: Sinfonia eroica. А ў 5-ай сымфоніі ён ізноў пяе аб пакутах чалавецтва, аб тым, як яно змагаецца з лютай доляй, якія неверагодныя высілкі ўжывае яно, каб парваць наложаныя на яго ланцугі. Але гэтае змаганьне не дарэмнае. Прыдзе жаданы дзень, ланцугі будуць разарваны, чалавек здабывае сабе шчасьце і свабоду. І якой урачыстай радасьцю, радасьцю перамогі гучыць фінал 5-ае сымфоніі! І тую-ж радасьць, тую-ж упэўненасьць у канчатковай перамозе мы чуем і ў фінале 9-ае сымфоніі (з хорам):

Воля—людзтва лятуценьне!
Мы імкнемся да цябе!
З сэрцам, поўным захапленьня,
Бачым шчасьце ў барацьбе.
    Зноў твае злучаюць чары
    Тых, што звычай разлучыў,
    Зноў жывуць братэрства мары
    Там, дзе подых твой хадзіў...
Бач, нясецца у прасторы
Нязьлічоных сонцаў рой.
Так да волі йдзі, як вой,
Сьмелы, горды і бадзёры.
    Гэй, наперад, да тэй волі,
    Што так моцна вабіць нас!
    Блізка ўжо шчасьлівы час
    Новай, добрай, сьветлай долі!*).

*) Ода Шыльлера „Да свабоды“. Вольны пераклад, у якім выконвалася 9-я сымфонія ў Менску 29 сакавіка 1927 году.

Гэтыя моманты радасьці рэдкія былі ў Бэтговэна. А апошні пэрыод яго жыцьця—гэта ўжо нясупынны жах, нясупынныя пакуты. Ён стаў канчаткова глухі. Пачуцьцёвы бок яго музыкі, мастацтва, што было для яго жыцьцём, памёр для яго. Ён занурыўся ў краіну гукаў, якія ён уяўляў сабе і чуў толькі ў думках, ён зусім адышоў ад людзей і пісаў творы несьмяротныя, бясконцыя па глыбіні, але незразумелыя шмат для каго і дагэтуль. Гэткі быў лёс і музыка найвялікшага з композытараў усіх часоў і народаў.

У 1831-ым годзе, у Польшчы выбухнула паўстаньне супроць улады Расіі. Гэтае паўстаньне было, як вядома, люта прыдушана расійскімі войскамі. Мноства прадстаўнікоў польскае арыстократыі, скомпромэтаваных у паўстаньні, уцякло з Польшчы. Усе гэтыя польскія эмігранты-арыстократы скупіліся, галоўным чынам, у Францыі, у Парыжы. Сярод пакінуўшых назаўсёды бацькаўшчыну знаходзіўся малады польскі композытар, напоўпаляк, напоўфранцуз родам. Гэта быў Фрэдэрык Шопэн. Нядоўга пражыў ён на сьвеце і сканаў ад сухот у 1849 годзе. Калі ён ад'яжджаў з Варшавы, прыяцелі паднесьлі яму келіх, поўны зямлі, і сказалі: „Дзе-б ты ні быў, дзе-б ты ні вандраваў, не забывайся на сваю бацькаўшчыну—Польшчу". Ён болей ужо ня бачыў свае бацькаўшчыны, але наказ сяброў выканаў сьвята. Ён не забыўся на родную Польшчу, бязупынна сумаваў па ёй і гэты сум выліваў у гуках роялю. Ён марыў аб сваёй радзіме, якая прыдушана дэспотызмам расійскіх цароў, якая пакутуе і б'ецца ў жалезных ланцугох царызму. Але радзіма, аб якой балела сэрца яго, радзіма, аб якой ён марыў, была Польшчай арыстократаў, Польшчай князёў Радзівілаў, графоў Патоцкіх і г. д. Не аб пакутах працоўных мас польскага народу думаў ён. Ён марыў аб вялікай Польшчы, вялікай дзяржаве, поўнай бляску і славы, аб Польшчы арыстократычнай. І гэта адбілася на яго музыцы. Ён пісаў свае полёнэзы, вальсы, мазуркі, баляды, прэлюдыі, але ў іх плакаў ня польскі народ, а польская арыстократыя. Быццам у калейдаскопе праносіліся перад яго разумовым зрокам агорнутыя романтычнай дымкай цені бліскучага мінулага Польшчы. Там жалезнай хадою ішлі ў полёнэзах шляхетныя польскія рыцары, там у віхуры вальсу несьліся кавалеры з прыгожымі паннамі, там агнёвая мазурка захоплівала ўсіх. Так было калісь... А цяпер?.. Вялікае мінулае і сумная сучаснасьць. І ўсе гэтыя полёнэзы, вальсы, мазуркі абвеяны сумам аб гэтым мінулым. Але і сум гэты арыстократычны, прыгожы. Няўмірушчыя творы Шопэна, няўмірушчыя ў сваім харастве, але ўсе яны прасякнуты характарам тае асяродзіны, у якой жыў і да якой належаў усёю сваёю істотаю Шопэн. Яго творы—музычны адбітак соцыяльна-політычных падзей і адносін яго часу. Ён пяяў аб пакутах Польшчы, але пяяў як арыстократ і для арыстократаў,—прыгожа, прыгожа і прыгожа. Мы ня знойдзем у яго магутнага рэзкага крыку набалеўшага сэрца, палкага стогну змучанае душы. Гэтыя-ж крыкі

і стогны могуць груба загучэць і абразіць далікатны і тонкі слух яго ўлюбёнай арыстократыі. І льлюцца з-пад яго тонкіх, далікатных, арыстократычных пальцаў чулыя, далікатныя, поўныя ціхага суму і сумнае задумённасьці гукі і ўносяць слухача ў іншую краіну, у краіну романтыкі, у часы слаўнага і бліскучага мінулага арыстократычнае Польшчы.

Паданыя гістарычныя прыклады (а з такіх прыкладаў складаецца ўся гісторыя музыкі) паказваюць нам, што музыка ня ёсьць мастацтва, якое спусьцілася на зямлю з нейкіх нябесных сфэр і ня мае нічога супольнага з земным рэальным жыцьцём. Як і ўсе продукты чалавечага гэнію, яна цесна зьвязана з гэтым жыцьцём, яна—продукт гэтага жыцьця. Яе формы, яе характар і зьмест зьмяняюцца разам са зьменаю форм характару і зьместу жыцьця. Але гэтым чыста тэорэтычным вывадам мы, зразумела, ня можам абмежавацца. Мы жывем у такую эпоху, калі жыцьцё якраз зьмяняе свае формы, характар і зьмест, і калі ў гэтай зьмене мы павінны быць актыўнымі працаўнікамі, дзейна прымаць удзел у ўтварэньні новага жыцьця. Для гэтага мы павінны ўявіць сабе, як, у чым, у якім напрамку павінна зьмяніцца музыка ў залежнасьці ад зьмены жыцьця, павінны ясна ўсьвядоміць той кірунак разьвіцьця, які стаіць перад музыкай, і толькі тады для нас ясна будзе, што мы павінны рабіць у гэтай галіне, у якім кірунку весьці сваю працу.

Раней, аднак, адкажам на наступнае пытаньне: што новага ў музыцы зьявілася, якія зьмены адбыліся ў ёй на працягу тых 10 год, што прайшлі ад пачатку Кастрычнікавае рэволюцыі? Трэба сказаць, што новага пакуль што мы бачым мала, ня бачым і якіх-колечы яскравых зьмен. Зразумела, нешта ўжо зроблена. Ёсьць ня мала музычных твораў, прасякнутых новымі пачуцьцямі і настроямі (асабліва ў харавой галіне), працуе (у Маскве) цэлая „Асоцыяцыя пролетарскіх композытараў", у сфэру музыкі ўцягнуты пролетарскія гушчы, музычныя таленты з гэтых пролетарскіх гушчаў непараўнальна лягчэй, чымся да рэволюцыі, могуць набываць сабе музычную адукацыю. Але „музычны эквівалент" вялікай рэволюцыі дагэтуль яшчэ ня створаны і можа доўга яшчэ ня будзе створаны. Чаму? Ці ня супярэчыць гэта тым сьцьверджаньням, якія высунуты былі ў пачатку гэтага артыкулу і для ўгрунтаваньня якіх паданы былі гістарычныя прыклады?

Супярэчнасьці тут ніякай няма, а бачым мы адну вельмі цікавую зьяву, якая наглядаецца на працягу ўсяе гісторыі музыкі. Зьява гэтая заключаецца ў тым, што музыка, у параўнаньні з іншымі „ідэолёгіямі", бадай што заўсёды крыху позьніцца ў адбіцьці ў сабе эпохі,—як яе агульнага характару, яе настрояў, яе дынамікі, так і яе паасобных вялікіх падзей. Зьява гэтая мае шмат прычын, з якіх самымі галоўнымі зьяўляюцца дзьве: першая—гэта тая няўхвытнасьць, адухоўленасьць, незразумеласьць музыкі, аб якой гаварылася вышэй, а другая залежыць ад самае сутнасьці рэволюцыі. Кожная рэволюцыя ёсьць замена ўлады

аднае клясы ўладаю другое клясы, клясы-пераможцы. Каб кляса-пераможца стварыла сваю музыку, яна павінна мець сваіх музыкаў, сваіх кампозытараў. А гэта ня так лёгка і робіцца гэта ня так шпарка, бо музыка для свайго ўтварэньня патрабуе непараўнальна больш папярэдняе працы, выўчэньня, падрыхтоўкі, чымся якое-колечы іншае мастацтва. Вось чаму рэволюцыя можа цалкам адбіцца ў музыцы толькі новых пакаленьняў працоўных гушчаў, калі музычныя таленты сярод гэтых пакаленьняў прысвояць сабе ўсе вялізарныя дасягненьні музычнае навукі і ў свае творы ўвальлюць свой шчыры рэволюцыйны настрой і запал.

Ёсьць яшчэ адна вельмі важная прычына спазьненьня музыкі ў СССР, якая асабліва яскрава выяўляецца ў нас на Беларусі. Беларусі Кастрычнікавая рэволюцыя дала ў галіне музыкі асабліва многа: яна дала магчымасьць зьяўленьня беларускае мастацкае музыкі. Гэтая мастацкая музыка ўжо і пачала зьяўляцца *). І што-ж? Ці адбіваюць у сабе творы беларускае мастацкае музыкі, камерныя рэчы Аладава і І. Фідлона, вокальныя творы Аладава, Прохарава, Шнітмана настроі рэволюцыі? Ніякім чынам. Па сваім характары ўсе яны, пры ўсёй іхняй годнасьці, абедзьвюма нагамі стаяць у мінулым. Чаму? Ды з тэй простай прычыны, што яны, як творы нацыянальнае музыкі, пабудованы на народнай песьні. А ці зьмянілася за апошнія 10 год народная песьня? Ніякім чынам, бо народная песьня ўтвараецца не гадамі, і нават не дзесяцілецьцямі, а сталецьцямі. Песьня адбівае псыхолёгію народу (пераважнае яго часткі, у даным выпадку працоўнага сялянства), якая склалася на працягу сталецьцяў. Якая-ж песьня беларуская, які яе характар? Мы ведаем добра тыя гістарычныя ўмовы, сярод якіх жыў беларускі народ на працягу апошніх сталецьцяў. Замест гістарычных экскурсаў, пачытаем вершы Янкі Купалы, які, як глыбокі поэта, ня будучы профэсыяналам-музыкай і вучаным дасьледцам народнае беларускае песьні, сэрцам сваім, інтуіцыйна зразумеў яе лепей за ўсякага дасьледцу. Што-ж ён піша пра беларускую песьню? У цяжкіх варунках жыцьця, калі „потам і крывёю сьцелецца сьлед", не магла нарадзіцца песьня вясёлая, песьня радасьці. Калі мужык выліваў у песьні сваё сэрца, сваё гора, свой боль, ён „заводзіў песьню змучэньня" (Шляхам жыцьця. Холадна). Гэтыя песьні, „песьні магільныя" пела поэту яго доля, доля мужыка-бедака, яна „шумела" яму гэтыя песьні,

Як мяцеліца дзікая ў полі.

Я. Купала адзначае вялікае замілаваньне беларуса-селяніна да песьні, але песьня гэта вельмі сумная:

Яго сілу ў касьбе
Відаць моцную,
Дый у песьні сьлязу
Чуць гаротную.
(Шл. ж. На сенажаці).

*) Ізноў бачым спазьненьне: адраджэньне беларускае культуры наогул пачалося задоўга да рэволюцыі, а музычнае адраджэньне толькі ў самыя апошнія гады; ужо пасьля рэволюцыі.

І вось на такой сумнай песьні, песьні гаротнай, песьні змучэньня і прыходзіцца сучасным беларускім композытарам будаваць новую беларускую мастацкую музыку. Зразумела, гэта будзе музыка мастацкая, але ня музыка рэволюцыі, а тым болей не рэволюцыйная музыка. Апошнія зьявяцца тады, калі зьявіцца новая народная песьня, калі прынамсі яна пачне зьяўляцца. Гэткае-ж становішча бачым мы і ў расійцаў. Спазьненьне тут неабходна.

Спазьненьне музыкі мы бачым і ў паданых вышэй гістарычных прыкладах. Лютэранская рэволюцыя пачалася ў самым пачатку XVI сталецьця, а сьпеўнік Озіандэра зьявіўся толькі ў 1586-м годзе, калі і сам Лютэр даўным-даўно памёр. Пранеслася навальніца францускае рэволюцыі, рэакцыя ішла поўным ходам, і толькі тады зьявіліся 3-я, 5-я і 9-я сымфоніі Бэтговэна, які, жывучы далёка ад Францыі, не адчуваў гэтае рэакцыі, тым болей што быў зусім глухі і жыў у адзіноце. Апошні падзел Польшчы адбыўся ў 1796 годзе, а бард яе сумнае сьмерці, Шопэн, зьявіўся толькі праз два-тры дзесяцілецьці пасьля гэтага.

Вось чаму сучасная адсутнасьць „музычнага эквіваленту“ Кастрычнікавай рэволюцыі зусім не супярэчыць залежнасьці між экономічнымі, соцыяльнымі і політычнымі адносінамі, з аднаго боку, і зьместам ды формамі музыкі—з другога. І ўсьведамленьне сабе факту гэтае залежнасьці мае для нас, як сказана было вышэй, ня толькі тэорэтычны інтарэс, але і практычнае значэньне.

Паўторым ізноў пытаньне, якое стаіць у пачатку гэтага нарысу. Што ў нас зьмянілася? Зьмянілася організацыя вырабу рэчаў ужытку і разам з гэтым соцыяльны лад і, як вынік яго, лад політычны. Чаго-ж можна чакаць для музыкі ад гэтых зьмен у экономічнай, соцыяльнай і політычнай структуры нашага грамадзтва?

Мы бачылі, што характар (дый зьмест) беларускае (як і расійскае) песьні, што ляжыць у аснове нацыянальнае музыкі, зьявіўся продуктам тых гістарычных умоў, пад цяжарам якіх знаходзіўся народ, утварыўшы гэтую песьню. Гэтых умоў цяпер няма. Няма ўціску, няма няволі, няма эксплёатацыі. Ясна, што павінна зьмяніцца і псыхолёгія народных мас а, значыць, і народная песьня зьменіць свой характар. І калі раней народ (пад гэтым словам мы разумеем працоўныя масы, якія і ўтвараюць народную песьню) выліваў у песьні сваё гора, сваё набалеўшае сэрца дык цяпер у песьні ён пачне выліваць сваю радасьць жыцьця, разуменьне свае сілы, свае думы аб сьветлай будучыне. Бадзёра, радасна, магутна загучыць новая, будучая народная песьня, і новую, сьветлую, поўную радасьці музыку пабудуюць на ёй пролетарскія композытары, узброеныя ўсімі ведамі музычнае навукі. І аб гэтай будучай песьні таксама пісаў Янка Купала:

Як жывая, рвецца песьня,
Лесам-пушчаю шуміць,
З забыцьця зьмятае плесьню,
Мох з мінуўшчыны ляціць.

(Шл. ж. Дудар).

Поэта пэўны, што разам з новымі часамі, прыдзе і новая песьня. Продкі нашы, кажа ён,

Яшчэ пакінулі нам асьляпленьне,
Пашану да пакут.
А мы пакінем песьню вызваленьня
І вольны бацькаў кут.
(Безназоўнае, 10).

Вось першае, чаго мы можам чакаць для музыкі ў будучым,—зьмены яе агульнага характару.

А формы музыкі? І яны, зразумела, зьменяцца, а разам з тым зьявяцца і новыя формы. Якія,—цяжка прарочыць, дый бескарысна, бо тут мы будзем лунаць толькі ў краіне здагадак і дапушчэньняў. Але мы можам з пэўнасьцю сказаць, што дзьве формы яе дазнаюць нябывалага дагэтуль росквіту,—гэта формы музыкі масавае, колектыўнае: у галіне вокальнай—хор, у галіне інструмантальнай—оркестр. Гэты процэс пачаўся бадай што з самага пачатку рэволюцыі. Ужо на ўсім неабсяжным прасторы нашага Саюзу гучаць новыя хоры ў нязьлічоных клюбах і клюбіках працоўных мас. У буйных гарадох Саюзу наладжваюцца нават харавыя олімпіады, злучаюцца паасобныя хоры ў вялікія харавыя колектывы ў некалькі тысяч чалавек. У той час, як раней толькі некалькі гарадоў у Расіі мелі магчымасьць чуць сымфонічны оркестр, гэтую найвышэйшую форму інструмантальнай музыкі, цяпер па розных гарадох СССР раскідана шмат такіх буйных і дробных оркестраў. І ў нас на Беларусі, у Менску зорганізаваўся сымфонічны оркестр, які прыняў назву „1-га беларускага сымфонічнага оркестру“ і ўжо распачаў сваю дзейнасьць. І характэрна тут тое, што організацыя гэтага оркестру вышла ад самых музыкаў, якія, як музыкі-грамадзяне, добра разумеюць свае культурныя абавязкі перад працоўнымі гушчамі і ўяўляюць сабе культурныя патрэбы апошніх. Гэта значыць, што „1-ы беларускі сымфонічны оркестр“ утвораны самым жыцьцём. У гэтым кірунку трэба працаваць і далей. Ідэалу мы дасягнем толькі тады, калі сымфонічную музыку будзе чуць і вёска. У гэтай працы павінны прымаць удзел так ці сяк усе працоўныя масы, яны павінны быць уцягнуты ў сфэру музыкі, павінны быць абкружаны музычнай атмосфэрай. Для гэтага ўся краіна павінна пастунова пакрыцца густой сеткай музычных школ, дый агульнаадукацыйная школа не павінна забывацца аб сваім абавязку перад музычным мастацтвам. Усе без выключэньня, у каго ёсьць хаця-б малая іскра музычнасьці і жаданьне разьдзьмуць гэтую іскру ў полымя, павінны мець поўную магчымасьць да гэтага, магчымасьць разьвіць і разгарнуць свае здольнасьці, а можа і таленты. І гэты процэс таксама ўжо пачаўся. У прыватнасьці, у нас на Беларусі (разумею Беларусь Усходнюю, Савецкую) да рэволюцыі ня было ніводнае музычнае школы (апрача двох-трох мізэрненькіх прыватных), а цяпер мы маем Беларускі Музычны Тэхнікум, які разгортваецца ў Беларускую Дзяржаўную Консэрваторыю, тэхнікумы ў Гомелі і Віцеб-

ску, вельмі добрую музычную школу ў Магілеве, і раней ці пазьней будзем мець музычныя школы ў кожным акруговым горадзе. Усё гэта— заваёвы толькі Кастрычнікавай рэволюцыі. У гэтым пашырэньні музычнае асьветы трэба весьці ўпартую нясупынную працу.

А ў нетрах народных хаваецца невычарпальная крыніца сіл ва ўсіх галінах культуры, у тым ліку і ў галіне музычнай. Калі паказаны вышэй процэс музычнага разьвіцьця будзе ісьці поўным крокам наперад, дык якую масу талентаў высуне з сваіх нетраў народ! Зьявіцца мноства вялікіх артыстых, мноства новых композытараў. Але што найважней,— разьвінецца колектыўная творчасьць. Народная песьня ёсьць ужо стварэньне яе, але колектыўная творчасьць магчыма ня толькі ў песьні, а і ў самых складаных музычных формах, да опэры і сымфоніі ўключна. Якія будуць вынікі гэтага процэсу—цяжка сказаць наперад, але праўдзіва тое, што яны будуць сапраўды вялізныя, адпаведна вялізнасьці самога процэсу. Колектыўная творчасьць утворыць нябывалыя хоры і оркестры, утворыць новую гармонію і зусім новыя, няведамыя дагэтуль, музычныя формы. А разам з разьвіцьцём тэхнікі зьявяцца і новыя інструманты, якія, у сваю чаргу, зробяць уплыў на пэратварэньне музыкі *). І ў гэтым напрамку, у напрамку разьвіцьця колектыўнае творчасьці мас, трэба таксама весьці працу.

Масы робяць гісторыю, масам і павінна належаць першае месца ў жыцьці. Слава вялікім гістарычным асобам, але і вялікія-ж яны, і ў гісторыю трапляюць толькі таму, што найяскравей выражаюць імкненьні і чаканьні мас. Яны вялікія сваёю сувязьзю з імі, яны непераможныя да таго часу, пакуль не адыходзяць ад мас або масы не адыходзяць ад іх. Старажытныя грэкі добра разумелі гэта і выразілі ў прыгожым і мудрым міце аб Антэі. Быў волат Антэй, сын маці-зямлі. І быў ён непераможны, пакуль стаяў на зямлі, пакуль маці-зямля магла ўліваць у яго сваю нязломную сілу. З ім пачаў змагацца сам Гэркулес, але ня мог перамагчы яго. Тады ён адарваў яго ад зямлі, падняў у паветра і задушыў у сваіх страшэнных абнімах. Гэтую навуку, даную нам народнаю мудрасьцю старажытных грэкаў, трэба цьвёрда помніць.

*) І гэты процэс ужо пачаўся. Маю на ўвазе „Тэрмэнвокс", электрычны музычны інструмант, пабудаваны Л. С. Тэрмэнам. На міжнароднай музычнай выстаўцы ў Франкфурце на Майне летам гэтага году ён зрабіў сэнсацыю і быў абвешчаны нямецкімі газэтамі „цудам". Аб інструманце гл. часопісь „Музыка і революция". 1927 г. № 5-6.

# БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА ДА 10-ГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ КАСТРЫЧНІКА

**М. Шчакаціхін**

Юбілейныя даты заўсёды маюць быць датамі падагульненьняў. Гэтай задачы нельга абмінуць і ў адносінах да беларускага выяўленчага мастацтва, якое толькі ў апошнія гады, узварушанае магутнымі хвалямі рэволюцыйнага ўздыму, прачнулася для творчага поступу наперад,—але за гэтыя некалькі год ужо прышло да некаторых рэальных вынікаў. Няхай сабе гэтыя вынікі будуць яшчэ ня надта вялікія і дасканалыя гэта віна тых об'ектыўных умоў, у якіх існавала беларускае мастацтва ў яшчэ зусім нядаўнім мінулым. І калі прыняць пад увагу гэтыя ўмовы,—дык можна быць задаволеным нават і тымі конкрэтнымі дасягненьнямі нашага выяўленчага мастацтва, якія мы маем за параўнальна кароткі час яго пасьлярэволюцыйнага разьвіцьця.

З утварэньнем Савецкае Беларусі адным з досыць важных пытаньняў, якія былі пастаўлены ў галіне беларускае культуры, зьявілася пытаньне аб адраджэньні нашага выяўленчага мастацтва, аб утварэньні нацыянальнага пагрунтаванага і ў той-жа час цалкам згоднага з запатрабаваньнямі сучаснасьці беларускага мастацкага стылю. Пытаньне гэтае было вельмі цяжкім для разьвязаньня. Вядома, што ніякае адраджэньне не ўтвараецца штучна, ніякі стыль не складаецца прымусова. Усякі мастацкі стыль органічна расьце з свайго нацыянальнага і гістарычнага грунту і дасягае свайго больш-менш значнага росквіту ў тыя эпохі, калі для гэтага ўтвараюцца адпаведныя соцыяльныя і экономічныя ўмовы. Для беларускага стылю становішча ўскладнялася тым, што неспагадныя варункі гістарычнага жыцьця Беларусі пад царскай уладай на доўгі час—з канца XVIII сталецьця і аж да самай Кастрычнікавай рэволюцыі—спынілі яго органічны рост і праваметны поступ яго эволюцыйнага разьвіцьця, дзеля чаго на працягу цэлага апошняга сталецьця выяўленчае мастацтва на Беларусі прымушана было абмяжоўвацца выключна вясковым мастацтвам у вырабах хатніх рамёслаў, якія пад уплывам фабрычнае прамысловасьці паступова выходзілі на нішто. Такім чынам, к моманту рэволюцыі мы ўжо амаль што зусім ня мелі беларускага выяўленчага мастацтва. На першы плян высоўваліся іншыя мастацкія галіны: літаратура, тэатр, часткова нават музыка, якая, адмовіўшыся ад свайго ранейшага выключнага этнографізму, пачала рабіць паступовыя спробы са-

праўднае мастацкае апрацоўкі народнага музычнага матэрыялу. Выяўленчае мастацтва заставалася спачатку недзе ззаду, яшчэ ня было ўзварушана, хавалася ў глыбіні няпрыкметна. Яно яшчэ не прачнулася ад свайго сталетняга сну, яшчэ ня ведала сваіх шляхоў, задач і магчымасьцяй. Яно згубіла ўсе свае даўнія традыцыі, а новых яшчэ не знайшло, так што часамі здавалася, як быццам нельга ўжо ставіць пытаньне аб яго „адраджэньні“, як быццам усю гэту справу трэба пачынаць нанова. Але бясспрэчна—гэта толькі здавалася, бо ня зьніклі яшчэ на Беларусі маладыя і моцныя сілы; бо нават многавяковы прыгон і зьдзек ня мог зьнішчожыць адвечны мастацкі густ і „творчую волю“ беларускага народу. А тыя патрэбныя соцыяльна-экономічныя ўмовы, у якіх становіцца магчымым сапраўдны росквіт артыстычнае творчасьці нацыянальнага стылю, бязумоўна якраз і былі ўтвораны ў вольнай Савецкай Беларусі, у нашай пасьлярэволюцыйнай сучаснасьці.

І сапраўды, з перамогай Кастрычнікавай рэволюцыі, з звальненьнем Беларусі ад чужаземных окупацый і з разьвіцьцём яе агульнага культурнага будаўніцтва, распачалася спачатку скромная і ціхая, але ўпартая праца ў галіне беларускага выяўленчага мастацтва, асноўнай задачай якой зьяўлялася належнае стылістычнае аформленьне новай беларускай мастацкай творчасьці.

Але задача гэтая была нялёгкая. Справа была тут ня ў тым,—як гэта думалі некаторыя,—каб утварыць ці вышукаць нейкі штучны стыль у выяўленчым мастацтве, дапасаваўшы да яго назву „беларускага стылю“, або беспасрэдна перанесьці ў наша сучаснае, гэтак званае, „індывідуальнае“ мастацтва мотывы народнага вясковага орнамэнту. Спробы ў гэтым напрамку рабіліся, ня прыводзячы, аднак, да жаданых дадатных вынікаў, бо, як дасьціпна выславіўся нехта, „аздобіць ангельскі фрак беларускім паяском яшчэ ня значыць стварыць беларускае мастацтва“. Апошняе паняцьце трэба было разумець значна шырэй, у поўным яго абхваце, і гэта заўсёды трэба было прымаць пад увагу, калі мы ставілі пытаньне аб беларускім стылі. Трэба было імкнуцца, каб у спагадных пасьлярэволюцыйных умовах стыль гэты ўтвараўся і апрацоўваўся органічна ў процэсе законамернага выяўленьня рэволюцыйных і нацыянальных элемэнтаў у формах выяўленчага мастацтва, аналёгічна таму, як гэта часткова ўжо рабілася ў галінах літаратуры і тэатру. І наша задача была ня ў тым, каб прымусова выклікаць гэты процэс да жыцьця, бо самыя запатрабаваньні жыцьця ўжо выклікалі яго бяз нашага ўдзелу,—але ў тым, каб па магчымасьці дапамагчы гэтаму процэсу, выявіць яго рэальны грунт і вызначыць для яго цэўны напрамак.

У гэтых адносінах нават сярод асоб, якія бліжэй за ўсё стаялі да гэтае справы, спачатку яшчэ ня было поўнай і яснай сьвядомасьці. Бясспрэчна, усе зыходзіліся на тым, што ў нашым сучасным жыцьці мастацтва патрабуе асаблівае ўвагі. Ужо ня трэба было даводзіць, якую

значную ролю грае мастацтва наогул, як магутны сродак соцыяльнай організацыі мас, як моцная зброя ў процэсе клясавае барацьбы, і як адзін з дадатковых, але выдатных фактараў у справе мірнага дзяржаўнага будаўніцтва. Усім гэта добра было вядома. Таксама наўрад ці хто-колечы з ліку агульна і палітычна сьвядомых беларускіх грамадзян спрачаўся аб неабходнасьці мастацтва нацыянальнага, беларускага, у якім новы зьмест нашага соцыяльнага жыцьця знайшоў-бы сабе адпаведныя нацыянальныя формы. Але тэорэтычная і прынцыповая сьвядомасьць зусім не перашкаджала таму, што з чыста практычнага боку беларускае мастацтва шмат яшчэ для каго заставалася пакуль што нейкай „terra incognita“.

Папершае, самы тэрмін гэты разумеўся парознаму. Найбольш пашыраным і зусім няправільным яго разуменьнем была думка, што беларускае мастацтва абмяжоўваецца выключна так званым народным, г. зн. вясковым мастацтвам, што па-за межамі вясковае разьбярнае, тканае і вышыўное орнамэнтыкі быццам няма нічога, у чым адбіваўся-б беларускі нацыянальны стыль. У нашай мастацкай гісторыі апошняга сталецьця гэтая думка, як мы адзначылі, знаходзіла сабе вядомыя падставы, але яна непажадана звужвала межы нацыянальнага беларускага мастацтва, і зусім не адпавядала рачавістасьці, калі разглядаць проблему беларускага мастацтва ў яе гістарычным разрэзе. Тут адбывалася тое-ж самае, што і з беларускай культурай наогул: бясспрэчна, з вялікадзяржаўна-расійскага пагляду—Беларусь (і нават не Беларусь, а „северо-западный край России“)—гэта бедная сялянская старонка, дзе апроч балот ды каўтуна няма нічога і цікавага і вартага ўвагі, аб гістарычным мінулым якой трэба ўспамінаць як мага менш, і то тэндэнцыйна і аднабакова, каб ня выклікаць небясьпечных для расійскага шовінізму „сэпаратыцкіх імкненьняў“. З гэтага пагляду трэба было наўмысьля забывацца, напрыклад, і на гістарычнае мастацтва Беларусі.

Але мы не забываліся і памяталі, што наша мастацкая гісторыя ня вычэрпваецца аднэй толькі беднай вясковa-мастацкай культурай апошняга сталецьця. Мы ведалі, што ў нашым мінулым ня толькі вёска была асяродкам беларускага культурнага жыцьця, што ў старажытнасьці мы ўладалі даволі высока разьвітай гарадзкой культурай, дзе выяўленчае мастацтва займала далёка не апошняе месца. У гэтых адносінах жывому мастацтву прышлі на дапамогу спэцыяльныя навуковыя досьледы адпаведных інстытуцый; яны паказалі, што ва ўсіх мастацкіх галінах Беларусь дасягала калісьці досыць высокай ступені формальнага разьвіцьця; быў час, калі монумэнтальная архітэктура, малярства, гравюра, драўлянае разьбярства і розныя ўжытковыя мастацтвы вольна красавалі на Беларусі ў блізкай сувязі з агульным ходам разьвіцьця заходня-эўропэйскай мастацкай гісторыі. Географічнае становішча Беларусі, яе ваенныя, гандлёвыя і культурныя зносіны з Захадам, прававая структура старабеларускіх местаў з цэхавай організацыяй рамесьнікаў і ўсякага роду

майстроў, якія падтрымлівалі сталую сувязь з заходня-эўропэйскімі цэхамі і нават у некаторых выпадках адбывалі вандроўкі ў заходнія краіны для ўдасканаленьня ў сваёй спэцыяльнасьці,—усё гэта моцна спрыяла досыць інтэнсыўнаму разьвіцьцю стара-беларускае мастацкае культуры, і ставіла яе на больш-менш аднолькавы ўзровень з мастацкай культурай заходня-эўропэйскіх краін. Пры гэтым заходня-эўропэйскія мастацкія формы не пераймаліся намі беспасрэдна, але відазьмяняліся і пераапрацоўваліся, набываючы пад уплывам мясцовых экономічна-палітычных варункаў жыцьця нейкі самабытны і чыста нацыянальны адбітак. Нават пасьля вуніі з Польшчай у шмат якіх галінах мастацтва тут яшчэ захоўвалася гэтая нацыянальная традыцыя, і толькі з далучэньнем Беларусі да складу Расійскае імпэрыі ў канцы XVIII сталецьця—яна была канчаткова зьнішчана.

Ад гэтае эпохі яшчэ і да сучаснага моманту захавалася досыць выдатных помнікаў. Раней невядомыя нават спэцыялістым, помнікі гэтыя пачалі ўсё больш і больш зварочваць на сябе ўвагу, зьяўляючыся прадметам спэцыяльных досьледаў і ўсебаковага навуковага вывучэньня. Зьбіраліся матэрыялы, ішла сыстэматычная іх апрацоўка,—і ў выніках сухой навуковай працы з-пад пылу вякоў, з туманаў сівой старасьветчыны, ва ўсёй сваёй паўнаце выяўлялася гістарычнае мастацтва Беларусі—мастацтва чыста нацыянальнае, беларускае, з сваімі ўласнымі формамі і асаблівасьцямі стылю, з пэўнымі адзнакамі сваёй стылістычнай самастойнасьці. Нават пры павярхоўным знаёмстве з гэтым мастацтвам добра высьвятлялася і станавілася зразумелай проблема беларускага стылю, як стылю нацыянальнага, больш шырокага за вяскова-народны стыль, які магчыма, зьяўляецца толькі апошнім водгукам нашай мінулай мастацкай культуры, і ў кожным выпадку—ёсьць толькі часткай яе, не пакрываючы цалкам паняцьця: „беларускае мастацтва“.—І адсюль можна было зрабіць першы практычны вывад у адносінах да сучаснага выяўленчага мастацтва на Беларусі: трэба было імкнуцца да найбольшага пашырэньня сьцíслых навуковых ведаў аб беларускім мастацтве, да папулярызацыі іх сярод шырокіх грамадзкіх колаў. Не для таго, зразумела, каб беспасрэдна пераносіць у наша сучаснае мастацтва старажытныя формы, але з мэтай, каб уважлівае знаёмства з гэтымі формамі і поўная сьвядомасьць у нашым мастацкім мінулым зьявілася тым цьвёрдым грунтам, з якога правамерна і органічна здолеў-бы вырасьці наш сучасны нацыянальны стыль не як нешта штучна надуманае і прымусова праведзенае ў жыцьцё, але як нейкі лёгічны вывад з нашай мастацкай гісторыі, як адзін з этапаў у разьвіцьці нашае мастацкае культуры,—этап няўхільны ў новых спагадных умовах нашага палітычнага і грамадзкага жыцьця. Гістарычнае мастацтва Беларусі павінна было, такім чынам, зьявіцца толькі тым імпульсам, пад уплывам якога, у адпаведнай нацыянальна-мастацкай сьвядомасьці, узварушылася наша сучасная мастацкая творчасьць, накірава-

лася ў пэўнае рэчышча, і ўцягнула ў сябе маладыя мастацкія сілы, уліўшы ў працу іх жывы струмень патрэбнага творчага энтузыязму.

І адсюль ўжо выцякала другая чарговая задача: апроч агульных адзначаных намі спагадных політычна-экономічных варункаў, трэба было яшчэ і чыста практычна, конкрэтна ўтварыць патрэбныя культурныя і нават матэрыяльныя ўмовы, утварыць тую добрую атмосфэру, дзе-б гэтыя маладыя сілы маглі бесьперашкодна разьвівацца і разьвінаць сваю працу з найбольшаю продукцыйнасьцю і з найбольш мэтазгоднай тратай энэргіі. Тут справа была ўжо не ў тэорэтычных развважаньнях, а ў чыста-практычных мерапрыемствах, накіраваных для падтрыманьня і разьвіцьця нашага новага выяўленчага мастацтва.

Вызначым коратка, у якіх напрамках. У пачатку нашага агляду мы ўжо падкрэсьлілі амаль што поўную адсутнасьць выяўленчага мастацтва ў Беларусі к моманту рэволюцыі і нават у першыя рэволюцыйныя гады. Недахват гэты быў не выпадковы: з аднаго боку—спачатку, можа, не хапала належнае зацікаўленасьці пытаньнямі мастацтва, ня было належнага разуменьня значнае ролі яго ў політычным і культурным будаўніцтве. З другога боку—як вынік першага—ў нас ня было аніякага мастацкага асяродку, або нават хоць якой-колечы больш-менш сталае сувязі паміж паасобнымі мастацкімі сіламі. Агулам кажучы, мы мелі досыць мастакоў у больш буйных нашых гарадзкіх цэнтрах, там-жа пазьней заснаваўся шэраг мастацкіх гурткоў і студый пры клюбах; але ўсе яны абсолютна нічым ня былі паміж сабой зьвязаны, кожны мастак, або кожны мастацкі гурток працаваў зусім паасобку, не аб'ядноючыся ані адзіным пэўным напрамкам, ані супольнасьцю цьвёрда вызначаных творчых мэт. Дасягненьні іх наогул былі нязначныя, і ў кожным выпадку—ня мелі нацыянальнай вартасьці, бо ў шмат якіх мясцох аб беларускім мастацтве зусім нядаўна нават яшчэ і ня чулі. Вось тут і ляжала асноўная практычная задача: узварушыць гэтае балота, уліць у яго сапраўднае жыцьцё, падлічыць нашыя сілы і магчымасьці—і згуртаваць усе гэтыя сілы наваколо адзінага не ў формальна мастацкім, але ў нацыянальна-рэволюцыйным сэнсе напрамку. Задача гэтая і да цяперашняга часу яшчэ ня можа лічыцца вырашанай канчаткова, але на шляху да яе вырашэньня зроблена было ўжо досыць многа, аб чым нельга не памянуць у сувязі з надыходам юбілейнае даты нашага пасьлякастрычнікавага будаўніцтва.

Перш за ўсё, тут трэба адзначыць працу, зробленую ў справе належнае пастаноўкі ў Беларусі спэцыяльнае мастацкае адукацыі. Да рэволюцыі ў Беларусі зусім ня было аніводнага навучальнага мастацкага асяродку. Здольныя да мастацкае дзейнасьці адзінкі змушаны былі атрымліваць сваю спэцыяльную адукацыю ў Расіі ці ў Польшчы, адрываючыся, такім чынам, ад роднае глебы і ўходзячы на служэньне чужому мастацтву, што зьяўлялася няўхільным, прымаючы таксама пад увагу і поўную адсутнасьць адпаведнага попыту на мастацкую продукцыю на тэ-

рыторыі Беларусі. У першыя гады рэволюцыі адно з беларускіх местаў, а ласьне Віцебск, зусім нечакана зрабілася вядомым артыстычным асяродкам, які, аднак, ніякага значэньня для сьціела-беларускага мастацтва ня меў. Зусім выпадкова ў Віцебску згуртаваўся пэўны лік расійскіх мастакоў, пераважна „левых“ напрамкаў, якія сапраўды, на вядомы час, значна ажывілі жыцьцё гэтага глыбока-провінцыяльнага места, пазнаёмілі яго з некаторымі навейшымі плынямі сучаснага выяўленчага мастацтва, адчынілі нават мясцовую мастацкую школу пад назваю Інстытуту,—але нічога не зрабілі для разьвіцьця мастацтва беларускага, і, нават, пэўна, ніколі і не задумваліся над тым, што яны працуюць у Беларусі. Апроч таго, у хуткім часе ўсе яны паразьехаліся хто куды, і пазасталася толькі школа, якая нейкі час цягнула сваё нуднае існаваньне. З далучэньнем Віцебску да БССР распачаўся новы пэрыод: адразу былі прыняты належныя меры для рэорганізацыі памянёнае школы ў Беларускі Мастацкі Тэхнікум,—беларускі ня толькі па назьве, але і па істоце, які зьявіўся-б цэнтральнай мастацкай навучальнай установай для ўсяе БССР, і вёў-бы працу належнае падрыхтоўкі патрэбных ласьне для Беларусі артыстычных сіл. Некалькі год працы гэтае новае інстытуцыі ў цяперашні час больш-менш выявілі ўжо яе аблічча. Маючы яшчэ, пакуль што, вядомыя організацыйныя, а часткаю і пэдагогічныя недахваты, Беларускі Мастацкі Тэхнікум ужо зарэкомэндаваў сябе, аднак, як сталая навучальная ўстанова, якая з посьпехам абслугоўвае Беларусь у справе першапачатковае спэцыяльнае падрыхтоўкі здольных маладых адзінак, дае ім належныя веды, становіць на шлях творчага разьвіцьця і дае ім належны напрамак для далейшае дзейнасьці,—напрамак, сьціела зьвязаны з конкрэтнымі вымаганьнямі нашага сучаснага нацыянальнага і культурнага будаўніцтва. У сваёй працы Тэхнікум імкнецца злучыць момант формальна-тэхнічнай асьветы ў галіне мастацтва з момантам сьвядомае творчасьці ў галіне афармленьня нацыянальнага стылю, і калі не заўсёды яшчэ гэта з посьпехам удаецца,—дык у кожным разе самы прынцып такога падыходу да справы трэба лічыць правільным і адпаведным нашым сучасным задачам. Праўда, агульны ўхіл Тэхнікуму ў бок практычнасьці, ужытковасьці—надае яму вядомую вузкасьць і непаўнату, але тут яшчэ граюць ролю і чыста матэрыяльныя магчымасьці. У часе юбілейных падагульненьняў тут варта зазначыць, што ў сучасны момант інтарэсы справы вымагалі-б далейшага палепшаньня яго матэрыяльнага становішча, а таксама паступовае рэорганізацыі Тэхнікуму ў вышэйшую навучальную ўстанову па тыпе Інстытуту ці Акадэміі, бо наша сучаснае мастацкае жыцьцё настойна патрабуе належнага вырашэньня пытаньня адносна вышэйшай мастацкай асьветы ў БССР. Апошнімі часамі наглядаецца зьява, што найболей здольныя выхаванцы Тэхнікуму, пасьля сканчэньня яго, шукаючы гэтае вышэйшае асьветы, накіроўваюцца ў адпаведныя ўстановы Масквы і Ленінграду, дзе, паміж іншым, іх посьпехі сьведчаць аб цьвёрдасьці

таго агульнага грунту, які яны атрымалі ў Віцебскім Тэхнікуме. Большасьць з гэтых асоб, па заканчэньні вышэйшае асьветы, маюць ізноў вярнуцца ў Беларусь, каб працаваць у далейшым у межах роднае краіны; з гэтай прычыны пытаньне аб іх пакуль што вырашана шляхам прызначэньня пэўнага ліку стыпэндый ад НК Асьветы на час навучаньня іх у РСФСР. Але такую меру трэба лічыць часовай, і ў дзесятую гадавіну Кастрычніка час ужо, здаецца нам, паставіць пытаньне аб організацыі свае ўласнае вышэйшае мастацкае школы для задаваленьня нашых чарговых патрэб.

А гэтыя патрэбы, бязумоўна, усё растуць. У блізкую сувязь з організацыяй мастацкае асьветы трэба паставіць і іншае наша дасягненьне, а ласьне, організацыю дзяржаўнага і грамадзкага попыту на артыстычную працу, які хоць яшчэ і не зьяўляецца асабліва значным, але павінен лічыцца досыць важным крокам наперад у параўнаньні да поўнае адсутнасьці ў Беларусі гэткага попыту ў ранейшыя часы. Зьяўленьне яго сьцісла зьвязана з узьнікненьнем некаторых спэцыяльных інстытуцый, як, напр., тэатраў і клюбаў, а таксама з інтэнсыўным разьвіцьцём нашай друкарскай і выдавецкай справы. Асаблівую ролю адыграла якраз апошняя, што выклікала цяпер да жыцьця наша кніжнае мастацтва і наогул графіку, якая займае ў нашай сучаснай мастацкай творчасьці адно з самых першых месцаў, і ў творах некаторых сваіх прадстаўнікоў ужо дасягае таго сьціслага сынтэзу нацыянальнае формы з адпаведным соцыяльным зьместам і практычнай карыснасьцю, які наогул зьяўляецца асабліва патрэбным для нашага новага мастацтва. Іншыя віды нашага выяўленчага мастацтва разьвіваюцца пакуль што болей павольным тэмпам, у сувязі з вымаганьнямі жыцьця. Попыт на іх яшчэ не дасягнуў асабліва значнае вышыні. Але ўжо наглядаецца выразнае абуджэньне належнага інтарэсу да іх і належнае ўвагі, выяўленай у спэцыяльных мерапрыемствах, прызначаных для іх узмацненьня і росту.

Асноўным з такіх мерапрыемстваў была два гады назад організацыя першае ўсебеларускае выставы выяўленчых мастацтваў, якая ставіла сабе ня толькі дэмонстрацыйныя, але і організацыйна-творчыя мэты. Аб выніках гэтае выставы мы ў свой час ужо досыць пісалі, і цяпер ня лічым патрэбным падрабязна паўтараць нашы вывады. Зазначым толькі што яна запраўды здолела выявіць нашы артыстычныя сілы і іх магчымасьці, здолела ўзбудзіць і зацікавіць грамадзкую думку пытаньнямі нашага выяўленчага мастацтва, здолела, нарэшце, прынесьці і чыста практычную карысьць у справе належнае організацыі справы. Як вынік выставы, мы мелі ў апошні год яшчэ адно конкрэтнае дасягненьне, выяўленае ў заснаваньні Ўсебеларускае Асоцыяцыі мастакоў, якая цяпер энэргічна працуе як сталая профэсыйна-грамадзкая організацыя спэцыялістых, імкнучыся да пэўнага аб'яднаньня ў сваіх межах усіх працаўнікоў выяўленчага мастацтва ў Беларусі. Такім чынам, у сучасны момант беларускае

мастацтва мае магчымасьць выступаць на грамадзкай арэне больш-менш цьвёрда зорганізаванай адзінкай, што ўжо пасьпела прынесьці сваю карысьць, напрыклад, цяпер, у сувязі з юбілеем Кастрычніка, у справе наладжаньня другой усебеларускай выставы ў Менску і ў арганізацыі шырокага беларускага аддзелу на ўсесаюзнай выставе мастацтва нацыянальнасьцяй СССР у Маскве.

Усім пералічаным мы адзначылі, зразумела, толькі чыста надворныя моманты нашых дасягненьняў. Але мы гэта робім сьвядома. Пытаньні нутранога разьвіцьця і росту нашага мастацтва, пытаньне аб яго фармальных напрамках, зьмесьце і стылістычнай аформленасьці—мы адкладаем да іншага разу, каб мець магчымасьць зрабіць і ў гэтых адносінах належныя падагульненьні на падставе ўсяго таго матэрыялу, які дадуць нам абедзьве вышэй памянёныя юбілейныя выставы, яшчэ не адчыненыя ў той момант, калі мы пішам гэтыя радкі. Цяпер-жа мы можам толькі падкрэсьліць, што 10-ая гадавіна Кастрычніка знаходзіць наша выяўленчае мастацтва ў пэрыядзе больш-менш ужо скончанае арганізацыі, якая забясьпечвае яму магчымасьць далейшых дасягненьняў на чыста творчым шляху.

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА І 10 ГОД КАСТРЫЧНІКАВАЕ РЭВОЛЮЦЫІ

### З. Жылуновіч

1913—1914 гады адзначаюць сабою кульмінацыйны пункт нашаніўскага пэрыоду беларускай літаратуры. К гэтаму часу сформавалася плеяда маладых пісьменьнікаў пахаджэньнем з рабочых і рамесьнікаў (А. Гарун, Ц. Гартны, А. Гурло, Ф. Шантыр ды інш.), дайшлі да поўнага росквіту ў сваёй творчасьці старэйшыя нашаніўцы—Якуб Колас, Янка Купала, Цётка, Ядвігін Ш. Беларускі друк значна пашырыўся ў сваёй колькасьці; выдавецтвы „Наша Ніва“, „Загляне сонца і ў наша ваконца“, і „А. А. Грыневіча“ ўперагонку выдавалі творы беларускіх пісьменьнікаў, першыя падручнікі, часопісы. На працягу гэтых гадоў выходзяць з друку: „Шляхам жыцьця“ Янкі Купалы, „Вянок“ М. Багдановіча, „Абразкі“ З. Бядулі, „Рeśni“ Ц. Гартнага, „Курганная кветка“ К. Буйлы, „Родныя зьявы“ Т. Гушчы і цэлы шэраг іншых кніжак. Аб беларускай літаратуры зьявіўся рад артыкулаў у замежнай прэсе (чэскай, польскай, літоўскай).

У гэтыя-ж гады творы беларускіх пісьменьнікаў сталі перакладацца на іншыя мовы (польская, расійская). Адраджэнцкія мотывы ў іх творчасьці ўсё больш давалі месца мотывам соцыяльнага характару, песьням працы і змаганьня. Аднастайнасьць літаратурнага кірунку калолася на часткі, нараджаючы новыя плыні ў беларускай літаратуры.

Гэты рост і ўзмацненьне беларускай літаратуры цягнулі за сабою агульны ўздым на ніве беларускага культурнага руху. Вачавідкі вырастаў беларускі чытач, формавалася і крэпла грамадзкая думка. Але вайна раптам спыніла як рост усяго беларускага культурнага руху, так і рост беларускай літаратуры. Вільна, як культурны беларускі цэнтр, перастаў быць гэткім. Пісьменьніцкія сілы былі расьсеяны часткаю па арміі, часткаю па тылавых гарадох Расіі. Выдавецтвы спынілі працу, зачыніўшыся з тых-жа прычын. Нарэшце, вайсковай уладай была забаронена і штодзёвая газэта „Наша Ніва“ (1915 г.).

Над беларускім культурным рухам навіс дамокляў меч зьнішчэньня. Разбурэньне краіны, хвалі выгнанцаў сьведчылі аб нярадасным будучым як беларускай краіны, так і яе культурнага адраджэньня. Іх лёс хаваўся ў густым тумане няведаньня. У тым-жа тумане блудзілі і думкі бела-

рускіх пісьменьнікаў. Мотывы, якія натхнялі расійскіх пісьменьнікаў аб пераможнай вайне, ім былі чужыя, а то і варожыя.

Зрэдку, у хвілі раздумаў, тыя з беларускіх пісьменьнікаў і песьняроў, што мелі мажлівасьць спыніцца на падзеях, падумаць над імі, скупымі радкамі вылівалі жальбу на лёс свае краіны. Але для чытача гэтыя радкі былі недаступны—іх ня было дзе друкаваць. Толькі ў 1916 г. пачала выходзіць на нейкі час у Пецярбурзе невялічкая газэта „Дзяньніца“, у якой зьявілася каля дзесятку вершаў.

Аднак, „Дзяньніцы“ ня суджана было сабраць вакол сябе расьсеяных пісьменьнікаў, і іх творчасьць гэтага пэрыоду засталася не дайшоўшай да чытача. На жахі вайны і разбурэньня краіны водгукам было некалькі пазьней надрукаваных вершаў Янкі Купалы („Спадчына“), А. Гаруна („Матчын Дар“), Цішкі Гартнага (верш „Уцекачы“), А. Гурло („Барвенак“). Але мажлівага быць пры іншых варунках водгуку на імпэрыялістычную вайну беларуская літаратура не дала.

Не адбіліся ў ёй належным чынам і падзеі лютаўскае рэволюцыі. К яе надыходу яшчэ не пасьпеў згуртавацца асяродак беларускае культурнае думкі. А раскіданасьць беларускіх сіл па розных гарадох (Пецярбург, Масква, Менск, Калуга, Адэса, Саратаў) перашкодзіла асталяваньню літаратурных працаўнікоў. Да гэтага далучалася яшчэ адна прычына, гэта тая, што лютаўскія падзеі захапілі ў політычна-грамадзкі вадаварот усе жывыя беларускія сілы. Літаратура была паглынута імі таксама. Дзякуючы гэтаму мы бачым, што ў вышаўшай улетку 1917 году газэце „Вольная Беларусь“ друкуюцца выключна старыя рэчы беларускіх пісьменьнікаў, як: адрыўкі з поэмы Якуба Коласа „Сымон Музыка“, поэма Ц. Гартнага „Капыль“, апавяданьні Я. Лёсіка, вершы А. Гаруна, напісаныя ў ссылцы ў Нарыме, ды інш. І толькі рэдкія радкі падаюць ціхі водгук на вялікія здарэньні рэволюцыі.

Паласа штылю ў беларускай літаратуры цягнулася ажно да вясны 1918 году. К гэтаму часу акрэсьліліся два беларускія цэнтры—адзін у Пецярбурзе, другі ў Менску. Політычная сытуацыя таго часу выразна адрозьнівала іх адзін ад аднаго. Пецярбург, як калыска Кастрычніка, увабраў у сябе адны беларускія элемэнты, Менск—зусім іншыя. Уплыў апошніх на творчую чыннасьць беларускіх пісьменьнікаў, зразумела, быў розны ў Пецярбурзе і ў Менску. Калі Кастрычнік рашуча ўвайшоў у творчасьць тых з пісьменьнікаў, што апынуліся ў Пецярбурзе, дык гэтаму перашкодзіла атмосфэра Менску. Окупаваны немцамі Менск знаходзіўся за высокаю сьцяною, якая аддзяляла ад яго краіну Кастрычніка. Пад шатаю окупантаў знайшлі прытулак варожыя савецкай уладзе элемэнты. Мары буржуазнай незалежнасьці кіравалі іх думкамі і чыннасьцю. А гэта, зразумела, рабіла свой уплыў на творчасьць пісьменьнікаў, якія вымушаны былі знаходзіцца ў гэткіх умовах.

У газэце „Беларускі Шлях“, якая выдавалася пад немцамі, мы сустракаем шэраг вершаў А. Гаруна, З. Бядулі ды іншых, якія поўнасьцю прысьвечаны ідэалам незалежніцтва.

Здалёк ад абодвух асяродкаў знаходзіліся гэткія з беларускіх пісьменьнікаў, як Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гурло, М. Грамыка ды інш. Усе яны ня мелі сувязі ні з водным палітычным асяродкам, такім чынам ня маючы мажлівасьці высьці да чытача. Гэтым тлумачыцца і той факт, што ў беларускай літаратуры бяз водгуку засталося такое надзвычайнай важнасьці здарэньне, як абвяшчэньне Беларускай Савецкай Незалежнай Рэспублікі 1-га студзеня 1919 году. Адзін маніфэст часовага беларускага ўраду адбіў у сваім зьмесьце пафос урачыстасьці беларускіх рабочых і сялян з гэтае прычыны.

Пэрыод польскае окупацыі адзначыўся ў беларускай літаратуры таксама нязначным ажыўленьнем. Усё-ж на гэты раз літаратурная чыннасьць далёка пераважыла папярэднія гады. У Менску к гэтаму часу пачалі выдавацца адначасова газэта („Беларусь“) і часопіс („Рунь“), у якіх адведзена было багата месца літаратурным творам. Апошніх паступова зьяўлялася ў друку ўсё болей. Цяпер пісалі: Янка Купала, прыехаўшы ў Менск з часовым урадам, З. Бядуля, А. Гарун ды інш. Але творчасьць і Янкі Купалы і З. Бядулі ў гэты час не прадстаўляе сабою нічога характарнага з боку ідэолёгічнага. Пісьменьнікі адчувалі на сабе цяжкі прыгон окупацыі, цісnуліся ў рамках сібернай цэнзуры і прысьвячалі свае песьні сумным напевам на адцягненыя тэмы. Толькі лічаныя іх радкі былі прысьвечаны хвалюючай сучаснасьці. Большая колькасьць гэтых радкоў прыпадае на А. Гаруна.

Наогул польская окупацыя, як і окупацыя нямецкая, хваравіта адбілася на беларускай літаратуры, як і на ўсім беларускім жыцьці.

Але яе ўціск не застаўся і без некаторых дабрачынных унёскаў у беларускую літаратуру. Характарнай рысаю гэтаму можа служыць выяўленьне ў гэты час такога рэволюцыянэра-мяцежніка-поэты, як М. Чарот. Дзякуючы гвалтам і прыгону польскіх окупантаў, муза гэтага поэты загартавалася пролетарскім змаганьнем. Польская окупацыя мела свой, дадатны ўплыў і на сформаваньне другіх двух маладых поэтаў: А. Александровіча і А. Дудара. Ізноў-жа З. Бядуля, перанёсшы ўсе „прыгожасьці“ окупацыі, крута перамяніў свой настрой і пасьля даў нізку натхненных вершаў, прысьвечаных Кастрычніку („Беларусь“ ды інш.).

Вызваленьне Беларусі ад палякаў было спаткана ўрачыстасьцю, якая ахапіла большасьць беларускіх пісьменьнікаў. З гэтага, фактычна, моманту кладзецца грунтоўная падваліна Кастрычнікаваму пэрыоду ў беларускай літаратуры. М. Чарот, З. Бядуля, Ц. Гартны, А. Дудар, А. Александровіч запаўняюць рэволюцыйнымі творамі літаратурныя аддзелы „Савецкай Беларусі“, „Нашага Шляху“ і другіх газэт і часопісаў. На

зьмену ў переважнасьці сумным нотам у беларускай літаратуры пачынаюць гучэць жывыя бадзёрыя напевы:

Чырвоны сьцяг гарыць агнём,
Яго абвеяў дымам порах;
Яго мы ў землю там ваткнём,
Дзе быў твой стан, паганы вораг.
Чырвоны сьцяг ў агні, ў дыму
Нясе з сабой канец прыгону
І кару сьмертную таму,
Хто ўзьвеў яго на чын закону.

(*Ц. Гартны.* Чырвоны Сьцяг, „Савецкая Беларусь" 22-VI—20 г.)

Селянін і рабочы—удвух
Стары сьвет агнём паляць, руйнуюць
І на вогнішчы новы будуюць,
Панаваць у якім будуць молат і серп.
Чырванее ўсё болей і болей
Іх дарога да сонца і зор...
Але маніць іх вольны прастор,
І жыцьця не шкада ім за волю...

(*М. Чарот.* На Чырвонай дарозе, „Сав. Беларусь" 25-IX—20 г.)

Пад сьцяг чырвоны
Пад грукі, звоны
Асілкаў волі
У бітвы-поле.
Ратай, рабочы,
Хто волі хоча—
Ідзеце ў бой
Ўсёй грамадой.

(*Вольны.* Пад сьцяг чырвоны. „Сав. Бел." 27-VIII—1920 г.)

З першых месяцаў 1922 г., калі ўдалося крыху агледзецца пасьля цяжкіх часоў окупацыі, закіпела праца па ўсім літаратурным фронце. Творы беларускіх пісьменьнікаў, апрача пэрыодыкі, пачалі друкавацца трыма выдавецтвамі: „Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі", заснаваным пры Наркамасьвеце, Выдавецтвам „Савецкая Беларусь" і беларускім аддзелам замежнага аддзяленьня выдавецтва РСФСР у Бэрліне. На працягу 1922 г. вышла з друку болей дзесятку томаў беларускіх пісьменьнікаў: „Спадчына" (вершы) Я. Купалы, „Водгульле" (вершы) і „Казкі жыцьця" (проза) Я. Коласа, „Песьні працы і змаганьня" (вершы) і „Бацькава воля" (першая частка роману „Сокі Цаліны") Ц. Гартнага, „Пад родным небам" (вершы) З. Бядулі, „Завіруха" (вершы) і „Босыя на вогнішчы" (вершаваная поэма) М. Чарота ды інш. Раскіданыя па розных кутках Саюзу беларускія пісьменьнікі пацягнуліся ў Менск, каб прыняць удзел

у будаўніцтве новай беларускай савецкай культуры. Вярнуліся да Менску адсутныя ў ім Я. Колас, А. Гурло, М. Грамыка, Я. Нёманскі ды інш. Грамадзкія спатканьні іх абярнуліся ў дэмонстрацыю новых настрояў у беларускай літаратуры. Кастрычнік, перамогшы фізычную сілу ворагаў і зьнішчыўшы беспадстаўныя мары буржуазных, дробна-буржуазных і згодніцкіх чаканьняў—пракладаў сьветлую дарогу „ў прыгожыя далі“. Тое, што налажыла сум на ранейшую творчасьць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Гаруна, часткова З. Бядулі ды іншых,—сьціралася і гінула ў бляску новых дзён. „Невясёлая старонка наша Беларусь“ (Я. Купала) і „Ўецца скарга уздоўж Нёмна“ (Я. Колас) чуліся заміраючым гукам незваротнага мінулага. „Завіруха“ М. Чарота гудзела аб новай, вызваленай Беларусі. Без дапамінаў аб суму, бяз ноткі жалю, Чырвоны сьцяг—сьцяг паўстаўшага да культурнага і дзяржаўнага жыцьця беларускага працаўніка, знайшоў у ім натхненнага песьняра.

Селянін і рабочы—удвух
Стары сьвет агнём паляць, руйнуюць...—

сьведчыў поэта.

„Мы чакаем зараз ад Я. Коласа бадзёрых песень вольнай Савецкай Беларусі“, чуліся галасы на яго спатканьні. Шэраг новых пісьменьнікаў, аб якіх Я. Колас і ня чуў да свайго прыезду ў 1922 годзе ў Менск, пасьпелі разьвеяць сваімі песьнямі апошні водгук нашаніўскае скаргі. „Сьпёршае дыханьне ў народзе“, што бачыў М. Багдановіч, лопнула і выбілася на поверх у абліччы магутнага паўстаньня. У вагні гэтага паўстаньня, вынесенага на плячах рабочых і сялян, нарадзіліся новыя песьняры...

Багата натхненны малюнак пабеднаму поступу гэтага паўстаньня прысьвяціў сваю поэму „Босыя на вогнішчы“ М. Чарот. У ёй мы ўгледзілі аформленую сілу „Завірухі“, выглянуўшую нам насустрэч у вобліку рабочага і селяніна. А. Александровіч і А. Дудар, выхаваўшыся на нашаніўскай літаратуры, усё-ж рашуча пайшлі за М. Чаротам...

---

Вялікую ролю ў концэнтрацыі і аформленьні рэволюцыйнай плыні ў беларускай літаратуры адыграў часопіс „Полымя“, заснаваны ў 1922 г. З яго дапамогаю старэйшыя беларускія пісьменьнікі паступова павярнулі сваю творчасьць на рэволюцыйны шлях. Тыя-ж, хто прыходзіў у беларускую літаратуру, цяпер непасрэдна падпадаў яго ўплыву. На старонках „Полымя“ дэбютавалі і выраслі новыя песьняры і пісьменьнікі, закладаючы падваліны новым кірункам у беларускай літаратуры.

Я. Нёманскі быў першым госьцем у беларускай літаратуры, прышоўшым да яе праз старонкі „Полымя“; яго апавяданьне „Над Кроманьню“, зьмешчанае ў першым нумары часопісу, сьведчыла аб вялікіх здольнасьцях, якія выклікаюцца да жыцьця Кастрычнікам. За Я. Нёманскім ішлі іншыя. Ужо ў чарговым, студнёўскім, нумары (1923 году) „Полымя“ чытач сустрэў другое, новае імя Аркадзя Моркаўкі. Яго два-

вершы, зьмешчаныя ў часопісі, „Крык вуліцы“ і „Сьцены“ прыцягнулі да сябе агульную ўвагу.

Агонь і кроў. Як пчолы, кулі
Са сьвістам лётаюць ля вух.
Наш дзень прышоў,—ой, гулі-гулі,
Паўстань спагарджаны наш дух.
Над намі кпілі, зьдзек над намі
Тварылі ўсе, забыўшы грэх.
Цяпер мы робім над панамі
Апошні суд, суд не на сьмех...

(„Крык вуліцы“)

Якая сіла слоў, якая сталёвасьць рытму! Колькі бадзёрасьці ды напору!..

І далей—

Цаглінка к цаглінцы і—сьцены паўсталі...
Старайцеся, брацьці, дык стане і столь.
Ня дарма бяз жалю мы рукі хвасталі,
Ня дарма гняце нясустрымны іх боль.
Зірнеце на сьцены: яны бы з крышталю,
У іх адбіваецца казка і сон;
У іх адбіваюцца сінія далі,
Малюнкі чароўных і сонечных дзён...

(„Сьцены“)

Сьледам быў бэлетрысты М. Зарэцкі, байкар К. Крапіва, ды інш. Усе яны зьяданым фронтам вышлі насустрач новаму часу, класьці „цаглінку к цаглінцы“ ў будынку рэволюцыйна-пролетарскай беларускай літаратуры. Чулы З. Бядуля ў моцным вершы-патэтыцы „Беларусь“ у натхненнай суцешнасьці пісаў:

А Беларусь зрабілась будаўніцай,
Куе свой лёс, будуе новы быт.
Усюль кіпіць магутная крыніца,
Ніводны кут у краі не забыт,

(„Полымя“ № 5—6, 1923 г.)

---

К першай палове 1923 г. рост новых сіл у беларускай літаратуры быў настолькі значным, што знайшлася неабходнасьць у згуртаваньні першай пісьменьніцкай організацыі „Маладняк“.

„Маладняк“ сваёю організацыяй аформіў новую плынь у беларускай літаратуры. Адначасова ён падняў змаганьне за новую форму, за новыя кірункі, за урбанізм, імажынізм. Процэс гэтага змаганьня яшчэ болей ажывіў беларускае літаратурнае жыцьцё, даў яму шмат цікавага і карысьнага. „Маладняк“ стварыў шырокія кадры маладога чытача, пранёс беларускую літаратуру ў глухія куткі провінцыі. Той уздым беларускай моладзі, які зьвязаны з першымі гадамі (1923—1924) маладнякоўскай чыннасьці, сапраўды быў надзвычайным зьявішчам у гісторыі беларускай літаратуры. Ня дзіва, што гэтаму пэнту, сіле і развою творчасьці

маладых пісьменьнікаў Янка Купала прысьвяціў свае славутыя вершы „Арлянятам“:

Гэй узьвейце сваім крыльлем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасьцю хаўтурнай...
Вам сярпы і косы ў рукі
Ды мячы, каваны з сталі.
Далі буры, завірухі,
Што тут вылі, бушавалі...

(„Маладняк“, № 1, 1923 г.)

Пад тым-жа ўражаньнем у першым нумары часопісу „Маладняк“ органу аб'яднаньня „Маладняк“ т. А. Чарвякоў пісаў: „Для важнай і адпаведнай працы ўзрос „Маладняк“ (аб'яднаньне пісьменьнікаў). Ён ідзе туды, адкуль павінен прывесьці ў рады комсамолу дзесяткі і сотні новых, сьмелых, бадзёрых, вясёлых, адважных барацьбітоў, такіх, як і сам комсамол“.

Нарадзіўшы „Маладняк“, эпоха Кастрычніка на Беларусі амаладзіла сэрца, волю і чыннасьць амаль ня ўсіх беларускіх старэйшых пісьменьнікаў. Янка Купала верш за вершам прысьвячаў вольнаму жыцьцю вольнай Беларусі, яе працаўнікам.

О так, я пролетар...
Яшчэ учора раб пакутны,
Сягоньня я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!

Яму ўторыў Алесь Гурло у зборніку „Барвёнак“:

З яснымі агням, з зычнай песьняй волі
Мы цябе чакалі з шчасьцем. Новы Год!
Год стары памёршы, хай памрэ нядоля,
Хай жыве працоўны родны наш народ!

(Новаму году „Барвёнак“).

Якуб Колас вуснамі гэрояў з сваіх апавяданьняў „Сяргей Карага“ „Прокурор“, „Колектыў пана Тарбецкага“ многа разоў адзначыў сваё спачуваньне гэтаму знатнаму процэсу ў жыцьці Савецкай Беларусі.

---

Рост настраёвасьці справодзіўся ў беларускай літаратуры ростам продукцыйнасьці пісьменьнікаў. 1924 г. асабліва характэрны ў гэтых адносінах. За гэты год беларуская літаратура атрымала ад пісьменьнікаў цэлы рад каштоўных унёскаў у яе скарбніцу. У выданьнях Дзяржаўнага Выдавецтва і „Савецкай Беларусі“ за гэты год выходзяць з друку: „Барвёнак“—вершы А. Гурло, „Заранкі“—вершы А. Журбы, „Веснаход“—апавяданьні М. Чарота, „У віры жыцьця“—апавяданьні М. Зарэцкага, „Трэскі на хвалях“—апавяданьні Цішкі Гартнага ды інш. Маладнякоўскае выдавецтва „Кніжніца Маладняка“, у сваю чаргу выдае шэраг зборнікаў сваіх сяброў.

Да дробных вершаў і вершаваных поэм дадаюцца бэлетрыстычныя творы ў выглядзе невялікіх новэль і аповесьцяй. М. Зарэцкі, здальнейшы з маладнякоўскіх бэлетрыстых, М. Чарот, у пераважнасьці лірык, Я. Нёманскі, З. Бядуля кладуць моцную падставу гэтаму маладому жанру пісьма ў беларускай літаратуры.

У гэткім-жа размаху ішоў яе рост і на працягу 1925 году. Амаль ня кожны з пісьменьнікаў і ў гэтым годзе выпускае свае новыя творы. Гэтак выходзіць „Безназоўнае“—вершы Янкі Купалы, прысьвечаныя сучаснасьці, вершаваная поэма Якуба Коласа „Сымон Музыка“, „На зломе“—апавяданьні Я. Нёманскага, „Урачыстасьць“—вершы Ц. Гартнага.

У гэтым-жа годзе пачынаецца друкам збор твораў Янкі Купалы.

Роўналежна гэтаму выдаюць свае творы маладнякоўцы „Сутарэньне“ (вершы) А. Аляксандровіч, „Выбраныя вершы“ М. Чарот, „Сонечнымі сьцежкамі“ (вершы) А. Дудар., „Чорнакудрая радасьць“ Анатоль Вольны „Спатканьні“ А. Гурло ды шмат іншых.

Апошнія два гады дзесяцілецьця ўносяць цэлы рад новых надзвычай цікавых здарэньняў у жыцьцё беларускай літаратуры. Гэтыя здарэньні па сваім характары распадаюцца на дзьве катэгорыі. Да першае належаць тыя, што кажуць а паглыбленьні творчай чыннасьці пісьменьнікаў, аб іх мастацкіх ды ідэолёгічных дасягненьнях, другая трактуе аб організацыйнай дыфэрэнцыяцыі сярод апошніх. Што датычыць вынікаў пісьменьніцкай працы за гэтыя гады, то цікавым і важным фактам з гэтага боку ёсьць зьяўленьне ў сьвет раду грунтоўных рэчаў паасобных пісьменьнікаў. З іх трэба адзначыць зборнік Я. Коласа „На прасторах жыцьця“, „На перагібе“—другая квадра роману „Сокі цаліны“ і „Прысады“ (апавяданьні)—Цішкі Гартнага, „Голы зьвер“ і „Сьцежкі-дарожкі“ (роман) М. Зарэцкага, поэмы М. Чарота—„Марына“, „Ленін“, „Беларусь Лапцюжная“, новыя зборнікі вершаў А. Александровіча „Угрунь“, А. Дудара—„І залацісьцей і сталёвей“, П. Труса „Ветры буйныя“ і цэлы шэраг іншых. Кожная з гэтых кніжак сьведчыць аб узыходзе яе аўтара на вышэйшую ступень выяўленьня свае творчае здольнасьці, аб новых этапах яго разьвіцьця, аб выраўненьні ідэолёгічнай і мастацкай лініі. З боку ідэолёгічнага асабліва выдатным зьявішчам было зьўленьне зборніка Я. Коласа „На прасторах жыцьця“. Пісьменьнік у ім правёў новую мяжу сваім поглядам на сучаснасьць, рашуча стаўшы на рэволюцыйны шлях. У апавяданьні „На парозе“ ён пяе вітань бурліваму будаўніцтву соцыялістычнага ладу, прымаючы яго як свой ідэал.

Зборнікі „І залацісьцей і сталёвей“ А. Дудара і „Угрунь“ А. Александровіча кладуць выразны адбітак на сваіх аўтараў, як на аформленых і багата выяўленых пролетарскіх песьняроў.

Яшчэ аднэй суцешнай рысай з гэтай катэгорыі зьявішч у літаратурным жыцьці ў 1926—1927 г. ёсьць пераход многіх беларускіх пісьменьнікаў да болей шырокіх палоцен—да роману. За адзначныя гады,

да першай часткі роману Ц. Гартнага „Бацькава воля“ быўшага адзіным у беларускай літаратуры, дадаліся новыя: „Сьцежкі-дарожкі“—роман з рэволюцыйнага жыцьця М. Зарэцкага, скончаны друкам у „Полымі“, „На перагібе“—другая частка роману Ц. Гартнага, вышаўшая ў 1926 г., пачаты друкаваньнем роман „Сястра“ К. Чорнага. Нарэшце, трэба далучыць да гэтага выданьне збору твораў асобных пісьменьнікаў, з якіх да апошняга часу вышла тры (чацьверты ў друку) томы Янкі Купалы і першы том Максіма Багдановіча.

У галіне організацыйных пэрыпэтый апошніх двух год у беларускай літаратуры наглядалася ня менш цікавага. Найбольш выдатнай падзеяй гэтага характару, бязумоўна, быў раскол „Маладняка“ ўвесну 1926 г. Гурток маладнякоўцаў, блізкі па сваёй ідэолёгіі да вясковых настрояў, падатны да ўплыву дробна-буржуазных кірункаў у літаратуры, як імажынізм, формалізм, эстэтызм, пачуў сябе чужым у рамках марксыцкага погляду на мастацтва і вышаў з „Маладняка“. Адколатыя згуртавалі аб'яднаньне „Узвышша“. Новае аб'яднаньне зьмесьціла свой комунікат (пляцформу), у якой пазнаёміла чытача са сваімі поглядамі на літаратуру. Беручы на словах за аснову сваёй творчасьці прынцыпы рэзолюцыі вядомае нарады па пытаньні літаратуры пры ЦК УсеКП(б), узвышаўцы, аднак, тут-жа абвесьцілі вайну „казённай надзеннай радасьці“ і агаласілі змаганьне за лёзунг „мастацтва для мастацтва“.

У далейшай сваёй творчасьці ўзвышаўцы прымяшалі да „чыстаты мастацтва“ далёка ня чыстыя спосабы „няшчаднай вайны“ як з быўшымі сябрамі па „Маладняку“, так і са старэйшымі пісьменьнікамі. Праз гэта яны сваё згуртаваньне абярнулі ў сэкту, цесную і абмежаваную.

Тыя з маладнякоўцаў, што засталіся ў „Маладняку“ пасьля яго расколу, яшчэ раз засьведчылі непарушнасьць пролетарскай пляцформы ў сваёй творчасьці, павёўшы далейшую працу організацыі. Праўда, раскол прымусіў кіраўніцтва „Маладняка“ яшчэ раз праверыць свой склад. Гэта было зроблена ў канцы 26 году. У скутку гэтае праверкі з „Маладняка“ было выключана да дзесяці чалавек яго сяброў, якія заснавалі аб'яднаньне „Проблiск“. Яно пакуль не пасьпела акурат аформіцца і выявіць сябе.

К апошняму часу згуртавалася яшчэ адно аб'яднаньне—„Комуна“.

Гэткім чынам мы можам адзначыць чынны процэс у справе перагрупоўкі сярод беларускіх пісьменьнікаў. Аб'яднаньні і паасобныя пісьменьнікі ўпарта і рашуча абмацваюць сабе адпаведнае ім месца. Праўда, гэты процэс шуканьняў болей захапляе маладых пісьменьнікаў, яшчэ не знайшоўшых пэўнае дарогі ў сваёй творчасьці. З старэйшых пісьменьнікаў большасьць мае свой выразны твар, акрэсьлены кірунак і цьвёрды пункт гледжаньня на мэты літаратурнай працы. Іх шлях шчыльна набліжаны да Кастрычніка.

Побач з адзначаным ростам беларускае літаратуры, паўстала на цьвёрдыя ногі беларуская крытыка. Калі да 1917 году мы можам паказаць на лічаныя крытычныя нарысы аб беларускай літаратуры (Л. Гмырака, М. Багдановіча, А. Луцкевіча), то з часу Кастрычнікавай рэволюцыі іх лік прыкметна павялічаецца. У 1918 годзе аўтар гэтага артыкулу друкуе ў зборніку „Зажынкі“ (выд. Бел. Нац. Камісіі—Масква) крытычны агляд беларускае літаратуры. Крытычныя артыкулы аб асобных пісьменьніках (Янка Купала) у гэтым-жа годзе зьмяшчаюцца і ў часопісу „Чырвоны Шлях“ (выд. Бел. Нац. Камісіі—Ленінград). У 1920 годзе проф. У. Ігнатоўскі ў часопісу „Вольны Сьцяг“ дае кароткі агляд беларускай літаратуры ў зьвязку з беларускім соцыяльна-культурным адраджэньнем. У наступным 1921 годзе ён-жа выдае крытычны нарыс „Лірыка М. Чарота“. А ў газэце „Звезда“ тав. В. Кнорын друкуе крытычны нарыс ізноў-жа аб творчасьці М. Чарота. Там-жа тав. В. Кнорын у 1922 годзе зьмяшчае і другі артыкул аб беларускай літаратуры, на гэты раз аб „Песьнях працы і змаганьня“ Ц. Гартнага.

Газэта „Савецкая Беларусь“ у сваю чаргу з пачатку 1921 году пэрыодычна друкуе крытычныя артыкулы многіх аўтараў.

Але мацнейшы ўздым крытычнай літаратуры пачынаецца ў 1922 г., калі выходзіць часопіс „Полымя“. К гэтаму часу выклікала надзвычайнае ўражаньне поэма М. Чарота „Босыя на вогнішчы“. Вакол гэтага выдатнага твору таленавітага песьняра загарэлася дыскусія ў адлегласьці— рэволюцыйным ці пролетарскім творам зьяўляецца поэма.

У прадмове да яе і тав. В. Кнорын і проф. У. Ігнатоўскі абстайвалі апошні пункт гледжаньня. Аўтар гэтых радкоў у зьмешчаным у першым нумары „Полымя“ артыкуле абараняў іншыя погляды на поэму, а менавіта, што яна ёсьць твор рэволюцыйны. Калі вышаў першы нумар „Полымя“, быў паложаны пачатак памятным вечарам „Полымя“, дзе літаратурная творчасьць аддавалася на агульную пісьменьнікаў і чытачоў крытыку.

За вечарамі „Полымя“ пайшлі літаратурна-дыскусыйныя вечары.

Гэта яшчэ болей дапамагала організацыі крытычных сіл у беларускай літаратуры, якія к апошняму часу аформіліся ў выглядзе цэлага шэрагу беларускіх крытыкаў, як: проф. У. Ігнатоўскі, У. Чаржынскі, проф. М. Пятуховіч, М. Байкоў, проф. Замоцін, Т. Глыбоцкі ды інш. З-пад пяра кожнага з іх вышаў шэраг крытычных нарысаў, агульных і прысьвечаных паасобным пісьменьнікам. З гэтых нарысаў трэба адзначыць: У. Чаржынскага „Беларуская літаратурная сучаснасьць“ („Полымя“ за 1925 г. № 1 і 2), проф. М. Пятуховіча „Пролетарская поэзія і лірыка Цішкі Гартнага“ (юбілейны зборнік), і „Асноўныя мотывы ў разьвіцьці лірыкі Янкі Купалы“ („Полымя“ 1925 г. № 4) ды інш., проф. У. Ігнатоўскага „Лірыка М. Чарота“ (асобн. выданьне), М. Байкова—„Беларуская літаратура ў яе адносінах да агульнай культуры пролетарыяту“

(„Полымя“ 1924 г. № 2—10), „На Перагібе“ („Полымя“, 1926 г. № 6) ды інш., І. Замоціна „Поэма Я. Коласа „Сымон Музыка“, як аўтохарактарыстыка“ („Полымя“ № 8, 1926 г.), „Поэма „Новая Зямля“ Я. Коласа“ ды інш.

Праўда, усяго гэтага замала. Пакуль мы адмячаем значную адсталасьць марксыцкае беларускае крытыкі, але ёсьць адзнакі на тое, што яна неўзабаве запоўніць адведзенае ёй месца.

Такім чынам, мы бачым, якім магутным уздымам праходзіла за апошняе дзесяцілецьце разьвіцьцё беларускае літаратуры. Апошняя, нарадзіўшыся ў часе першае рэволюцыі 1905 году, знайшла сабе родную стыхію ў прыходзе Кастрычніка. Кастрычнік уліў у яе невычарпальныя скарбы энэргіі і натхненьня. Ён амаладзіў яе і ў той-жа час паставіў на цьвёрды, роўны шлях далейшага поступу. Год у год, пад яго ўплывам, яна сталела, багацілася, расла. Няўхільна і рашуча накіроўвала свой поступ побач з агульным разьвіцьцём дзяржаўнага і гаспадарчага будаўніцтва. Усё шчыльней і пагоджаней зьлівалася з імкненьнямі да сьветлай будучыны соцыялізму.

У сугучнасьці з эпохаю, на працягу ўсяго дзесяцілецьця, яна атрымлівала сваю сілу ад ідэй Кастрычніка. Дзякуючы гэтай уласьцівасьці беларускай літаратуры і тлумачыцца той яе посьпех, які мы зараз бачым і схэматычны нарыс якога падае наш артыкул.

Будучае беларускае літаратуры, як і яе сучаснае, цесна зьвязана з пераможным поступам Кастрычніка. Пад яго шліфоўкаю згладзяцца яшчэ незагладжаныя ў некаторых пісьменьнікаў тыя ці іншыя ідэолёгічныя шурпатасьці, з яго дапамогай аформяцца новыя моцныя таленты.

З вераю ў гэта на парог новага дзесяцілецьця беларуская літаратура ўступае рашуча і ўпэўнена.

# БЕЛАРУСКАЯ КНІГА К 10-ЛЕЦЬЦЮ КАСТРЫЧНІКАВАЕ РЭВОЛЮЦЫІ

**Ів. Цьвікевіч**

Мякка гудуць ротацыйныя друкарскія машыны, уцягваючы ў сябе папяровую шырачэзную бясконцую істужку. Плыве і плыве, бы малочны ручай, чыстая папера ўглыб чорных валкаў, каб на другім канцы машыны выскачыць папяровай струмінай ужо стракатай ад літар і малюнкаў. Нябачныя нажы адшчыкваюць ад струміны вялікія кавалкі, нябачныя „рукі“ згінаюць іх у гатовыя 32-х старонкавыя аркушы, якія нясупынна падаюць, падаюць... да пяці—шасьці тысяч у гадзіну.

У пакоі з нагрэтым паветрам, нібы вельмі хворыя, здрыгаюцца і цяжка дыхаюць валавянаю libпараю—апошняе дасягненьне друкарскай тэхнікі—лінотыпныя наборныя машыны. Мядзяным дажджом сыплюцца літары-матрыцы, роўнамерна апускаюцца і паднімаюцца сталёвыя „рукі“, хапаюць літары, кідаюць іх у свае гнёзды, а другія „рукі“ прыціскаюць літары да растопленага волава і выкідаюць бліскучыя гарачыя валавяныя радкі набору... да 300.000 літар у дзень.

Цынкографская майстэрня, дзе фотографуюць пры такім сьвятле, што сьлепіць вочы, а другую частку працы робяць у абсолютнай цемры, дзе купаюць цынкавыя дошчачкі са здымкамі ў квасох сьмяртэльнай моцы, каб далікатную, „нематэрыяльную“ працу мастакоў перарабіць у мэталь, зрабіць яе важкай, вечнай і годнай да шматтысячнага памножаньня на паперы.

Далей стэрэотыпнае аддзяленьне, дзе рабочыя, труцячыся валавянаю параю, выбіваюць матрыцы, адліваюць блішчастыя валавяныя дошкі набору—плоскія для плоскіх машын і выгнутыя, падобныя да шчытоў старасьвецкіх рыцараў—для ротацыйных. Дзіка скрыгочуць сталёвыя круглыя пілы, разразаючы валавяныя дошкі, грукочуць фрэзэрныя варштаты. Яшчэ далей машыны фальцавальныя, швэйныя, рэзальныя. Дзесяткі розных машын, сотні рабочых, некалькі дапаможных майстэрань. Усё гэта жыве, рухаецца і працуе, вырабляючы кнігу.

Фабрыка кнігі.

Аднаразовы стотысячны тыраж падручнікаў. Звыш мільёну экзэмпляраў новых кніжак у працягу году. Перад навучальным годам двупавярховыя вежы з кніг у цэнтральным кніжным складзе. Дзесяткі кнігагандлёвых аддзяленьняў на тэрыторыі рэспублікі.

Беларуская кніга з новым пролетарскім зьместам.

Беларуская кніга, параўнальна з расійскай (РСФСР)—даступная для масавага чытача.

Беларуская кніга аб'ёмам у 20—30 і болей друкарскіх аркушоў.

Беларуская кніга ў прыгожай мастацкай каляровай вокладцы, багатая на ілюстрацыі і з тэхнічнага боку граматна выданая.

І як об'ектыўнае прызнаньне высокіх якасьцяй беларускае кнігі, як апофэоз яе—экспонаты Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва на сусьветнай выстаўцы кніжнай тэхнікі і графікі ў Лейпцыгу.

Гэткай мы бачым беларускую кнігу к 10-й гадавіне Кастрычнікавай рэволюцыі.

* *
*

Дзьве беларускія кніжкі: „Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі" Ў. Ігнатоўскага і „Прысады" Ц. Гартнага. Першая— выданьня 1921 году, другая—1927 г. Абедзьве яны набраны шрыфтам аднолькавага памеру і рысунку (корпус—корына), абедзьве выкананы рабочымі 1-ай Менскай Дзяржаўнай Друкарні. Але паглядзеце на іх, параўнайце: ноч і дзень. Ня трэба быць спэцыялістым кнігавыдавецкае справы, каб адразу ўбачыць нязвычайна ўбогую тэхніку выданьня 21 году і прывабны, культурны, эўропэйскі выгляд кнігі 27-га году.

На першай кнізе вокладка з абвёртачнай шэрай паперы самага кепскага гатунку. Нейкая калматая і шурпатая ад кавалачкаў драўніны што тырчаць з паверхні яе. Вокладка меншага памеру, як кніжка, кніжка не абрэзана і таму брыдка тырчаць з-пад вокладкі, лісты з шэрай газэтнай паперы. Тэкст на вокладцы ў адну фарбу, наборам. Набор вокладкі і тытульнай старонкі сьведчыць аб адсутнасьці густу, аб нездавальняючых тэхнічных ведах работнікаў кнігі і аб недахваце тытульных шрыфтоў. Самы тэкст кнігі набраны рознастайнымі шрыфтамі, прычым кідаецца ў вочы недастасаванасьць наборных кас да беларускага набору (не хапае літар „а", „э", „і", „ў"—яны набраны „чужымі" шрыфтамі). Колёнлічбы—розных гарнітур. Друк ня чорны, але нейкі шэры, дрэнна прыпраўлены. Другая палова кнігі надрукавана на паперы сьвятлейшага колеру, як першая. На апошняй старонцы вокладкі выдавецкая марка стаіць крыва, фірма выдаўца чамусь паўтараецца тут яшчэ раз, толькі іншым шрыфтам, чым на першай старонцы. Сшыта кніжка самым звычайным спосабам—дротам збоку, а вокладка толькі ледзь наклеена і трымаецца, як кажуць „на чэсным слове". Словам, выдана кніжка не паводле, але *супроць* усякіх друкарскіх правіл.

Зусім іншае ўражаньне ад беларускай кнігі сёнешняга дня. Папершае, гэта ня цененькая кніжачка, не брошурка, але солідная кніга на 300 старонак тэксту і адпаведнага гэтай солідпасьці формату. Падругое, уся кніга—ад вокладкі да самай апошняй старонкі—мае на сабе сьляды пільнага дагляду. У кожнай драбніне адчуваецца, што на „туалет" кнігі тэх-

нічны рэдактар паклаў ня мала ўвагі. І хаця і гэта кніга („Прысады“) яшчэ далёка ня ёсьць шэдэўр кнігавыдавецкай тэхнікі, але надрукаваная новым нязьбітым шрыфтам, добрай чорнай фарбай, на белай шчытнай) паперы, шытая з сярэдзіны і апранутая ў двухкаляровую графічна-ўдалую вокладку—яна стаіць у тэхнічным сэнсе на адным роўні з выданьнямі Масквы, Ленінграду, Харкаву і нават замежнымі.

Так, прыгожай зрабілася беларуская кніга, але не адразу гэта сталася. Доўгі і цяжкі шлях мусіла працерабіць яна, пакуль набыла культурнае аблічча. Настолькі культурнае, каб паказаць сябе на сусьветных выстаўках кнігі і графічнага мастацтва.

* *
*

Дзесяцігадовы шлях разьвіцьця беларускае кнігі можна для яснасьці падзяліць на тры пэрыоды: першы—1917-1920 г. г., другі—1920-1924 г. г. і трэці—1924-1927 г. г.

Лішнім будзе даводзіць, што друк наогул, а асабліва кніга сваім зьместам і сваім знадворным выглядам дасканала адбіваюць час, эканомічны і культурны ровень краіны. Гэта ісьціна асабліва пацьвярджаецца эволюцыяй беларускага кніжнага друку за апошнія дзесяць год.

Першы пэрыод (1917—1920 г.) на Беларусі—гэта час рэволюцыйных падзей, нямецкае і польскае окупацыі, час непакойны, бурлівы, няпэўны, з частай зьменай ўлады, палітычнага ладу і грамадзкіх груповак. І вось, ня гледзячы на тое, што рэволюцыя паставіла нацпытаньне ва ўсёй яго велічы і адкрываліся шырокія пэрспэктывы для нацыянальна-культурнага адраджэньня, беларускі кніжны друк таго часу мае адбітак выпадковасьці, няпэўнасьці, нясталасьці. Тэрыторыя сучаснае БССР была тэатрам вайсковых падзей, і культурная праца ў Менску праз увесь час не магла набыць самай прымітыўнай плянавасьці. Адсутнасьць выдавецкіх плянаў, адсутнасьць падрыхтоўкі да выданьня кніг, зьмены выдаўцоў, немагчымасьць організавацца выдавецкаму сталаму цэнтру,—усё гэта прымушала друкаваць што трапіцца і абы як.

За 1917 год у Менску вышла ўсяго толькі 9 шчупленькіх брошурак (адна з іх—літаратурны зборнік—5 аркушоў) памерам $^1/_2$—1 аркуш. Характар гэтых выданьняў паказвае, што выдавалі кожны рукапіс, які толькі трапляў у рукі. Ніякай сыстэмы і пляну ня было: сярод дзевяці назваў мы бачым і дзіцячую чытанку, і сцэнічныя творы, і „Мэморыял прадстаўнікоў Беларусі на III конфэрэнцыі народаў“, і „Тарас на Парнасе“. Усяго пакрысе,—як той казаў.

Выданьні 1918 году (у Менску вышла за год 12 назваў) таксама вызначаюцца выпадковасьцю выбару, хаця пераважае мастацкая літаратура.

У 1919, 1920 і нават ў 1921 годзе выдавецкая праца ў Менску была амаль выключна ўдарнага характару. Залежала гэта ад таго, што савецкая ўлада ў тыя часы мусіла ўсе матэрыяльныя сродкі і ўсю жывую сілу кідаць на паратунак краіны ад вынікаў ваенных падзей, окупацый

і экономічнага занападу. На гэты фронт партыя і савецкая ўлада мобілізавала і друкарскі варштат. Усе савецкія менскія выданьні таго часу цесна зьвязаны з агітацыйнымі кампаніямі па ліквідацыі бандытызму, барацьбе з дээртырствам, эпідэміямі, чыгуначнай разрухай, дапамогай галадаючым і г. д. Дзесяткамі і сотнямі тысяч друкаваліся па загадах наркаматаў, партыйных, вайсковых і грамадзкіх організацый лістоўкі, аднааркушовыя брошуркі, плякаты. Ад сьнежня 1920 г. да сьнежня 1921 г. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва выпусьціла 163 назвы з тыражом у 799.500 экзэмпляраў. З гэтага ліку 141 назва на расійскай мове і 22 назвы на беларускай. За гэты-ж час Беларускае Дз. Выдавецтва па заказу ГІЗ'у РСФСР надрукавала і адаслала ў Маскву 41 выданьне на расійскай мове з агульным тыражом у 1.130.000 экзэмпляраў, пераважна навуковыя творы.

Аб тэхнічным боку выданьняў гэтага пэрыоду ня можа быць і гутаркі. Аб знадворных якасьцях кнігі можна гаварыць тады, калі друкарні маюць адпаведныя тэхнічныя магчымасьці, працуюць у пэўных умовах і калі ёсьць кадр работнікаў кнігі. Пагэтаму трэба дзівіцца не таму, што беларускія кнігі выходзілі ў сьвет з „нявымытым тварам", але хутчэй таму, што нават пры такіх няспрыяльных умовах, як вайсковыя окупацыі, грамадзянская вайна, голад, эпідэміі, разруха, друк беларускіх кніжок усё-ж ткі ня спыняўся.

Гады 1921—1924 далі значнае, нябывалае павялічэньне колькасьці беларускіх кніг. У гэты-ж пэрыод была зьвернута ўвага на тэхніку выданьня беларускае кнігі.

Пачынаючы ад вясны 1921 году, партыя ўсё часьцей і часьцей зьвяртае ўвагу адпаведных органаў на канечнасьць беларусізацыі школ і савецкага апарату. У сувязі з гэтым яна патрабуе пашырыць выданьне кніг на беларускай мове. І каб прысьпешыць масавы выпуск беларускіх кніг, савецкая ўлада організавала часткoвае іх выданьне за мяжой, у Нямеччыне.

Зьяўленьне на беларускім кніжным рынку выданай там прыгожай і тэхнічна-пісьменнай беларускай кнігі было магутным штуршком да ўдасканаленьня ўласнай кніжнай тэхнікі тут на месцы. Піонэрам у гэтай справе было „Коопэрацыйнае Выдавецкае Таварыства „Савецкая Беларусь". У працягу двух год выдавецтва вяло вайну з поліграфічнымі прадпрыемствамі з-за якасьці кніжнай паперы, з-за малога выбару беларускіх кніжных шрыфтоў, з-за неахайнага сшываньня, з-за аправы і г. д. Але лёд зламалі, і цяпер ужо нельга было варочацца да старых спосабаў выданьня або тупаць на адным месцы. Тым болей, што нацыянальна-культурны рост грамадзтва моцна даваў сябе адчуваць асабліва ў галіне кніжнай. Зьявіўся пакупец беларускай кнігі, выраслі і аформіліся пэўныя вымаганьні да беларускай кнігі. Выдавецкія органы, зьнятыя з бюджэту дзяржавы і пераведзеныя на комэрцыйныя рэйкі, востра адчулі патрэбу

палепшыць якасьць свайго тавару і пачалі нясупынна дабівацца тэхнічнага палепшаньня сваіх выданьняў.

Факт утварэньня „Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва“ (восень 1924 году) быў паваротным пунктам у кнігавыдавецкай справе.

Організацыя буйнога кнігавыдавецкага апарату з концэнтрацыяй капіталу і кваліфікаванай рабочай сілай давала магчымасьць пачаць плянавае пераабсталяваньне поліграфічных прадпрыемстваў, пачаць выдаваць кнігі паводле пляну, пачаць рацыяналізацыю вытворчасьці, у першую чаргу хаця-б па лініі разумнай загатоўкі сыравіны, падліку вытворчасьці працы, аналізу шматлікавых выдавецкіх хвароб.

Пачалася марудная, цяжкая, упартая праца па стварэньні культурнае кнігі. Тут у Менску, дзе ў дарэволюцыйныя часы ведалі і бачылі толькі друкаваньне візытных картак, блянкаў для ўстаноў і цукерачных паперак, дзе поліграфічныя прадпрыемствы мелі напоўсаматужніцкі характар і па сваім абсталяваньні зусім не адпавядалі сучаснай кнігавыдавецкай тэхніцы,—тут трэба было нанова, упяршыню іменна *ствараць кнігу*. Ствараць у сэнсе падшуканьня і падбору работнікаў кнігі, у сэнсе павышэньня кваліфікацыі і выхаваньня іх у пэўных кнігавыдавецкіх традыцыях, у сэнсе барацьбы са старымі шкоднымі, провінцыяльнымі, някультурнымі поглядамі на кнігу, у сэнсе прышчапленьня пашаны да друкаванага слова, у сэнсе перанясеньня на менскі грунт, я-б сказаў, „культу кнігі“, які звычайна існуе ў старых кнігавыдавецкіх прадпрыемствах. Усе процэсы стварэньня кнігі зьвязаны з адпаведным роўнем культурнасьці, адукацыі, практычнага стажу і бязупыннага росту кваліфікацыі ўсіх без выключэньня работнікаў кнігі. Паколькі кніга ёсьць кондэнсаваная чалавечая думка, паколькі на напісаньне яе траціцца шмат энэргіі ды часу, паколькі кожны працаўнік, які прымае ўдзел у далейшых процэсах стварэньня кнігі, зьяўляецца сааўтарам,—ён мусіць з захапленьнем і замілаваньнем дапамагаць як найлепшаму выпуску кнігі. Выхаваць гэткую сьвядомасьць і гэткія адносіны да кнігі сярод усіх




Дыяграма росту беларускае кнігі па ліку назваў.
Чорныя слупкі—па тэр. БССР, белыя—у Зах. Беларусі.

сваіх працаўнікоў—цяжкае але ўдзячнае заданьне кожнага кнігавыдавецкага прадпрыемства.

Там, дзе дзесяцілецьцямі захоўваліся старасьвецкія провінцыяльныя погляды на кніжную справу і саматужніцкія звычкі ў працы, усе гэтыя процэсы новага выхаваньня ідуць надта павольна і цяжка. Але самы факт выпуску ў апошні час прыгожых, мастацкі зробленых кніг (праўда, іх яшчэ мала), гаворыць за тое, што кнігавыдавецкая чыннасьць у БССР ужо перайшла на культурныя рэйкі.

Сягоньня мы можам пахваліцца ня толькі прыгожа выданай беларускай кнігай, ня толькі выпускам друкаваных нот і сьпеўнікаў, ня маючы нотаборань, ня толькі дзіцячымі выданьнямі ў некалькі фарб, але і колькасьцю кніжнай продукцыі.

Калі ў 1917 годзе беларуская кніга друкавалася з тыражом у тры тысячы паасобнікаў, дык у 1925 годзе беларуская кніга (падручнік) мела стотысячны тыраж. Да 1924 году лік назваў беларускіх кніжок, выданых на працягу году, не паднімаўся вышэй 28, а ў 1924 годзе гэты лік падняўся да 61, у 1925-м—да 175 (!) і ў 1926-м—да 275 (!!).

Надта паказальнай у сэнсе колькаснага росту беларускае кнігі па гадох зьяўляецца зьмешчаная на 211 стар. дыяграма, складзеная паводле статыстыкі Беларускай Кніжнай Палаты („Летапіс беларускага друку" ч. 3 з 1917—1924 г. Менск, 1927).

З гэтай дыяграмы відаць, як у БССР з кожным годам беларуская кніга расьце, а там, за заходняй мяжой, яна памірае. Яшчэ адзін довад таго, што ў БССР рабочыя і сяляне будуюць беларускую культуру, а польскія паны ў Заходняй Беларусі нішчаць яе.

Нават, калі ўзяць лічбы выданых кніг толькі па адным Дзяржаўным Выдавецтве за апошнія тры гады, дык адразу адчуваецца шырокі маштаб выдавецкай працы.

| | 1924-1925 г. | 1925-1926 г. | 1926-1927 г. | Усяго за тры гады |
|---|---|---|---|---|
| Назваў . . . . | 142 | 138 | 166 | 446 |
| Друкаваных аркушоў . . | 873 | 1.079 | 1.339 | 3.291 |
| Экзэмпляраў . . . . | 1.559.500 | 1.150.000 | 942.000 | 3.651.500 |
| Адбіткаў . . . . . | 11.202.500 | 11.210.062 | 9.838.627 | 32.251.189 |

А тымчасам Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва па ліку назваў і ліку друкаваных аркушоў знаходзіцца на другім месцы, як гэта высьветлена статыстыкай Беларускае Кніжнае Палаты за першую палову 1927 году (студзень—чэрвень).

| | Лік назваў | Лік друкаваных аркушоў у 1 кам. усіх назваў | Тыраж | Друкаваных аркушоў ва ўсім тыражы |
|---|---|---|---|---|
| 1. Дзяржаўнае Выдавецтва . . . . | 69 | 482 | 362.500 | 3.397.800 |
| 2. Ведамтцьвеныя і дзяржаўныя ўстановы, парт. і профорган. . . . | 130 | 720 | 210.875 | 1.359.520 |
| 3. Навуковыя ўстановы . . . . . | 69 | 235 | 54.000 | 254.700 |
| 4. Кооп. і грамадзкія організац. і приватн. асобы . . . . . | 25 | 70 | 46.410 | 121.560 |
| 5. Выдавецтва нявыясьненыя і пазарэспубліканск. . . . . . . | 8 | 56 | 19.850 | 122.640 |
| УСЯГО: . . . | 301 | 1.545 | 693.635 | 5.256.220 [1]) |

На тэрыторыі БССР, побач з росквітам беларускага кніжнага друку, год ад году павялічаецца колькасна і якасна выданьне кніг на мовах нацыянальных меншасьцяй. Па адным толькі Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве за апошнія тры гады мы маем:

| | 1924—1925 г | | | | 1925—1926 г. | | | | 1926—1927 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік назваў | Лік аркушоў | Лік экземпляраў | Лік адбіткаў | Лік назваў | Лік аркушоў | Лік экземпляраў | Лік адбіткаў | Лік назваў | Лік аркушоў | Лік экземпляраў | Лік адбіткаў |
| Яўрэйская мова . | 17 | 69 | 46 500 | | 14 | 88 | 47.000 | 328.325 | 23 | 119 | 67.500 | 465.500 |
| Польская „ . . | 6 | 8 | 19.000 | | 10 | 48 | 48 000 | 261.375 | 11 | 52 | 36.000 | 209 000 |
| Расійская „ . | 18 | 112 | 74.000 | | 7 | 67 | 27.000 | | 9 | 50 | 17.500 | 133 375 |

Лічбы гэтыя паказваюць, што комуністычная партыя і савецкая ўлада правільна падыходзяць і дасканала вырашаюць нацыянальнае пытаньне ў нашай рознанацыянальнай краіне. Выдавецкія пляны, напрыклад, штогод будуюцца ня іначай, як з улічэньнем нацыянальных патрэб: на беларускую мову вызначаецца 70 проц. кніжнае продукцыі, на яўрэйскую—15 проц., на расійскую—8 проц., на польскую—5 проц., на літоўскую і латыскую—2 проц. [2]).

[1]) Газ. „Звезда" № 219, ад 25 верасьня 1927 г.—„Беларускі друк за першую палову 1927 г." М. Улашчык.

[2]) У гэтым годзе ўжо друкуюцца літоўскія і латыскія кнігі.

*
* *

Нашае кнігавыдавецкае сягоньня, калі мы ставім перад сабой пытаньні аб поўнай і ўсебаковай рацыяналізацыі выдавецкай справы, пытаньні аб няўхільным паступовым зьніжэньні цаны на кнігу, пытаньні аб стандартызацыі друкарскіх процэсаў, аб шматкаляровым друку, аб „доме друку“, пабудаваным і абсталяваным паводле апошняга слова друкарскае тэхнікі,—гэтае сягоньня—ёсьць сягоньня перамогі.

Дзесяцігадовы юбілей Кастрычнікавай рэволюцыі павінен стаць для нас новым магутным імпульсам для новых дасягненьняў у галіне кнігавыдавецкае працы.

Многатысячныя тыражы беларускае кнігі, яе новы рэволюцыйны зьмест, яе аб'ём і прыгожы знадворны выгляд—найлепшыя паказальнікі культурнага росту насельніцтва, росту культурных запатрабаваньняў сярод працоўных мас, імкненьня шырокіх мас да кнігі, да ведаў, да культуры.

Трэба ў далейшым дабівацца яшчэ большага посьпеху беларускай кнігі на рынку, яшчэ большага пашырэньня яе ў масах. Посьпех-жа гэты залежыць ад цаны, ад знадворнай прыгожасьці кнігі і ад зьместу яе.

Мы маем усе даныя, каб дабіцца гэтага посьпеху. Наконт нясупыннага палепшаньня друкарскае тэхнікі мы ўжо казалі. Удасканаленая тэхніка пацягне за сабой зьніжэньне сабекошту і патаненьне кніжкі.

Зьмест нашых кніг удасканальваецца і з боку мастацкага і з боку ідэолёгічнага, бо растуць шэрагі беларускіх пісьменьнікаў і навуковых работнікаў, а партыйнае кіраўніцтва беларускім друкам у поўнай меры забясьпечвае яму бадзёры, пролетарскі, клясавы ідэолёгічны напрамак.

# У Германіі

*(Назіраньні і мысьлі)*

**С. Вольфсон**

Я ведаў Бэрлін даваенны,—дзе ад усяго веяла чыстатою і парадкам, дзе усё было разьмерана, паважна, павольна і акуратна. Бэрлін быў тады сталіцаю мілітарызму і рэстараннай сьвяшчэнначыннасьці. Яго рытм стваралі барабанны бой і гвардзейскі крок. Над ім узвышалася бліскучая востраверхая каска клясычнага бэрлінскага шуцмана, гонару імпэратарскай сталіцы, непадражальнага ўзору гарадавых і палісмэнаў усяго сьвету; як экзэмаю, ён быў пакрыты помнікамі і партрэтамі імпэратараў, каралёў, гэрцогаў і эксгэрцогаў, кронпрынцаў, проста прынцаў і фэльдмаршалаў...

Толькі на рабочых акраінах пападаліся сяды-тады іншыя партрэты, не ў пазалочаных рамах, большаю часткаю бяз усякіх рамак: Лясаль, Маркс, Бэбэль...

Я бачыў Бэрлін і ў гады інфляцыі, калі чатырохмільённы горад курчыўся ў муках голаду, калі па яго тротуарах блудзілі атручаныя газамі сьляпыя інваліды, калі на яго вуліцах жабравалі ўчорашнія дамаўласьнікі ці чыноўнікі, калі на бульварах Вэстэна спалі сотні беспрацоўных і бяздомных, калі валютныя чужаземцы расьцягвалі ў Бэрліне ўсё, што тады можна было расьцягнуць, калі біржавая крывая няўтрымна падала з ранку да паўдня і ад паўдня да вечара, і трамвайны білецік каштаваў сто мільёнаў, калі раздушаны і прыгнечаны, аглушаны падзеямі, зьбіты з панталыку бюргер палахліва аглядаўся па бакох і мацней замыкаў дзьверы свае нятопленае кватэры...

Цяпер я бачыў Бэрлін іншы, ня 13-га і не 24-га, а 27-га году. Не даваенны, не інфляцыйны, а Бэрлін амэрыканізаваны.

У даваенныя гады, калі нямецкі бюргер з няскрываемай зьнявагай адносіўся да вялізнага янкі і дзядзька сам зьяўляўся об'ектам бясконцых практыкаваньняў карыкатурыстых і прадметам натхненьня цыркавых клёўнаў, адышлі ў галіну паданьня.

З таго часу, калі амэрыканец стаў буйнейшай фігурай на міжнароднай арэне, нямецкі бюргер прасякся павагаю да яго вялікага піэтэту. Гэты піэтэт рос па меры таго, як амэрыканскія легіёны далі сябе адчуць немцам на палёх Фляндрыі; калі Вільсон ратаваў чалавецтва сваімі

скрыжалямі, як Гувэр карміў галодную Германію консэрваваным малаком, як генэрал Дауэс выкраіў для Германіі свой славуты плян.

Калі я быў у Германіі ў 1924 г., то на кожным кроку адчувалася тут, што значыць гаспадарчая дыктатура Амэрыкі. Гэтыя заўсёды спакойныя ўладары чарадзейных даляраў у вялізарных рагавых акулярах, што прыплылі ў жабрацкую Германію з-за акіяну, хадзілі па бэрлінскіх вуліцах, як сапраўдныя дыктатары. Яны куплялі дамы, фабрыкі, карціны, фарфар, вучоных, і нізка зьгіналася сьпіна нямецкага бюргера, калі сухапары ўладар даляраў працягваў яму зацягнутую ў лайку руку...

Гэта, зразумела, няўхільна, што за гаспадарчай дыктатурай ідзе дыктатура ідэолёгічная.

Я ўжо—у 1924 г.—адзначаў гэтую акалічнасьць, але тады яна насіла пераважна знадворны характар: амэрыканскія назвы даваліся кіно, мылу, падцяжкам; калі прыяджаў у Германію які-небудзь бастонскі фабрыкант сьвіных консэрваў, нямецкія газэты зварачалі на яго значна больш увагі, як на стачку 200.000 рабочых або буйную навуковую вынаходку. Але тое яшчэ ня было ідэолёгічнай дыктатурай, а зьгінаньнем сьпіны перад гаспадарчым і палітычным дыктатарам сьвету. Зразумела, і цяпер гэтае зьгінаньне мае месца: яно выказваецца ў самым рознастайным выглядзе, пачынаючы, для прыкладу, з прысуджэньня Гэйдэльбэрскім Унівэрсытэтам ступені доктара honoris cause амэрыканскаму пасланьніку і канчаючы самым няпрыгожым сэрвілізмам, які быў выказаны ўладаю ў дні Сако—Ванцэці.

Для Бэрліну гэтых дзён, для Бэрліну 1927 г., характэрна не падлыжніцтва перад Амэрыкай, а нешта іншае. Ідэолёгічная дыктатура Амэрыкі выяўляецца ў амэрыканізацыі самога жыцьця, у амэрыканізацыі бэрлінскага побыту.

Я-б сказаў, што калі ў гады інфляцыі бэрлінскі бюргер схіляўся перад людзьмі ў вялікіх рагавых акулярах, то цяпер ён сам разгульвае ў гэтых акулярах, амэрыканізуе самога сябе.

Амэрыканізацыя Бэрліну прыкметна ўжо звонку. Аб ёй раней за ўсё гаворыць самы рытм Бэрліну, па вуліцах якога нясуцца 65.000 аўтобусаў—супроць 35.000 1926 г., 10.000—1924 г. і 1.000—1923 г. Аб гэтым гавораць цыфры ў 100 мільёнаў пасажыраў, якія перавозяцца за месяц бэрлінскімі трамваямі, аўтобусамі, цягнікам, мэтрополітэнам. І няма для бэрлінскага буржуа большай радасьці, як пачуць ад знатнага чужаземца, што Бэрлін стаў Нью-Ёркам контынэнту, і такім чынам атрымаць патэнт на назву амэрыканца Эўропы.

„Бзік“ бывае ня толькі ў людзей, але і ў гарадоў. „Бзік“ сучаснага Бэрліну—быць Нью-Ёркам контынэнту. І бэрлінскі буржуа лезе з скуры, каб спраўдзіць назву амэрыканца Эўропы. Ён рацыяналізуе кантору, выпісвае амэрыканскіх інструктароў, якія ўводзяць якіясьці аўтоматычныя прылады да пішучых машынак. Ён будуе пэрманэнтныя ліфты

і лесьніцы, якія самі рухаюцца. Ён трасецца ў чарльстоне—агідным антыэстэтычным танцы, які танцуе так званы ўвесь Бэрлін—ад банкіраў да парыкмахэраў, ад журналістых да стэнотыпістак. Ён наладжвае вясельлі на аэропляне, падымаючы ў паднябесьсе ня толькі маладых і гасьцей, але і самога прэасьвяшчэннага пастара.

Бэрлін амэрыканізуецца і стварае новы тып амэрыканска-эўропэйскага чалавека, сваю асаблівую мешаніну флегматычнага Міхэля з хуткаімкненным янкі.

Гэты амэрыканец Эўропы, заходзячы ў лёкаль, пановаму, паамэрыканскаму скідае з сябе пінжак, застаючыся ў кашулі, але панямецкай страдаўнасьці яшчэ праседжвае круглую гадзіну за кубкам піва. Хмель напалавіну, янкі—напалавіну...

Zierlich-Manierlich у злучэньні з „таймс—моні". Бэрлін амэрыканізуецца. Гэта выказваецца ва ўсім: у перамозе рэвю над тэатрам і кіно над рэвю; у шалёным росьце радыё; у тым, што ня друкуюцца вершы; у тым, што зьмяншаецца тыраж кнігі; у рэкляме, якая б'е па нэрвах; у шалёнай пагоні за спортыўнымі рэкордамі, накшталт 20-гадзіннага бесьперапыннага танцу або двухгадзіннага курэньня сігары.

Гэта было на Postdamer Platz—у адным з галоўных вузлоў Бэрліну, на пляцу, цераз які нясупынна плыве струмень людзей, аўто, омнібусаў, трамваяў, уладна рэгулюемы чырвона-жоўта-зялёнымі агнямі шуцмана, які сядзіць на каланчы. Стаяла 25-градусная сьпякота. На распаленым асфальтавым бруку, сярод каменных сьцен дамоў цяжка было дыхаць...

Раптам я бачу—цераз пляц нясецца амаль стрымгалоў, як ашалелы ў вядомым романе Цвэйга „Амок", напоўголы чалавек з нацягнутымі да немагчымасьці жыламі на ілбу, з вачыма, якія здаецца вось-вось выскачаць, з цуркамі поту на твары, з напоўадчыненым іртом... Першая і натуральная мысьль была, што няшчасны вырваўся з псыхіатрычнай больніцы... Але я адразу прыпамятаў газэтнае паведамленьне, што сягоньня паміж шаснаццацьма спортсмэнамі будзе выпярэдніцтва на хутчэйшы прабег 13-вёрснага дыямэтру Бэрліну.

Гэта быў адзін з шаснаццаці...

Сільна амэрыканізавалася рэкляма. Яна нясупынна крычыць, б'е па нэрвах, хапае вас сваімі мацкамі ўсюды: неба, зямля і падземныя тунэлі галосяць аб папіросах Batschari, аб лікёры Кантаровіча і аб ваксе для ботаў Эрдбаль. Лепшыя мастакі Бэрліну існуюць цяпер на тое, каб наладжваць выстаўкі ў магазынах Вэртгэйма, Тытца, KDW. А на бэрлінскіх ростанях вы спаткаеце палкіх прамоўцаў, якія з вялізарным тэмпэрамэнтам, трасучы кулакамі, прапаведваюць мэханічныя галоўкі з гарантыяй на 12 год, і, сыплючы цытатамі з бібліі і Шыльлера, пропагандуюць гузікі, якія самі ўшываюцца... І з якім непадробленым жахам хапаўся за галаву адзін з такіх прамоўцаў на Wittenbergerplatz пры думцы

аб тым, што існуюць бедныя людзі, якія да гэтага часу яшчэ не завязваюць чаравік яго патэнтаванымі шнуркамі.

А вось карціна амэрыканізацыі з галіны шуканьня працы. На Kochstrasse, дзе зьмяшчаецца выдавецтва Ульштэйнаўскіх газэт, гадзінам к чатыром дня зьбіраецца штодзенна натаўп у некалькі соцень падросткаў. Кожны з іх—увесь увасобленае парываньне—стаіць на варце ў выдавецтва. Ля кожнага—вэлёсыпэд. Соценны натаўп вэлёсыпэдыстых напружана чакае зьяўленьня газэты. І калі зьяўляецца першы грузавік са сьвежымі газэтамі, натаўп штурмуе яго, кожны шпурляе 10 пфэнінгаў, вырывае ў газэтчыка нумар, сударжна прабягае шостую старонку, ускоквае на вэлёсыпэд і, скруціўшы галаву, нясецца кудысьці. Куды? Туды, куды газэтная абвестка патрабуе кур'ера, пасыльнага, ліфтаважатага. Хто пасьпее паршым, у таго больш шансаў папасьці на службу.

Так амэрыканізуецца Бэрлін...

Бэрлін, як і ўсякі вялікі горад, мае два твары, больш дакладна сказаць—пад аднэй страхою чатырох з палавінаю мільённага Бэрліну знаходзяцца два розных гарады.

Бэрлін № 1—залочаны,—дзе непарыўны ланцуг перапоўненых кафэ, дзе гранітныя постамэнты імпэратарскіх помнікаў, дзе шуміць джатц і скачуць чарльстрот, дзе лявіна аўто, якія ціха нясуцца, адбіваецца ў люстраной паверхні асфальтавага бруку, дзе ярка бліскаюць палацы танц-лёкаляў, дзе старая буржуазія з Unter den Linden выпярэднічае з шыберамі-спэкулянтамі Korfüstendamnia, дзе шумна гандлюць унівэрсальныя Kaufhaus'ы, дзе паветра насычана хваравітай эротыкай, дзе добра адкормленыя краснатварыя пуцаны ў найлепшых дзіцячых вопратках забаўляюцца ў зелені садоў, дзе клінікі для сабак і магазыны сабачых туалетаў, дзе музэі, рэдакцыі, пасольствы...

Але ёсьць і Бэрлін № 2,—дзе паветра прасычана дымам фабрычных труб, дзе шэрыя пахмурыя рабочыя казармы, гэтак пахожыя і звонку і з сярэдзіны, што калі-б ня нумар, не адрозьніш адзін дом ад другога, дзе ў трохсажэнным пакойчыку іншы раз сьпіць пяць чалавак, дзе ў дзесяць гадзін вечара пуста і хмура на вуліцах; адкуль час-ад-часу накіроўваецца пролетарская дэмонстрацыя з чырвоным сьцягам напомніць аб сабе шыберам Вэстэна; дзе за 20 пфэнінгаў здаюцца куткі ў начлежках; дзе дзеці з тварамі колеру зямлі граюць на дварох—вялізарных каменных мяшкох, куды месяцамі не заглядвае сонца; дзе ў бедных няпрытульных піўных голасна лаюць імпэратарскую рэспубліку, на чале якое стаіць вернападданы прэзыдэнт, дзе так шмат сініх блуз, замасьленых куртак і кепак, але дзе ня сустрэнеш ні смокінгаў, ні візытак, ні капялюшоў, куды баяцца заглянуць прадаўцы фашыцкіх газэт, дзе шмат астрогаў і зусім няма музэяў.

Такі Бэрлін № 1 і Бэрлін № 2.

Чужаземцы, якія на кароткі час прыяжджаюць у Бэрлін, заўсёды становяцца ахвярай нейкай обэрацыі. Яны ўвесь час праводзяць у Бэрліне № 1 і зусім ня бываюць у Бэрліне № 2.

Таму Бэрлін яны часта ўяўляюць сабе, як Вэстэн, і вельмі часта яны забываюць пра Нордон. Вельмі шмат увозяць яны ўражаньняў ад Fridrichstrasse, ад Leipzigestrasse, вельмі мала ведаюць Сімэнсштадт і Нэйкэльн.

* * *

Проблема шлюбу, сям'і і адносін полаў набыла ў пасьляваенны час значную вастрату ўва ўсіх капіталістычных дзяржавах. Вайна нязьменна ўносіць зьмену ў галіну сямейных адносін—гэта факт, добра вядомы ўсякаму соцыолёгу і політ-эконому. Але сьляды, пакінутыя мінулай імпэрыялістычнай вайною ў галіне сямейных адносін, ня толькі колькасна, так сказаць, адрозьніваюцца ад таго, што было да гэтага часу. Колькасьць перайшла ў якасьць. Зьмены аказаліся надта глыбокімі для таго, каб пасьля часовай замінкі надышла стабілізацыя, і капіталістычныя дзяржавы сучаснасьці стаяць перад тварам зусім наяўнага крызісу сям'і. Аб сіле гэтага крызісу сьведчаць шматлікія даныя, якія адносяцца да ўсіх буйнейшых капіталістычных дзяржаў-пераможцаў, пераможаных і нэўтральных. Гэты факт павінен быць і будзе, нясумненна, прадметам навуковага дасьледваньня, які мае глыбокую грамадзкую цікавасьць.

На аснове як асабістых назіраньняў, так і літаратурных даных я-б хацеў паказаць, як выявіўся гэты крызіс сямейна-шлюбных адносін у краіне, якую буржуазія лічыла калыскаю сям'і, яе непарушнаю апораю, захавальніцаю сьвяшчэнных сямейных падвалін.

Капіталізм з самага нараджэньня іграў у адносінах да сям'і дэзорганізуючую ролю, уцягнуўшы каханьне, брак і сям'ю ў сфэру капіталістычных інтарэсаў і грашовых зьдзелак, ахутаўшы іх атмосфэрай матэрыяльнай выгады, нажывы і гандлярства. Як далёка зайшоў гэты процэс, відаць з таго, што ўжо ў сярэдзіне XIX веку Маркс і Энгельс лічылі, што яны маюць права самым азначаным чынам кваліфікаваць сям'ю і шлюб капіталістычнага грамадзтва.

Заснавальнікі навуковага соцыялізму не адзін раз кляймілі „бруднае існаваньне“ буржуазнай сям'і. Яны выкрывалі буржуазную шлюбную зьдзелку, пры якой дзьве простытуцыі складаюць „добрачыннасьць“, як у граматыцы дзьве адмоўнасьці складаюць сьцьверджаньне. „Комуністычны маніфэст“ мае старонкі, прасычаныя бязьлітаснай гіроніяй па адрасу сьвяшчэннага разуменьня сям'і, крывадушна ахоўваемага буржуазіяй... „вы, комуністыя, хочаце ўвесьці агульнасьць жонак“,—крычыць нам хорам уся буржуазія. Буржуа глядзіць на сваю жонку, як на простую прыладу вытворчасьці. Ён чуе, што прылады вытворчасьці павінны быць аддаены ў агульнае карыстаньне, і натуральна робіць той вывад, што і жонкі павінны

разьдзяліць той-жа лёс. Ён ня можа дагадацца, што гутарка ідзе аб тым, каб ухіліць тое становішча, у якім яна зьяўляецца простаю прыладаю вытворчасьці. Праўда, няма нічога больш сьмешнага, як высока-моральны жах нашага буржуа з прычыны выабражаемай офіцыяльнай агульнасьці жонак комуністых. Комуністым ня трэба ўводзіць агульнасьць жонак, яна амаль заўсёды існавала... У сапраўднасьці буржуазны шлюб зьяўляецца агульнасьцю жонак. Комуністых можна было-б упікнуць хіба ў тым, што яны хочуць паставіць офіцыяльную адкрытую агульнасьць жонак на месца крывадушна хаваемай. Але само па сабе зразумела, што зьнішчыўшы сучасныя ўмовы вытворчасьці, зьнікне і ствараемая імі агульнасьць жонак, г. зн. офіцыяльная і неофіцыяльная простытуцыя.

Тая характарыстыка, якую Маркс і Энгельс далі сям'і капіталістычнага грамадзтва, грунтавалася ў значнай ступені на іх назіраньнях над сучаснай ім Германіяй. Такім чынам, ужо 8—10 гадоў назад нямецкая сям'я ўяўляла сабою далёка не ідэальную карціну. Калі за мінулы час карціна і зьмянілася, то ні ў якім разе ня ў бок паслабленьня тых тэндэнцый, аб якіх гаворыць Маркс, а ў кірунку іх узмацненьня. Кожны крок капіталізму па шляху яго разьвіцьця ўсё сільней падпарадкоўваў сям'ю законам ладу эксплёатацыі і нажывы. Раскладаючы ўсімі сваімі дзеямі і ўчынкамі сям'ю, робячы яе об'ектам капіталістычнай зьдзелкі, буржуа ў той-жа час не пераставаў гаварыць аб ёй у тоне найвялікшае павагі, абвяшчаў яе калыскаю моральнасьці, падмуркам культуры, альфай і омэгай чалавечага сужыцьця і інш., і інш.

У сваёй бязьмежнай крывадушнасьці германская буржуазія і мяшчанства, што ідзе ў яе на повадзе, зайшлі надзвычайна далёка. А сьвядомыя і бесьсьвядомыя выказьнікі яе настрояў вольныя і нявольныя ідэолёгі германскай буржуазіі аж да самае вайны складалі гімны крыштальнай чыстаце германскай сям'і, яе незаплямленаму моральнаму абліччу, яе моцнасьці і непарушнасьці.

Альбэрт Фрыдэнталь, аўтар фундамэнтальнае працы „Жанчына ў жыцьці народу“, пісаў у 1910 г. аб нямецкай жанчыне, што яе найбольшаю дадатнасьцю зьяўляецца прысьвечаньне сябе дабрабыту сям'і. „Усе яе думкі концэнтруюцца на адным—зрабіць шчасьлівым і давольным мужа, быць можа, яшчэ ў большай ступені выхаваць у дзецях карысных людзей... У адносінах адданасьці нямецкая жанчына стаіць на першым месцы сярод другіх жанчын. Яна на ўсё жыцьцё верна мужу. Нямецкая жанчына заваявала сусьветнае імя, як жанчына дамашняга прымурку“.

Вось якая была характарыстыка, якую з тымі ці іншымі варыяцыямі давалі нямецкай сям'і як ёсьць усе буржуазныя дасьледчыкі ў даваеннай Германіі. І яшчэ на трэцім годзе вайны Кароль Шторк у сваёй кнізе „Нямецкая сям'я“ складаў панэгірыкі нямецкай сям'і, якая рэзка адрозьніваецца ад сем'яў усіх іншых нямецкіх народаў. Нямецкая прытульнасьць сям'і (Шторк ужывае тут слова Gemüt, якое лічыць неперакла-

дальным ні на якую іншую мову), самым цесным чынам зросшыся з інтымнасьцю, надала нямецкаму сямейнаму жыцьцю асаблівы характар... „Кахаць могуць і іншыя, але толькі ў немцаў каханьне нязьменна находзіць свой вянец у шлюбе. Палавыя адносіны ніколі ня былі для немцаў гульнёю. Адносіны да шлюбу сярод немцаў значна больш строгія, як у якога-б то ні было іншага народу". Калі елейныя слоўкі і мёдатачывыя ўслаўленьні нямецкай сям'і яшчэ задоўга да вайны знаходзіліся ў галасьлівай супярэчнасьці з капіталістычнай сапраўднасьцю, якая памоцненым тэмпам раскладала і расхіствала яе славутыя „асновы", то ў гады вайны гэтыя словы гучэлі яўным зьдзекам над сапраўднасьцю. І той-жа аўтар, якога я цытаваў, павінен быў сумна зазначыць, што ідэальная нямецкая сям'я, якую так прыгожа ён характарызаваў, пачынае адыходзіць у мінулае і што ў галіне сямейных адносін пачынаецца пераацэнка каштоўнасьцяй. Гэта пераацэнка каштоўнасьцяй зайшла ўжо ў 1916 г. так далёка, што Шторк вымушаны быў нават задаваць сабе пытаньне аб тым, ці зможа нямецкая сям'я супроцьстаяць гэтаму суроваму часу.

Гэтае пытаньне,—а яго ставіў не адзін Шторк,—азначала ўласна вось што: ці ўдасца германскай буржуазнай сям'і захаваць і пасьля вайны тую абалонку патрыархальнасьці, якая хавала ад чужога вока працэс унутранага раскладу, які даўно адбываўся у нетрах гэтае сям'і?

У апошнія гады вайны і ў пасьляваенны час зьяўляецца ў Германіі шэраг прац, якія ставяць і з вялікаю трывогаю абгаварваюць гэтае пытаньне. Заўсёды задаволена-сантымэнтальны настрой нямецкага буржуа, які гутарыць аб сям'і, зьмяняецца нэрвова-панічным. Ён бачыць, што пачынае расьсейвацца адвечная сямейная ідылія, і ён б'е з гэтае прычыны трывогу. Шторк усёй сваёй кнігай крычыць аб тым, што нямецкая сям'я пад пагрозай і трэба гэту пагрозу адвесьці. Тое-ж робіць Гэнрыета Нэйзэль-Тэс кнігаю, якую яна выдае ў 1921 годзе—„Шлюб як перажываньне". „Вораг ля варот; гэты вораг—сэксуальная рэволюцыя", б'е ў званы фашыцкі публіцысты Гартвіг Гартнэр—аўтар кнігі „Эротыка і раса". Поль Кайзэрлінг—рэакцыйны „ўладар думак сучаснай Германіі, галава так званай Дармштадзкай школы мудрасьці, з вельмі вялікай трывогай гаворыць аб жахліва-сур'ёзным крызісе, які перажывае шлюб. Вядомы романісты Васэрман заяўляе, што шлюбам называецца ўсё, апрача таго, што цяпер азначаюць гэтым іменем. У ліпеньскім нумары часопіс „Жанчына" за 1927 г., органе германскага буржуазна-фэмінцкага саюзу, адна з яго дзеячоў Эрыка Ленфуль пытаецца: „Дзе мы знаходзімся? Як мы дайшлі да гэтага? Што, уласна кажучы, практычна адбылося?"

Тысячы людзей з большаю ці меншаю пакутаю паўтараюць у сучаснай Германіі словы аднаго з гэрояў Якуба Васэрмана „Адвокат Лаудзін": „Зласьлівы лёс ляжыць на ўсім інстытуце шлюбу. Я ўпэўнены, што формы яго не адказваюць больш патрабаваньням жыцьця і формы гэтыя нельга ажывіць. Але што будзе, калі яны будуць цалкам разбу-

раны, калі зьнікне нават той, варты жалю, цень, які ад іх яшчэ застаецца,—і які выгляд прыме тое новае, якое павінна перабудаваць наша жыцьцё, я ня ведаю". І бязвыходнай роспачу нясе ад слоў Лаудзіна,—а Лаудзіных тысячы. „Няхай станецца ўсё, што хочаце, але толькі ня тое, што цяпер завецца шлюбам. Ня турбуйцеся аб падзеньні звычаяў ці аб агульнай разбэшчанасьці. Што можа быць горш таго, што цісьне нам грудзі і зацямняе наш розум".

Як мы бачым, германская буржуазная мысьль апісала на працягу якіх-небудзь 15 гадоў кола—ад елейна-ханжаскіх усхваленьняў нямецкага сямейнага „благачэсьця" да гістарычных енкаў аб сэксуальнай рэволюцыі і вартай жалю бездапаможнасьці перад тварам распаду, які ўжо пачаўся. А тое, што гэты распад зайшоў сапраўды вельмі далёка, таму ёсьць шматлікія доказы. Недарма проблема сям'і і шлюбу стаіць цяпер у Германіі ня толькі ў цэнтры мастацкае творчасьці, але ёй удзяляюць вялізарную ўвагу вучоныя самых розных спэцыяльнасьцяй: політэкономы, біолёгі, філёзофы, юрыстыя, соцыолёгі, дактары і інш.

Мысьль буржуазных дасьледцаў сям'і і шлюбу ў сучаснай Германіі круціцца пераважна ў сфэры двух пытаньняў:

1. Дзе прычына „распаду",—дзе вораг?

2. Як дапамагчы, каб спыніць распад, каб вярнуць „страчаны рай" бюргерска-патрыярхальнага сямейнага шчасьця?

Па пытаньні аб прычыне распаду аднадумнасьці сярод дасьледцаў гэтага пытаньня далёка няма.

Адна з хадзячых гіпотэзківае ў бок Савецкага Саюзу. Калі аб нас на Захадзе ходзіць выстарчальная колькасьць самага фантастычнага глупства, калі буржуазны і соцыял-рэформіцкі друк на ўсе лады распаўсюджвае ўсякія выдумкі адносна Савецкае рэспублікі, то ні ў аднэй галіне, можа быць, гэтая бязглузьдзіца не карыстаецца такім крэдытам, як у галіне, датычнай адносінам полаў. Няма бязглузьдзіцы, якая датыкаецца шлюбных і сямейных адносін у СССР, якая, будучы пушчана ў зварот, не найшла-б сабе ярых пашыральнікаў сярод буржуазных ханжэй і мяшчан усякага рангу. Калі чырвоная Масква зьяўляецца ў вачох заходня-эўропэйскага мешчаніна тым шкодным каніфэрштанам, дзякуючы якому тлумачыцца ўсё, што парушае сямейнае шчасьце і спакой гэтага мешчаніна, калі чырвоная Масква вінавата і ў ангельскай забастоўцы вуглякопаў, і ў ліпеньскім паўстаньні венскіх рабочых, і ў паўстаньні 200,000 болівійскіх індзейцаў, і ў ньюёрскіх падземных выбухах, і ў зьмяншэньні ліку веруючых у Германіі,—калі ад чырвонай Масквы, адным словам, усе „якасьці", то як-жа не прыпісаць яе злашкоднаму ўплыву і псоту сямейнага благачэсьця, якім на ўвесь сьвет пахваляўся германскі буржуа. І ён тыкае пальцам у бок Савецкага Саюзу для таго, каб вытлумачыць, чаму ад яго славутай мяшчанскай моральнасьці засталіся рожкі да ножкі. Да яго паслуг пры гэтым размаляваная паслужлівымі

газэтчыкамі жахлівая карціна Савецкага Саюзу, дзе разбурана сям'я, дзе у галіне палавых адносін пануе амаль першабытны хаос, дзе лютуе сыфіліс, дзе бушуе стыхія абортаў і інш., і інш.

Выданая ў 1920 г. с.-д. выдавецтвам Дзітца кніжка нейкага Галіна так абмалёўвае, напрыклад, звычаі Савецкага Саюзу. Сямейнае жыцьцё разбураецца. Мужы не пазнаюць сваіх жонак, жонкі—мужоў. Усё круціцца і скача на вулькане. Карты, гарэлка, жанчыны і на момант асалода. Пануе няўтрымная разбэшчанасьць. У кнізе Гартвіга Гартнэра, якая ўжо мною называлася, друкуюцца, як бясспрэчны матэрыял „зіноўеўскія лісты" наступнага, напрыклад, зьместу: „Савет гэтым дае поўнамоцтвы таварышу Рыгору Сараеву даставіць для патрэб расквартыраванага ў Мурзілаўцы артылерыйскага дывізіёну 60 жанчын і дзяўчат клясы буржуазіі і спэкулянтаў..."

А ў вельмі солідная „гісторыі простытуцыі" Вольфганга Зорге прыводзіцца славуты „дэкрэт" саратаўскага клюбу анархістых аб абмене прыватнай уласнасьці на жанчын, які выкладзены ў цэлых 19 параграфах. Нават у частцы спэцыяльна-юрыдычнай літаратуры гавораць аб савецкім сямейным праве, як рэглямэнтуючым амаль-што не проміскітэт. Бюргер-жа непарушна ўпэўнены ў дэкрэце аб нацыяналізацыі жанчын, і ў спробных шлюбах, і ўва ўсім тым, аб чым жартуюць сатырычныя часопісі і куплетуюць у рэвю. Няма нічога дзіўнага, такім чынам, што, каб адшукаць вінавальнікаў бяды, якая расхістала сямейныя падваліны Германіі, ён раней за ўсё зварачае свой погляд у бок чырвонай Савецкай краіны і панічна галосіць: „Мы знаходзімся перад сур'ёзнаю небясьпекаю, але перамога бальшавіцкай моралі аб каханьні яшчэ можа быць адхілена. Мы павінны ўсё аддаць для таго, каб зноў адшукаць цьвёрдую глебу пад нагамі" (Эрыка Ленпфуль).

Але так не заўсёды,—іншы раз гэты погляд зварачаецца ў бок далёкай усемагутнай заатлянтычнай рэспублікі. Я ўжо казаў, што з часу Вільсонавых скрыжаляў міру нямецкі бюргер прывык усё сільней адчуваць сваю залежнасьць ад таго самага янкі, да якога ён з такою зьнявагаю адносіўся да вайны. Распад сям'і нярэдка ставіцца ў залежнасьць ад амэрыканскага ўплыву. Сямейныя падваліны рухнулі, таму што сям'я амэрыканізавалася. У чым-жа выказалася гэта амэрыканізацыя сям'і?

Амэрыканізацыя ўсяго жыцьця прывяла да канечнасьці пагоні за заработкам. Мужчына цалкам паглынуты „шуканьнем грошай". Час у яго таксама абернуты ў грошы. Усё гэта прыводзіць да таго, што мужчына адрываецца ад сям'і, якой ён аддае нікчэмную колькасьць часу. Сьледам за амэрыканскай жанчынай і жанчына нямецкая ўсё больш эмансыпуецца ад экономічнай залежнасьці мужа: яна—работніца, студэнтка, шофэр, газэтчык і г. д. Грамадзкае жыцьцё, парлямантарызм усё больш захапляе і мужчын і жанчын, вольны час і мужчына і жанчына трацяць па-за

сям'ёю—яго паглынаюць кафэ, спорт, тэатры, кіно, клюб,—мастацтва, падмуркам якога была нямецкая сям'я, адышло з яе. Малярства перавандравала на выстаўкі, музыка стала канцэртнай. Тэрмін Familionliteratur стаў словам для лаянкі. Сям'я перастала нават быць організацыяй жыўленьня, жыцьцё рэсторанізавалася. „Пры такім укладзе жыцьця,—заўважае Шторк,—сям'я ўжо не зьяўляецца, як да гэтых часоў, цэнтрам жыцьця, а ўласна абарачаецца ў месца спатканьня членаў сям'і—каб жыць і есьці (nicht der Mittelpunkt nur noch ein Tieffpunkt).

Іншыя аўтары схільны тлумачыць тыя-ж зьявы і ўвесь процэс распаду сям'і ўплывам яўрэйства. Яўрэйства прынесла ўсяму чалавецтву, і асабліва нямецкаму чалавецтву, сэксуальную рэволюцыю, самую страшную з усіх, якая нясе надта цяжкія пакуты. Яўрэйства з яго няўтрымнымі палавымі інстынктамі, з яго бязьмежнай сэксуальнасьцю заразіла ўсё эўропэйскае чалавецтва. Яно дамаглося распаду сям'і праз марксыцкі матэрыялізм, праз літаратуру, праз кіно, праз моды, праз газэты. Яно радзіла Шніцлера, Васэрмана, Нордаў, Фрэйдлера, Адлера, якія пасьвяцілі—хто ў літаратуры, хто ў навуцы, хто ў філёзофіі—палавую разбэшчанасьць. Гэта яно прымусіла эўропэйскую жанчыну надзець спадніцу, якая не дасягае кален, і фарсіць у Bubikopf.

Урэшце, цікавая спроба растлумачыць сучасны стан сям'і ўплывам пролетарыяту. Такую спробу робіць, напрыклад, Поль Эрнст, адзін з прыхільнікаў графа Кайзэрлінга—вядомы драматург і аўтар кнігі „Крах марксызму".

Эрнст у сваёй спробе выходзіць з вельмі сваеясаблівай прадпасылкі, што ў сучасным грамадзтве ідэолёгічная гегемонія належыць пролетарыяту, разбуральным тэндэнцыям якога буржуазія ня можа супроцьставіць нічога станоўчага. Характэрнаю адзнакаю пролетарыяту зьяўляецца адсутнасьць якой-бы то ні было вышэйшай жыцьцёвай мэты, неразуменьне сусьветнага адзінства сьвету і пачуцьцё без адказнасьці. Дзякуючы такому сьветапогляду, пролетарыят варожы ня толькі пэўнай, гістарычнай форме шлюбу, але ён прынцыповы вораг шлюбу як такога. Гэтую яго ідэолёгію пераняла ў пролетарыяту і буржуазія. Такім чынам, зышліся крайнасьці: „Няма ніякай розьніцы паміж амэрыканскай мільярдэрщай, якая сьвяткуе свой 25-ы развод, і фабрычнай работніцай, якая ідзе з працы дамоў, упрыгожвае сябе таннымі бліскучкамі, сьпяшаецца ў танцавальную залю і ўначы варочаецца дадому з мужчынаю, за якога, быць можа, яна потым выйдзе замуж, а быць можа якога больш ніколі ня ўбачыць. Няма ніякай розьніцы паміж жанчынаю-доктарам, якая пакідае сваіх дзяцей на служанку для таго, каб наведаць хворых, і якая пры гэтым верыць, што яна дапамагае вызваленьню свайго полу, і работніцаю, якая пасылае сваіх дзяцей на вуліцу, каб самой ісьці на фабрыку, і якая пры гэтым верыць, што яна робіць першы крок да дзяржавы будучыні, дзе аб дзецях будзе клапаціцца грамадзтва..."

Эрнст скардзіцца, што Германія ў гэтых адносінах пайшла ўжо так далёка, што найбольшы лік па-за шлюбных нараджэньняў разглядаецца як паказальнік вышэйшай моральнасьці якой-небудзь галіны.

Я прывёў шэраг ацэнак сучаснага крызісу нямецкай сям'і, якія ідуць з буржуазнага боку. Усе гэтыя ацэнкі—пры ўсёй іх розньіцы—зыходзяцца ў адным: яны шукаюць вінавальніка тых пакут, якія абваліліся на сям'ю, выдумляюць спосабы барацьбы з гэтым уяўным вінавальнікам і разглядаюць увесь крызіс як часовую зьяву. Паміж тым, той стан, які перажывае цяпер нямецкая сям'я, зьяўляецца натуральным і няўхільным вынікам доўгага гістарычнага процэсу, які пачаўся з укараненьнем у Германіі капіталізму,—прыпамятаем характарыстыку, якая прыводзілася Марксам і Энгельсам,—і які дасяг выключнай вастраты ў пасьляваенныя гады. Вось чаму беспадстаўны і наіўны спробы ідэолёгаў буржуазіі вывесьці сям'ю з таго крытычнага стану, у якім яна цяпер знаходзіцца, і вярнуць яе да ранейшае прытульнасьці спакойнай і ханжаскай дабрачыннасьці. Спробы гэтыя ідуць у самых розных кірунках, пачынаючы з выпрацоўкі дасканалай фізыолёгічнай тэхнікі шлюбных адносін, разглядаемай, напрыклад, у кнізе, якая нарабіла шуму, Ван-дэ-Вэльдэ „Дасканалы шлюб“, і канчаючы абвяшчэньнем шлюбу па-за часовай і па-за прасторавай апрыорнай катэгорыяй.

У апошнім кірунку заслугоўвае цікавасьці пачынаньне Кайзэрліта, які аб'яднаў навакол выпушчанага ім выданьня шэраг вядомых мастакоў, філёзофаў, соцыолёгаў, дактароў, пачынаючы Рабіндранат - Тагорам і Эрнстам Крэчмерам, канчаючы Томасам Маннам і Альфрэдам Адлерам, з канцоваю мэтаю ўгрунтаваць трансцэдэнтнае пазаэмпірычнае разуменьне шлюбу, супроцьпаставіўшы яго конкрэтнаму, соцыолёгічнаму зьместу філёзофскі абстрактны ідэал. Але ўсё ідзе сваёю чаргою і трэціруе манілаўскія мары ва ўмовах капіталізму „пабудаваць новы шлюб, навізна якога складаецца ў тым, каб ажыцьцявіць сапраўдную спрадвечную ідэю шлюбу, каб аднавіць яе вартасьць“,—як кліча поэтэса Майзэль-Гэс.

На фоне распаду сям'і і бясплодных спроб прыпыніць гэты распад з дапамогаю пастарскіх навучаньняў, ідэалістычных загавораў і рэфармiцкіх лекаў разьвіваецца супроцьлеглая тэндэнцыя—„падштурхнуць падаючага“, і сямейна-шлюбным формам капіталістычнага грамадзтва, якія разлажыліся, супроцьпаставіць прынцып эмансыпаванага ад дзяржаўнага ўціску,—якому неўласьціва знадворная рэглямантацыя, якое пазбаўлена умоўнасьці—свабоднага каханьня. Так доктар Фэлікс Зернаў у выпушчанай выдавецтвам „Сындыкалісты“ брошуры „Фіаско моногаміі“ заклікае будаваць адносіны полаў выключна ў падпарадкаваньні голасу прыроды, ігноруючы такім шляхам грамадзкую думку і памятаючы, што „калі зьзяе сонца, калі цьвіце роза, калі мужчына і жанчына злучаюцца ў каханьні... усё гэта звычайныя зьявы прыроды, якія ня маюць нічога агульнага з моральлю“. Прыкладна таксама вырашае пытаньне і Пауль Альбрэхт, які кажа: „Ніякае права ўласнасьці не павінна надалей зьвязваць каханьне і яе об'екта.

Рука аб руку з вызваленьнем чалавецтва ад ярма экономічнай і прыватнай уласнасьці будзе само па сабе да самага канца ажыцьцяўляцца і вызваленьне каханьня. Аднак, у старым будынку хлусьні, якая зьвязвае каханьне, ёсьць каменьне, якое трэба вырваць ужо сягоньня...“

Іншы раз анархічныя спробы „вырываць каменьне“ выліваюцца ў формы агародніцтва і вядуць да ўтварэньня сваясаблівых сэксуальных сэктаў, як, напрыклад, арганізаваная ў 1925 г. нейкім Мук-Лямбэрці ў складзе 25 маладых людзей абодвух полаў ліга свабоднай любві, якая абышла сваёю пропаведзьдзю амаль усю Цюрынгію і папала ў астрог.

Ня гледзячы на ўсю глыбіню, якое дасяг ужо сямейны распад, буржуазія шалёна праціўіцца ўсякай спробе гэты распад легалізаваць і жорстка помстуецца кожнаму, хто робіць такую спробу. У гэтых адносінах вельмі паказальны лёс левага пісьменьніка Гуго Бэтауэра, які выступіў у якасьці энэргічнага пропагандыстага радыкальнай шлюбнай рэформы. У 1924 г. Бэтауэр заснаваў у Вене часопіс „Ён і яна“. Бэтауэр абвяшчаў, што формы і прынцыпы сучаснага шлюбу закасьцянелі. Ён кляйміў грамадзкую думку, якая стаіць на варце шлюбу, інстытуту амаль нязьменнага з часоў хрысьціянства. „Разрыў шлюбу—злачынства; пазашлюбнае дзіця—закляймёнае; дзяўчына, якая аддаецца мужчыне бяз шлюбу,—загінуўшая, калі яна прадае сябе з-за пакутнай бядоты—проститутка, якая стаіць па-за законам...“ Бэтауэр абвясьціў вайну грамадзкай думцы, якая санкцыянуе шлюб-продаж, але лічыць злачынствам каханьне бяз шлюбу, якая ўзнагароджвае зьнявагаю і насьміханьнямі, як „старой дзеве“—жанчыне, якая ня вышла замуж, але якая таксама кляйміць яе, калі яна пазнае каханьне бяз шлюбу. Бэтауэр сьцьвярджаў, што капіталізм часткова ўжо пагнаў жанчыну з спальні, кухні, дзіцячага пакою на фабрыку, у кантору, школу, але яна яшчэ застаецца запрыгоненай... Бэтауэраўская часопісь знайшла шырокае распаўсюджаньне. Яна скора дасягла 40-тысячнага тыражу. Але вакол Бэтауэра зараз-жа паднялася бура. Прысяжныя вартаўнікі моральнасьці капіталістычнага грамадзтва абрушыліся супроць „пачварнай пропаведзі разбэшчанасьці“.

Профэсары Венскага Унівэрсытэту выступілі супроць „magister sexualis“, а паліцыя пасадзіла яго на лаўку падсудных. Але калі суд апраўдаў Бэтауэра, газэты яшчэ ўзмоцнілі кампанію цкаваньня—і яна прынесла вынікі. 10-га сакавіка 1925 г. Бэтауэра забіў якісьці 20-гадовы хлапчук—зубны тэхнік, які выступіў на абарону грамадзкай моралі....

Я спыніўся на эпізодзе з Бэтауэрам для таго, каб паказаць, як рэўніва адносіцца капіталістычнае грамадзтва да ўсякіх замахаў на яго спарахнеўшыя сямейныя падваліны.

А тое, што гэтыя падваліны сапраўды зусім згнілі, сьведчыць усякае датыкненьне з бытам сучаснай нямецкай сям'і,—і адбітак гэтага быту ў мастацкай літаратуры, і вастрата, з якою гэтае пытаньне ставіцца цяпер у навуковай літаратуры розных галін, і, урэшце, шматлікія

разважаньні аб сучасным шлюбе, якія выказваюцца вельмі аўторытэтнымі ідэолёгамі буржуазіі,—частку гэтых разважаньняў я прыводзіў. І трэба быць даньнікам опортуністычнай тэндэнцыі, каб маляваць карціну параўнаўчага добрага становішча пытаньня, як гэта робіць, напрыклад, у ліпеньскім нумары аўстрыйскае с.-д. часопісі „Den Kampf“ за 1927 г. Алена Бауэр.

Калі спытаць сябе, што адбылося ўласна з нямецкаю сям'ёю, дык было-б грубаю памылкаю разглядаць яе сучаснае становішча, як вынік нечаканага ўдара грому з яснага неба.

Ні аб якім чорце, які сваім раптоўным зьяўленьнем разбурыў векавую ідылію нямецкага сямейнага благачэсьця, гаварыць, зразумела, ня прыходзіцца. Мы можам толькі сьцьвярджаць, што ў сьвятле вайны стаў асабліва выразным той процэс, які адбываўся даўным даўно і які буржуазія спрабавала схаваць пад сяма прасьціраdламі ханжаства і фальшывасьці.

„Сям'я распадаецца ўсё больш і больш. Чым вышэй грамадзкая організацыя, тым больш сямейных функцый абарачаецца ў грамадзкія. Гэты процэс „дэзынтэграцыі сям'і“ зможа спыніцца толькі тады, калі сям'я перадасьць грамадзтву ўсе соцыяльныя функцыі і абернецца („heraus differenziert“) у чыста генэономічнае ўтварэньне“.

Так характарызаваў гэты процэс яшчэ ў 1911 г. найбольш выдатны з дасьледцаў сям'і нямецкі соцыолёг Мюльлер-Ліэр.

Вайна і пасьляваенная экономічная сытуацыя Германіі процэсы, што адбываліся ў нетрах сям'і, ня толькі зрабілі яўнымі, але іх таксама завастрылі і паглыбілі. Сям'я пачала „дэзынтэгравацца“ з вялізарнай хуткасьцю. Трудавая дыфэрэнцыяцыя ахапіла самыя шырокія пласты жаночага насяленьня Германіі. Экономічная, політычная і сямейная эмансыпацыя жанчыны расхістала пажыцьцёвую прымусовую моногамію, якая зжыла сябе.

У выніку—сучасны крызіс сям'і, аб якім ужо вераб'і крычаць з усіх часопісных і газэтных стрэх.

Каб даць дасканалы аналіз становішча сучаснай германскай сям'і, варта было-б, зразумела, раней за ўсё зрабіць яе дэтальнае клясавае распластаваньне і весьці разважаньне па лініі клясавай дыфэрэнцыяцыі. Гэта павінна быць прадметам спэцыяльнага соцыолёгічнага дасьледваньня якое, аднак, пры ўсёй сваёй глыбокай цікавасьці, завяло-б нас вельмі далёка за межы гэтае тэмы. Таму я прымушаны абмежавацца толькі сьціслым паказаньнем на тое, што процэс разьвіваўся не аднолькава ўсюды. Напрыклад, можна сьцьвярджаць, што найбольш непарушнай аказалася сям'я заможнага селяніна—серадняцкая сям'я; найбольш далёка пайшоў процэс раскладу ў асярэдзіне так званага сярэдняга гарадзкога стану—Mittelstand'а, больш дакладна—у асярэдзіне дробнай буржуазіі і інтэлігенцыі; і, нарэшце, у пролетарскай асярэдзіне намячаюцца пакуль

што яшчэ ня досыць выкрысталізаваныя прынцыпы новых шлюбных адносін, слабыя зародкі сямейнай арганізацыі грамадзтва будучыні.

Азначальнай рысай буржуазнага шлюбу было тое, што ён уяўляў сабою ў пераважнай большасьці выпадкаў не свабодны саюз двух людзей на аснове ўзаемнае пацягі, а саюз, заснаваны на экономічным разьліку. Так было, пачынаючы з яўных форм куплі,—цераз прамежную стадыю шлюбу з пасагам,—канчаючы замаскаванаю формаю зьдзелкі, пры якой муж—дабывальнік матэрыяльных каштоўнасьцяй, а жонка—іх спажывец.

Яшчэ задоўга да вайны Макс Нордау сьцьвярджаў, што з дзесяці сучасных шлюбаў дзевяць заключаюцца па матэрыяльнаму разьліку, а вядомы дасьледчык сэксуальнай проблемы Іван Блох азначаў цыфру заключаемых у Германіі па разьліку шлюбаў у 75 проц. Ужо напярэдадні вайны справа шлюбнага пасярэдніцтва ў Германіі пачала пераходзіць ад саматужных форм да арганізацыі спэцыяльных капіталістычна-арганізаваных бюро. Некаторыя з гэтых бюро ў сваім капіталістычным размаху дайшлі да выданьня спэцыяльных бюлетэняў з весткамі аб асобах, якія жадаюць жаніцца; бюлетэні гэтыя мелі ў сябе клясыфікацыю кандыдатаў і іншыя весткі аб іх.

Па пытаньні аб форме шлюбнага пасярэдніцтва напярэдадні вайны нават адбываліся ажыўленыя дыскусіі ў часопісях „Neue Generation“, „Archiw für Rassen und Gesellschaftsbiologie“ і іншых выданьнях.

Па меры ўсё большага падпарадкаваньня шлюбу капіталістычным формам куплі-продажу, пры яго заключэньні пачынаюць іграць відную ролю газэтныя абвесткі. У кнізе профэсара Матайя „Шлюбнае пасярэдніцтва і шлюбныя абвесткі“, якая вышла ў 1920 г., указваецца, што ўжо да вайны газэтныя абвесткі займалі вельмі важнае месца ў справе заключэньня шлюбаў. Пасьля вайны гэтая роля дасягла найбольшых памераў.

Перада мною нядзельны нумар газэты „Лёкаль-Анцэйгер“. Гэты нумар вельмі тыпічны і нічым не адрозьніваецца ад іншых. У аддзеле абвестак зьмешчана 314 шлюбных абвестак.

У невялікай частцы гэтых абвестак пад тымі ці іншымі маскамі прапануюць свае паслугі поўпрофэсыянальныя проституткі. Пераважная-ж большасьць абвестак носіць зусім дзелавы характар і выходзіць ад кандыдатаў, каб заключыць шлюб.

Што-ж вымагаецца гэтымі шлюбнымі абвесткамі? У 90 проц. абвестак асноўнай прадпасылкай зьяўляюцца ўмовы матэрыяльна-экономічнага характару. Указваецца дакладна колькасьць патрабуемых у якасьці пасагу марак, які павінен быць заработак будучага мужа, якую ён павінен мець маемасьць, якою ён павінен займацца профэсыяй і г. д. Экономічныя патрабаваньні настолькі домінуюць у большасьці шлюбных абвестак, што вы зусім забываеце, што гутарка ідзе аб будучым саюзе двух жывых людзей, а вам здаецца, што тут ажыцьцяўляецца зьдзелка

паміж двума прадпрыемствамі, адно з якіх жадае „ўжаніцца“ („einheiraten“) у другое. „Маладая мільянэрша жадае ўжаніцца ў сусьветную лесаэкспортную фірму“. „Энэргічны, здольны і адукаваны комэрсант жадае ўжаніцца ў галянтарэйную справу...“

Значна меншае месца, як экономічныя адзнакі, займаюць патрабаваньні, так сказаць, біолёгічнага характару. У 25 проц. абвестак разглядаемага нумару ад будучых шлюбных партнэраў вымагаюцца пэўны рост, аб'ём, колер валос і г. д.

Формулёўкі зусім дакладныя і без захаванага сэнсу. Ад жаданага мужа патрабуецца рост ня менш 170 сантымэтраў, ад жаданай жонкі вымагаецца патрабаваньне „зграбных прыгожанькіх ног“. Якісьці купец шукае жонку, якая можа езьдзіць за горад на пагулянкі, і г. д., і г. д. Урэшце, у 15 проц. маюцца і духоўныя, так сказаць, дэзыдэраты. Патрабуецца ад партнэра каханьне прыроды, каханьне музыкі, схільнасьць да спорту, цікавасьць да малярства, веды поэзіі і інш.

Эпоха, у якую нямецкія мяшчане гаварылі аб шлюбе, як аб бліскучым сузор'і „Geist“, „Körper und Geschaft“, даўно зьнікла. Як можна бачыць на прыкладзе тыповага нумару з нямецкай газэты з яе абвесткамі аб шлюбе, „Geist“ даўно адляцеў, „Körper“ пастараніўся і шлюб абярнуўся ў звычайны „Geschaft“—адну з тых безьлічных зьдзелак, з якіх саткана ўсё жыцьцё капіталістычнага грамадзтва.

Шлюб па разьліку, характар якога вельмі дакладна азначаецца характэрным нямецкім тэрмінам Kaufehe,—зразумела, самая няпэўная глеба, на якой толькі можа будавацца будынак сям'і. Сучасная Германія добра ведае, як хутка гэты будынак абарачаецца ў найгоршы від катаржнага астрогу, у арэну, на якой разыгрываюцца трагічныя конфлікты, якія можна бачыць і якіх яшчэ часьцей бачыць нельга, якія прыводзяць да гібелі або злачынства. І тым ня менш яна ў імя сьвяшчэннага прэстыжу моральнасьці спрабуе змацаваць гэты будынак абручом дзяржаўнага прымусу. Сучаснае германскае права ставіць прынцып разводу ў вельмі нізкія граніцы. І ў сотнях выпадкаў, калі адна з старон цераз суд патрабуе разводу, вартаўнік права і справядлівасьці ў асобе сям'і адмаўляе ў гэтым, абвяшчаючы, што „пані X надалей павінна ў адносінах да пана У поўнасьцю выконваць устаноўленыя законам супружаскія абавязкі“, як мне нядаўна прышлося прачытаць у аднэй з шматлікіх газэтных справаздач... Германія, зразумела, у гэтых адносінах пайшла ўперад у параўнаньні з Аўстрыяй і Італіяй, дзе да гэтага часу яшчэ пануе сярэднявяковае адмаўленьне разводу, але і германскае сямейнае права захоўвае ў сабе яшчэ досыць сярэднявяковых перажыткаў. Тым ня менш, струмень жыцьця прарывае ўсе юрыдычныя гаці, якія ставіць на яго шляху рэакцыйны захавацель падвалін. Лік разводаў у Германіі паступова, але нязьменна рос і ў даваенныя гады, але з часу вайны крывая разводаў пачала рабіць рэзкія падскокі ўверх. У 1913 г. на

кожныя 100.000 насельнікаў прыходзілася ў Германіі 26,1 разводаў, у 1923 г.—55, у 1924 г.—57,3 і ў 1925—55,3, гэта значыць лічба, якая стабілізавалася ў апошнія гады, больш як у два разы перавышае даваенную. Такога падскоку ня ведае ні адна іншая краіна капіталістычнага сьвету.

Яшчэ больш істотным паказьнікам, як разводы, зьяўляецца так званае Freundschaft—добрачынны ці, больш дакладна, ваколшлюбны інстытут, які атрымаў вельмі пашыранае распаўсюджаньне ў сучаснай Германіі. Freundschaft—саюз двух маладых людзей, якія жывуць паасобна і маюць сыстэматычныя спатканьні. Такія саюзы звычайна цягнуцца досыць доўгі час—ад некалькіх месяцаў да некалькіх дзён,—прычым іншы раз яны пераходзяць у легальны шлюб; большаю-ж часткаю яны канчаюцца разрывам, абумоўленым уваходам аднэй з старон партнёраў у экономічна выгадны шлюб. У часе Freundschaft'у, як я казаў, староны маюць звычайна паасобныя кватэры і захоўваюць экономічную незалежнасьць адна ад другое. Freundschaft было добра вядома і ў даваеннай Германіі, але ў цяперашні час яно набыло выключны размах, у значнай ступені абумоўлены канечнасьцю для Mittelstand'а пасылаць падросткаў на заработкі. 17-гадовая дзяўчына, якая зарабляе 80 марак на пасадзе стэнотыпісткі або прыказчыцы, адчувае сябе экономічна незалежнай ад сям'і; разам з тым слабее яе залежнасьць ад бацькаўскай апекі. У яе хутка ўзьнікае сувязь з маладым чалавекам, у якога такое-ж самае становішча. На жаль, няма статыстычных даных, якія характарызуюць Freundschaft, ды такія наўрад ці магчымы. Але многія з тых, што пабывалі ў Германіі і добра ведаюць побыт яе, з якімі мне прыходзілася гутарыць на гэту тэму, сьцьвярджаюць, што Freundschaft ахапляе ня менш трох чвэрцяй нямецкае гарадзкое моладзі ва ўзросьце ад 17 да 25 год. Такім чынам, поруч з легальным шлюбам у сучаснай Германіі існуе вельмі шырока распаўсюджаны ваколшлюбны інстытут, які нямецкі буржуа сам характарызуе як „Wilde Ehe".

Аб шлюбе і сям'і сучаснай Германіі, як і ўсюды, нельга, зразумела, скласьці сабе пэўнага ўяўленьня, калі прайсьці міма пытаньня аб простытуцыі.

Калі шлюб па разьліку шмат якія мысьліцелі ўжо даўно характарызавалі як захаваную форму доўгай простытуцыі, то простытуцыя, пачынаючы яе завуалізаванымі відамі і канчаючы такімі, якія носяць характар адкрытага промыслу, служыць нязьменным падарожнікам шлюбу ў капіталістычным грамадзтве.

Пытаньне аб простытуцыі ў Германіі нашых дзён павінна быць прадметам асобнае гутаркі. Я-ж абмяжуюся паказаньнем на надзвычайна сільны рост простытуцыі ў пасьляваеннай Германіі і на вялізарны процант простытутак, які пачаў даваць Mittelschtand да вайны, самазадаволена ўпэўнены, што рабіць даставу грамадзтву прадаўшчыц свайго цела—лёс ніжэйшых станаў...

Асаблівага ўпамінку заслугоўвае Бэрлін, дзе лічба зарэгістраваных профэсыянальных простытутак перавышае 800.000, дзе чалавечае цела прадаецца на вуліцы, таксама як запалкі і газэты,—толькі з непараўнана большай нахабнасьцю.

Дзесяткі тысяч жанчын у любой частцы гораду, у любую гадзіну дня і ночы настойліва прапануюць праходзячым сваё цела. Пры гэтым посул значна перавышае попыт, і пераважная большасьць простытутак вядзе поўгалоднае існаваньне.

Было-б вартым жалю самаабманам разглядаць сучасны стан нямецкае сям'і, як вынік часовага крызісу. Толькі рэакцыйныя утопістыя могуць думаць, што пройдзе некаторы час—і рака паплыве назад і нямецкая сям'я зноў выступіць перад сьветам у белых рызах. Тое, што цяпер перажывае нямецкая сям'я,—рэзультат доўгага гістарычнага процэсу. Гэта не часовы крызіс, а пераход, выкліканы ў асноўным масавым уступленьнем нямецкай жанчыны на шлях экономічнай самастойнасьці. Да вайны нямецкае бюргерства глядзела на жанчыну-працаўніцу з мяшаным пачуцьцём спагады і зьнявагі. Цяпер з 2.175.000 жанчын Бэрліну 799.000, г. зн. 36,8 проц., працуе ў розных галінах прамысловасьці, гандлю і кіраўніцтва. Калі падлічыць лік непрацаздольных па ўзросту і фізычнаму стану, то гэта значыць, што большая палавіна жанчын Бэрліну занята профэсыянальнай працай.

У паасобных галінах бэрлінскай прамысловасьці жанчына нават складае большасьць адпаведнага пролетарыяту. Так, напрыклад, у хэмічнай індустрыі жанчыны складаюць 52,4 проц. усіх рабочых, у тэкстыльнай—64 проц., у пашыцьці адзежы—74 проц.

Тое зрушэньне ў экономічным становішчы жанчыны, якое зрабіла вайна, зьяўляецца важнейшым фактарам распаду сучаснай нямецкай сям'і.

Гэты распад, зразумела, скончыцца не зваротам назад,—ён павядзе ў канечным падрахунку да новых форм шлюбна-сямейных адносін, рэалізацыя якіх ляжыць ужо па-за межамі клясавага грамадзтва.

* * *

Для таго, каб скласьці сабе больш ці менш яснае ўяўленьне аб быце і абліччы сучаснага германскага студэнцтва, трэба, зразумела, раней за ўсё прыпамятаць аб тым, што ўяўляе сабою даваеннае германскае студэнцтва. Зрабіць гэта тым больш патрэбна, што германскае студэнцтва было вельмі сваяасаблівую зьяваю на даваенным грамадзкім фоне.

Я ўжо не кажу аб тым, што студэнт Германіі па сваім абліччы ня меў нічога агульнага з студэнтам Расіі—у пераважнай большасьці разначынцам, выхадцам з асярэдзіны сярэдняй і дробнай буржуазіі і чыноўніцтва—дэмократам, напоўгалодным энтузіастым, народным пакутнікам, протэстантам, бунтаўшчыком...

Германскі студэнт рэзка адрозніваўся таксама ад ангельскага студэнта, які ў напоўманастырскіх сьценах арыстократычнага Оксфорду

і буржуазнага Кембрыджу настойліва рыхтаваў сябе ў дзяржаўныя дзеячы вялікай Брытаніі—рыцара снобізму і шляхецтва, і студэнта францускага, заўсёды вясёлага сына вясёлай богэмы.

Асноўныя кадры даваеннага германскага студэнцтва комплектаваліся з асярэдзіны кіруючых кляс Германіі—з яе памешчыцка-юнкерскіх і буйна-буржуазных пластоў. Юнкерская буржуазная моладзь, якая складала пераважны процант усяго даваеннага германскага студэнцтва, увасабляла сабою і закахана культывавала тыя станава-прыгоньніцкія забабоны, якія адрозьнівалі парадзіўшыя яе клясы і якія абарачалі яе ў станавую організацыю амаль фэўдальнага характару. Гэта „маладая гвардзія" памешчыкаў і фабрыкантаў навучалася ў сьценах вузаў пякнотам цывілізацыі, узбройвалася тут ведамі для таго, каб сьмела і ўпэўнена стаць у шэрагі свае клясы, каб быць дастойным спадчыньнікам сваіх паразітычных бацькоў, каб усё вышэй падымаць над зямлёю сьцяг германскага імпэрыялізму. Такія былі мэты, якія бачыў далёка перад сабою даваенны германскі студэнт (я тут, як і ўсюды, кажу аб студэнце тыповым для пераважнае большасьці, але ні ў якім разе не аб адзіным тыпе германскага студэнта) і якія дыктавалі ўвесь характар яго паводзін. Але для таго, каб зразумець гэтыя паводзіны, трэба памятаць, што гістарычная традыцыя патрабавала ад кіруючых кляс даць сваёй „маладой гвардзіі", сваёй залатой моладзі права на вольнасьць,—тое права, якое вызваляла гэтых 25-гадовых маладых людзей ад умоўнасьцяй, што панавалі сярод сталых членаў іх кляс, і якое абарачала германскае студэнцтва ў сваясаблівую бурсу. Гэта студэнцкая вольніца sui generis карысталася неабмежаваным правам на буянства, разгул, хадзіць на галаве,—і гэта ўзводзілася ў асаблівы культ і акалялася рыцарскім рытуалам. Раней як жыцьцё ўносіла яго ў якасьці сьпелага мужа ў ціхую прыстань мяшчанскага сямейнага жыцьця і эксплёататарскага комфорту, раней, як нацягнуць на сябе філістэрскі шляфрок, стаўшы верным сынам бога, цара і германскае радзімы,—германскі арыстократ карыстаўся правам некалькі год вар'яцець. Гэты пэрыод дурасьлівасьці адносіўся да першых гадоў жыцьця яго ў унівэрсытэце. За шырмаю корпоранцкай організацыі, закліканай засланяць ад чужога зроку ўсю жудасную пустэчу, увесь моральны нігілізм яе членаў, арыстократычныя адгаліна-ваньні і юнкерскія выродкі, увабраныя ў сьмяхотную адзежу, ажыцьцяўлялі прывілею буянства і свавольства, што давалася ім паважанымі і магутнымі бацькамі, якія задаволена глядзелі на тое, як дзеці дурэюць, як вар'яцеюць іх насьледнічкі, падобна таму, як 30 год таму назад вар'яцелі яны самі, яны—цяпер слупы патрыотызму і рэлігіі, захавацелі моральнасьці, апора дзяржавы.

Вуліцы ціхіх нямецкіх гарадкоў усіх гэтых Гэйдэльбэргаў, Бонаў, Іен, Марбургаў, Вюрцбургаў прывыклі бачыць буяную, напалавіну п'яную чараду студэнтаў, якая то тушыць ліхтары, то брудзіць на тротуарах,

выконваючы свае фізыолёгічныя патрэбы, то наладжвае кашачыя концэрты за сьценамі дома, дзе жыве няпрыступная дама, якая запаланіла адно або некалькі корпоранцкіх сэрцаў. А нямецкі абыватаăь, крамнік, дробны чыноўнік, служачы,—такі пэдантычны, такі дакладны, такі аўтоматычны,—лічыў гэта зусім зразумелым, патрэбным, натуральным,—так забаўлялася залатая моладзь, будучыя гэхэймраты і комэрцыенраты. Хіба можна было ім перашкодзіць? Германскае студэнцтва мае за сваімі плячамі 500-гадовую гісторыю. Немцы—„народ гістарычны“, і 500-гадовая студэнцкая гісторыя ўвасоблена ў безьлічы пісаных гісторый. Вазьмеце вось любую такую гісторыю, перагарнеце хоць-бы загалоўкі, пераглядзеце хоць-бы пералік зьместу, і вам стане ясным, як „жыло і працавала германскае студэнцтва“ на працягу стагодзьдзяў. Вось гэтыя загалоўкі: „Студэнты і мода, Студэнты і карты, Любоўныя пахаджэньні нямецкага студэнцтва, Студэнцкія эксцэсы, Студэнцкія сьвяты, Студэнцкія танцы, Піўныя подвігі, Студэнцтва і карчма, Студэнцтва і дамы простытуцыі, Студэнцкія паядынкі, Студэнцкія фэхтаваньні“ і г. д., і г. д.

Вось чым была ў значнай сваёй частцы гэта прывілеяваная каста арыстократычных абалтусаў, якая, як я ўжо казаў, старалася захаваць сваю жудасную пустэчу і галасьлівую нікчэмнасьць за шырмаю корпоранцкай організацыі. Корпорацыя раней і перш за ўсё павінна была прышчапіць сваім членам рыцарскія звычаі і ахоўваць іх гонар. У гэтых паноў, бачыце бо, было столькі гонару, што яго заўсёды прыходзілася абараняць шпагамі, іншы раз і рэвольвэрамі... Корпорацыі маюць свае кодэксы гонару, і гэтыя кодэксы патрабуюць фэхтаваць і выходзіць на паядынак, калі на вас занадта ўглядаюцца ў рэсторане, калі вам наступяць на нагу, калі заговораць з вашаю дамаю, не папытаўшы раней вашага дазволу. Гэта ўсё—ганьбаваньне гонару, і гэта ўсё трэба абараняць сваёю блакітнаю студэнцкаю крывёю. Чым больш у чалавека гонару, тым ён умее больш энэргічна абараняць яе, чым часьцей ён выходзіць на паядынак і чым больш рубцоў маецца на яго твары, тым вышэй яго прэстыж у вачох навакольных... Недарма твары шмат якіх германскіх міністраў і відных палітычных дзеячоў, яшчэ гадоў цераз трыццаць пасьля сканчэньня унівэрсытэту напамінаюць сабою добра сшаткаваную катлету. Гэтыя паважаныя рубцы—салодкія ўспаміны аб залатым веку студэнцтва і корпоранцтва.

Гэта сваё, якое амаль ня мае гістарычнай аналёгіі, аблічча, усю гэтую гнілую сярэднявяковую традыцыю вартага жалю псэўдо-рыцарства германскае студэнцтва захавала аж да самае вайны. Як скончылася вайна, можна было спадзявацца на тое, што гэта векавая традыцыя, урэшце, парвалася. Для такога меркаваньня мелася досыць важных падстаў. Сканчэньне вайны прынесла рэзкія зьмены соцыяльнага складу германскага студэнцтва. Стала быць, нямінуча павінна была надыйсьці зьмена яго звычаяў, яго быту, яго ідэолёгіі.

У даваенны час лік германскіх студэнтаў азначаўся круглаю лічбаю ў 70.000 чалавек, пасьля вайны ён пачаў нясупынна расьці, і ў 1915 г. дасяг 115.000 чалавек, гэта значыць павялічыўся на 65 проц., а калі лічыць больш-менш дакладна—на 70 проц., бо Германія страціла два вузаўскіх цэнтры—Страсбург і Данцыг, дзе вучылася 5 проц. германскіх студэнтаў.

Хто-ж былі гэтыя 70 проц. новых студэнтаў, што прышлі ў германскія унівэрсытэты пасьля вайны? У вялізарнай большасьці гэта былі выхадцы з Mittelstand'a, дзеці сярэдняй і дробнай гарадзкой буржуазіі, заможнага сялянства, чыноўніцтва. Гэта моладзь, якая ў мірных умовах стала-б комівояжэрамі, тэхнікамі, рахункаводамі, малодшымі афіцэрамі, акцызнымі чыноўнікамі і інш., не магла знайсьці куды прылажыць свае сілы ў пасьлявэрсальскай, якая перажывала самую вялікую гаспадарчую катастрофу, Германіі. Беспрацоўе, якое абракала на голад сотні тысяч раней працаваўшых, паралізавала ўсякую думку гэтай моладзі аб непасрэдным устраеньні. Ня прыходзілася марыць і спадзявацца на месца пад сонцам. І вось тыя дзесяткі тысяч, якія за час вайны скончылі сярэднюю школу і якія ў мірнай абстаноўцы непасрэдна вышлі-б у жыцьцё, кінуліся ў вышэйшую школу. Тут яны падымуць сваю кваліфікацыю, тут яны ўзброяцца дыплёмам, які дапаможа ім лягчэй пралажыць сабе шлях на рынак працы, якая жадае быць скарыстанай, урэшце яны тут атрымаюць веды, якія так патрэбны цяпер разбуранай радзіме, каб залечваць раны вайны... Такія былі прадпасылкі, якія прывялі ў германскія вузы да 50.000 новых студэнтаў, чый соцыяльны склад быў непараўнана больш дэмократычны, як традыцыйныя кадры германскага студэнцтва.

Але і традыцыйныя кадры пасьляваеннага разгрому Германіі, рэволюцыі і гаспадарчай разрухі папалі ў новыя ўмовы. Бюджэт стаў жорсткім, кнэйпы і ўсякага роду п'янкі не змаглі-б ажыцьцяўляцца ў шырокім памеры папярэдніх гадоў. Уся Германія села на поўгалодны паёк. І, можа быць, першы раз за вякі сваёй гісторыі нямецкі арыстократык у корпоранцкай кепцы адчуў, што ня ўсё кату масьляніца, што надыдзе і вялікі пост... Праўда, сіла гістарычнай інэрцыі была вялікая, і нямецкі корпорант плаціў ёй дань.

Невялічкі трагікомічны прыклад. Мне папалася ў рукі якаясьці брошура нейкага Кетмана—„Корэктны студэнт“, выданая ў 1921 г., г. зн. якраз у той час, калі Германія літаральна затыхалася пад ярмом гаспадарчае разрухі, калі яе мільённыя масы курчыліся ў жабрацтве і беспрацоўі, калі экономічныя сувязі распадаліся ад гадзіны к гадзіне. Дазвольце запрапанаваць вашай увазе некалькі правіл студэнцкай корэктнасьці. „Ня варта на людзях піць шампанскага раней, як гэта пачалі прысутныя старэйшыя члены корпорацыі“. „Пры паўчаравіках варта насіць ці ліловыя, ці цёмна-блакітныя, ці цёмна-зялёныя шкарпэткі“. „У опэры і ў тэатры, будучы пры знаках, можна займаць толькі пэўнае месца“. „Ня варта

хадзіць па пыльных вуліцах, каб на абутак не садзіўся пыл". „Трэба старацца езьдзіць на трамваі" і г. д., і г. д.

У 1920 г. корпоранты, зразумела, маглі колькі хочаш балбатаць і аб шампанскім, і аб месцах у опэры, і аб ліловых шкарпэтках, але жыцьцё прымусіла іх падумаць не аб шампанскім, а хоць-бы аб даволі сытным абедзе.

Усё германскае студэнцтва стыкнулася адразу пасьля вайны з самаю суроваю бядотаю—факт, аб якім нямецкае студэнцтва ня мела і ўяўленьня на працягу ўсёй сваёй гісторыі. Тыя 50.000 студэнтаў, якія ўвайшлі ў сьцены германскіх вузаў пасьля вайны, былі, як я ўжо казаў, выхадцамі з сярэдняй і дробнай буржуазіі, г. зн. клясавых груп, якія найбольш жорстка пакутвалі ад экономічнай разрухі і гаспадарчага распаду, што знамянуюць сабою першае пасьляварсальскае пяцілецьце. У германскія вузы прышлі дзеці Mittelstand'а, які быў першаю ахвяраю інфляцыі і ўсяе тае экономічнае катастрофы, якую тады перажывала Германія. Яны прышлі ў вузы, ня маючы пад сабою ніякай матэрыяльнай базы, і з першага-ж дня паступленьня ў вуз вымушаныя думаць аб барацьбе за існаваньне. Ня ў лёгкім становішчы апынуліся і тыя студэнты, якія раней належалі да багатых і заможных пластоў—і для іх прамільгнулі залатыя дні Аранжуэца. І іх узяла за каўнер суровая рука галечы. Спыніўся прыплыў бацькаўскіх марак, бо маркі абярнуліся ў нішто: бацькі прадавалі валютным чужаземцам дамы, ліквідавалі фабрыкі і панічна чакалі надыходзячага дня. І студэнту—памешчыцкаму і буржуазнаму сынку—прышлося падумаць аб хлебе надзенным. Ды, апрача яго, быць у вузе—гэта значыць трэба ўносіць значную плату за навучаньне (стыпэндыі ануляваліся).

Каб знайсьці заработак, германскае зьбянтэжанае студэнцтва стала кідацца туды-сюды. Яму ўжо было не да шампанскага і не да ліловых шкарпэтак. Тыя, каму ўдавалася атрымаць якую-небудзь працу, лічыліся шчасьлівымі, а працаю ўжо не ганьбавалі ніякай.

На гэтым фоне зьбядненьня і галечы германскае студэнцтва разварочвае вялікую і—трэба пэўна сказаць—досыць навучальную, вельмі карысную кампанію экономічнай самадапамогі. „Самадапамога" становіцца лёзунгам, навокол якога ствараецца цэлы шэраг студэнцкіх організацый, закліканых змагацца з рознага роду студэнцкімі недахватамі. Організуюцца студэнцкія сталоўкі, інтэрнаты, бюро кватэрнай дапамогі, камісія выдачы студэнтам падручнікаў, установы мэдычнай і санітарнай дапамогі, касы ўзаемадапамогі, парыкмахэрскія і г. д. Усе гэтыя організацыі ствараюцца па непасрэднай ініцыятыве студэнцтва. Студэнты прыцягваюцца да іх жыцьця невялічкімі грашовымі ўзносамі, у іх прымае вялікі ўдзел профэсура, ім дапамагаюць грамадзкія ўстановы больш ці менш філянтропічнага характару, ім робяць вялікае падтрыманьне амэрыканскія організацыі АРА, Квакеры і інш. Наогул, у гэтай галіне германскім студэнцтвам была праароблена вялікая і, паўтараю, навучальная праца. Наогул,

часткаю гэтае працы было стварэньне вытворчай практыкі і зьяўленьне новага тыпу так званага Werkstudent'а,—калі перакласьці—хоць гэта ня зусім дакладна будзе—„студэнт-вытворцы“, „студэнт-практыканта“.

Пад выглядам, я-б сказаў, быццам з прычыны практычнай увязкі будучай спэцыяльнасьці была зроблена спроба атрымаць для студэнтаў усякага роду работы, якая ў сапраўднасьці мела вельмі далёкія адносіны да будачай спэцыяльнасьці студэнта, але якая зьяўлялася асноўнаю падмогаю, заўсёды адзінаю крыніцаю існаваньня яго.

Сувязь паміж вытворчай практыкай і будучай спэцыяльнасьцю часта ўстанаўлялася вельмі ўскосная. Так, напрыклад, будучыя архітэктары працавалі каменшчыкамі, студэнты-мэдыкі—санітарамі, экономістыя—прыказчыкамі і г. д. Але ў гэтым яшчэ палавіна бяды. Вытворчая практыка сустрэла безьліч перашкод. Асноўнае было ў тым, што сумясьціць яе з вучобаю аказалася немагчымым. Адно касавала другое. Тады пачалі ўжываць цераспалосіцу, г. зн. чаргаваць сэмэстр заняткаў з сэмэстрам практыкі альбо адносіць практыку на канікулярныя месяцы; але гэты прыём мала забясьпечваў студэнта матэрыяльна і наткнуўся на новыя перашкоды. Прадпрыемствы і работадацелі адмаўляліся браць на работу дэбютантаў. Ім патрэбны былі пастаянныя, а не часовыя рабочыя. Потым меліся на шляху Werkstudent'а і іншыя шматлікія перашкоды—ён быў некваліфікаваны, стала быць, ня мог прэтэндаваць на элемэнтарнага парадку работу, на якую мелася найбольш прапаноў. На яго, прышлага з боку і белаauthor, коса глядзелі асноўныя кадры рабочых, сярод якіх лютавала жорсткае беспрацоўе. Нічога ня меў супроць паэксплёатаваць, а іншы раз і скарыстаць нават у якасьці штрэйкбрэхера работадацель. І тым ня менш... Тым ня менш, лічбы кажуць аб пашырэньні гэтага інстытуту—яны вельмі значныя. У 1922—23 г. лік Werkstudent'аў дасяг 58 проц. агульнага ліку ўсіх германскіх студэнтаў.

Калі-б так цяглося больш ці менш значны час, то, натуральна, можна было-б чакаць сур'ёзнай зьмены соцыяльнай структуры германскага студэнцтва і, стала быць, яго ідэолёгічнага аблічча. Наяўнасьць амаль 60 проц. студэнтаў, якія з непамерным трудом здабываюць сабе кусок хлеба, павінна было-б зрабіць і зрабіла-б сваю справу большай ці меншай дэмократызацыі германскага студэнцтва.

У 1924 г. пры вельмі павярхоўным датыкненьні з нямецкім студэнцтвам я вынес уражаньне аб значным процэсе яго дэмократызацыі. Уражаньне, магчыма, адпавядала таму, што было ў той момант. Але самы процэс аказаўся досыць кароткачасовым. Аднак, усё сказанае адносіцца толькі да інфляцыйнага пэрыоду—да гадоў экономічнага зямлятрасеньня і гаспадарчае разрухі.

З стабілізацыяй Германіі становішча сільна зьмянілася. Важнейшым вынікам новай экономічнай кон'юнктуры, якая характарызуе сучаснае германскае студэнцтва, аказалася наступнае.

Werkstudent, які, здавалася, вось-вось заваюе вузы і стане ў іх пануючай групай, аказаўся ня ў сілах утрымацца на сваіх позыцыях. Многія тысячы дробнабуржуазнай студэнцкай моладзі аказаліся ня ў сілах сумяшчаць вучобу з становішчам Werkstudent'a; у іх, як відаць, аказалася мала трэніроўкі і вытрымкі, каб на манер нашага савецкага студэнта расьпяваць песенькі на тэму:

Мы грызем гранит науки,
Нас грызут нужда и голод.

Разам з тым, з стабілізацыяй спыніўся прыплыў у вузы выхадцаў з гэтага соцыяльнага пласту, які яшчэ нядаўна быў шматлікім у германскай вышэйшай школе.

З аднаго боку, з стабілізацыяй гаспадарчага жыцьця адчыніліся больш ці менш шырокія магчымасьці моладзі з сярэдняю асьветаю знайсьці працу ў розных галінах, дзе патрабавалася некваліфікаваная напоўінтэлігентная праца. З другога боку, зазначыўся пэўны крызіс у становішчы кваліфікаванае інтэлігентнае працы. Лішак дактароў, юрыстых, пэдагогаў пачаў азначана адчувацца, і гэтая акалічнасьць, апрача беспрацоўя, выявілася ў зьніжэньні заработку гэтых катэгорый працаўнікоў разумовае працы.

З 1924 г. пачыняе няўхільна падаць лічба студэнтаў, якія вучацца ў германскіх вузах, дасягнуўшы ў цяперашні час, прыкладам, 70.000 чалавек, г. зн. спыніўшыся на даваенным узроўні. Паданьне крывое ў гады 1924—27 адбылося за лік тых самых груповак, якія абумовілі ўздым гэтае крывое ў 1918—1923 г. г. Гэта значыць, што Германія вярнулася ня толькі ў колькасных, але і ў якасных адносінах да свайго даваеннага кадру.

Паказальна ўжо сама лічба інкорпараваных студэнтаў, якая дасягае 40 проц. Але калі прыняць пад увагу, што гэтыя 40 проц. зьяўляюцца найбольш організаванай і найбольш актыўнай часткай студэнцтва, то стане зразумелым, што іменна корпоранцкае студэнцтва задае тон усяму сучаснаму студэнцкаму жыцьцю ў Германіі, вызначае яго характар і плынь. Праўда, у апошні час зазначаецца сярод больш дэмократычнай і прогрэсыўнай часткі студэнцтва опозыцыя корпоранцкаму ўціску ў вузах, раздаюцца галасы аб канечнасьці супроцьпаставіць корпорантам больш мысьлячую частку студэнтаў, зазначаецца і сярод самых корпорантаў якаясьці ўнутраная опозыцыя, якая гутарыць аб тым, што трэба перабудаваць корпорацыю, што трэба іх наблізіць да экономічных і акадэмічных запытаў студэнтаў і г. д. Але пакуль што гэта вельмі нявыразна і досыць нечленападзельна. А корпоранцкі курылка наладжвае кнэйпы, б'ецца на паядынках і друкуе кодэксы студэнцкага гонару.

Ці прайшло мінулае дзесяцілецьце для ўваскрослага корпоранта бяз сьледу? Не,—дзесяцілецьце вайны, рэволюцыі, інфляцыі відазьмяніла нямецкага корпоранта. Гэта зьмена выказваецца раней за ўсё ў тым,

што ён, калі можна так выказацца, палітызаваўся. Да вайны корпорант быў істотаю ў высокай ступені апалітычнаю. Палітычныя сымпатыі ён дэмонстраваў толькі тым, што на кнэйпах і ўсякага роду іншых п'янках, асушваў досыць вялікі лік куфляў піва, падымаючы тосты за кайзэра, яго жонку, яго насьледнікаў, за герцога і герцагскую сям'ю і важна сьпяваў „Deutschland, Deutschland, über alles".

Сучасны корпорант характарызуецца большай грамадзкай актыўнасьцю і большаю палітычнаю зацікаўленасьцю. Нямецкі студэнт палітызаваўся—гэта факт, вачавідны пры першым датыкненьні з сучасным германскім студэнцтвам.

Варта адзначыць у гэтых адносінах асаблівую організацыю, створаную нямецкім студэнцтвам—Technische Nothilfe, задачаю якое зьяўляецца штрэйкбрэхерскае замяшчэньне бастуючых рабочых у розных галінах дзяржаўнага кіраваньня, прамысловасьці, транспорту і комунальнае гаспадаркі.

Важнейшым вынікам павялічанай грамадзкай актыўнасьці германскага студэнцтва зьявілася стварэньне ім — упяршыню ў гісторыі германскае вышэйшае асьветы — сваёй організацыі самакіраваньня. Гутарка аб стварэньні такое організацыі пачыналася яшчэ, уласна, да вайны, але тады нямецкае студэнцтва гэтым асабліва ня цікавілася. Апрача таго, гэта ідэя спатыкала перашкоды і ў агульным ладзе даваенных германскіх вузаў, дзе студэнты разглядаліся выключна як об'ект вузаўскай дзейнасьці. Пасьляваенны нямецкі студэнт не хацеў быць толькі об'ектам. Ён, былы лейтэнант, за час вайны прывык быць суб'ектам на пасту окупацыйнага комэнданта якога-небудзь беларускага ці бэльгійскага гарадка, які распараджаўся лёсам і жыцьцём не аднае сотні людзей. У справе стварэньня організацыі студэнцкага самакіраваньня пасьляваеннае германскае студэнцтва выказала вялікую настойлівасьць і гэту організацыю пабудавала.

Што-ж яна ўяўляе з сябе?

Організацыя нямецкага студэнцтва самакіраваньня „Deutsche Studentenschaft" заснавана ў 1919 г., згодна палажэньня аб ім. „D. S" мае сваёй асноўнай мэтаю—прыводжу літаральную формулёўку—„супрацоўнічаць з германскім народам у галіне задач вышэйшае асьветы". Гэта досыць расплыўчатая і, я-б сказаў, ня досыць зразумелая формулёўка, павінна абазначаць, што „D. S." прэтэндуе ня толькі кіраваць унутраным жыцьцём германскага студэнцтва, але што яно прэтэндуе рабіць уплыў і на ўсё жыцьцё і лёс вышэйшае школы, што яно хоча быць ня толькі об'ектам, але і суб'ектам. Аднак, гэты ўплыў зьдзяйсьняецца ў самай мінімальнай, можна сказаць, нікчэмнай ступені: ён абмяжоўваецца ўдзелам прадстаўнікоў у дысцыплінарным судзе, атэстацыйным бюро (нешта накшталт нашае прыёмнае камісіі) і ў прыцягненьні іх да абмеркаваньня некаторых экономічных пытаньняў. У асноўным-жа займаецца непасрэдна пытаньнямі студэнцкага жыцьця.

Першае і найбольш ганаровае месца тут займае фізкультура. Апрача агульнай прыхільнасьці нямецкай моладзі да спорту, тут трэба адзначыць адну асабліва істотную акалічнасьць. Пад фірмай фізкультуры і спортыўных практыкаваньняў D. S. праводзіць забароненую вэрсальскім дагаворам ваенізацыю германскага студэнцтва. У офіцыяльным справачніку нямецкіх корпоранцкіх організацый проста так і гаворыцца: „Пасьля зьнішчэньня абавязковае вайсковае павіннасьці, студэнцтва, само па сабе зразумела, узяло задачы, якія ў адносінах да акадэмічнай моладзі да гэтага ажыцьцяўлялі армія і флёта. Думка аб тым, што германскаму студэнцтву ў будучыне прыдзецца даваць прыклад і кіраваць яго народам у фізычных адносінах, павяла да ўвядзеньня ў германскіх вузах фізкультуры“. З благаславеньня і пры яўным падтрыманьні найбольш рэакцыйных і нацыяналістычных сіл D. S. стараецца абярнуць вузы ў штабы, дзе рыхтуюцца камандныя кадры надыходзячай вайны рэваншу, аб якой і ў часе сну мараць рэакцыйныя фашыцкія і нацыянальна-лібэральныя колы сучаснай Германіі. Вось чаму пытаньні фізкультуры і спорту займаюць асаблівае месца ўва ўсёй дзейнасьці D. S.

Далей, асноўнай галіною працы D. S. зьяўляецца экономічная, якая ахапляе організацыі кас узаемадапамогі, інтэрнатаў, сталовак, пасярэдніцкіх бюро працы і ўстаноў вытворчай практыкі, потым ідзе інформацыйнае дзейнасьць, куды адносяцца паведамленьні з-за граніцы аб жыцьці германскіх вузаў і германскага студэнцтва, аб жыцьці замежнае вышэйшае школы, сувязь з чужаземнымі і міжнароднымі студэнцкімі організацыямі.

Урэшце, варта назваць і работу акадэмічную, якая абмяжоўваецца тымі вузкімі рамкамі ўплыву германскага студэнцтва на сваю вышэйшую школу, аб якіх я ўжо казаў вышэй.

Як організавана D. S?

Усе германскія вузы разьбіты на дзесяць груп, кожная з якіх ахапляе некалькі вышэйшых школ. На чале кожнай акругі стаіць адказны кіраўнік, штогод абіраемы студэнцтвам, і які ведае працаю ў межах акругі. Апрача таго, штогод зьбіраецца вярхоўны орган германскага студэнцтва, так званы студэнцкі парлямант, абіраемы студэнцтвам па норме 1:1000, які дае агульны кірунак працы. Паміж штогоднымі сэсіямі парляманту на чале D. S. стаіць Цэнтральнае Праўленьне, у якое ўваходзяць дзесяць кіраўнікоў акруг і тры абіраемых парлямантам члены.

Такая організацыйная схэма германскага студэнцкага самакіраўніцтва.

Згодна конституцыі D. S. да ўдзелу ў ім допускаюцца студэнты нямецкае мовы арыйскага паходжаньня. Гэта значыць, што з організацыі выключаюцца студэнты-яўрэі і ў яе ўцягваюцца студэнты Венскага унівэрсытэту—цытадэлі сусьветнай рэакцыі.

Гэта звыш фашыцкая констытуцыя германскага студэнцтва выклікае незадаволеньне нават у сярэдзіне консэрватыўнага студэнцтва.

У ліпені гэтага году сабраўся ў Вюрцбургу чарговы Венскі парлямант. Лібэральна-прогрэсыўныя колы пакладалі на яго шмат надзей у сэнсе зьмены констытуцыі. Значны дэмократычны друк заклікаў студэнцтва апамятацца, не выстаўляць сябе на сьмех, ня ганьбіць германскае культуры, спадзяваўся, што пераможа Werkstudent, якога яна супроцьставіла корпорацыі. Увы, заклікі і надзеі былі напраснымі. Вюрцбурскі парлямант застаўся такім-жа чорным, як і папярэднія. З 162 яго ўдзельнікаў было 120 корпорантаў, твары якіх былі сьпісугаваны, і „Weltbühne“ не без падставы заўважыла, што пры выбарах, як відаць, лічыліся больш з біцэпсам, як з мазгамі кандыдата. Парлямант адмовіўся ўнесьці зьмены ў констытуцыю, на ім чыталіся рэакцыйныя даклады, у якіх абвяшчалася, што самымі ганебнымі зьявамі сусьветнае гісторыі зьяўляецца француская рэволюцыя 1879 году і германская рэволюцыя 1918 году. На ім адкрыта гучэлі фашыцкія лёзунгі.

Сэсія парляманту не абышлася і бяз пікантных здарэньняў. Найвялікшым гонарам D. S. была організацыя ім фонду для пабудовы помніка загінуўшым на вайне студэнтам. Парлямант урачыста зрабіў закладку гэтага помніка. На паседжаньні, аднак, выявілася, што праўленьне ня можа адлічыцца ў сабраных ім сумах. Газэты запатрабавалі, каб крымінальны вышук больш уважліва заглянуў у бухгальтарскія кнігі D. S. Яны ўказвалі, што гэта ўжо ня першы грашовы скандал, які разыгрываецца ў германскім студэнцкім парляманце, і што ў 1924 г. на Інсбрукскай сэсіі выявілася, што бясьсьледна зьніклі грашовыя дакуманты. Вюрцбурскі партэйтаг прымусіў абурыцца хоць трохі-трохі прогрэсыўныя колы германскага студэнцтва. Сьледам за Гэйдэльбэргам вышаў з D. S. Фрэйбург, пагражае зрабіць тое самае і Прусія. Пры такой абстаноўцы няма нічога немагчымага—наадварот, нават вельмі магчыма, што D. S. распадзецца. Але для нас цікавей, зразумела, ня лёс D. S., а яго характарыстыка, як паказьнік ідэолёгічна-політычнага аблічча сучаснага германскага студэнцтва.

Нічога дзіўнага няма ў тым, што студэнцкае самакіраваньне такога тыпу, якое існуе цяпер у Германіі, пачынае траціць крэдыт нават у буржуазнай грамадзкасьці. Вельмі сымптоматычны ў гэтых адносінах артыкул бэрлінскай буржуазна-дэмократычнай газэты „Morgenpost“, якая пісала ў пачатку жніўня адносна вюрцбурскае парляманцкае сэсіі, што замест таго, каб рэабілітаваць сябе ў злоўжываньні грамадзкімі грашмі, германскае студэнцтва занялося ў Вюрцбургу тым, каб указваць германскаму народу лінію яго этычных паводзін. Газэта вельмі зласьліва заўважала, што часы, калі паны студэнты блішчэлі ў якасьці салёных ільвоў, прайшлі, што цяпер значна больш значэньня ў жыцьці краіны маюць людзі, якія самастойна зарабляюць сродкі да існаваньня, а ня

тыя, што жывуць на сродкі бацькоў, і пераказваюць іх палітычныя зады", урэшце,—„чым такога роду студэнцкае самакіраваньне, ці ня лепш абыйсьціся і бяз усякага самакіраваньня?.."

Такі голас, тыпічны для адносін нават прогрэсыўнай буржуазіі, да сучаснага германскага студэнцтва.

Вось да чаго давяла грамадзкая вага германскага студэнцтва, корпоранцкі курылка, які стаіць на чале кіраваньня. Палітычнае аблічча сучаснага германскага студэнцтва цалкам гармоніруе з яго соцыяльным складам. Па статыстычных даных 1925 г. з 73.136 студэнтаў выхадцаў з рабочых сем'яў значылася 681 чал., г. зн. менш аднаго проц. Соцыялістых сярод германскага студэнцтва лічыцца адзін проц.—я ўжо не кажу аб якасным складзе гэтага соцыялізму,—але і яго колькаснае выражэньне, як бачыце, даволі сумнае. Добрым паказьнікам ідэолёгічнага аблічча сучаснага германскага студэнцтва зьяўляецца яго друк. Нямецкае студэнцтва, ня ў прыклад нашаму, мае завідны,—я кажу, зразумела, колькасна,—пэрыодычны друк: яно мае 75 пэрыодычных часопісяй, якія выходзяць. Бадай ні ў аднэй краіне студэнцтва ня можа пахваліцца такою колькасьцю друкаваных органаў. Але што ўяўляюць з сябе гэтыя 75 органаў? З іх ня менш 50, г. зн. 2/3,—органы корпоранцкія, фашыцкія, рэлігійна-каталіцкія, монархічна-нацыяналістычныя. Сярод астатніх 25—1 соцыялістычны орган, які выдаецца ў Лейпцыгу, „Der Socialistische Student", штук 5 прогрэсыўна-лібэральных, свабодамысьлячых „Republikanische Hochschulzeitung", „Pacifistisch Jugend", „Die Studenten" і інш.; рэшта маюць вузка-спэцыяльны характар—спортыўны, гаспадарчы і г. д. Характэрна, што ў вогуле германскае студэнцтва настроена больш рэакцыйна, як германская профэсура. Іншы раз паміж профэсарам і студэнцтвам на глебе рэакцыйнага адзінамысьлія ствараецца дзівосны контакт.

Два характэрных прыклады: катэдру зоолёгіі ў Іенскім унівэрсытэце, на якой калісьці быў Эрнст Гэкэль, займае цяпер самы заядлы чорнасоценец Плятэ. Плятэ займаецца тым, што сыстэматычна даводзіць студэнтам, што мілітарызм—няўхільная зьява, бо ён уласьцівы ўсяму жывёльнаму сьвету. З мэтаю пераканаць у гэтым студэнтаў, Плято робіць асаблівыя акварыумы, якія павінны прадэмонстраваць зоомілітарызм. Разам з тым, гэты пан у цэлым цыкле лекцый даводзіць, што яўрэйства—ніжэйшая раса, што яўрэі зьяўляюцца насіцелямі сэксуальнай разбэшчанасьці, што мяшаныя яўрэйска-хрысьціянскія шлюбы даюць патомства вырадкаў і г. д. Усе гэтыя глупствы вельмі дображадана сустракаюцца студэнцкай аудыторыяй, якая солідарызуецца з профэсарам рогатам і тупаньнем ног.

Абышоў ня вельмі даўно германскі друк і наступны выпадак. Рэктарам Мюнхэнскага унівэрсытэту быў вядомы романісты проф. Фосьлер. Рэктар гэты дазволіў сабе ня больш ня менш, як распарадзіцца, каб у часе унівэрсытэцкае ўрачыстасьці ў дзяржаўным унівэрсытэце Герман-

скае рэспублікі былі вывешаны рэспубліканскія сьцягі. Гэтага было досыць, каб выращыць лёс лібэральнага рэктара. Профэсура ўчыніла яму форменны бойкот, а на выбарах, што нядаўна адбыліся, рэктарам быў абраны нацыянал-монархісты Шюпфэр. І вось, калі частка студэнтаў парашыла паднесьці популярнаму рэктару адрас і пачала рабіць збор подпісаў пад яго, то студэнцкае самакіраўніцтва прыцягло гэтую групу да дысцыплінарнай адказнасьці за парушэньне унівэрсытэцкага парадку і добрых звычаяў вышэйшай школы.

Студэнцтва знаходзіцца на правым флянгу германскіх унівэрсытэтаў. А што ўяўляе сабою ў палітычных адносінах сучасны германскі унівэрсытэт? На конфэрэнцыі германскай соцыялістычнай лігі—організацыі соцыял-дэмократычнай партыі (і, стала быць, ня надта ўжо і рэволюцыйнай), якая адбылася ў канцы 1926 г., с.-д. дакладчык Адольф Браун характарызаваў германскія унівэрсытэты як „генэральныя штабы рэакцыі“. У дакладзе Брауна прыводзіліся цікавыя факты, як захлопваюцца унівэрсытэцкія дзьверы перад профэсарамі-соцыялістымі, якія выкладаюць фізыку, як у Баварыі паміж урадам і Ватыканам зроблена ўмова, згодна якой пры замяшчэньні,—я ўжо не кажу тэолёгічных,—але і гістарычных і філёзофскіх катэдраў трэба пытацца згоды каталіцкага епіскапа, як была зроблена вымова консэрватыўнаму профэсару Мангеймскага Комэрчаскага Інстытуту, які асьмеліўся назваць квотніцкай чыннасьць некаторых банкаў і г. д. Такія звычаі, што пануюць у храмах навукі сучаснай Германіі.

Не дарма, калі ў рэволюцыйныя ліпеньскія дні, даведзеныя да крайняй ступені абурэньня і наракаць ня, венскія пролетары рушыліся на Рынг, каб зьвесьці рахункі з рэакцыяй, першае каменьне з натаўпу палящела ў будынак унівэрсытэту. І калі-б не выпадковасьць, то лёс Венскага храму навук быў-бы можа такі самы, як і Венскага палацу правасудзьдзя, да шчэнту спаленага рэволюцыйным натоўпам. Тое-ж самае магло здарыцца пры рэволюцыйным выбуху і ў Германіі.

Я ўжо казаў аб тым, што студэнт-арыстократ стараецца схаваць сваю моральную нікчэмнасьць, сваё ідэолёгічнае барбарства, тулячыся за шырмай корпоранцкай організацыі. Студэнцкая корпорацыя—сярэднявяковая каста ў поўным сэнсе слова, у сярэдзіну якое не пранікне ні адно не пасьвечанае вока. Студэнты-корпоранты як-бы баяцца, што нямецкі мешчанін крыкне пра іх словамі андзерэнаўскага хлопчыка, што яны голыя,—гэтыя культурныя дзікуны, якія прыкрываюць нагату рыцарскімі ўбраньнямі і істужкамі ўсіх колераў вясёлкі.

Для таго, каб стала больш ясным, што хаваецца за гэтымі істужкамі, дазволю сабе расказаць адзін вельмі комічны выпадак, які пры ўсім сваім комізьме дае даволі трагічныя рысы палітычнага абліччя сучаснай Германіі.

Гэты выпадак—паводзіны Гары Домелы. Хто такі Домела?

Хлапчына прыбальтыцкіх немцаў, які дэбютаваў у ролі Хлестакова. Гоголь паказаў Хлестакова, як у нас цяпер кажуць, у павятовым маштабе, Мэйерхольд даў Хлестакова авантурыстым губэрскага маштабу. Германская палітычная сапраўднасьць аказалася больш вынаходлівай Мэйерхольда. Яна інсцэнавала Хлестакова ў рэспубліканскім маштабе. Гары Домела—усегерманскі Іван Аляксандравіч Хлестаков, імя якога вядома цяпер любому нямецкаму хлопчыку.

Домела—маленькі жулік, прадавец папірос, комівояжэр, быў прыняты гэйдэльбэрскімі студэнтамі за прынца прускага. Яны яго запрашалі на свае кнэйпы, сустракалі тушамі, вялі з ім сардэчныя гутаркі. На судзе Домела расказваў аб тым, з якою павагаю ён адносіўся да паноў студэнтаў, якіх ён заўсёды лічыў людзьмі якогасьці асаблівага парадку, і як гэтыя „вышэйшыя людзі“ „аказаліся круглымі дурнямі“. Перад Домелай драбязілі банкіры і памешчыкі, якія частавалі яго ўрачыстымі абедамі, перад ім расчыняліся дзьверы парадных пакояў на вакзалах, яго дружбы шукалі знатныя арыстократкі. Потым Домела быў выкрыты і сеў на лаўку падсудных. Сам ён шчыра расказаў аб сваіх паходжаньнях, а потым выдаў свае мэмуары.

Вось некаторыя адрыўкі з гутарак Домелы з корпорантамі, апублікаваныя ў яго мэмуарах. „Ведаеце, ваша высокасьць, тут ёсьць сталоўка для беднага студэнцтва. Так, паміж іншым, каго цяпер няма ў унівэрсытэце і што цяпер не называецца студэнцтвам...“

Вось яшчэ некаторыя з афорызмаў гэтых дзікуноў у корпоранцкіх істужках. „Нарэшце-ж бо ў Гэйдэльбэрг прыяжджаюць не для таго, каб вучыцца“.

„Для мяне праца роўназначна хаўтурам“.

„Што нам за цікавасьць, з якою брыдотаю возіцца профэсар на катэдры і які гной ён там фабрыкуе“.

Такіх пэрлаў ня мала рассыпалі гэйдэльбэрскія студэнцкія арыстократы перад Хлестаковым, які выставіў іх на сьмех усяму сьвету.

Пытаньне аб студэнцтве зьяўляецца адною з балючых тэм у сучаснай Германіі. У левай дэмократычнай газэце „Weltam Monntag“ д-р Фрош пісаў 8-га жніўня: „Усякі чалавек думае аб тым, дзеля чаго ён існуе. Нават найбольш адсталыя аўстралійскія негры і ботокуды задумваюцца над гэтым пытаньнем. І тым ня менш сярод нас, у культурнай Германіі, жыве дзікі народзец, свабодны ад усякіх духоўных спакус, які лічыць, што ён існуе, таму што так павінна быць, племя, якому ніколі ня прыходзіць у галаву думка аб тым, што аб самым яго праве на існаваньне можа быць спрэчка. Гэта племя—фэўдальнае студэнцтва“. І вось гэтае „племя“ (якое германскі левы дэмократ ставіць па свайму культурнаму ўзроўню ніжэй аўстралійскіх неграў і дзікіх ботокудаў) ахапляе 40 проц. усяго германскага студэнцтва і зьяўляецца гегемонам усяго яго грамадз-

кага жыцьця. Проблема сучаснага германскага студэнцтва мае вялізарную цікавасьць ня толькі для акадэмічнага кола, але і для ўсяго палітычнага жыцьця Германіі. Сучасны стан германскага студэнцтва дае багаты ілюстрацыйны матэрыял для меркаваньняў аб тым, што ўяўляе ў цяперашні час Германская рэспубліка, клясавыя адносіны якое дазваляюць да гэтага часу панаваць фэўдальным кастам і фэўдальным звычаям. З асярэдзіны сучаснага германскага студэнцтва выйдзе ня мала будучых дзяржаўных дзеячоў Германіі—яе палітыкаў, дыплёматаў, організатараў гаспадарчага жыцьця... Якая „завідная“ пэрспэктыва!

# Т. ШЭУЧЭНКА У СВАІМ ДЗЕНЬНІКУ

Л. О.

Культ Шэўчэнка—бацькі украінскага адраджэньня—стары культ на Украіне. Ледзь у нядаўнія параўнальна часы бачым да яго поўную рэакцыю. Так, напрыклад, украінскі футурысты М. Сэмэнка пісаў у прадмове да аднэй з кніг сваіх поэзій «... ты ўхапіўся за свайго „Кобзаря“, ад якога нясе дзёгцем ды салам, і думаеш, што яго абароніць твая пашана. Пашана твая яго забіла. І няма яму ўваскрасеньня. Хто ім захапляецца цяпер? Чалавек прымітыўны... Час волата перакідае ў нікчэмнага ліліпута, і месца Шэўчэнку ў запісках навуковых таварыств... Як я магу паважаць цяпер Шэўчэнку, калі я бачу, што ён пад маімі нагамі? Я палю свой „Кобзар“». Запіскі вучоных таварыстваў, як бачым, адзінае месца для Шэўчэнка. І тымчасам пераможная соцыяльная рэволюцыя з новай сілай аднавіла культ Шэўчэнка, надаўшы яму новы і шырэйшы зьмест, популярызуючы поэту і яго творы між шырокімі рабочымі і сялянскімі масамі, як папярэдніка соцыяльнае рэволюцыі, што ў цяжкія, зласесныя часы Мікалаеўскае рэакцыі ў сваіх творах адбіў імкненьне да барацьбы з старою дваранскаю Расіяй за новае жыцьцё вольных народаў б. царскае імпэрыі.

У гэты якраз час і „запіскі навуковых таварыстваў“, г. зн. шматлікіх устаноў, якія ўтварыла на Украіне рэволюцыя (сярод іншых і спэцыяльны Шэўчэнкаўскі інстытут), вядуць дасьледваньні пра Шэўчэнка, яго лёс, тыя ці іншыя рыскі яго твораў і г. д. І трэба сказаць, што яны цалкам адкідаюць надта раньні прысуд над Шэўчэнкам. Гэты гэніяльны селянін выступае цяпер, як чалавек, што стаяў на вышыні асьветы свайго часу. Проф. А. Дарашкевіч у цікавым артыкуле адзначае на яго сувязь з петрашэўцамі; П. Філіповіч—знаёмства з ідэямі дэкабрыстых... Цяпер маем новае выданьне дзеньніка поэты, з комэнтарамі, які Украінская Акадэмія Навук выдае, як т. IV поўнага збору твораў Шэўчэнкі. Гэта надта добрае выданьне вышла ў гэтым годзе пад рэдакцыяй акадэміка С. Ефрэмава. Дзеньнік ахапляе пэрыод ад чэрвеня 1857 г. да мая 1858 г., г. зн. апошнія часы сасланьня ў Новапятроўскім форце і першыя часы пасьля вызваленьня.

Якім-жа выяўляецца поэта ў сваім дзеньніку? У дзеньніку найпаўней і найясьней мелі адбіцца пераканaньні яго, ступень асьветы, культурнасьці і г. д. І трэба сказаць рашуча, што погляды Сэмэнка блізкія да паклёпу. Спрабуем давесьці гэта па асобных мясцох з дзеньніка.

З дзеньніка ясна знаёмства Шэўчэнка з расійскаю літаратураю. І ня толькі асабіста ведаў украінскі поэта шэраг расійскіх пісьменьнікаў— гэта факт агульнавядомы, але за гэта сьведчыць шэраг запісаў у яго дзеньніку. З іх мы бачым, што поэта чытае Пушкіна, Гогаля, Лермантава, Астроўскага, С. Аксакава, Л. Талстога, Салтыкова-Шчэдрына. Пра апошняга пісьменьніка маем у дзеньніку пад 5 верасьня 1857 г. характэрныя радкі. „Какъ хороши Губернскіе Очерки, въ томъ числѣ и *Мавра Кузьмовна*, Салтыкова... Мнѣ кажется, что подобные глубоко грустные произведенія иначе (какъ безъ декламаціи) и читать не должно. Монотонное, однообразное чтеніе сильнѣе, рельефнее рисуетъ этихъ бездушныхъ, холодныхъ, этихъ отвратительныхъ Гарпій. Я благоговѣю передъ Салтыковымъ. О, Гоголь, нашъ безсмертный Гоголь! Какою радостію возрадовалася бы благородная душа твоя, увидя вокругъ себя такихъ гениальныхъ учениковъ своихъ. Други мои, искреніи мои! Пишите, подайте голосъ за эту бѣдную, грязную опаскуженную чернь, за этого поруганного безсловесного смерда!“ Акад. Ефрэмаў зусім справядліва гаворыць адносна творчасьці Шчэдрына. „Да яе поэта быў падгатованы і сваім агульным разьвіцьцём, і папярэднім чытаньнем, і ўласнай літаратурнай творчасьцю, што выперадзіла расійскую літаратуру 40 гадоў і бліжэй стаяла якраз да кірунку таго новага пакаленьня, выдатным прадстаўніком якога быў Салтыкоў-Шчэдрын“. З замежнае літаратуры поэта чытае, як кажуць нам яго запісы ў дзеньніку, Дантэ, Гётэ, Байрона... і ахвотна запісвае ў свой дзеньнік пераклады з песьняра ліпнёвае францускае рэволюцыі Огюста Барб‘е.

Сьведчаньні дзеньніка кажуць пра глыбокае разуменьне музычных твораў і знаёмства з творчасьцю шмат якіх композытараў. Няма чаго і гаварыць, што гісторыю мастацтва ён ведае дэтальна—з яго быў сур‘ёзны мастак.

Апрача таго, поэта чытае і навуковыя працы. У дзеньніку мы бачым чытаньне Кулеша і Кастамарава, Салаўёва, Папова (расійскі тагочасны гісторык), Лібэльта, Гумбольдта... Чытаючы Багдана Хмяльніцкага, Кастамарава поэта запісвае 22 верасьня 1857 г.: „Послѣ обѣда, какъ и до обѣда, лежалъ и читалъ Богдана Хмельницкого Костомарова. Прекрасная книга, вполнѣ изображающая этого геніального бунтовщика. Поучительная, назидательная книга. Историческая литература сильно двинулася впередъ въ продолженіи послѣдняго десятилѣтія. Она освѣтила подробности, закопченные дымомъ фиміама, усердно кадимого передъ порфирородными идолами“. Поэта і пэрсанальна сустракаецца з найвыдатнейшымі вучонымі свайго часу. Ён гутарыць з Чычэрыным, Забеліным, Максімовічам, Пагодзіным, Шэвыровым, Кавеліным..., ня кажучы ўжо пра інтымную блізкасьць да сваіх сяброў па справе Кірыла-Мэфод‘еўскага брацтва— Кастамарава і Кулеша. Што гэта былі за спатканьні і гутаркі, відно з запісу 21 красавіка 1858 г. пра спатканьне з Кавеліным: „Съ разговора

о минувшей и будущей судьбѣ Славян мы перешли къ психологіи и философіи. И просидѣли до трехъ часовъ утра". І вынік з гэтага ўсяго той, што інтэлектуальна украінскі поэта быў цалкам на вышыні асьветы свайго часу.

Цяпер пра настроі і пераконаньні. Ці цалкам застарэлыя яны? Ці яны зусім не сугалосныя нашаму часу? На гэта адказвае таксама дзеньнік поэты. З усімі галоўнымі прынцыпамі Мікалаеўскага цараваньня—самадзяржаўем, праваслаўем і народнасьцю (афіцыяльнай расійскай)—Шэўчэнка вядзе рашучую барацьбу. Нават з другім пунктам—з афіцыяльнай царквай Шэўчэнка—чалавек пасвайму веруючы—не згаджаецца. Вось цытаты, што характарызуюць яго адносіны да афіцыяльнай царквы, яе формалізму і абраднасьці. 23 сакавіка 1858 г. на вялікдзень поэта гіронічна запісвае: „В семействѣ М. С. (Шчэпкіна) торжественнаго обряда и урочного часа для розговѣнъ не уставлено. Кому когда угодно. Республика. Хуже—анархія!.. Еще хуже—кощунство! Отвергнуть вѣками освященный обычай обжираться и спиваться съ восходомъ солнца. Это просто поруганіе святыни". 27 верасьня ў Н.-Нодгарадзе „проходя мимо церкви святого Георгія и видя, что двери церкви растворены, я вошелъ въ притворъ и въ ужасѣ остановился. Меня поразило какое-то безобразное чудовище, нарисованное на трехъаршинной круглой doскѣ. Сначала я подумалъ, что это индѣйскій Ману или Вешну заблудилъ въ христіанское капище полакомиться ладономъ и деревяннымъ маслицемъ. Я хотѣл войти въ самую церковь, какъ двери растворилися и вышла пышно, франтовски разодѣтая бариня, уже не совсѣм свѣжая, и обратясь къ нарисованному чудовищу три раза набожно и кокетливо перекрестилась и вышла. Лицемѣрка! Идолопоклонница! И навѣрное бл... И она ли одна? Милліоны подобныхъ ей безсмысленныхъ извращенныхъ идолопоклонницъ. Гдѣ-же христіанки? Гдѣ христіане? Гдѣ безплотная идея добра и чистоты? Скорѣе въ кабакѣ, нежели в этихъ обезображенныхъ животных капищах". Альбо 29 чэрвеня 57 г.—дзень Пятра і Паўла—поэта піша: „Во имя святое ваше такъ называемые учители вселенскіе подрались какъ пьяные мужики на Никейскомъ вселенскомъ соборѣ. Во имя ваше папы римскіе ворочали земнымъ шаромъ и во имя ваше учредили инквизицію и ужасное автодафе. Во имя же ваше мы поклоняемся безобразнымъ Суздальскимъ идоламъ и совершаемъ въ честь вашу безобразнейшую Бакханалію". І поэта сурова пытае: „Скоро ли долетятъ эти пронзительные вопли (мільёнаў селян. Л. О.) до твоего свинцового уха, наш праведный, неумолимый, неублажимый Боже?".

Шэўчэнка час-часом сустракаецца з барацьбітамі супраць Раманавых—дэкабрыстымі. Так, 16 кастрычніка 1857 г.: „У Якоби встрѣтился я и благоговѣйно познакомился съ возвращающимся изъ Сибири декабристомъ съ Иваномъ Александровичемъ Аненковымъ. Сѣдой, величественный, кроткій изгнанникъ въ рѣчахъ своихъ не обнаруживаетъ и тѣни оже-

сточенія противъ своихъ жестокихъ судей, даже добродушно подтруниваетъ надъ фаворитами коронованного фильфебеля Чернышевымъ и Левашевымъ, предсѣдателями тогдашняго верховнага суда. Благоговѣю передъ тобою, одинъ изъ первозванныхъ нашихъ апостоловъ!“ А 25 сакавіка 1858 г. поэта знаёміцца з дэкабрыстым, кн. Валконскім. Як адносіўся да іх Т. Шэўчэнка відаць яшчэ з гэткага яго запісу: „У него же у Гранда и въ первой же разъ увидѣлъ я Полярную Звѣзду Искандера (Герцэна) за 1856 годъ, второй томъ. Обертка, т.-е. портреты первыхъ нашихъ апостоловъ-мучениковъ меня такъ тяжело грустно поразили, что я до сихъ поръ еще не могу отдохнуть отъ этого мрачного впечатлѣнія. Какъ бы хорошо было, если бы выбить медаль въ память этого гнусного событія. Съ одной стороны портреты этихъ великомученниковъ съ надписью—Первые русскіе благовѣстители свободы. А на другой сторонѣ медали—портретъ неудобозабыемаго Тормоза (так называў Міколу і Герцэн) съ надписью—Не первый рускій Коронованный Палачъ“.

У цытаце, што мы зараз падалі, Шэўчэнка ўспамінае пра адно з выданьняў Герцэна. Імі поэта захапляўся і пры першай магчымасьці ахвотна чытаў. Так, 6 лютага 1858 г. ён чытае № 4 „Колокола“ і запісвае: „Я въ первый разъ сегодни уведѣлъ газету и съ благоговѣніем облобызалъ“. Ен чытае таксама і „Голоса изъ Россіи“ тагочасныя зборнікі Герцэна. Як адносіўся Шэўчэнка да Герцэна, паказваюць такія запісы. 10 кастрычніка 1857 г. поэта запісвае, што Н. Якобі „Вмѣсто десерта... угостилъ меня брошурой Искендэра Лондонского, второго изданія. *Крещеная собственность*. Сердечное, задушевное человѣческое слово! Да асѣнитъ тебя свѣтъ истины и сила истинного Бога, апостолъ нашъ, нашъ одинокій изгнанникъ“. А 10 сьнежня таго-ж году ён бачыў „свинцовымъ карандашемъ нарисованный портретъ нашего изгнанника апостола Искендэра. Портретъ долженъ быть похожъ, потому что не похожъ на рисунки въ этом родѣ. Да если бы и не похожъ, то я все таки скопирую для имени этого святого человѣка“. У дзеньніку сапраўды бачым копію з портрэту Герцэна.

Рэзка-опозыцыйны, радыкальны, сьмелы (бо частка дзеньніка пісалася салдатам у Новапятроўскім форце, калі з поэтам маглі люта расправіцца; дый наогул так пісаць у тыя часы было вельмі небясьпечна) настрой у стасунку да царызму выяўляецца перш-на-перш у адносінах да ката Шэўчэнка—Міколы І. „У асобе цара Міколы сконцэнтравалася для Шэўчэнкі ўсё тое прыгнечаньне—соцыяльнае, політычнае, нацыянальнае,—супраць якога поэта паўстаў ва ўсю моц свайго буйнага таленту. Гэта быў для Шэўчэнкі сапраўды сымболістычны вобраз, увасабленьне ўсяго дзяржаўнага ліха, няволі, крыўды і адначасна з гэтым кат ня толькі яго пэрсональны (дзесяцігадовая няволя), а і ўсяго, што дарагім было для поэты“, гаворыць акад. Ефрэмаў. І сапраўды, ужо ў будаўніцтве свайго часу поэта-мастак бачыць адбітак цара-фэльдфэбэля. Агля-

даючы 6 верасьня 1857 г. Самару, Шэўчэнка запісвае—„Ровный, гладкій, набѣленый, нафабриный, до тошноты однообразный городъ. Живой представитель царствованія неудобозабываемого Николая Тормоза“. Або пра новы будынак Эрмітажу „и въ этомъ великолѣпномъ храмѣ искусствъ сильно напечаталась тяжелая казарменная лапа неўдобозабываемого дресированного медведя“. Пра адносіны цара да сябе поэта піша: „Августъ язычникъ, ссылая Назона къ Дикимъ Гетамъ, не запретилъ ему писать и рисовать. А христіанинъ N запретилъ мнѣ то и другое. Оба палачи“. Царскую політыку Раманавых і Міколы I у асобку, Шэўчэнка ацэньвае, запісваючы пра места Чэбаксары „Ничтожный, но картинный городокъ. Естли не больше, такъ по крайней мѣрѣ на половину будетъ въ немъ домовъ и церквей. И все старинной Московской архитектуры. Для кого и для чего онѣ построины? Для чувашей? Нѣтъ для *православія*. Главный узелъ московской старой внутренней политики—православіе. Неудобозабываемый Тормозъ по глупости своей хотѣлъ затянуть этотъ ослабѣвшій узелъ, и перетянулъ. Онъ теперь на одномъ волоскѣ держится“. На жаль, гэты валасок яшчэ доўга трымаў крыху падрэмантаваную ў 1861 і 1905 г.г. шляхецкую монархію Раманавых. Самую монархію расійскую поэта трапна характарызуе, калі, праяжджаючы па Волзе, успамінае пра Сьцяпана Разіна „...Открытые большіе грабіцелі (г. зн. маскоўскія цары) испугались скрытого ночного воришки! Такъ бѣлоголового великана хищника Беркута пугаетъ иногда ничтожный нытопырь“. Такія-ж адносіны, адносіны непрымірымага рэволюцыянэра, у яго да монархіі наогул, бо малюнак кары сьмерцю Людовіка XVI ён называе „назидательнымъ изображеніем“.

Але украінскі поэта быў ня толькі рэволюцыянэр супраць расійскага царызму. Ён гэніальна прадчуваў вялікія соцыяльныя рухі ў будучыне. Калі шляхцічы-дэкабрыстыя проста прынцыпова адкідаюць самадзяржаўе, калі лібэралы 40-х г.г. прынцыпова крытыкуюць яго, дык у Шэўчэнкі—сына прыгнечанае клясы—бачым вялікую, непрымірымую нянавісьць да клясы эксплёатаатараў. Напрыклад, 6 верасьня поэта знайшоў выпадкова стары нумар офіцыяльна-ваеннай газэты „Русскій Инвалидъ“. Там пабачыў ён артыкул пра падзеі ў Кітаі. І поэта запісвае: „Тамъ говорилось о китайских инсургентахъ, и о томъ, какую рѣчь произнесъ Гонгъ, предводитель инсургентовъ, передъ штурмомъ Нанкина. Рѣчь начинается такъ.—Богъ идетъ съ нами. Что же смогутъ противъ насъ демоны? Мандарины эти—жирный убойный скотъ, годный только въ жертву нашему небесному отцу...“ І Шэўчэнка запісвае: „Скоро ли, во всеуслышаніе, можно будетъ сказать про русскіхъ бояръ тоже самое?“ Альбо яшчэ—„Пролетаемъ (на параходзе) мы мимо красивого по мѣстоположенію села Зименки помѣщика Дадянова. И замѣчательного по слѣдующему произшествію. Прошедшаго лѣта, когда поспѣло жито и пшеница, мужичковъ выгнали жать, а онѣ чтобы покончить

барщину за одинъ разъ зажгли его со всѣхъ концовъ при благополучномъ вѣтрѣ. Жаль, что яровое не поспѣло, а то и его бы за одинъ разъ покончили бы. Отрадное произшествіе". Тут клясавая непрымірымасьць да прыгоньнікаў выявілася ясна. А далей пясьняр выступае ў ролі прарока і прарока ўдатнага. Гэта—калі 28 жніўня 1857 г. піша: „Пароходъ въ ночномъ погребальномъ покоѣ мнѣ представляется какимъ то огромнымъ глухо ревущимъ чудовищемъ, съ раскрытой огромной пастью, готовою проглотить помѣщиковъ-инквезиторовъ. Великій Фультонъ! И великій Ватъ! Ваше молодое, не по днямъ, а по часамъ растущее дитя, въ скоромъ времени пожротъ кнуты, престолы и короны, а дипломатами и помѣщиками только закуситъ, побалуется, какъ школьникъ леденцомъ. То, что начали во Франціи энцеклопедисты (г. зн. французская рэволюцыя), то довершитъ на всей нашей планетѣ ваше колоссальное геніальное дитя. Мое пророчество несомнѣнно". Тут крыху наіўна, але наогул справядліва прадстаўлена думка, што разьвіцьцё індустрыі і нараджэньне ў сувязі з ёй новых кляс зьмяце ўрэшце і „короны и престолы" і „помещиковъ-инквезиторовъ" Расійскае імпэрыі. У гэтым прароцтве, магчыма, выявілася знаёмства Т. Шэўчэнка з новай соцыяльнай літаратурай Заходняе Эўропы, менавіта з утопічным соцыялізмам (цераз петрашэўцаў). Наогул, пераконаньні Шэўчэнка, якія адбіліся ў яго дзеньніку, тлумачаць той уплыў, што мела яго поэзія на сучасьнікаў. Яго сябра па Кірыла-Мэфод'еўскай справе славуты гісторык Кастамараў так характарызуе гэты ўплыў: „Я увидел, что муза Шевченка раздирала завесу народной жизни. И страшно, и сладко, и больно, и упоительно было заглянуть туда! Поэзия всегда идет вперед, всегда решается на смелое дело; по ее следам идут история, наука и практический труд".

Такой стаіць асоба украінскага поэты перад намі ў яго дзеньніку. У ім мы бачым культурнага чалавека свайго часу, прасякнутага нянавісьцю да царызму ды клясы эксплёататараў і разумеючага нараджэньне новых часоў, якія зьмятуць стары парадак. І выступае тут Т. Шэўчэнка як цалкам сугалосны нашаму рэволюцыйнаму часу, які ў архіў яго не здае, але, наадварот, популярызуе і шануе імя поэты-рэволюцыянэра.

Хочацца некалькі слоў сказаць пра самае выданьне дзеньніка Украінскай Акадэміяй Навук. Гэта—надзвычай добрае выданьне. Трэба сказаць, што амаль на кожны выраз, кожнае пэрсональнае імя і г. д. маюць сабе тлумачэньне ў заўвагах (на 187 старонак тэксту—554 старонкі комэнтараў). Напісаныя цікава і поўна, гэтыя заўвагі раз-по-раз носяць характар асобных, кароткіх дасьледваньняў. Вялікая частка іх напісана аўторытэтным знаўцам гісторыі украінскае літаратуры акад. С. Ефрэмавым. Большасьць іншых—проф. П. Філіповічам, П. Руліным, акадэмікамі А. Лабадой і О. Навіцкім. Чамусьці толькі зусім мала заўваг—тлумачэньняў аўторытэтнага шэўчэнкаведа—М. Навіцкага. Самае

выданьне дзеньніка, а таксама і збораў Украінскае Акадэміі „Шевченко та його доба“ ёсьць добры помнік памяці поэты.

І, канчаючы артыкул, хочацца яшчэ сказаць пра тое, што такія выданьні наводзяць на думку пра старых беларускіх пісьменьнікаў. Марцінкевіч, М. Бурачок і іншыя ды іншыя—першыя песьняры беларускага адраджэньня. Ці ўсё ведаем пра іх? Жыцьцёпісы іх, нататкі, перапіска, успаміны пра іх—усё гэта трэба старанна сабраць, выдаць. Трэба думаць, што гэту патрэбную працу калі-небудзь, магчыма ўжо хутка, зробіць Інбелкульт, што знойдуцца вучоныя—знаўцы гісторыі беларускае літаратуры і культуры, якія афяруюць свой час на гэту справу.

# КНІГАПІС

**Цішка Гартны. Прысады.** *Апавяданьні. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск—1927, 273 стар.*

„Прысады“, гэта—ужо другі пасьля „Трэсак на хвалях“ зборнік прозы Цішкі Гартнага. І апавяданьні, а таксама сцэнічныя творы, што надрукаваны ў зборніку, зьяўляючыся паказальнікам нясупыннага росту таленту аўтара ў бэлетрыстычным і драматургічным кірунку, маюць адну вельмі выгодную адзнаку ў параўнаньні з творамі шмат якіх нашых іншых бэлетрыстых.

„Прысады“ вызначаюцца сьвежасьцю тэм, прычым значную ролю ў апавяданьнях, а таксама і ў сцэнічных п‘есах граюць так званыя „адказныя“ працаўнікі, як, напр., Астап—начальнік міліцыі („Прысады“), партыец-актывіст Васіль Крыга („Чапіла душы“). Фігуруюць у аўтара і „спэцы“ („На стыку“), дактары („Дыягноз“) і чырвонаармейскі камандзір („Ядзя-Жучок“). Другія пэрсонажы: кабеты—жонкі „адказных“, хільшчык Шлёма з сваёй жонкай, Лаўрэн Навой—незаможнік з вескі, прыхільнік савецкай улады, які выпраўляе ўжо трэцяга сына ў Чырвоную армію, і побач з ім багаты гаспадарны селянін Дзямян Шпуля і цэлы шэраг іншых.

Як бачым, жыцьцёвы кругавід аўтара вельмі разложысты. Амаль з кожнага апавяданьня відаць, што зьявы сучаснай рачаіснасьці не праходзяць няпрыкметнымі для аўтара. Ён аматар псыхолёгічнага падыходу нават да дробязяй жыцьця. З псыхолёгічнага погляду выяўляе асаблівую цікавасьць апавяданьне „Чапіла душы“. Багаты псыхолёгічны матэрыял даюць і іншыя апавяданьні, паасобку—„Дыягноз“, „Таварышы“, „Таварыш інспэктар“. У апавяданьні „Таварышы“ даецца проста цікавая спроба псыхолёгічных профіляў двох тыпаў партыйцаў, рашучага і палкага Лаўрэна Савені, які „як той цягнік—разыдзецца і няма спыну“, і разважна-халоднага Піліпа Дубейка.

І яшчэ дзьве рысы выгодна адрозьніваюць апавяданьні, а таксама і сцэнічныя творы, даныя ў зборніку. Гэта—вытрыманы *рэалізм* і разам з ім здаровы *оптымізм* аўтара.

Паказальна, напр., у гэтым стасунку другое апавяданьне,—„Ядзя-Жучок“.

Сюжэт яго: малады чырвоны камандзір пакідае сваю маладую жонку Ядзю ў часы грамадзянскае вайны, каб ехаць на фронт. Ядзя ня можа вынесьці адзінокага жыцьця без Пракопа, сабірае свае куфэркі і едзе да яго ў Арол; аднак, у Арле ўжо яго не знаходзіць, паступае ў санітарны атрад, выпадкам даведваецца, што Пракоп зрадзіў ёй, зьвязаўся з другой кабецінай, урэшце, ужо яна трапляе на самога Пракопа. Цяжка паранены Пракоп, ад болю, ад гарачкі—не пазнаў яе, прыняўшы за чужую:

„Сястрыца, ратуй! Я не хачу ўміраць“.

І што-ж?—„Гэтыя яго словы працычэлі для Ядзі ня жахам, ня болем, а ласкай, уцехай, тонам памятнае пары, калі ён ляжаў на беразе рэчкі Усекі, расказваў ёй а бойках з чэхамі пад Пензаю, песьціў і цешыў яе

цікавасьць, а яна казачкамі казытала яго твар.

І кусьцік, які з боку тарчэў, выглядаў кустом шыпшыны на граніцы гайку, пры чыгунцы.

І промень на захадзе над пакосам— быў тым самым чырвоным, прыгожым, сакавітым, які вісеў тады над нявскошанымі паплавамі.

І ўсё клікала да разьвойнага бясьсьмертнага жыцьця“.

І гэты здаровы оптымізм нібы-та чырвонаю істужкаю віецца праз увесь зборнік.

Вось гэрой чацьвертага апавяданьня—хільшчык Шлёма Брыкер жыве ў брудным паграбку, ледзь-ледзь перабіваецца з хлеба на квас, бачыць, як гіне ў брудзе і зімноце ў паграбку яго маладзіца Роза і дзіцёнак-дачка, часам ня мае працы, але ніколі ня падае духам, не паддаецца роспачы; а калі ён набывае на грошы, надасланыя сястрой з Амэрыкі, сваю хату-халупку, так разважае ў часе гутаркі з госьцем—сваім таварышом Тарасам:

„Я моцна веру, бяз зайдзрасьці... Абы кавалак хлеба, ды не сьвяцілі целам малыя... Ня кажа, нутро ня кажа крыўдавацца на жыцьцё. Ці-ж усім роўна? Гэта-ж ня комунізм той, калі параўняюцца ўсе, гэта пераход пакуль што... Цяжэй— пацярпі, лягчэй—радуйся... А рукі, вось, пакуль цягнуць. Можна націснуць, налегчы...

— Бачыш, Тарас! Хата заліта сонцам. Ад раньня да ночы. Дзецям— разгарненьне, хоць кацёлку качай. Хата—абозьня. Чаго-ж хацець? Чаго дамагацца? Сілы не бракуе—работы забяру. Калі больш, калі менш—не памру...

На твары ў Шлёмы багатая ўхмылка, настрой уздыму“...

Перашкоды стаяць і перад непасрэднымі ўдзельнікамі комуністычнага будаўніцтва, і перашкоды з боку якіх-небудзь старшынь дамкому або касіраў на чыгунцы („Таварышы“), аднак комуністыя ня сумуюць, не пакладаюць рук. Ня гледзячы на ўсе перашкоды, усё-ж такі, як выказваецца сьмелы ініцыятар Васіль Шаваль у апавяданьні „Свае блінцы“, ўсё-ж такі „кр-уц-іц-ца!“.

Здаровы оптымізм адзначае і п'есу „На стыку“. Энэргічны, актыўны комуністы, прадрыку Павал Хведараў Чэмер працуе, не пакладаючы рук, над электрыфікацыяй і комунізацыяй мястэчка. Працаваць выпадае пры вельмі цяжкіх умовах. Першая замінка—жонка Юстына Сёмкава, вясковая маладзіца, якая выбражае сябе вялікай паняй, тып поўпростытуткі, на манер тэй Машкі, якая выведзена ў драме Трэнева „Любовь Яровая“. Яе абкружаюць „кавалеры“: Кандрат Торк, страхавы агент, Якаў Шрубка, дарожны тэхнік, Віцюк Агародзін,—расіец, настаўнік сямілеткі,— заўзятыя ворагі беларусізацыі. Мяшчанкі Алеся Карчук, Паўліна Цюцюпан, Саламея—асобы такога-ж адмоўнага тыпу, поўпростытуткі. Прузына, маці Паўла, са сваім характарным „вось калі, вось калі“, знаходзіцца ў поўнай залежнасьці ад Юстыны. Сярод мяшчан—шмат шаптуноў. Дапамогу Павал знаходзіць толькі ў загадчыцы райжанаддзелу т. Адаркі Верамеіхі. У той самы вечар, калі электрыка павінна была ўжо засьвяціць у мястэчку, Юстына страляе ў Паўла. А ўсё-ж такі Павал свайго даходзіць. Электрычнасьць запальваецца і раптам трывога пераўвяртаецца ў радасныя выгукі, воклічы, гукі,—і якім оптымістычным тонам гучаць апошнія словы Паўла: „Дайшоў. Настаяў! Няхай ведаюць Авосьцы... Вот... Не за дзякуй... Не... Савецкая ўлада можа, мусіць, умее і зробіць... новае сьветлае радаснае жыцьцё“...

З боку жыцьцёвай праўдзівасьці ды ідэёвасьці п'еса „На стыку“ значна вышэй стаіць за тую „халтуру“, якая часта ставіцца на падмостках нашых тэатраў.

Застаецца сынтаксычны або, лепей казаць, стылістычны бок зборніка.

Калі заходзіць пытаньне аб стылю Гартнага, дык няма чаго сьпірацца наконт таго, што ён піша сваім асобным стылем. Мова Цішкі Гартнага зусім *ня мяккая*, не рахманая мова. Але, вядома, што „стыль, гэта ёсьць сам чалавек“,—і аб тым, каб зьмяніць па сутнасьці стыль аўтара, думаць не выпадае (толькі ў *наіўных* галовах можа зарадзіцца такая думка). Мова можа быць толькі аб выпраўленьні пэўных шурпатасьцяй стылю, адхіленьняў яго ад звычайных сынтаксычных норм. Што да стылю Ц. Гартнага, дык бязумоўнай хібай аўтара ў яго ранейшых творах было ўжываньне пэрыодычнай мовы. Пэўнай адшліфоўкай стылю зьяўляўся пераход да кароткіх сказаў.

Аднак, зборнік „Прысады“ паказвае якуюсь дзіўную нявытрыманасьць манеры аўтарскага стылю. Вось, напр., два спамежныя апавяданьні: „Хільшчык Шлёма Брыкер“ і „Таварыш інспэктар“. Калі ў другім апавяданьні маюць перавагу кароткія, лёгкія сказы, дык у першым заўважаем як-бы рэцыдыў да ранейшай аўтарскай манеры, і тутака даюцца такія *цяжкаскладаныя* сказы, як вось гэты: „Пры сьцяне, побач вушакоў, тачыла сьцёртае, прыроблена да шчарбатага цэбрыка, чорнага-чорнага, як-бы з дзёгцю зьлепленага, густая, у сініх тлустых скалках, вада, тухлая—нясе на ўвесь двор, мяшаючы імпат з густым смуродам бярозавага дзёгцю“ і да гэт. пад. Чым растлумачыць гэту зьяву? Можа быць, стылістычная апрацоўка зьмянялася ў залежнасьці ад настрою аўтара. А можа быць, тут справа тлумачыцца прасьцей. Наагул, нашым сучасным выданьням бракуе пэўнай стылістычнай апрацоўкі — рэдакцыі. Тут ясна, што сам аўтар ня можа быць рэдактарам сваіх твораў. Думаецца, што пры наладжанай стылістычнай рэдакцыі шмат якія творы, што цяпер выкідаюцца Дзяржаўным Выдавецтвам без абы-якой рэдакцыі, мелі-б больш адшліфаваны, гожы выгляд. Здаецца, што адсутнасьцю стылістычнай рэдакцыі і адпаведнай рэдактарскай карэкты можна вытлумачыць пэўныя бракі мовы зборніка, як, напр., на стар. 50, „адказа*ла* двое хлопцаў“, а праз некалькі радкоў якоесь дзіўнае „отведы“ (Дзямяна). Такія выпадкі не адзіночныя і за іх, бязумоўна, аўтара выхваляць ня прыходзіцца.

Аднак, зусім правільна ў сцэнічных творах мова пэўных пэрсонажаў—зрусыфікаваных, даецца такою, якою яна ёсьць у рачаіснасьці, г. зн. у форме беларуска-расійскага жаргону. Напр., Юстына гаворыць: „Як я люблю эці вечары! Оне асьвяжающь маю жысьць... Толькі і суцяшэньня... Ня то-б—загразла у этай... бросьні, у этай ціне... Нет! Пускай Павал прыязжае, і я перад ім пастаўлю вапрос рубам: пасьледні раз, апошні раз“... Такая „жаргонная“ мова зьяўляецца зусім натуральнай у тых сцэнічных творах, дзе пэрсонажы бяруцца з сучаснай рачаіснасьці. Незразумела адно: чаму ў драматычных сцэнах „Дзьве сілы“ Роза Іванаўна, жонка інжынэра Лусты, гутарыць на больш-менш правільнай беларускай мове?..

У цэлым-жа можна лічыць, што зборнік „Прысады“ адпавядае задачам узбагачэньня нашай мастацкай прозы.

**Мікола Крывіч.**

**Андрій Панів. Вечірні тіні.** *Плужанин, 1927 г. 63 стар.*

Шэраг вершаў, прасякнутых шчырым каханьнем да „ланів чорних і зелених“, „гречок біло-медяних“, „струнних тополів“: „наче ті юнаки“. Лепшым з вершаў, якія выяўляюць у аўтару „сына вёскі“, трэба прызнаць „Жита“:

Медяно дзвонять бджоли,
Блакить вгорі безмежна...
Блакить вгорнула поле,
Ласкаво-обережно
Роскидуе квіткі...
Ї зазоріли в житі
Волошок ясні очі,

Затуливо роскриті
Спитати небо хочуть,
А з ними колоски..
Облиті теплим світлом,
От ласки сонця п'яні
Покірно і привітно
Вклонилися коханій
Задуманій землі... і г. д...

Ва ўсіх гэтых вершах адчуваецца элегічны настрой, сум ціхага вечара. „В тихий вечір“ ён разьвітаецца з роднымі палямі. І палі, і сонца, і грэчкі просяць яго застацца: Не йди-остаиься!

Пам'ятаєш, як я цілувало
Табе сонного тут уранці?..
Та коли-ж ми тебе зустрінем,
Та чи скора вернеш додому?

Але аўтар ня траціць бадзёрасьці і прадвяшчае родным палём новую будучнасьць:

І прийдуть до вас нові боги—
Мовчазні, могутні, грізні—
Переорють стежкі, дороги,
У обійми візьмуть залізні...
Розмовлятиме жито з залізом,
Жниці вже шепотіти не буде,
І не буде ій лоскотати
Колосками засмаглі груди...

Індустрыялізацыя вёскі — галоўная думка, якая чырвонай ніткай праходзіць праз усю творчасьць А. Панова. І ў сваім імкненьні прытрымліваецца програмы свайго літаратурнага гуртка (Плуг) пісьменьнік часам дагаварваецца да крайнасьцяй. У вершы „Захід“ ён заяўляе, што вуліцы заметнага гораду ён не прамяняў-бы на родныя палі:

Ні, я синій рух швидких трамваів,
Гомін цих нерідних—рідних вулиць
Не виддам за пахощі трав'яні
І житів моіх спокійний шум.

Так і хочацца спадзявацца, што гэта lapsus.

Вы не пачуеце ад Панова сумных скаргаў романтыка з поваду таго, што на гару Эльбрус (гл. верш „Ельбрус“)

Ще невідомую путь
Знайдуть машини і люди—
Птиці стальні поклюють
Білі незаймані груди.

Ён толькі радуецца, калі бачыць, як акоўваюць Дняпро (Дніпрельстан):

Помчить електрокров по жилах,
Як думка, в селах полетить:
Нову непереможну силу
Під небом понесуть дроты...
Плуги без тракторів, машини,
Де сила схована Дніпра.
І над порогами Вкраіни
Трансатлантичний пароплав.

В. Полішчук пабываў у Крыме, з кніжкі-ж А. Панова можна даведацца аб тым, што яму пашанцавала зрабіць падарож па Каўказу. З вершаў, якія адбіваюць гэту падарож, у першую чаргу трэба адзначыць „Тифліс вночі“. Вось адрыўкі з яго:

Навкола мовчки вартували гори,
І золотилась голова Казбека—
Немов маяк в небесному просторі—
І близько, і далеко...
І сталі загоратись очи в міста,
І стали з неба зорі падать
І гаптувати темний оксамит
Чорноволосу ніч огненними нитками.

З іншых вершаў заслугоўвае яшчэ ўвагі „У вагоні“. Разьмер добра адпавядае руху цягніка:

Свічкою вгору тополі—
Зникли... пробігли... нема,
Плаче самотня у полі
Сосна...
Брязніт назустріч швидкий,
Рух.
Потяг, як мысль, прудкий...
Вщух...

Адносна знадворнага боку данага зборніка А. Панова шмат не даводзіцца гаварыць. Вобразаў новых і сьвежых даволі. Што-ж да разьмеру і рыфмаў, дык тут трэба зноў успомніць словы проф. А. Музычкі, якія мы падавалі по поваду вершаў В. Полішчука.

**П. Б.**

**Працы Акадэмічнае Канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі** (14—21 лістапада 1926 г.). *Інстытут Беларускае Культуры. Аддзел Мовы і Літаратуры.* Пад рэдакцыяй старшыні Аддзелу Мовы і Літаратуры *С. Некрашэвіча* і Старшыні Інстытуту Беларускае Культуры *Ў. Ігнатоўскага. Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры. Менск—1927. XXVII+429, стар. 8°.*

„Працы“ Беларускай Акадэмічнай Конфэрэнцыі вышлі з друку праз больш чымся поўгода пасьля конфэрэнцыі. Аднак, калі прыняць пад

увагу, што навуковае выданьне патрабуе асабліва пільнага нагляду, можна лічыць выхад кнігі няпозным. Аб'ёмістая, у 456 з лішкам старонак, досыць прыгожа выданая кніга матэрыялаў, зьвязаных з працаю конфэрэнцыі,—прамоў, дакладаў, протоколаў камісій ды інш.,—зьяўляецца вельмі значным дасягненьнем Інстытуту Беларускае Культуры ў цэлым, а Аддзелу Мовы і Літаратуры—паасобку. „Працы“ конфэрэнцыі даюць вельмі багаты матэрыял для азнаямленьня з сучасным станам выўчэньня беларускай мовы і беларускай літаратуры.

Пасьля цікавай, чыста памастацку пабудаванай, прывітальнай прамовы старшыні конфэрэнцыі Ўс. Ігнатоўскага, найбольш багаты зьместам даклад С. М. Некрашэвіча—„Сучасны стан вывучэньня беларускай мовы“. Каштоўныя веды дае і даклад П. Бузука—„Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моваў“, ня гледзячы на некаторую нявысьветленасьць асноўных палажэньняў дакладчыка з пункту погляду географіі і гісторыі фактаў мовы і пэўную спрэчнасьць тэорыі „хваль“, на прынцыпах якой быў пабудаваны даклад, чаму пасьля яго і пачаліся досыць заўзятыя спрэчкі між удзельнікамі конфэрэнцыі (проф. Фасмэр, т. т. Воўк-Левановіч, Немчынаў ды інш.). Аднак, ня ўсе даклады, якія былі зроблены на конфэрэнцыі і зьмешчаны ў „Працах“ яе, угрунтаваны ў належнай ступені. Гэта трэба сказаць паасобку адносна дакладаў, якія датычаць асноўных пытаньняў конфэрэнцыі,—пытаньняў аб рэформе беларускай азбукі і правапісу. Па абодвух гэтых пытаньнях галоўныя даклады былі зроблены Яз. Лёсікам. Але гэтыя даклады і належаць да катэгорыі няўгрунтаваных з навуковага погляду. Садаклад проф. П. Расторгуева „Да рэформы беларускае азбукі“ таксама ня даў чаго-небудзь новага параўнальна з тым, што было выказана ім раней. Дыскусіі, якія разгарнуліся пасьля дакладаў Яз. Лёсіка і П. Расторгуева, зусім выразна выявілі спрэчнасьць тэзісаў дакладчыкаў і давялі, пры гэтым, поўную навуковую неўгрунтаванасьць „высказваньняў“ Яз. Лёсіка аб нібы расійскім пахаджэньні літар *„э“* і *„ы“* і яўную памылковасьць яго гіпотэзы аб утварэньні апошняй літары з *„ь—і“*. Шкада, што гэтыя памылковыя „высказваньні“ яшчэ да конфэрэнцыі знайшлі сабе пашырэньне ў пазаакадэмічных колах і трапілі ў някрытычна настроеную публіку. Даклад Яз. Лёсіка „Да рэформы беларускага правапісу“ меў сваім зьместам апрацаваны ім разам з Ант. Лёсікам проект рэформы беларускага правапісу, на падставе прынцыпу „вялікага“ аканьня або, прасьцей кажучы, „яканьня“. У аснову дакладу і проекту была ўзята, можа быць, і *правільная* думка: „вялікае“ аканьне сапраўды зьяўляецца характэрнай асаблівасьцю тэй гаворкі, што складае грунт беларускай літаратурнай мовы. Але, ў пераважнай большасьці іншых гаворак Беларусі, за вынікам некаторых мясцовасьцяй, мае месца так званае „дысыміляцыйнае“ аканьне. Можа быць, што ў выпадках ненаціскнога „е“ лепш было-б скарыстаць ня „я“ (вельмі цьмяны і спрэчны гук), а які-небудзь іншы знак, але ясна, што тая або іншая рэформа правапісу Тарашкевіча зьяўляецца бязумоўна патрэбнай, як крок да зьбліжэньня нашай літаратурнай мовы з жывой *масавай* мовай. Аднак, памылкай аўтараў проекту было тое, што яны не далі дакумэнтальных угрунтаваньняў сваіх палажэньняў.

Садаклад С. М. Некрашэвіча „Да пытаньня аб рэформе правапісу“ і мае галоўным чынам вагу ў сваёй крытычнай часьці, паказаньнем на мэтодолёгічную нераспрацаванасьць проекту бр. Лёсікаў.

Наогул-жа даклады па пытаньнях рэформы правапісу ды азбукі і спрэчкі, якія разгарнуліся па гэтых да-

кладах, яскрава даводзяць адно—*слабую падрыхтоўку,* у часе перад конфэрэнцыяй, навуковых матэрыялаў для разьвязаньня высунутых пытаньняў.

Адсутнасьць віленскіх дэпутатаў і некаторых выдатных спэцыялістых-беларусазнаўцаў сама па сабе не магла не адбіцца адмоўна на працах конфэрэнцыі.

Адсюль зразумела, што „Працы“ Акадэмічнай Конфэрэнцыі не даюць рашучых вынікаў для разьвязаньня пытаньняў рэформы правапісу і азбукі. Маецца поўная рацыя сумнявацца ў тым, што знойдзе сабе ажыцьцяўленьне пастанова Графічнай Камісіі аб замене афрыкат *„дж“* і *„дз“* сэрбскімі літарамі. Сапраўды, чаму сэрбскімі, а не баўгарскімі, ня чэскімі, не валоскімі? Лепш ужо вынайсьці свае ўласныя знакі. Таксама спрэчным зьяўляецца і ўвод *„йот“* у склад беларускай азбукі, асабліва ў тым спосабе, які прапануецца ў пастанове Камісіі з захаваньнем *я, ю, е, ё* пасьля сугалосных. Зусім конкрэтнай *можна* лічыць толькі пастанову Правапіснай Камісіі аб „аканьні“ ў чужаземных словах.

Прыкрае ўражаньне робіць разгляд на конфэрэнцыі пытаньняў, зьвязаных з дасьледваньнем беларускай літаратуры. Калі ня лічыць кароткай прамовы Юз. Галомбэка, па гэтых пытаньнях было зроблена тры даклады: проф. Пятуховіча—„Асноўныя этапы разьвіцьця новай беларускай літаратуры“, М. Гарэцкага—„Нашаніўскі пэрыод у беларускай літаратуры“ і А. Вазьнясенскага—„Поэтычнае мастацтва навейшае беларускае літаратуры“. Найбольш грунтоўным з усіх гэтых дакладаў зьявіўся апошні даклад, хаця ён па сутнасьці выяўляе тыповы прыклад формальнага схолястычнага падходу. Даклады-ж проф. М. Пятуховіча і М. Гарэцкага па сваёй сутнасьці, як паказваюць „Працы“, былі лекцыямі, прызначанымі для асоб, якія *толькі пачынаюць* знаёміцца з беларускай літаратурай. Найбольш жывыя проблемы нашай літаратурнай сучаснасьці ня былі закрануты на конфэрэнцыі. Дзіўна тое, што зусім былі занядбаны пытаньні выўчэньня і дасьледваньня беларускага фольклёру, які тымчасам павінен быў-бы ў першую чаргу зьвярнуць на сябе ўвагу конфэрэнцыі.

У „дадатках“ да „Прац“ паміж іншых матэрыялаў зьмешчаны не зачытаны на конфэрэнцыі даклад Л. Цьвяткова „Некалькі слоў аб беларускім элемэнце ў польскай лексыцы“. На мой погляд, „Працы“ значна выйгралі-б, калі-б гэты даклад зусім ня быў надрукованы. Магчыма, што пытаньні, якія ў ім разглядаюцца, самі па сабе цікавыя, але яны ня ўвязваюцца з непасрэднымі задачамі конфэрэнцыі ды, апрача таго, „некалькі слоў“ (у загаловачным сэнсе) мабыць з грахом папалам маглі-б падыйсьці для артыкулу ў якім-небудзь навукова-популярным часопісу, а зусім не для дакладу на навуковай конфэрэнцыі.

Выданьне зроблена не бяз друкарскіх памылак, але іх значна менш, чымся ў іншых нашых выданьнях.

Наогул, кніга выдана акуратна.

**М. Байкоў.**

**Зборнік вершаў „Угрунь“ Андрэя Александровіча.** *Выданьне БДВ 1927 г. Ц. 80к.*

### Песьні радасьці жыцьця

Вышаўшая нядаўна кніжачка „Угрунь“—зборнік вершаў Андрэя Александровіча—неяк адразу заваявала сымпатыю і ўвагу чытача. І зусім зразумела, што з гэтае-ж прычыны разгляданы зборнік набыў шэраг прыхільных водгукаў у нашай прэсе.

Разьвіцьцё беларускае літаратуры ў пасьлякастрычнікавы пэрыод ідзе вельмі шпаркімі крокамі. Кніжны рынак узбагаціўся досыць каштоўнымі выданьнямі рознастайнага зьместу.

Поэзія займала сярод выдавецкіх навінак досыць вялікае, каб не сказаць домінуючае, значэньне. Але сярод гэтае буйное продукцыі маладых песьняроў не заўсёды можна напаткаць творы, па характары падобныя да зьмешчаных у зборніку „Угрунь“.

Прачытаўшы, нават павярхоўна, гэту кніжачку, сама праз сябе набягае агульная ацэнка яе, як зборніка „песень радасьці жыцьця“, прычым гэта радасьць „крынічыць“ і „вірлівіць“ абсолютна ва ўсіх праявах нашага, часамі досыць складанага жыцьця. Гэта радасьць абумоўлена, на наш погляд, суб'ектыўным падыходам маладога, пачынаючага жыць поэты, які скрозь прызму свайго оптымізму бачыць у нашай сучаснасьці хвалю вясёласьці, знаходзячы яе ў самых рознастайных момантах. Напрыклад:

Там, дзе шыр балотаў,
Вечных лоз драмучых,
Там кіпіць работа,
*Радасьцю* гаручай (стар. 74).

Або:

Ці простаю сьцежкай іду, ці крывою.
*Радасьць* у сэрцы сваім нашу (стар. 39).

Далей:

*Радасьцю* сьветлай,
Як сэрца поэты,
Цьвіце залаціста
Мая Беларусь (стар. 42).

І яшчэ:

Многа патрачана,
Знойдзена болей.
Знойдзена *радасьць*
Нязнаных хвілін (стар. 48).

Зноў:

Як глянеш—сэрца *радуе*,—
Будуем новы лад.
У кожнай хаце радыё,
І *радасьць* зацьвіла (стар. 18).

Можна было-б падаць яшчэ больш прыкладаў, але і паданых, нам здаецца, хопіць. Элемэнты праяўленьня бадзёрасьці, яснага погляду на нашую сьветлую будучыну ў поэзіі трэба, бязумоўна, вітаць. Але разам з гэтым нельга ў асьляпленьні асабістае радасьці адрывацца ад сапраўднай рачаіснасьці і ня бачыць таго, што далёка і далёка ня ў „кожнай хаце радыё“, а разам з ім і „радасьць“ не такі ўжо сталы „пастаялец“ у нашым жыцьці.

Асноўны мотыў вершаў Александровіча—гэта бадзёрасьць, абумоўленая тым сугуччам працы, якое так характэрна для нашае эпохі. Недарма поэта заклікае:

Гаратлівасьці былой
час пазбыцца нам,
Забудуем шыр балот
камяніцамі (стар. 10).

Але разам з гэтым застаецца поэту добра вядомым і тое, што справа будаўніцтва новага ладу—справа цяжкая, яна вымагае шмат напружанае энэргіі.

Цяжкая праца, ня лёгкая праца,
Цяжка, браты, беднаце будавацца (стар. 10).

Александровіч—поэта гораду; гук „сталёвых“ машын, “гулкія гудкі“, „электразіхаценьне“—яго стыхія. Але ідучы ў нагу з жыцьцём, ён ведае аб тэй задачы, якая стаіць перад намі. Вёска, шмат адстаўшая ў культурным разьвіцьці, патрабуе дапамогі ад пролетарскага гораду. Адгэтуль:

Няхай сутарэньне
Мяне прабачае,
Пайду па шляхох беларускіх далін.
Пайду я па вёсках, бо іх пакідаюць,
Ня вывеўшы ў полі заросшы палын (стар.39).

Поэта правільна ўсьведамляе тое значэньне, якое мае горад у сэнсе дапамогі хутчэйшаму ўздыму дабрабыту вёскі. Агульнымі сіламі гэта не такая ўжо недасяжная мэта, бо—

Рабочыя адважныя
На фабрыку ідуць—
Хутчэй пазбыць сярмяжную
Нам спадчыну-бяду.
У вёску з самажнейкамі
Імчацца цягнікі.
Пачуюцца з жалейкамі
Гудкі... гудкі... (стар. 17).

Ня гледзячы на нялёгкасьць працы, на вялізарнасьць стаячых задач, на шмат перашкод, усё-ж вера ў перамогу—асноўная рыска творчасьці Александровіча. Не дарма ён адзначае:

Што нам мяцеліца?
Што завіруха?
Што нашу моладасьць
Можа стрымаць? (стар. 53).

Аднак, поэта застаецца верным сабе, тэй клясе, гэроічную працу якое ён апявае. Горад—яго родная стыхія, і дзеля гэтага зусім зразумела, калі ён гаворыць:

Зноў я вярнуўся, вярнуўся ў свой горад
І пакланюся яго харастну... (стар. 41),

таму што:

Горад мой родны, я не зракуся
Гучных мэлёдый сталёвых машын (стар. 41).

І гэта вернасьць гораду—рабочай клясе ў поэты сапраўды адчуваецца на працягу ўсяго зборніку. Нават песьню сваю вясёлую, „радасьць" ён таксама нясе непасрэдна ў рабочую хату.

Песьняй люблю я
У сьвята прыходзіць.
У хату рабочага
Нізкі паклон (стар. 54).

Зусім ня чужымі для поэты зьяўляюцца мотывы жалю да радзімы, за яе цяжкі шлях пад уцiскам захопнікаў суседзяў. Поэта піша:

Сьвету яснага ня бачыў край вякамі,
Грудзі кволыя сьціскаў халодны мур.
Слова роднае закоўвалася ў камень,
Народ наш знаў турму і сьмертны
шнур (стар. 35).

Але роспачы няма месца. Заклік да змаганьня з прыгнятальнікамі беларусоў у Заходняй Беларусі, вера ў перамогу і ў тое, што „надыйдзе новае агністае сьвітаньне",—вось той мотыў, якім прасякнута творчасьць поэты.

Мы не далі-б яснага малюнку і характарыстыкі зборніку, калі-б ня спыніліся і на яго недахопах як формальнага парадку, так і на зьмесьце. Зразумела, гэта ані не прыніжае тэй мэтаімкнёнасьці, якое дабіваецца поэта. Імкненьне даць здаровую песьню працы і змаганьня ў сучасных умовах, калі некаторыя поэты

...бяспрытульнымі
песьнямі выюць нудліва,
праз сьлёзы ўзьнімаюць асінавы
сьмех (стар. 40),

трэба толькі вітаць і вітаць. Аднак, нашым абавязкам зьяўляецца папярэдзіць і нашых поэтаў, і блізкіх нам, ад тых хібаў, якія часам мімаволі ўліваюцца ў творы і ўваходзяць у сыстэму.

Але вернемся да зборніку. Перш за ўсё вульгарызмы, якія аўтар ужывае, мабыць, для большай „пролетарскасьці". Напрыклад:

Эх, *маць трохтварая!*
Дубініцу зацягнем
І паставім
Новыя масты (стар. 26).

Ня многа, аднак, трэба, каб пабудаваць новы лад. Матам пакрыў і досыць. Хоць поэта і любіць у сьвята з песьняй прыйсьці ў хату рабочага, але з такімі рэчамі ня варта. Рабочы добра разумее, што яму трэба рабіць, і за гэткую параду можа гэтым самым „матам" пацягнуць і аўтара.

Неабходна зжываць чорныя ўплывы расійскіх сучасных пісьменьнікаў (тыпу Есеніна), якія ўводзілі „маты" ў культ. Пролетарскай літаратуры яны зусім непатрэбны.

Такія-ж вобразы, як „Кожнае слова іх смутак зьвівае, *быццам бясьсільлем хварэе ўдава*", зусім ня ўздымаюць нашае літаратуры, не гавораць больш-менш аб культурнасьці аўтара.

У зборніку зьмешчана поэма „дваццаць", у якой поэта дае свой жыцьцяпіс. Можа гэта прыём і ўдалы, паколькі ў ім адбіваецца быт мяшчанскага прыгараду, ускрываюцца цёмныя бакі жыцьця. Але зусім не да-рэчы бахвальства ўдзелам у пагроме, што мы чытаем на стар. 104. Літаратурнай каштоўнасьці гэта ня мае абсолютна ніякай. Уведзенае-ж у поэму, прыніжае яе мастацкую і моральную вартасьць.

Другое, на чым нам хочацца асабліва спыніцца, гэта на момантах палітычнай пісьменнасьці. Поэта ў вершы „налева—левую", піша:

Пяю ня лірыку,
а *экономнадстройку.*
Пра рост чырвонца,
пра наш савецкі лад (стар. 26).

З якое гэта пары ў „нашым савецкім ладзе" экономіка з базісу стала „надстройкаю"? Нікому да

гэтага часу яшчэ невядома; я упэўнен, што і поэта ня ведае. Аднак, ужываньне, можа мілагучных і орыгінальных, але ляпсусаў, зусім не дарэчы. Я не дапушчаю, каб гэта было пераконаньнем аўтара, гэтага ня відаць ва ўсім яго зборніку. Тут проста ахвяра рыфме і некаторай сугучнасьці.

Яшчэ лепей вызначыўся поэта ў вершы „Міністр“ (стар. 32). Там мы чытаем:

*Белай* плыньню хвалі Рэйна
б'юцца злосна ў берагі.
*Энгельс, Маркс, Ласаль* і Гейнэ
*Чулі ў хвалях веснавейных*
*гоман родны, дарагі.*

Можа гэта з боку формы, разьмеру, сугучнасьці, рыфмы і надта добра, але гэта паклёп на рэволюцыйны інтэрнацыяналізм Маркса, Энгельса. З такімі „пэрламі“ ў „хату рабочага“ хадзіць ня варта, можа пашкодзіць.

Гэтыя формы з відавочнасьцю паказваюць, што трэба яшчэ шмат і шмат вучыцца, а таксама і да вершаў адносіцца з большаю пашанаю, сапраўды ўкладваць у іх сваю душу, клікаць вершам да лепшага, даваць вершам праўду. Бо нельга-ж:

Ці простаю сьцежкай іду, *ці крывою*
Радасьць у сэрцы сваім нашу.

Што за пацеха можа быць, калі памыляешся, ідзеш па няправільным шляху? Радасьці тут няма ніякае. А калі гэткае „credo“ даецца на людзкі суд—шкада тады поэты за яго нясур'ёзнасьць у справе свайго самавызначэньня і самаацэнкі.

Зварачаючы на гэта ўвагу, шчыра хочацца ад душы пажадаць маладым песьняром, якія, узяўшы правільны курс, далі шмат карыснага рабочай клясе ў яе барацьбе, каб яны, улічыўшы заўвагі, яшчэ больш паднялі якасьць сваёй продукцыі і тым паслужылі агульнай справе.

Наогул кажучы, зборнік „Угрунь“ кніжачка, якая сьведчыць аб узросьце поэты, аб яго ідэёвай выкрышталізаванасьці, і якая будзе карыснай для шырокіх колаў грамадзтва.

Выдана яна досыць прыгожа і на добрай паперы, шрыфты чытэльныя і толькі дарагі кошт—80 кап.—робіць яе недаступнай шырокім колам рабочай і комсамольскай моладзі.

**Ф. Гарадзенскі.**

**Кастрычнік на Беларусі**. Зборнік артыкулаў і дакумантаў. (Матэрыялы да гісторыі Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі). Улажыў **С. Агурскі.** *Выпуск I. Выданьне Камісіі ЦВК БССР па сьвятканьні 10-лецьця Кастрычнікавай рэволюцыі і Гістпарту ЦК КП(б)Б. Менск 1927 г. стар. 485 Infol 8°. Цана 1 р. 50 к. Тыраж 3.000 экз.*

У гэтым годзе, разам з усім СССР, Беларусь сьвяткуе найвялікшы ў гісторыі юбілей—10-лецьце Кастрычнікавай рэволюцыі. Кастрычнік для Беларусі мае асаблівае значэньне. Ён ня толькі вызваліў рабочага ад эксплёатацыі яго фабрыкантам і селяніна ад памешчыка, але і вызваліў рабочыя масы Беларусі ад нацыянальнага прыгнечаньня, павярнуў гісторыю Беларусі на шлях соцыялістычнага будаўніцтва, прынёс незалежнае палітычнае і экономічнае жыцьцё. Гэта агромністая кніга ў 485 ст., аб якой тут падаецца рэцэнзія, зьяўляецца першай юбілейнай кнігай, што і павінна расхінуць старонкі Кастрычніка на Беларусі.

Кніга гэта ахоплівае час з 1917 па 1919 г. і складаецца з дзьвюх частак. У першую частку ўвайшлі (стар. 1—307) успаміны, а другая частка (стар. 311—465) складаецца з дакумантаў. Выданьне гэта, відаць, разьлічана ня столькі на рабочую і сялянскую масу, для якой патрэбны больш популярныя і невялічкія выданьні, колькі на рабочую і сялянскую інтэлігенцыю. У канцы кнігі падана хроніка рэволюцыйных падзей.

На першай старонцы кнігі дана прадмова „Ад Гістпарту“, у якой зазначаецца важнейшая літаратура на

расійскай мове, якая адбівае падзеі Кастрычніка на Беларусі. Адзначаецца значэньне Беларусі, як фронту імпэрыялістычнай вайны, на тэрыторыі якой былі сконцэнтраваны мільёны рабочых і сялян у салдацкай шынэлі. Зазначаюцца важнейшыя гістарычныя падзеі Кастрычніка на Беларусі. Тут-жа гаворыцца, што Гіспарт ня меў на ўвазе даць поўную гісторыю Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі за адсутнасьцю архіваў, але што мэта была сабраць патрэбны матэрыял для будучага гісторыка. У канцы паказаны выданьні, адкуль узяты ўспаміны і дакуманты для гэтага зборніку. Тут, як і раней, паказаны толькі выданьні расійскія і не паказана ніводнага выданьня на беларускай мове, як, напр., „Дзяньніца“, „Сав. Бел.“, „Весткі“ і др., дзе таксама ня мала цікавых матэрыялаў да Кастрычніка на Беларусі. Але ўкладчык тут ня тое, каб ня ведаў беларускага друку, ён проста сьвядома пастараўся выкінуць усё беларускае з „Кастрычніка на Беларусі“, як гэта ўбачым ніжэй. Да зборніку напісаны ўводзіны, дзе на аснове кнігі Кнорына „1917 г. в Белоруссии и на Зап. Фронте“ і кнігі проф. Доўнар-Запольскага „Нар. Хоз. Белоруссии“ і др., даецца кароткая характарыстыка Беларусі на мяжы 1917 г. і ў Лютаўскую рэволюцыю.

Успаміны, якія зьмешчаны ў зборніку „Кастрычнік на Беларусі“, паводле зьместу вельмі рознастайныя. Большасьць з іх дае простае апісаньне падзей Кастрычнікавай рэволюцыі ў беларускіх гарадох. Маюцца артыкулы аб зьездах франтовых і Савету Раб., Чырв. і Сял. Дэпутатаў, аб чыннасьці комуністычных арганізацый, некалькі артыкулаў прысьвечана газэце „Звезда“ і г. д. З усяго зборніку пад 1919 г. значацца толькі два невялічкія ўспаміны аб стрэкапытаўшчыне і Віленскім зьезьдзе Савету Раб. Дэпутатаў. Апроч гэтага, у асобны аддзел вылучаны тры артыкулы, што датычаць часу міжнямецкай і польскай окупацыямі. Большасьць артыкулаў напісана ў палемічным тоне, расьцягнуты і мала даюць конкрэтных даных.

Пасьля прагляду зборніку „Кастрычнік на Беларусі“ застаецца вельмі дрэннае ўражаньне ад тэндэнцыйнага падбору матэрыялаў, аднабокасьці, недагаворанасьці і сьвядомага затушоўваньня шмат якіх важнейшых гістарычных фактаў. Самыя ўспаміны, якія зьмешчаны ў зборніку, напісаны ня зараз, у абставінах мірнага будаўніцтва, але ў часе напружнае рэволюцыйнае барацьбы ды мелі на ўвазе ня столькі гістарычную дасканальнасьць падзей, колькі палітычныя мэты. Друкаваць зараз артыкулы газэтныя і з часопісаў, напісаныя гадоў 8-10 таму назад, бяз усякіх рэдакцыйных заўваг і тлумачэньняў, значыць зусім не разумець гісторыі. Укладчыка зборніку, відаць, і ня цікавіла ні Беларусь, ні гісторыя, для якой ён узяўся падбіраць матэрыялы. Ён да гісторыі падыходзіць суб'ектыўна і разглядае яе так, як яму хочацца.

Укладчык кнігі зусім выкрэсьлівае ў гісторыі Беларусі Кастрычнікавага пэрыоду такія факты, якія ведае кожын рабочы і селянін, што змагаліся за Савецкую Беларусь. Ведае іх і ўкладчык, але яго суб'ектыўны погляд, відаць, дае яму магчымасьць пакінуць іх па-за полем гістарычных даных.

Узяць для прыкладу хоць-бы такія факты, як, напр., у зборніку няма нічога аб чыннасьці беларускіх Сэкцый РКП(б), быццам іх і ня было зусім. Тымчасам каму няведама вялікая роля гэтых партыйных арганізацый у справе барацьбы за Савецкую Беларусь.

Нічога не гаворыцца аб чыннасьці Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту ў Маскве і яго аддзяленьнях, чыннасьць якога была ўвесь час накіравана на змаганьне за Кастрычнікавую перамогу, за ўмацаваньне

Кастрычніка на Беларусі і абвяшчэньне Савецкай Беларусі. Нічога гэтага ўкладчык прызнаваць ня хоча. Спасылацца на тое, што няма архіваў, тут ня прыходзіцца, бо могуць знайсьціся і архівы, дый жывы яшчэ і самі ўдзельнікі гэтай важнай працы. Няма ў зборніку ніводнага слова аб падпольных беларускіх комуністычных організацыях у часе польскай окупацыі, адсутнічаюць весткі аб беларускім друку ў часе Кастрычнікавых дзён і г. д.

Нават такі надзвычайнай гістарычнай важнасьці момант, як абвяшчэньне Савецкай Беларусі і выданьне маніфэсту 1 студзеня 1919 г., амаль зусім у зборніку не закранута. Самы маніфэст зьмешчаны ў канцы зборніку, тымчасам як гэты дакумант павінен займаць у зборніку віднае месца, як дакумант надзвычайнай вартасьці.

Каб ня подпісы на маніфэсьце, дык гісторык ва ўсім зборніку не знайшоў-бы вестак, хто стаяў на чале Часовага Рэволюцыйнага Ўраду Савецкай Беларусі. Нават сярод многалікіх фотографій, выкінуты ўсім вядомыя беларускія рэволюцыянэры і барацьбіты за Савецкую Беларусь, як Ігнатоўскі, нябожчык Бурбіс і др.

Я ўжо нічога ня буду казаць аб розных плынях ды памылках па пытаньні аб Савецкай Беларусі ў тых партыйных організацыях 1917-1919 г., што працавалі на Беларусі. Напрыклад: Віцебскія таварышы нават не прызнавалі абласьніцтва; аб памылках Абліскамзапу гаварыў Кнорын у сваёй кнізе „1917 г. в Белоруссии и на Зап. Фронце“. А ўкладчык падабраў матэрыял да гісторыі Кастрычніка на Беларусі бяз „сучка і задорынкі“. Так падбіраць дакуманты да гісторыі Беларусі нельга.

Ужо з гэтых павярхоўных заўваг відаць, якая каштоўнасьць рэцэнзаванага зборніку для гісторыі Кастрычніка на Беларусі. Каштоўнасьць вельмі ня пэўная.

**Н. С.**

1) Weltanthologie des XX jahrhunderts. Erster Band. Europäische Lyrik der Gegenwart 1900—1925 In Nachdichtungen von Josef Kalmer. Werlagsanstalt Dr. Zahn und Dr. Diamant Wien (Leipzig Druck: Koch und Werner, Wien (стар. 319).

2) Meyers Klassiker-Ausgaben. Volkslieder der Slawen Ausgewählt, übersetzt, eingeleitet und erläutert von Paul Eisner. Bibliographisches Institut. Leipzig (стар. XXXII+560).

**(Славянская поэзія ў нямецкіх мастацкіх перакладах).**

Яшчэ з часоў Гэрдэра і Рыкерта немцы выявілі сябе як здольныя і старанныя перакладчыкі чужаземнае поэзіі. У нямецкіх кнігарнях вельмі лёгка набыць вялікую колькасьць антолёгій, пачынаючы ад грэцкіх і рымскіх і канчаючы найноўшымі зборнікамі поэзіі розных экзотычных старонак—і ўсё гэта ў добрых нямецкіх перакладах. У параўнаньні з гэтым багацьцем робіцца неяк сорамна ня толькі нам, што, маючы дасканалага перакладчыка ў асобе Янкі Купалы, не пасьпелі ўтварыць некалькі антолёгій,—але і некаторым заходня-эўропэйскім нацыям.

Мы нядаўна атрымалі дзьве вельмі цікавыя кніжкі: 1) Сусьветную антолёгію 20-га сталецьця, першы том. Сучасная нам эўропэйская лірыка 1900-1925 г. Пясьнярскі пераклад Язэпа Кальмэра і 2) Слявянскія народныя песьні.

Пераклады вядомых нам твораў эўропэйскіх песьняроў зроблены даволі прыгожа і досыць блізка да аўтэнтыку.

Часам здаецца, ня поўнасьцю захаваны вершавальныя асаблівасьці. Што да мясцовае ахварбоўкі, дык у гэтых адносінах Язэп Кальмэр не перайшоў належнае мяжы, ня страціў пачуцьця меры. Падбор выдатных аўтараў усё-ткі няпоўны, напрыклад: характэрных прадстаўнікоў некаторых больш новых плыняй мы не знаходзім сярод расійскіх песьняроў; сярод беларусаў няма Гартнага, Ча-

рота, маладых пісьменьнікаў і г. д.; украінскія, польскія дый неславянскія поэты таксама даны не ў належным ліку. Не заўсёды выбраны творы найбольш характэрныя для данага аўтара. Але нацыянальны дух добра вытрыман. Кожны аддзел дае чытачу прадстаўленьне аб псыхолёгіі пэўнага народу. Некаторыя пераклады асабліва каштоўны ў гэтым сэнсе.

Язэп Кальмэр падбіраў, відавочна, найлепшыя лірычныя творы і, калі той ці іншы аўтар мала лірычны, а найбольш эпічны, дык пакідаў яго лірыку бяз увагі. Часткова гэтым і тлумачыцца падбор вершаў, узятых для перакладу. У кожным выпадку гэты падбор зроблены даволі ўмела. З Купалы і Коласа ня ўзяты ўсё-ткі, як мне здаецца, найбольш характэрныя для іх лірычныя творы. Затое Максім Багдановіч дасканала прадстаўлены сваім славутым „Сонэтам", „Сярод пяскоў эгіпэцкай зямлі, над хвалямі сінеючага Ніла". „In der Wüste im Ägypterland, an des blinkenblauen Nilstroms strand і г. д. Даны ўзор і поэзіі Зьмітрака Бядулі.

Урэшце, трэба помніць, што антолёгія—гэта не гісторыка-літаратурная чытанка, але нешта іншае, дзе індывідуальнаму густу даецца больша прастора. Трэба яшчэ цаніць і тое, што ў кніжцы прадстаўлены амаль усе эўропэйскія літаратуры.

Наогул кніжка робіць вельмі добрае ўражаньне. З надворнага боку прыемна замена готыкі лацінкаю.

Другая разгледжаная намі кніжка—„Народныя славянскія песьні" дае таксама добрыя пераклады, але ў некаторых пунктах мы прынцыпова ня можам згадзіцца з перакладчыкам Паўлам Эйснэрам. Папершае—дапатопная тэрміналёгія, напрыклад, Kleinrussisch замест Ukrainisch. Далей, ні на чым не ўгрунтавана думка аб залежнасьці беларускага фольклёру (у частковасьці—сьпеваў) ад суседніх (стар. 20: „мешаніна вялікарасійскага з маларасійскім"). Таксама ненавуковаю трэба лічыць ідэю аб адзіным агульнарускім народзе, „найменшую галіну якога складаюць буларусы" (ibidem). Гэтыя думкі Эйснэра няправільныя (тымчасам як у Кальмэра (стар. 100) слушна заўважана, што нават літаратуры ў лужычан, беларусаў і украінцаў знаходзяцца ў сувязі з народнаю прыродаапісальнаю лірыкаю і з песьняй і з казкай). Падбор матэрыялаў у Эйснэра наогул ня дрэнны. Характэрна для нашае народнае творчасьці спачуваньне ўсяму жывому: і беднаму коціку, якога сярдзіты кухар несправядліва абвінавaціў, і зайчыку ды іншым мілым зьвярочкам і птушачкам; ёсьць тут прыгожая купальская песьня, вясельныя і г. д. Тым больш нечаканымі зьяўляюцца салдацкія песьні з моцным чужым уплывам:—„Добрай ночы, Саша!—„Добрай ночы, Маша, добрай ночы, любанька мая!" („Gute Nacht, Sascha!" „Gute Nacht, Mascha, gute Nacht, Feinsliebchen mein" і далей: „у нашага камандзіра ні штаноў ані мундзіра (няма).—(Hat unser Kommandeur nicht Hosen, noch Mundur"—стар. 158).

Песьні гэтыя маглі і сапраўды сьпявацца на беларускіх абшарах, нават і салдатамі-беларусамі, але нічога характарнага беларускага ў іх няма. Здаецца і салдацкія песьні можна знайсьці больш вытрыманыя ў беларускім духу (хоць такіх і мала). Трэба зьвярнуць увагу і на непатрэбную мясцовую ахварбоўку—часам няўдалую: „Sein volle Mass Wodka der Tuhrman trank". Папершае, можна было паставіць Branntwein замест Wodka, а далей і слова гэтае якраз не беларускае, бо ў нас ужываецца дакладны адбітак гэтага самага Branntwein—гарэлка (гарэць—brennen) (стар. 152).

Няправільнасьцяй і недакладнасьцяй, аднак, ня многа, ды, прымаючы пад увагу вялізную колькасьць вельмі цікавага славянскага фольклёрнага матэрыялу ў нямецкім блізкім да аўтэнтыкі перакладзе—трэба лічыць кніжку вельмі цікаваю і карыснаю.

**Л. Цьвяткоў.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Сярод пісьменьнікаў і поэтаў**

* *Якуб Колас* зараз напісаў дзьве казкі—„Залаты прамень“ і „На ўсё ёсьць прычына“, прысьвечаныя гадавіне Кастрычніка, і пачаў пісаць апавяданьне „На сьвятой зямлі“. Апошняе будзе друкавацца ў часопісі „Полымя“.

* *Янка Нёманскі* піша вялікі роман з часоў імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнаў пад назвай „На рубяжы сталецьця“. Роман будзе друкавацца з восьмага нумару „Полымя“ ў г. г.

* *Т. Кляшторны* рыхтуе да друку новы зборнік вершаў „Сьветацені“. Таксама гэты-ж аўтар піша фантастычную поэму „Сусьветы“, якую будзе друкаваць у часопісі „Полымя“.

* У палове кастрычніка г. г. зьвярнуліся з загранічнае камандыроўкі па Латвіі, Нямеччыне, Францыі і Чэха-Славакіі беларускія пісьменьнікі і поэты—Цішка Гартны, Міхась Зарэцкі і М. Чарот.

Наведаньне гэтымі пісьменьнікамі, разам з Янкам Купалам,—Чэхіі і спатканьне іх з выдатнымі навуковымі працаўнікамі і пісьменьнікамі ў Празе адчыніла новую старонку ў культурных зносінах паміж БССР і Чэхаславацкай рэспублікай.

Навуковыя і пісьменьніцкія колы надзвычайна ўважліва і прыхільна аднесьліся да прадстаўнікоў беларускае культуры. Портрэты нашых пісьменьнікаў былі зьмешчаны ў буйнейшых чэскіх і нямецкіх часопісах („Prager Presse“, „Kmen“, „Reflektor“, „Rude Pravo“), а таксама надрукаваны вытрымкі з іх твораў.

Зараз навуковыя працаўнікі Чэхіі і пісьменьнікі ўзяліся за сталае вывучэньне беларускае літаратуры і прымаюць захады да сыстэматычнага азнаямленьня з ёю свайго грамадзянства.

* *Янка Відук* рыхтуе зборнік сваіх вершаў і піша поэму „Ленінцы“.

* *Лясны* піша роман пад назвай „Раніца“, які адбівае сучаснае жыцьцё беларускай моладзі.

* *А. Дудар* закончыў новую поэму „Байкал“. Поэма будзе друкавацца ў часопісі „Полымя“.

* *Паўлюк Шукайла* зараз працуе над вялікай аповесьцю „Бацька Булак-Балаховіч“. І гэтым-жа аўтарам падрыхтаваны да друку зборнік вершаў „Акорды дзён“ і поэму „Любоў забруджаная“.

* *Анатоль Вольны* напісаў прыгодніцкую аповесьць „Антон Савіцкі“ на падставе гістарычных матэрыялаў. Аповесьць друкавалася ў газэце „Савецкая Беларусь“.

* *В. Каваль* рыхтуе да друку зборнік сваіх апавяданьньняў пад назвай „На загонах“.

* *Міхась Чарот* зараз піша новую поэму „Асінград“, якая ахоплівае сучаснае соцыялістычнае будаўніцтва ў Беларусі.

* *Я. Ліманоўскі* пачаў пісаць вялікую аповесьць пад назвай „Над абрывам“. Аповесьць часткамі будзе друкавацца ў часопісі „Полымя“.

* *Андр. Александровіч* падрыхтаваў да друку новы зборнічак вершаў „Яўрэйскія мотывы“. Друкаваць будзе ЦБ Маладняка. Гэты-ж аўтар піша новую поэму „Цені на Сонцы“,

дзе адаб'е беларускае сучаснае культурнае жыцьцё.

Поэму аўтар будзе друкаваць у „Полымі".

* *М. Грамыка* напісаў п'есу з часоў 1917 г. пад назвай „Каля тэрасы", якую прыняў у свой рэпэртуар 2-гі Бел. Дзярж. Тэатр. Гэта трэцяя п'еса", напісаная пісьменьнікам за гэты год („Над Нёмнам, „Воўк", „Каля Тэрасы").

* У Менску заснавалася новае згуртаваньне пісьменьнікаў і поэтаў пад назвай „Беларуская Літаратурная Комуна".

Згуртаваньне здало ўжо ў друк першы нумар сваёй часопісі.

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* З 1 кастрычніка г.г. ў Віцебску п'есай „Кастусь Каліноўскі" распачаў тэатральны сэзон Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр. Першыя пяць месяцаў тэатр прабудзе ў Віцебску, а пасьля выедзе на гастролі ў Воршу і Менск.

Апрача старых сваіх пастановак ІБДТ рыхтуе цэлы шэраг новых пастановак: „Панцырны цягнік" (Бронепоезд) Іванова, „Перэпецыя"—п'еса Рамановіча з сучаснага вясковага жыцьця, „Сьнягурка"—дзіцячая п'еса Ільлінскага і „Цэмант"—Гладкова.

З музычных пастановак сёлета рыхтуюцца: „У даліне"—Д. Альбэра, падзеі якой узяты з часоў барацьбы швэйцарскага сялянства з фэўдаламі, музычная камэдыя „Прыгожая Гэлена" ў сучаснай апрацоўцы, а таксама ёсьць намер (калі хопіць часу) паставіць „Гальку"—Манюшкі.

З старых п'ес аднаўляюцца: „Мешчанін у шляхецтве", „На купальле" і „Машэка".

Сёлета ўтвараецца спэцыяльны беларускі балет на сюжэт „Мушка-зелянушка", лібрэто для якой ужо напісаны Ільлінскім і Гаевым.

Опэра „Русалка" пойдзе ў новым афармленьні пад рэжысурай Сэляха і Міровіча.

Апрача рэжысэра тав. Міровіча, ІБДТ на паасобныя пастаноўкі будзе запрашаць такіх выдатных артыстых, як Воўкава (з Мхат'а), Смоліча, Гайдабурава і Крыжыцкага з Ленінграду.

* Беларускі мастак Філіповіч намаляваў новую карціну „Беларуская сялянка", якую пакажа на другой усебеларускай мастацкай выстаўцы.

* Композытар М. Аладаў напісаў комічную опэру на беларускай мове паводле беларускага народнага твору „Тарас на Парнасе".

* На мастацкай выстаўцы нацыянальнасьцяў у Маскве, організаваны і адчынены беларускі аддзел з беларускага саматужнага сялянскага мастацтва, якое спэцыяльна для гэтай мэты зьбіралася па акругах БССР. Мастацтва гэта цалкам яшчэ знаходзіцца пад уплывам старых традыцый, але паступова пачынаюць прасякаць у народнае мастацтва плыні новага жыцьця; напрыклад, зьявіліся ўзоры сярпа і молата, чырвонаармейскага шлема.

Каб даць поўны малюнак народнага мастацтва, на выстаўку паслана некалькі слуцкіх паясоў і іншых прадметаў музэйнага мастацтва з Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

Апроч таго, у беларускім аддзеле выстаўкі нацыянальнасьцяй прадстаўлена наша жывапісь і выдавецка-літаратурная справа. Музыка прадстаўлена рукапісна-нотнай літаратурай, а таксама і ўсёй музычнай літаратурай, якая да гэтага часу выдана ў БССР. На выстаўцы таксама ёсьць куток нашай клюбнай і школьнай творчасьці. Асобнае месца ў беларускім аддзеле займае архітэктурны аддзел, дзе ў выглядзе плянаў, макетаў і фотографій прадстаўлены малюнак нашага будаўніцтва за 10 г.

Тэатральнае мастацтва прадстаўлена лепшымі макетамі і эскізнымі пастаноўкамі чатырох тэатраў БССР.

Народны аддзел выстаўкі зьмяшчаецца ў Няскучным садзе, а чатыры мастацтвы (жывапісь, разьбярства, графіка і архітэктура)—у вы-

ставачным памяшканьні Вхутэмаса па Мясьніцкай вуліцы.

Пры гэтай выстаўцы Дзяржаўная Акадэмія Мастацкіх Навук, супольна з Наркамасьветы БССР, наладжваюць вялікія нацыянальныя вечары, на якіх будуць выступаць з дакладамі аб стане беларускай літаратуры і мастацтва, пісьменьнікі ўсіх нашых літаратурных груповак („Маладняк“, „Узвышша“, „Юнгер Арбэйтэр“, „Комуна“ і „Пробліск“). Робяцца захады, каб на гэты вечар выехаў цалкам студыйны хор пры Наркамасьветы.

* У Беларускім музычным тэхнікуме сёлета адчынены новыя клясы: драматычная і інструктарская.

Запрошаны з Масквы па клясе роялю новы спэцыялісты па раялю т. Пятроў і артысты-рэжысэр, профэсар Востокаў.

Опэрная кляса музтэхнікуму ў гэтым сэзоне рыхтуе да пастаноўкі опэру на беларускай мове „Фауст“ і „Русалка“.

* Мастак Воўкаў малюе портрэты некаторых політычных дзеячоў, беларускіх артыстых і беларускую казку (ілюстрацыя для друку).

* Ю. Дрэйзін пераклаў за лета найвыдатнейшую з драм Сафокля „Эдып-Тыран“. Пераклад зроблены з пільным захаваньнем разьмераў першатвору.

Таксама Ю. Дрэйзін пераапрацаваў і канчаткова падрыхтаваў да друку пераклад комэдыі Арыстафана „Лізістрата“.

* Зараз над вялікай композыцыяй з сучаснага быту вайскоўцаў працуе Менскі мастак Кругер.

* У Менск прыехаў адзін з выдатных сучасных тэатральных крытыкаў і рэжысэр дзяржаўнага акадэмічнага тэатру імя Е. Вахтангова—С. А. Марголін.

Тав. Марголін будзе ставіць п'есу беларускага драматурга М. Грамыкі „Каля тэрасы“ ў Другім Бел. Дзярж. Тэатры.

* Беларускі мастак Пернікаў зьняў копію з вядомай карціны Аралава „Будзённы прарывае польскі фронт“. Карціну купляе Музэй Рэволюцыі Беларусі.

* 8 лістапада г. г. ў Менску адчынілася другая ўсебеларуская мастацкая выстаўка, прысьвечаная 10 гадавіне Кастрычнікавай рэволюцыі. На выстаўцы прадстаўлены аддзелы выяўленчага мастацтва, народнага мастацтва і тэатру. На гэтую выстаўку атрымана больш як 600 экспонатаў з усіх канцоў БССР. Таксама сабрана шмат экспонатаў сярод мастакоў і графікаў беларусаў, якія працуюць і вучацца ў Маскве і Ленінградзе і ўвесь час трымаюць сувязь з Беларусьсю. Атрыманы экспонаты на выстаўку ад мастакоў беларусаў з Сібіры і іншых месц СССР.

У час выстаўкі будуць організаваны лекцыі і дыспуты па пытаньнях выяўленчага мастацтва, на якія будуць запрошаны лектары з Масквы.

У журы мастацкай выстаўкі Наркамасьветам зацьверджаны т.т. Вансоўскі (старшыня), проф. М. Шчэкаціхін, скульптар Грубэ, мастак Кастылянскі і інш.

* 16 кастрычніка г. г. адчыніў тэатральны сэзон II Бел. Дзярж. Тэатр п'есай „Апраметная“ В. Шашалевіча. Тэатр прабудзе ў Менску да 1 сакавіка 1928 г., а пасьля выяжджае ў Гомель і Бабруйск. Тэатр мае аднавіць у Менску шэсьць старых пастановак і, апроч таго, падрыхтаваць за гэты сэзон дзесяць новых пастановак. З старых пастановак будуць паказаны наступныя:

„Цар Максімільян“—беларуская народная драма, пабудаваная на беларускім фольклёры. Гэта першая студыйная праца, якую тэатр ужо паказваў у Менску ў 1924 годзе.

„Сон у летнюю ноч“—комэдыя Шэкспіра, у якой тэатр ажыцьцявіў спробу, так званых, сьветавых дэкарацый. Гэтая спроба складае навіну

нават і для вялікіх тэатраў у цэнтрах. Гэтая пастаноўка ў мінулы сэзон прайшла ў Віцебску 22 разы.

Далей, „Вакханкі“ Эўрыпіда—клясычная грэцкая трагэдыя. Гэтая пастаноўка зьявілася чарговай ступеньню ў акторскім разьвіцьці нашага колектыву.

П‘еса І. Бэна „У мінулы час“ з часоў паншчыны на Беларусі. Гэта п‘еса, спатканая досыць стрымана ў Віцебску, мела вялікі посьпех на провінцыі, дзе аудыторыя вельмі шчыра рэагавала на пакуты беларускага сялянства ў мінулыя часы, што так яскрава малюецца ў п‘есе.

Нарэшце, будуць адноўлены „Эрос і Псыха“—драматычная аповесьць Жулаўскага ў перакладзе Янкі Купалы і комэдыя з беларускага сучаснага жыцьця „Астап“ А. Глобы. Гэта апошняя п‘еса, якая даходзіць па свайму зразумеламу зьместу да гледача, мела надзвычайны посьпех, прайшоўшы 24 разы за сэзон.

З дзесяці новых п‘ес, набытых тэатрам і прынятых да пастаноўкі, у першую чаргу трэба адзначыць новы твор М. Грамыкі „Каля тэрасы“. У гэтай п‘есе дзеі адбываюцца ў Беларусі, увосень 1917 г., калі ўжо пачалася агонія часовага ўраду і ўжо адчувалася перамога Кастрычнікавае рэволюцыі.

Далей пойдуць „Гайавата“ паводле Леонгфэлло (з жыцьця народаў Паўночнай Амэрыкі), „Вол“—М. Грамыкі (драма з жыцьця беларускай вёскі з часоў перад самай імпэрыялістычнай вайной).

Апроч таго, тэатр рыхтуе дзьве пастаноўкі, галоўным чынам, для менскіх рабочых клюбаў—вечар беларускіх комэдый і вечар замежных інтэрмэдый.

Гэтыя шэсьць пастановак ужо падрыхтаваны і будуць паказаны ў Менску да 1-га сакавіка.

Рэшта новых п‘ес („Анжэлло“—В. Гюго, „Мушка-зелянушка“—маладога драматурга М. Міцкевіча, „Робін-Гуд“ і адна клясычная эўропэйская п‘еса) паступяць у апрацоўку ў другой палове сэзону.

* Мастак Грубэ рыхтуе скульптурную працу з дрэва „лірнік“, гіпсавы бюст пісьменьніка М. Багдановіча і проект помніка вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

* У Бэрліне вядомы расійскі музыкальны дзеяч Е. Бройда ў музэях выпадкова знайшоў яшчэ невядомы зборнік беларускіх песень. Гэтыя песьні маюць этнографічнае значэньне.

* *Філіповіч* рыхтуе малюнак з сялянскага быту, *Касьцялянскі*—тыпы яўрэяў, *Кудрэвіч*—краявіды з ваколіц Менску, *Ахола*—каляровую гравюру на апаліне гістарычнага доміку 1-га зьезду.

* Беларускае таварыства драматычных пісьменьнікаў і композытараў у сучасны момант налічвае 36 членаў, з якіх 25 драматургаў і 11 композытараў.

Членамі таварыства могуць быць драматычныя пісьменьнікі, перакладчыкі і композытары, творы якіх былі выкананы тым ці іншым парадкам перад публікаю; таксама мастакі дэкаратары, творы якіх выкарыстоўвалі профэсыянальныя артыстыя ў часе тэатральных пастановак.

Справамі таварыства кіруе праўленьне ў складзе старшыні З. Жылуновіча і членаў: Я. Дыла, Ф. Ждановіча, М. Красінскага, А. Міровіча і М. Грамыкі.

* Беларускія ўдзельнікі на міжнароднай музычнай выстаўцы ў Франкфурце на Майне, цымбалісты Навіцкі і сьпявачка Александроўская выступалі на 10 концэртах. Выступленьні беларускіх артыстых прайшлі з вялікім посьпехам. Чужаземцы праявілі цікавасьць да беларускай музыкі і песьні.

Савецкая частка на выстаўцы закончыла сваю працу. Нямецкае тэатральнае т-ва „Вольф“, якое прымала ўдзел у міжнароднай выстаўцы, організавала концэртнае турнэ па Эўропе ў складзе 10 выканаўцаў ад

усіх народаў, прадстаўленых на выстаўцы.

Концэртанты наведаюць Нямеччыну, Аўстрыю, Голяндыю, Швэцыю і Францыю. У лік гэтых 10 выканаўцаў уваходзяць таксама выканаўцы ад БССР—Александроўская і Навіцкі. Турнэ працягнецца 4—5 месяцаў і закончыцца ў Парыжы.

**Рознае**

* Музэй Рэволюцыі пры ЦК КПБ выдаў другі зборнік—„Кастрычнік на Беларусі". Матэрыялы зборніку прысьвечаны часу польскай окупацыі.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны прыступіла да выданьня альманаху беларускае літаратуры на украінскай мове.

Пераклады з беларускай літаратуры рабілі лепшыя украінскія пісьменьнікі і поэты.

У сваю чаргу Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі падрыхтоўвае да друку альманах украінскае літаратуры на беларускай мове пад назвай „Чырвоная Украіна".

* У беларускім музэі адчыняецца новы аддзел—старога беларускага мастацтва. У гэты аддзел ужо прыслана каля 50 вельмі каштоўных карцін VII—XIII ст.

* Знойдзены выпадкова ў Менскай навукова-музэйнай бібліотэцы рэдкія кнігі: „Славянска-беларускі слоўнік" выданьня 1640 году і кніжка славянскага друкара Фіола.

„Славянска-беларускі слоўнік" друкаваўся ў манастыры пад Воршай. Яшчэ ў 1840 годзе вядомы расійскі ўчоны Сахараў перадрукаваў гэты слоўнік, прычым з вялікімі цяжкасьцямі быў знойдзен ім гэты орыгінал, які мае вялікую бібліографічную і навуковую каштоўнасьць.

* Неўзабаве прыяжджае ў Менск вядомы археолёг Сьпіцын, які займаецца вывучэньнем археолёгічных каштоўнасьцяй Бел. Дз. Музэю.

* Музэйныя ўстановы БССР складаюцца: з Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску і падпарадкаваных яму аддзяленьняў музэяў у Гомелі, Віцебску і Магілеве.

У бягучы момант Бел. Дзярж. Музэй распарадкаван на аддзелы: археолёгічны, нумізматычны, мастацкі, царкоўна-гістарычны, этнографічны, яўрэйскі і вайсковай старажытнасьці.

*Археолёгічны аддзел* зьяўляецца гордасьцю і славай музэю. Тут сабраны конкрэтныя знаходкі на Беларусі палеоліту (старакаменнага веку), адкрытыя археолёгам Палікарповічам у Парэччы на Сожы, каля в. Берды. Знаходкі складаюцца з мамонтавых касьцей, груба аббіваных крамнёвых прыладаў, вугольчыкаў—рэшта вогнішча; гэта паказвае на яўныя сьляды чалавека, які жыў там на зямлі побач з мамонтам дзесяткі тысяч год таму назад.

Ёсьць даволі колекцый каменнага веку (нэоліт): тапары, абухі, малаткі і інш.

Раскопкі курганоў далі музэю шмат знаходак грыўняў, бранзалетаў, пярсьцёнкаў і інш. Некаторыя знаходкі курганоў сьведчаць аб культуры жыхароў нашага краю за тысячы і больш гадоў таму назад. Тады ўжо ўмелі хораша аздабляць і любіць дробныя рэчы з бронзы і срэбра.

*Аддзел нумізматычны* і старагістарычных грошай налічвае звыш 10 тысяч экспонатаў. Сабраны гэты аддзел выключна з экспонатаў са знойдзеных на Беларусі скарбаў. Монэты гэтыя гавораць аб тым, скуль, якія чужыя гандляры і як даўно прыяжджалі ў наш край. Тут ёсьць монэты Грэцыі, Рыму, Сярэдня-Азіяцкія, якія адносяцца да розных часоў, пачынаючы ад II веку нашае эры.

Даволі багатая колекцыя монэт сабрана з часоў існаваньня Літоўска-Беларускага гаспадарства.

*Царкоўна-гістарычны* аддзел складаецца выключна з абразоў, пісаных на Беларусі. Найстарэйшы ўзор абразу гэтага аддзелу—(абраз прападобнага Ільлі) адносіцца да 1447 г., далей ідуць абразы 16, 17 і 18 ст. ст.

Цікавым зьяўляецца абраз з надпісам: „гэты абраз Пакрова малявалі мужыкі вёскі Шалаеўкі: Якуб Кот з Сымонам Варфаламеем году 1750“.

*Мастацкі аддзел* музэю вельмі абшырны, і ён складаецца з малюнкаў алейнай фарбы на палатне і дрэве, з акварэляў, маляваных на паперы гравюр, скульптур, выкананых на мармуры, бронзе, дрэве і гліне.

Найбольшая заля музэю занята пад новачаснае мастацтва Беларусі— мастакоў: Сьлендзіноўскага, Рустэма, Арлоўскага, Урублеўскага, Ясінскага, Піліповіча і інш.

Старое мастацтва Беларусі прадстаўлена выключна гістарычнымі портрэтамі князёў Слуцкіх-Радзівілаў, ваяводаў Віленскіх, Менскіх і інш.

Другая заля музэю занята орыгіналамі расійскай мастацкай школы: Тропініна, Брулава, Рэпіна, Серова, Макоўскага, Левітана, Айвазоўскага, Ярашэнкі, Сяміградзкага і інш.

Заля старога заходня-эўропэйскага мастацтва мае цікавыя орыгіналы галяндзкіх, нямецкіх, ангельскіх, італьлянскіх і францускіх мастакоў.

*Этнографічны аддзел* займае найбольшую залю. Тут сабраны мастацкія тканіны, дываны, капы, посьцілкі, набіванкі і інш. Сабрана шмат экспонатаў хатніх рэчаў нашага сялянства і розныя прылады хатняга рамяства: кросны, бёрды, гарнушкі, збаны і інш.

Аддзел сабраў шмат рознай вопраткі: спадніц, сарочак, сьвітак, паясоў з калітамі і шабэтамі.

*Яўрэйскі аддзел* займае 2 пакоі, у якіх прадстаўлены яўрэйскі быт і мастацтва. Тут сабраны яўрэйскія рукапісныя кнігі на пэргамэнце, старадрукі, пінкусы (літоўскія), вышыўкі, торы і інш.

Апроч таго, пры БДМ знаходзіцца архіў, дзе сабраны старадрукі, рукапісныя кнігі, зарысоўкі і інш. і бібліотэка, якая складаецца з 2.000 томаў прац аб мастацтве, археолёгіі, гісторыі і нумізматыцы.

*Гомельскі музэй* складаецца з колекцыі мастацкіх рэчаў, сабраных у палацы б. князя Паскевіча. Там ёсьць высокай вартасьці мармуровыя статуі, габэлены, розная мэбля, бронза і, урэшце, вялікая колькасьць мамонтавых касьцей. Пры музэі ёсьць да 20 тысяч томаў кніг, пераважна на чужаземных мовах.

*Віцебскі музэй* багаты нумізматычнымі і археолёгічнымі колекцыямі і мае добры этнографічны аддзел.

*Магілеўскі музэй* мае шмат экспонатаў па царкоўнай старасьветчыне, этнографічны і фізычныя аддзелы.

* Усесаюзнае таварыства культурнае сувязі з заграніцай паведаміла Белдзяржвыдавецтва, што яно запрошана на міжнародную выстаўку друку, якая адчыняецца ў 1928 годзе ў Кельне (Нямеччына). Галоўныя аддзелы выстаўкі: штодзенная газэта, часопісь, кніга, друк і мастацтва, журналістыка, фотографія, кінэматографія і інш.

Удзел Белдзяржвыдавецтва будзе заключацца ў адпраўцы мастацкіх узораў кніг на мясцовых нацыянальных мовах, мастацкіх дыяграм, часопісаў, плякатаў, ілюстрацый народных казак у нацыянальным стылі і г. д.

Белдзяржвыдавецтва запрасіла выставачны камітэт аб колькасьці месц, прадастаўленых яму на выстаўцы.

* У Ленінградзе знойдзены зборнік усіх актаў б. праўленьня Менскае провінцыі часоў Наполеона. Усе акты напісаны на польскай мове і складаюць вялізную рукапісную кнігу ў 1.200 старонак. Зборнік мае вялікае значэньне для вывучэньня гісторыі Беларусі. Акты знайшоў прадстаўнік польскага аддзелу Інбелкульту.

* Кнігаабмен беларускіх навуковых установ і кнігасховаў з замежнымі, які праводзіцца пры дапамозе ўсесаюзнага таварыства культурнае сувязі з заграніцаю, зараз мае шырокае разьвіцьцё. Беларуская літаратура раней была мала вядома за граніцаю. Зараз становішча зьмянілася. Летапіс „Беларускі друк“, які выдаецца Беларускаю кніжнаю палатаю, рассылаецца праз УТКС некалькім дзесят-

кам замежных кнігасховаў і ўстаноў. Беларуская дзяржаўная бібліотэка, якая мае вялізную колькасьць дублікатаў, сыстэматычна пасылае свае сьпісы ў замежныя ўстановы, дзе апошнімі адзначаюцца тыя выданьні, якія-б яны жадалі атрымаць для сваіх бібліотэк. У сваю чаргу, Беларуская дзяржаўная бібліотэка атрымлівае аналёгічныя сьпісы дублікатаў ад заграцічных бібліотэк. На падставе гэтых сьпісаў праводзіцца шырокі абмен кнігамі і пэрыодычнымі выданьнямі.

У кнігаабмен з БССР уцягнуты буйнейшыя кнігасховы цэлага шэрагу дзяржаў: досыць адзначыць такія вядомыя бібліотэкі, як бібліотэка конгрэсу П.-А. Злуч. Штат. (у Вашынгтоне), Нью-Ёркская публічная бібліотэка (другая па разьмеры ў цэлым сьвеце), аб'яднаньне ўсіх нямецкіх навуковых організацый; Венская нацыянальная бібліотэка, Інстытут славяназнаўства ў Парыжы, Інстытут вывучэньня Усходняе Эўропы ў Рыме і г. д. Такім чынам, беларускія ўстановы шляхам кнігаабмену падтрымліваюць сувязь з шырокаю сеткаю організацый Заходняе Эўропы і Амэрыкі.

Кнігаабмен ахапляе як навуковую беларускую літаратуру, так і мастацкую літаратуру на беларускай мове. Якога шырокага разьвіцьця дасяг кнігаабмен з Беларусьсю, паказвае тое, што за адзін толькі жнівень адпраўлена за граніцу 969 выданьняў БССР і атрымана для БССР 455 замежных выданьняў.

Навуковыя працы Беларускага дзяржаўнага Унівэрсытэту адсылаюцца зараз у адрас некалькіх сот замежных навуковых устаноў у парадку абмену на іх выданьні. Значны посьпех дасягнут і ў кнігаабмене Беларускай Сельска-Гасп. Акадэміі з сельскагаспадарчымі навуковымі ўстановамі заграніцы.

* У Воршы адчыняецца першы ў БССР рабочы унівэрсытэт для чыгуначнікаў. Ініцыятыву організацыі унівэрсытэту ўзяў на сябе комсамол.

* Пры БДМузэі распачата гэтага лета будаваньне аддзелу „Стары Менск“. У аддзел „Старога Менску“ выдзяляюцца помнікі менскай мінуўшчыны. Пакуль што аддзел невялікі, але ў ім ужо цяпер знаходзяцца цікавыя для Менску помнікі, як напрыклад:

1. 4 шчыты рэчаў, выкапаных у часе рэгуляцыі Нямігі ў 1925 г. Тут маюцца старасьвецкія нажы, відэльцы, лыжкі, падковы, сякеры, замкі, ключы і іншая мэталёвая дробязь гарадзкога быту мінуўшых стагодзьдзяў.

2. Вітрына, якая заключае ў сабе пісаныя на беларускай мове граматы на пэргаманце 1593 і 1613 г. г. Абедзьве граматы зьяўляюцца выняткамі з кніг Трыбуналу вялікага княства Літоўскага (Беларускага) з кадэнцыі, адпраўленай у Менску.

3. Булава галавы Менскай рамесьніцкай управы з 1830-х гадоў.

4. Менскія цэхавыя харугві: харугвя цэху кравецкага 1830 г. і цэхавыя харугві 1850-х гадоў—шапавалаў, ткачоў, музыкантаў, сталяроў.

5. Клявікорд менскай фабрыкі музычных струмантаў першай паловы XIX ст. з надпісам: I. Foth Mińsk.

6. Гравюра 1820-х гадоў, на якой зьнята менская ратуша.

7. Акварэль менскага мастака Г. Герасімовіча з 1839 году, дзе намалёван цяперашні Пляц Волі, у той час „Наполеонаўскі Пляц“.

8. Малюнак на палатне алейнымі фарбамі менскага мастака Богуш Сестржэнцэвіча — „Менскае грамадзянства канца XIX ст.“ Мастак крыху карыкатурнай замашкай перадаў markup розношэрстнасьць тагачаснага Менскага bon-tonu і яго духоўную пустату.

9. Каля дзесятку нарысаў алейнымі фарбамі мастака Філіповіча менскіх старых будынкаў.

10. Старыя пляны гораду Менску.

11. Фотографіі і зарысоўкі.

* У часе свайго падарожжа па БССР мастак Тычына наткнуўся ў адным месцы ў Лепельшчыне на

цэлы скрутак слуцкіх паясоў. У гэтым скрутку было два цэлыя і некалькі парэзаных паясоў. На паясох ёсьць фабрычная марка. „У горадзе Слуцку Лео Маджарскі“, напісана паславянску.

Паясы складаюць вялікую музэйную каштоўнасьць.

### Хроніка беларускага друку

* Картбюро ВСНГБ канчае складаньне вялікай карты Беларусі ў маштабе 1:500.000. У карце будуць зазначаны насельніцкія пункты звыш 40 дароў, усе галоўныя шляхі, рэльеф мясцовасьці, водная сыстэма, межы і інш.

* Да 10-ай гадавіны Кастрычніка выдадзены Белдзяржвыдавецтвам масавыя п'есы для сялянскага і клюбнага тэатраў: *Дзічка*—„Хто не працуе, той ня есьць“, *Ляжневіч*—„Варажба“, „Таміла“, „Новыя ўсходы“ і інш., *Дубок*—„У тыя дні“.

* Вышаў з друку новы зборнік Віцебскай філіі „Маладняк“—„Сьвітаньне“, прысьвечаны юбілею 10-годзьдзя Кастрычнікавае рэволюцыі.

* Настаўнік Л. Іваноўскі ўлажыў пачатковую француска-беларускую граматыку для малодшых клясаў сямёхгодак.

* Дзеля азнаямленьня расійскіх колаў з беларускай мастацкай літаратурай, маскоўскае выдавецтва „Маладая гвардыя“ выдае зборнік перакладаў выбраных твораў беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў.

Зборнік будзе ўключаць у сабе творы наступных аўтараў: М. Чарота, Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, М. Зарэцкага, Ц. Гартнага, Крапівы і інш.

* Здадзены А. Дударом Бел. Дзярж. Выдавецтву для надрукаваньня новы зборнік „Вежы“.

* Друкуюцца Бел. Дз. Выд. новыя кнігі: Політычная экономія—Міхалеўскага, пераклад на беларускую мову М. Гурына; Мастацкая літаратура ў школьным выкладаньні—проф. І. Замоціна; Тэорыя гістарычнага матэрыялізму - Н. Бухарына, у перакладзе на беларускую мову і інш.

* Знаходзіцца ў друку вялікі роман на яўрэйскай мове „Сьмерць таварыша Вулі“ М. Тайшына.

* Друкуецца другім выданьнем поэма Якуба Коласа—„Сымон Музыка“.

### У Інстытуце Беларускай Культуры

* В. Ластоўскі піша новую вялікую працу аб Беларусі—„Матэрыяльная культура Беларусі“. Праца ахоплівае пэрыод ад XVI—XX сталецьця.

* У музэі Асьвейскага краязнаўчага таварыства Полацкай акругі маюцца вельмі цікавыя і каштоўныя каменныя тапары і іншыя старажытныя прылады. Гістарычна-археолёгічная камісія ІБК зьвярнулася ў музэй з просьбай перадаць у часовае карыстаньне гэты рэчы для вывучэньня іх.

* Профэсар Бэрлінскага унівэрсытэту Фасмэр прыслаў ІБК матэрыялы аб сыстэме і прынцыпах зьбіраньня слоў у Раманскай Швэйцарыі. Разам з тым ён зьвярнуўся ў Інбелкульт з просьбай высылаць выданьні ІБК Славянскаму Інстытуту пры Бэрлінскім унівэрсытэце.

* ІБК атрымаў ліст ад комуністычнай акадэміі з просьбай устанавіць контакт і інформацыю аб разьвіцьці беларускай культуры. Акадэмія жадае, каб гэта сувязь мела сталы характар і дапаўнялася асабістымі дакладамі прадстаўнікоў ІБК у камісіі па вывучэньні нацпытаньняў. Першым дакладчыкам выдзелен т. Ігнатоўскі.

* ЦБК выдаў да 10-ае гадавіны Кастрычніка спэцыяльны нумар часопісі „Наш Край“, які адбівае дасягненьні краязнаўчага руху ў БССР за 10 год.

* Бібліотэка Інбелкульту атрымала з Магілеву 1200 старых яўрэйскіх кніг па літаратуры і публіцыстыцы.

* Да сучаснага моманту галоўнай тэрмінолёгічнай камісіяй Інбелкульту надрукованы беларускія тэрмінолёгіі па наступных дысцыплінах: матэматыцы, географіі, космографіі, мінэралёгіі, геолёгіі, батаніцы, зоолёгіі, хэміі, анатоміі чалавека, лёгіцы, псыхолёгіі, мастацтву, грамадазнаўству, праву, сельскай і лясной гаспадарцы.

* Выдавецкі аддзел Інбелкульту падрыхтаваў і здаў у друк наступныя новыя кнігі: „Гісторыя мастацтва"—Шчакаціхіна, „Матэматычная тэрмінолёгія" вып. II, „Матэрыялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны"—Шлюбскага, „Матэрыялы да вывучэньня флёры і фауны Беларусі" (навуковы зборнік) том II, „Этнографічны зборнік", і „Філёлёгічны зборнік". Вайсковая камісія друкуе артылерыйскі і пяхотны статуты.

* У сувязі з рэорганізацыяй па акадэмічным статуту, ІБК паглыбляе сваю навуковую працу. Установы ІБК будуць падзелены на 2 аддзелы: аддзел гуманітарных навук і аддзел прыроды і гаспадаркі. У аддзеле гуманітарным ужо зорганізаваны катэдры: жывой беларускай мовы, беларускай літаратуры, сусьветнай гісторыі, дзьве катэдры па гісторыі Беларусі, катэдра па гісторыі Літвы ў сувязі з гісторыяй Беларусі, інстытут мастацтва, інстытут навуковай мовы і камісіі—этнографічная, археолёгічная, па вывучэньні гісторыі асьветы і па вывучэньні латыскай культуры.

На гэту зіму на гуманітарным аддзеле па клясе мовы прадстаіць вельмі адказная праца па спрашчэньні беларускага правапісу. Для працы ёсьць шмат матэрыялаў, якія дала акадэмічная конфэрэнцыя, а таксама матэрыялы, што паступаюць з месц, у сувязі з рассылкай зборніка прац конфэрэнцыі.

У аддзеле прыроды і гаспадаркі ўжо наладжаны: геолёгічны інстытут, катэдра глебазнаўства, катэдра батанікі з батанічным садам у Вялікіх Летцах, Віцебскай акругі, зоолёгічны музэй, катэдра географіі Беларусі і катэдра антраполёгіі. Аддзел мае добра абсталяваную лябораторыю.

Што датычыцца вывучэньня гаспадаркі, то яна ўжо была распачата раней. Працавалі—камісія па вывучэньні коопэрацыі на Беларусі і камісія хатніх рамёстваў.

Апроч таго, пры С.-Г. Акадэміі, як і ў мінулым годзе, будзе працаваць навуковае т-ва на правох філіі ІБК; у сувязі з новым статутам ІБК трэба будзе пераглядзець статут навуковага таварыства.

Нацыянальныя аддзелы пераймянаваны ў сэктары. Яўрэйскі сэктар будзе працаваць над гісторыяй, літаратурай і лінгвістыкай, над чым ён працаваў і ў мінулым годзе. Зьвернута будзе вялікая ўвага на пашырэньне вывучэньня фольклёру і слоўнікавага складу яўрэйскай мовы. Пры сэктары ўтворана соцыяльна-экономічная камісія, якая пачне працаваць толькі з гэтага году.

Польскі сэктар будзе працаваць над пытаньнем этнографіі, літаратуры і гісторыі.

Праца па пытаньнях латыскай і літоўскай культур будзе весьціся адпаведнымі камісіямі гуманітарнага аддзелу.

Непасрэдна пад кіраўніцтвам прэзыдыуму ІБК будуць працаваць: ЦБ краязнаўства, бібліотэка, выдавецкае бюро, камісія па вывучэньні вытворчых сіл краіны і бібліографічная камісія.

Новы статут, апрацаваны як статут акадэміі, накладае на ІБК абавязак пашырыць акадэмічныя досьледы і паглыбіць іх, прыцягваючы да працы больш высока-кваліфікаваных спэцыялістых, што ён ужо і зрабіў.

Для працы ў ІБК запрошаны: профэсар д-р Ясінскі (Масква) па катэдры сусьветнай гісторыі, проф. Малюшыцкі (Кіеў) па катэдры батанікі, вучоны Матулайціс (Ленінград) па катэдры гісторыі Літвы і інш. Апроч таго, вядуцца перамовы з вучонымі: Грунскім, Сансонавым і інш. Таксама больш будуць выкарыстаны сілы

вучоных, якія і раней працавалі ў ІБК—проф. проф. Пічэта, Замоцін, Афанасьева і інш.

ІБК мае зносіны з Комуністычнай Акадэміяй, Акадэміяй Навук СССР, Украінскай Акадэміяй Навук, Дагестанскім Інстытутам Культуры, Кніжнай палатай Грузіі, Ін-там Народнай Асьветы ў Кіеве, т-вам вывучэньня Манчжурскага краю і інш. З замежных устаноў ІБК трымае сувязь з Прускай Акадэміяй Навук, Праскай Акадэміяй Навук, з Бэрлінскім, Праскім, Варшаўскім, Літоўскім, Латыскім і інш. унівэрсытэтамі. Увогуле, ІБК наладзіў сувязь з 55 вышэйшымі навуковымі інстытуцыямі СССР і 20 інстытуцыямі па-за межамі Савецкага Саюзу.

* Прадстаўнік польскага аддзелу Інбелкульту сабраў у Ленінградзе вельмі каштоўны матэрыял па гісторыі польскага насельніцтва ў Беларусі ад 1587 г. па 1825 г. Матэрыялы ў гэтым-жа годзе часткова будуць скарыстаны.

* Клімавіцкае раённае краязнаўчае таварыства паведаміла ЦБК, што пры ўпадзеньні ракі Доўжанкі ў Сож па адных вестках знаходзіцца каля 18-20 сямей баброў, а па другіх каля 80. Таварыства падымае пытаньне праз адпаведныя органы аб абвяшчэньні гэтага месца дзяржаўным запаведнікам.

* Вярнулася ў Менск яўрэйская навуковая экспэдыцыя, якая езьдзіла ў Мазыршчыну для ўсебаковага вывучэньня экономічнага, санітарнага і культурна-бытавога жыцьця м. Нароўлю. Экспэдыцыю саправаджаў мастак. У склад яе ўваходзілі Г. Алексаndровіч (Інбелкульт), Х. Гольншток (Еўпэдтэхнікум) і доктар Эйгорн. Экспэдыцыя была організавана яўрэйскім аддзелам Інбелкульту і прапрацавала на месцы больш месяцу. Сабраны багаты і цікавы матэрыял з жыцьця яўрэйскага мястэчка.

* Вышлі з друку новыя вялікія выданьні ІБК: зборнік прац, прысьвечаных 400 годзьдзю беларускага друку—так званы „Скарынінскі зборнік“ ў 350 старонак і зборнік прац акадэмічнай конфэрэнцыі, які мае звыш 400 стар. У першым зборніку зьмешчаны працы проф. Пічэты, Дружчыца, Перцава, Шчакаціхіна і інш. Зборнік ілюстраваны ўзорамі беларускіх выданьняў XVI стагодзьдзя.

* Слоўнікавая камісія Інбелкульту сабрала пры дапамозе краязнаўчых організацый і розных асоб звыш 300.000 слоў жывой беларускай мовы. Камісія рыхтуе да выданьня вялікі акадэмічны слоўнік беларускае мовы. Падрыхтаваны да друку слоўнікі Калініншчыны і Чэрвеншчыны.

* Інбелкульт атрымаў запрашэньне прыняць удзел ва ўсесаюзнай конфэрэнцыі гісторыкаў і археолёгаў, якая адбудзецца ў бліжэйшы час у Хэрсонэсе (Крым).

Конфэрэнцыя прысьвечваецца да 100-годзьдзя раскопак Хэрсонэсу.

* У Белдзяржмузэй дастаўлен для агляду клад, які знойдзен каля м. Койданава. Клад мае 13 залатых монэт—голяндзкіх чырвонцаў XVIII стагодзьдзя і 5 Аньненскіх і Елізавецкіх руб.

### Культурная сувязь

Рэдакцыя Гётэборгскай комуністычнай газэты „Wäst Swenska Kuriren“ („Паўднёва швэдзкі кур'ер“) выдала нумар, прысьвечаны Беларусі. У нумары зьмешчаны артыкулы аб „Сямёхгадовым юбілеі Савецкай Беларусі“, „Асьвета ў БССР“, „Культура Беларусі“, „Сялянскі унівэрсытэт“. У нумары зьмешчана 6 фотоздымкаў і гэрб БССР. У перадавым артыкуле рэдактар газэты „Wast Swensku Kuriren“ E. Adamson вызначае той энтузіязм, з якім рабочыя і сяляне БССР будуюць новае жыцьцё і тыя посьпехі, якія яны ўжо маюць на эканамічным і культурным фронтах.

* Швэдзкая рабочая асоцыяцыя эспэранто мае на ўвазе выдаць на швэдзкай мове кніжку аб Савецкай Беларусі. Бюро Між. Раб. Сувязі

Эспэрантыстых Беларусі зьбірае патрэбны дзеля гэтай кніжкі матэрыял.

* *Фінляндыя*. У чатырох рабочых фінскіх газэтах:

„Tiedonantaja“; „Tyo“ i „Työaen lheti“ за апошні месяц зьмешчаны артыкулы: „7 год Савецкай Беларусі“, „Літаратура Савецкай Беларусі“, „Віцебская акуляравая фабрыка“.

* *Швэдыя*. „Politeken“ (орган ЦК Комуністычнай Партыі Швэдыі) зьмясьціў за апошні месяц 5 лістоў-артыкулаў ад селькораў і рабкораў з Беларусі аб культурным і эканомічным жыцьці беларускай вёскі.

* *Голяндыя*. Па просьбе цэнтральнай ком. газэты „Detribun“ — Бюро Між. Раб. сувязі паслала матэрыялы аб Беларускай ССР.

* *Японія*. У гэтай краіне працуе Савецка-Японскае Т-ва Культурнай Сувязі. Гэта таварыства выдае сваю часопісь „Япона-Савецкае Мастацтва“. Бюро Міжнароднай Сувязі мае сувязь з гэтым таварыствам, пасылае яму весткі аб культурным жыцьці на Беларусі і атрымлівае такія-ж весткі з Японіі. Таксама бюро атрымоўвае часопісь т-ва.

* *Англія*. На гэтых днях бюро атрымала ад Ангельскага т-ва культсувязі з СССР прапанову пачаць сувязь і абмен матэрыяламі, якія адзначаюць жыцьцё абедзьвюх краін.

* Саўнарком, Інбелкульт і Беларускае таварыства культурн. сувязі з заграніцай атрымалі запрашэньне прымаць удзел у замежных выстаўках, якія будуць прысьвечаны дасягненьням Савецкае ўлады за 10 год. Такія выстаўкі організуюцца ў Нямеччыне, Англіі, Аўстрыі і іншых краінах.

* Вядомы пісьменьнік і поэта Латвіі міністар асьветы, шчыры прыхільнік беларускае культуры Ян Райніс заняты пісаньнем гісторыі беларускае літаратуры. Ён-жа мяркуе стварыць латвійска-беларускае таварыства культурнага ўзаемадасьледваньня ў розных галінах навукі і мастацтва.

* Іоганэс Бэхэр згадзіўся даваць у часопісь „Полымя“ штомесячныя агляды нямецкай літаратуры, мастацтва, тэатру.

* Чэскае левае выдавецтва „Rok-rok“ рыхтуе да друку антолёгію беларускае літаратуры. Антолёгія будзе мець памерам 80 старонак. Пераклады робіць вядомы чэскі пісьменьнік Ёзэф Гора. Частка вершаў Янкі Купалы ўжо перакладзены Ё. Горам на чэскую мову.

* Чэскі пролетарскі крытык Ю. Фучык піша ўводзіны да зборніку чэскай літаратуры, які рыхтуе да друку БДВ. Ю. Фучык таксама ёсьць рэдактарам памянёнага зборніку.

* Вядомы знаток беларускай літаратуры і беларускага культурнага руху, чэскі публіцысты пр. Адольф Чэрны піша вялікі агляд сучаснай беларускай літаратуры.

* У часопісі „Slavia“, якую рэдагуе вядомы славіст проф. Мурок, надрукавана вялікая рэцэнзыя аб граматыцы Я. Лёсіка.

* Профэсар расійскай літаратуры пры Чэскім унівэрсытэце Е. Ляцкі зьмясьціў цэлы шэраг артыкулаў аб беларускай літаратуры ў італьлянскай, францускай і швэдзкай пэрыодычнай прэсе.

* У вядомай нямецкай газэце, што выдаецца ў Празе-Чэскай, „Prager Presse“ пэрыодычна даюцца агляды аб беларускай літаратуры, мастацтве, тэатры, працы Інбелькульту.

* Знатны чэскі пр. Неедлы ў выдаванай ім часопісі „Uar“ мае даць шэраг нарысаў аб БССР.

* Кіраўнік знатнага чэскага хору Бакула мае намер прыехаць у СССР і ў БССР у прыватнасьці. Бакулаўскі хор ужо ладзіў некалькі вечароў беларускае песьні. Чарговы вечар мае адбыцца неўзабаве. У сваім турнэ па Нямеччыне і Швэйцарыі ў бягучым годзе хор выконваў помеж з чэскімі і беларускія песьні.

* Рэдакцыя чэскага месячніку „Nova Ruska“ адводзіць у кожным нумары месца для агляду беларускага куль-

турнага жыцьця. Некалькі нумароў часопісі будуць цалкам прысьвечаны БССР.

**Беларуская культура за рубяжом**

* У Вільні організаваўся Беларускі Вандроўны Тэатр, які выехаў ў провінцыю, дзе даў ўжо некалькі спэктакляў у розных мясцовасьцях.

* Міністэрства ўнутраных справаў Польшчы адмовіла залегалізаваць беларускае т-ва літаратараў і артыстых Заходняй Беларусі.

* Пачаўся друкавацца і хутка выйдзе з друку каляндар-кніжка, выданьня рэд. „Маланкі" з багатым зьместам і вялікай колькасьцю ілюстрацый і карыкатур. Гэта яшчэ першы каляндар, у якім шмат месца выводзіцца гумарыстыцы.

* У Вільні зорганізавалася новае т-ва пад назвай „Т-ва Беларускай Інтэлігенцыі".

* У Чэскай Празе вышла часопісь паступовага беларускага студэнцтва пад назвай: „Наш Прамень", № 1, чэрвень, 1927.

* 19 чэрвеня ў Дзьвінскай беларускай гімназіі адбыўся акт у зьвязку з пятым юбілейным выпускам матурыстых. У гэтым годзе скончылі гімназію 21 чал., з іх—7 хлапцоў і 14 дзяўчат.

* У Вільні з гэтага году пачала выходзіць ілюстраваная часопісь „Родныя Гоні". Часопісь выходзіць паасобнымі кніжкамі на 48 старонак пад кіраўніцтвам найлепшых у Зах. Беларусі крытыкаў. Вышла чацьвертая кніжка за чэрвень.

* Ілюстраваная часопісь для дзяцей „Заранка", якая раней выходзіла як дармовы дадатак да газэты „Наша Праўда", ператвараецца ў самастойную часопісь. Ужо вышла чацьвертая кніжка.

## ХРОНІКА З УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Дз. Выд. Украіны выпускае вялікі, на 45 аркушаў, аддзельнымі томамі роман Вінічэнка — „Сонечная машына“. Гэты роман павінен выйсьці ў перакладзе на расійскай, нямецкай, францускай і ангельскай мовах.

* У Кіеве ўтварылася новае мастацкае аб'яднаньне вобразатворчага мастацтва. У аб'яднаньне ўваходзяць мастакі: Таран А., Сердэа А., Усачоў, Краморэнка, Пальмаў, Плашчынскі, Юнг і інш., скульптары: Шарлаімаў, Гельман і інш.

* ДВУ апавешчан конкурс на роман-аповесьць для юнацтва, а таксама на кніжкі для дзяцей малодшага веку.

* Выдавецтва „Пролетарий“ на днях выпускае творы М. Горкага на украінскай мове.

Упершую чаргу выходзяць „Мать“, „Фома Гордеев“ і „Мои университеты“.

* Украінскі навуковы інстытут кнігазнаўства ладзіць выстаўку рэволюцыйнага плякату.

Дняпроўскі, аўтар п'есы „Яблуневый палон“, закончыў роман „Столиця Республики“.

* Усёю справаю кіно на Украіне кіруе ВУФКУ, які мае ў вялікіх акруговых гарадох свае аддзелы ВУФКУ, мае ў Адэсе і Ялце свае кіно-фабрыкі, у Адэсе і Кіеве два кіно-тэхнікумы, дзе навучаюцца новыя акторы і кіраўнікі кіно-справы. Ужо распачата пабудоўка ў Кіеве вялікай кіно-фабрыкі, якую мяркуюцца абсталяваць ня горш за замежныя.

ВУФКУ выпусьціла цэлы шэраг фільмаў з рэволюцыйным зьместам. З ліку гэтых фільмаў адзначым: „Тарас Шэўчэнка“, „Мікола Джэра“, „Трыпольская трагэдыя“, „Астап Бандура“, „Барыслаў сьмяецца“, „Бурлачка“, „Сарачынскі кірмаш“, „Гамбург“, „Тарас Трасіла“ і інш. апроч гэтага, ВУФКУ увесь час рыхтуе новыя цікавыя карціны з мінулага і сучаснага жыцьця Украіны, таксама шмат выпушчана сельска-гаспадарчых агітацыйных карцін пра новыя спосабы гаспадараньня.

ВУФКУ дапамагае і кіруе працаю ўсіх перасоўных вясковых кінотэатраў.

* У скорым часе ў Харкаве пачне выходзіць часопісь левай формацыі украінскага мастацтва пад назвай „Нова генерація“. Часопісь будзе штомесячнаяі выдавацьмецца Дз. Выд. Украіны. Мэты часопісі—высьвятляць пытаньні тэорыі і практыкі, літаратуры і мастацтва левага напрамку.

* Б. Антоненка-Давыдовіч канчае вялікае апавяданьне „Валерій Місан“ і нядаўна закончыў аповесьць пад назвай „Смерть“.

* Дзярж. Выд. Украіны пачало выдаваць 10 найлепшых раманаў Эміля Золя, перакладзеных на украінскую мову.

Таксама Кнігаспілка выдае 8 томаў твораў Гюі-дэ Мопасана.

* Композытар В. Залатароў напісаў новую опэру „Фесько Андибер“. Сюжэт опэры ўзяты з народных украінскіх мотываў.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**